ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 11—12

№ 11—12

## XX год БССР



МЕНСК
Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“
1938

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!



# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ТЭАРЭТЫЧНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ
ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XII

**№ 11—12**

**Лістапад—снежань 1938 г.**



ЗМЕСТ

ГІСТОРЫЯ
УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (БОЛЬШЭВІКОЎ)
КАРОТКІ КУРС.
Пад рэдакцыяй Камісіі ЦК ВКП (б).
Адобран ЦК ВКП (б). 1938 год.

*Стар.*





---

Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 7.

Тэлефон рэдакцыі
па камутатару 20.000, даб. 50.

# ГІСТОРЫЯ

Усесаюзнай
Комуністычнай партыі
(большэвікоў)

Кароткі курс.

**Пад рэдакцыяй Камісіі ЦК ВКП(б).**

**Адобран ЦК ВКП(б). 1938 год.**

Раздзел IX

# ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У ПЕРЫЯД ПЕРАХОДУ НА МІРНУЮ РАБОТУ ПА АДНАЎЛЕННЮ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ.

(1921—1925 годы).

## 1. Совецкая краіна пасля ліквідацыі інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны. Труднасці аднаўленчага перыяду.

Пакончыўшы з вайной, Совецкая краіна стала пераходзіць на рэльсы мірнага гаспадарчага будаўніцтва. Неабходна было залячыць раны, нанесеныя вайной. Неабходна было аднавіць разбураную народную гаспадарку, прывесці ў парадак прамысловасць, транспарт, сельскую гаспадарку.

Але пераход на мірнае будаўніцтва прышлося прарабіць у надзвычай цяжкай абстаноўцы. Перамога ў грамадзянскай вайне далася нялёгка. Краіна была разорана чатырохгадовай імперыялістычнай вайной і трохгадовай вайной з інтэрвенцыяй.

Агульная прадукцыя сельскай гаспадаркі ў 1920 годзе складала толькі каля **палавіны** даваеннай. А даваенны-ж узровень—гэта быў узровень жабрацкай царскай расійскай вёскі. У дадатак у 1920 годзе многія губерні былі ахоплены неўраджаем. Сялянская гаспадарка перажывала цяжкае становішча.

Яшчэ горш было становішча прамысловасці, якая знаходзілася ў стане разрухі. Прадукцыя буйнай прамысловасці ў 1920 годзе была амаль у сем разоў менш даваеннай. Большасць фабрык і заводаў стаяла, руднікі і шахты былі разбураны, затоплены. У асабліва цяжкім стане знаходзілася металургія. Выплаўка чыгуну за ўвесь 1921 год складала ўсяго толькі 116,3 тысячы тон, гэта значыць каля 3 процантаў даваеннай вытворчасці чыгуну. Нехапала паліва. Транспарт быў разбуран. Меўшыяся ў краіне запасы метала і мануфактуры былі амаль вычарпаны. У краіне быў востры недахват самага неабходнага: хлеба, тлушчаў, мяса, абутку, адзення, запалак, солі, карасіну, мыла.

Пакуль ішла вайна, людзі мірыліся з гэтымі недахопамі і няхваткамі, а часам нават пераставалі іх заўважаць. Але цяпер, калі вайны не стала, людзі раптам адчулі нясцерпнасць гэтых недахопаў і няхватак і сталі патрабаваць неадкладнага іх устаранення.

Паявілася нездаволенне сярод сялян. У агні грамадзянскай вайны стварыўся і замацаваўся ваенна-палітычны саюз рабочага класа і сялянства. Гэты саюз трымаўся на пэўнай аснове: селянін атрымлі-

ваў ад Совецкай улады зямлю і абарону ад памешчыка, ад кулака, рабочыя атрымлівалі ад сялянства прадавольствіе па прадразвёрстцы.

Цяпер гэтая аснова аказвалася ўжо недастатковай.

Совецкая дзяржава вымушана была браць у селяніна па прадразвёрстцы ўсе лішкі для патрэб абароны краіны. Перамога ў грамадзянскай вайне была-б немагчыма без прадразвёрсткі, без палітыкі ваеннага комунізма. Палітыка ваеннага комунізма была вымушана вайной, інтэрвенцыяй. Пакуль вялася вайна, сялянства ішло на прадразвёрстку і не заўважала няхваткі тавараў, але калі вайна скончылася і пагроза звароту памешчыка мінула, селянін пачаў выражаць нездаволенне із'яццем усіх лішкаў, нездаволенне сістэмай прадразвёрсткі і стаў патрабаваць, каб яго снабжалі дастатковай колькасцю тавараў.

Уся сістэма ваеннага комунізма, як адзначаў Ленін, прышла ў сутычку з інтарэсамі сялянства.

Стыхія нездаволення закранула і рабочы клас. Пролетарыят перанёс на сабе галоўныя цяжары грамадзянскай вайны, гераічна і самааддана змагаючыся супроць полчышчаў белагвардзейцаў і інтэрвентаў, супроць разрухі і голаду. Лепшыя, найбольш свядомыя, самааддданыя і дысцыплінаваныя рабочыя гарэлі агнём соцыялістычнага энтузіязма. Але найглыбейшая гаспадарчая разруха аказала ўплыў і на рабочы клас. Нямногія фабрыкі і заводы, якія яшчэ дзейнічалі, мелі вялікія перабоі ў рабоце. Рабочыя вымушаны былі займацца саматужніцтвам, вырабам зажыгалак, мяшочніцтвам. Стала аслабяваць класавая база дыктатуры пролетарыята, рабочы клас распыляўся, частка рабочых ішла ў вёску, пераставала быць рабочымі, дэкласавалася. На глебе голаду і стомленасці праяўлялася нездаволенне часткі рабочых.

Перад партыяй паўстала пытанне аб выпрацоўцы новай установкі партыі па ўсіх пытаннях гаспадарчага жыцця краіны, адпавядаючай новай абстаноўцы.

І партыя прыступіла да выпрацоўкі новай установкі па пытаннях гаспадарчага будаўніцтва.

Але класавы вораг не драмаў. Ён прабаваў скарыстаць цяжкае гаспадарчае становішча, прабаваў скарыстаць нездаволенне сялян. Успыхнулі арганізаваныя белагвардзейцамі і эсэрамі кулацкія мецяжы ў Сібіры, на Украіне, у Тамбоўскай губерні (антонаўшчына). Ажывілася дзейнасць усякага роду контррэволюцыйных элементаў—меншавікоў, эсэраў, анархістаў, белагвардзейцаў, буржуазных нацыяналістаў. Вораг перайшоў да новых тактычных прыёмаў барацьбы супроць Совецкай улады. Ён стаў перафарбоўвацца пад совецкі колер і выстаўляў ужо не стары праваліўшыйся лозунг: «далоў Советы», а новы лозунг: «за Советы, але без комуністаў».

Яркім праяўленнем новай тактыкі класавага ворага з'явіўся контррэволюцыйны кранштацкі мяцеж. Ён пачаўся за тыдзень да Х з'езда партыі, у сакавіку 1921 года. На чале мецяжу сталі белагвардзейцы, звязаныя з эсэрамі, меншавікамі і прадстаўнікамі замежных дзяржаў. Свае імкненні аднавіць уладу і ўласнасць капіталістаў і памешчыкаў мяцежнікі ў першыя часы стараліся прыкрыць «совецкай» вывескай. Яны выставілі лозунг: «Советы без комуністаў». Контррэволюцыя прабавала скарыстаць нездаволенне дробнабуржуазных мас для таго, каб пад нібыта совецкім лозунгам звергнуць Совецкую ўладу.

Дзве акалічнасці аблягчылі ўзнікненне кранштацкага мецяжу: пагоршанне састава матросаў на ваенных суднах і слабасць **большэвіц-**

кай арганізацыі ў Кранштаце. Старыя матросы, якія прымалі ўдзел у Кастрычніцкай рэволюцыі, амаль пагалоўна пайшлі на фронт і пагеройску сражаліся ў радах Чырвонай арміі. Ва флот прышлі новыя папаўненні, не загартаваныя ў рэволюцыі. Гэтыя папаўненні прадстаўлялі сабой яшчэ зусім сырую сялянскую масу, якая адлюстроўвала нездаволенне сялянства продразвёрсткай. Што датычыць кранштацкай большэвіцкай арганізацыі таго перыяду, то яна была сільна аслаблена радам мабілізацый на фронт. Гэтыя акалічнасці далі магчымасць эсэра-меншавікам і белагвардзейцам пралезці ў Кранштат і авалодаць ім.

Мяцежнікі забралі першакласную крэпасць, флот, велізарную колькасць узбраення і снарадаў. Міжнародная контррэволюцыя таржаствавала перамогу. Але надта рана лікавалі ворагі. Мяцеж быў быстра падаўлен совецкімі войскамі. Партыя паслала супроць кранштацкіх мяцежнікаў лепшых сваіх сыноў—дэлегатаў X з'езда на чале з тав. Варашылавым. Чырвонаармейцы ішлі на Краншгат па тонкаму ільду. Лёд правальваўся, і многія танулі. Прыходзілася ісці на штурм амаль непрыступных фортаў Краншгата. Адданасць рэволюцыі і мужнасць, гатоўнасць аддаць сваё жыццё за Совецкую ўладу ўзялі верх. Краншгацкая крэпасць была ўзята прыступам чырвоных войск. Краншгацкі мяцеж быў ліквідаван.

### 2. Дыскусія ў партыі аб профсаюзах. X з'езд партыі. Паражэнне апазіцыі. Пераход да новай эканамічнай палітыкі (нэп).

Цэнтральнаму Камітэту партыі, яго ленінскай большасці было ясна, што пасля ліквідацыі вайны і пераходу на мірнае гаспадарчае будаўніцтва няма больш падстаў захоўваць жорсткі рэжым ваеннага комунізма, створаны абстаноўкай вайны і блакады.

ЦК разумеў, што адпала неабходнасць у продразвёрстцы, што трэба яе замяніць продналогам, каб даць магчымасць сялянам скарыстаць большую частку лішкаў сваёй вытворчасці па свайму погляду. ЦК разумеў, што такая мера дала-б магчымасць ажывіць сельскую гаспадарку, расшырыць вытворчасць зярна і тэхнічных культур, неабходных для развіцця прамысловасці, ажывіць у краіне тавараабарот, палепшыць снабжэнне гарадоў, стварыць новую, гаспадарчую аснову саюза рабочых і сялян.

ЦК аддаваў сабе таксама адчот у тым, што ажыўленне прамысловасці з'яўляецца пярвейшай задачай, але ён лічыў, што нельга ажыўляць прамысловасць без уцягнення ў гэтую справу рабочага класа і яго профсаюзаў, што рабочых можна ўцягнуць у гэтую справу, калі іх пераканаць, што гаспадарчая разруха з'яўляецца такім-жа небяспечным ворагам народа, як інтэрвенцыя і блакада, што партыя і профсаюзы безумоўна здолеюць правесці гэту справу, калі яны будуць дзейнічаць у адносінах рабочага класа не шляхам ваенных загадаў, як гэта бывала на фронце, дзе сапраўды неабходны загады, а шляхам пераканання, метадам пераканання.

Але не ўсе члены партыі думалі так, як ЦК. Апазіцыйныя групкі—трацкісты, «рабочая апазіцыя», «левыя комуністы», «дэмакратычныя цэнтралісты» і т. п.—знаходзіліся ў стане разброду і пекражывалі хістанні перад труднасцямі пераходу на рэльсы мірнага гаспадарчага будаўніцтва. У партыі знаходзілася нямала былых меншавікоў, былых эсэраў, былых бундаўцаў, былых барацьбістаў і ўсякага роду поўнацыяналістаў з акраін Расіі. Яны большай часткай

прымыкалі да тых ці іншых апазіцыйных групак. Не будучы сапраўднымі марксістамі, не ведаючы законаў эканамічнага развіцця, не маючы партыйна-ленінскай загартоўкі, гэтыя людзі толькі ўзмацнялі разброд і хістанні апазіцыйных групак. Адны з іх думалі, што не трэба аслабляць жорсткага рэжыму ваеннага комунізма, што, наадварот,—трэба «завінчваць далей гайкі». Другія думалі, што партыя і дзяржава павінны адыйсці ў бок ад справы аднаўлення народнай гаспадаркі, што гэта справа павінна быць цалкам перадана ў рукі профсаюзаў.

Было ясна, што пры такім разбродзе ў некаторых праслойках партыі знойдуцца людзі, любіцелі дыскусій, розныя апазіцыйныя «лідэры», якія пастараюцца навязаць партыі дыскусію.

Так яно і адбылося.

Дыскусія началася з пытання аб ролі профсаюзаў, хоць пытанне аб профсаюзах не было тады галоўным пытаннем партыйнай палітыкі.

Застрэльшчыкам дыскусіі і барацьбы супроць Леніна, супроць ленінскай большасці ЦК з'явіўся Троцкі. Жадаючы абвастрыць становішча, ён выступіў на пасяджэнні комуністаў—дэлегатаў V Усерасійскай канферэнцыі профсаюзаў у пачатку лістапада 1920 года з сумніцельным лозунгам «завінчвання гаек» і «ператрасвання профсаюзаў». Троцкі выставіў патрабаванне неадкладнага «адзяржаўлення профсаюзаў». Ён быў супроць метада перакананння рабочых мас. Ён быў за перанясенне ваеннага метада ў профсаюзы. Троцкі быў супроць разгортвання ў профсаюзах дэмакратыі, супроць выбарнасці органаў профсаюзаў.

Замест метада перакананння, без якога нямысліма дзейнасць рабочых арганізацый, трацкісты прапанавалі метад голага прымусу, голага камандавання. Сваёй палітыкай трацкісты там, дзе яны пападалі ў кіраўніцтва профсаюзнай работай, уносілі ў профсаюзы канфлікты, раскол і разлажэнне. Трацкісты сваёй палітыкай настройвалі беспартыйную масу рабочых супроць партыі, расколвалі рабочы клас.

Дыскусія аб профсаюзах на справе мела значна больш шырокае значэнне, чым пытанне аб профсаюзах. Як пазней указвалася ў рэзалюцыі пленума ЦК РКП(б) (17 студзеня 1925 года), на справе спрэчка ішла «аб адносінах да сялянства, якое падымалася супроць ваеннага комунізма, аб адносінах да беспартыйнай масы рабочых, наогул аб падыходзе партыі да масы ў паласу, калі грамадзянская вайна ўжо заканчвалася» (ВКП(б) у рэзалюцыях, ч. I, стар. 651).

Услед за Троцкім выступілі і іншыя антыпартыйныя групы: «рабочая апазіцыя» (Шляпнікаў, Медзведзеў, Калантай і іншыя), «дэмакратычныя цэнтралісты» (Сапронаў, Дробніс, Багуслаўскі, Осінскі, В. Смірноў і іншыя), «левыя комуністы» (Бухарын, Прэабражэнскі).

«Рабочая апазіцыя» выставіла лозунг перадачы кіравання ўсёй народнай гаспадаркай «усерасійскаму з'езду вытворцаў». Яна зводзіла на нішто ролю партыі, адмаўляла значэнне дыктатуры пролетарыята ў гаспадарчым будаўніцтве. «Рабочая апазіцыя» проціпастаўляла профсаюзы Совецкай дзяржаве і комуністычнай партыі. Яна лічыла вышэйшай формай арганізацыі рабочага класа не партыю, а профсаюзы. «Рабочая апазіцыя» была па сутнасці справы анархасіндыкалісцкай антыпартыйнай групай.

Група «дэмакратычнага цэнтралізма» (дэцысты) патрабавала поўнай свабоды фракцый і груповак. Дэцысты, таксама як і трацкісты,

стараліся падарваць кіруючую ролю партыі ў Советах і профсаюзах. Ленін назваў дэцыстаў фракцыяй «грамчэй за ўсіх крыкуноў», а платформу дэцыстаў—эсэра-меншавіцкай.

Троцкаму ў яго барацьбе супроць Леніна і партыі дапамог Бухарын. Бухарын разам з Прэабражэнскім, Серэбраковым, Сакольнікавым стварылі «буферную» групу. Гэтая група абараняла і прыкрывала злейшых фракцыянераў—трацкістаў. Паводзіны Бухарына Ленін называў «верхам распаду ідэйнага». У хуткім часе бухарынцы адкрыта аб'ядналіся з трацкістамі супроць Леніна.

Ленін і ленінцы накіравалі галоўны ўдар супроць трацкістаў, як асноўнай сілы антыпартыйных групіровак. Яны ўлічалі трацкістаў у змяшанні профсаюзаў з ваеннымі арганізацыямі, указваючы ім, што нельга метады ваенных арганізацый пераносіць у профсаюзы. У процівагу платформам апазіцыйных груп Ленін і ленінцы склалі сваю платформу. У гэтай платформе ўказвалася, што профсаюзы з'яўляюцца школай кіравання, школай гаспадарання, школай комунізма. Усю сваю работу профсаюзы павінны будаваць на метадзе перакананння. Толькі пры гэтай умове профсаюзы падымуць усіх рабочых на барацьбу з гаспадарчай разрухай, здолеюць уцягнуць іх у соцыялістычнае будаўніцтва.

У барацьбе з апазіцыйнымі групіроўкамі партыйныя арганізацыі згуртаваліся вакол Леніна. Асабліва напружаны характар набыла барацьба ў Маскве. Тут апазіцыя сканцэнтравала свае асноўныя сілы, ставячы сабе мэтай заваёву сталічнай арганізацыі. Але большэвікі Масквы далі рашучы адпор гэтым проіскам фракцыянераў. Вострая барацьба разгарнулася і ва украінскіх партыйных арганізацыях. Пад кіраўніцтвам т. Молатава, які быў тады сакратаром ЦК КП(б)У, большэвікі Украіны разбілі трацкістаў і шляпнікаўцаў. Комуністычная партыя Украіны асталася вернай апорай ленінскай партыі. У Баку разгром апазіцыі быў арганізован пад кіраўніцтвам т. Орджанікідзе. У Сярэдняй Азіі барацьбой з антыпартыйнымі групіроўкамі кіраваў т. Л. Кагановіч.

Усе асноўныя мясцовыя партыйныя арганізацыі далучыліся да ленінскай платформы.

8 сакавіка 1921 года адкрыўся X з'езд партыі. На з'ездзе прысутнічала 694 дэлегаты з рашаючым голасам, якія прадстаўлялі 732.521 члена партыі. Дэлегатаў з дарадчым голасам было 296 чалавек.

З'езд падвёў вынікі дыскусіі аб профсаюзах і адобрыў пераважнай большасцю галасоў ленінскую платформу.

Адкрываючы з'езд, Ленін заявіў, што дыскусія была недазвольнай раскошай. Ён указаў, што ворагі рабілі стаўку на ўнутраную барацьбу і раскол у комуністычнай партыі.

Улічваючы велізарную небяспеку, якую прадстаўляла для большэвіцкай партыі і для дыктатуры пролетарыята наяўнасць фракцыйных груп, X з'езд асаблівую ўвагу ўдзяліў пытанню аб **адзінстве партыі**. З дакладам па гэтаму пытанню выступіў Ленін. З'езд асудзіў усе апазіцыйныя групіроўкі і ўказаў, што яны «на справе дапамагаюць класавым ворагам пролетарскай рэволюцыі».

З'езд прадпісаў неадкладна распусціць усе фракцыйныя групы і даручыў усім арганізацыям строга сачыць за недапушчэннем якіх-небудзь фракцыйных выступленняў, прычым невыкананне пастановы з'езда цягнула за сабой безумоўнае і неадкладнае выключэнне з партыі. З'езд даў ЦК паўнамоцтвы, у выпадку парушэння дысцыпліны членамі ЦК і ў выпадку адраджэння або дапушчэння фракцыйнасці,



прымаць усе меры партыйнага спагнання аж да выключэння іх з Цэнтральнага Камітэта і з партыі.

Усе гэтыя рашэнні былі запісаны ў прапанаванай Леніным і прынятай з'ездам асобай рэзалюцыі «Аб адзінстве партыі».

У гэтай рэзалюцыі з'езд звяртаў увагу ўсіх членаў партыі на тое, што адзінства і згуртаванасць яе радоў, адзінства волі авангарда пролетарыята асабліва неабходна ў такі момант, калі рад акалічнасцей у перыяд X з'езда ўзмацніў хістанні ў асяроддзі дробнабуржуазнага насельніцтва краіны.

> «Між тым,—указвалася ў рэзалюцыі,—яшчэ да агульнапартыйнай дыскусіі аб профсаюзах, у партыі выявіліся некаторыя прызнакі фракцыйнасці, гэта значыць узнікненне груп з асобымі платформамі і з імкненнем да пэўнай ступені замкнуцца і стварыць сваю групавую дысцыпліну. Неабходна, каб усе свядомыя рабочыя ясна ўсвядомілі шкоду і недапушчальнасць якой-бы то ні было фракцыйнасці, якая немінуча вядзе на справе да аслаблення дружнай работы і да ўзмоцненых паўторных спроб прымазваючыхся да ўрадавай партыі ворагаў яе паглыбляць раздзяленне (партыі) і скарыстоўваць яго ў мэтах контррэволюцыі».

З'езд гаварыў, далей, у гэтай рэзалюцыі:

> «Скарыстанне ворагамі пролетарыята ўсякіх ухіленняў ад строга вытрыманай комуністычнай лініі з найбольшай наглядасцю паказала сябе на прыкладзе кранштацкага мецяжу, калі буржуазная контррэволюцыя і белагвардзейцы ва ўсіх краінах свету адразу выявілі сваю гатоўнасць прыняць лозунгі нават совецкага ладу, абы толькі звергнуць дыктатуру пролетарыята ў Расіі, калі эсэры і наогул буржуазная контррэволюцыя скарыстала ў Кранштаце лозунгі паўстання нібыта ў імя Совецкай улады супроць Совецкага ўрада ў Расіі. Такія факты даказваюць поўнасцю, што белагвардзейцы імкнуцца і ўмеюць перафарбавацца ў комуністаў і нават «лявей» іх, абы толькі аслабіць і звергнуць аплот пролетарскай рэволюцыі ў Расіі. Меншавіцкія лісткі ў Петраградзе напярэдадні кранштацкага мецяжу паказваюць роўным чынам, як меншавікі скарысталі рознагалоссі ўнутры РКП, каб фактычна падштурхваць і падтрымліваць кранштацкіх мяцежнікаў, эсэраў і белагвардзейцаў, выстаўляючы сябе на словах праціўнікамі мецяжоў і староннікамі Совецкай улады толькі з невялікімі быццам-бы папраўкамі».

Рэзалюцыя ўказвала, што партыйная прапаганда павінна грунтоўна аб'ясняць шкоду і небяспеку фракцыйнасці з пункту гледжання адзінства партыі і ажыццяўлення адзінства волі авангарда пролетарыята, як асноўнай умовы поспеху дыктатуры пролетарыята.

З другога боку, гаварылася ў рэзалюцыі з'езда, партыйная прапаганда павінна аб'ясняць **своеасаблівасць** навейшых тактычных прыёмаў ворагаў Совецкай улады.

> «Гэтыя ворагі,—указвала рэзалюцыя,—пераканаўшыся ў безнадзейнасці контррэволюцыі пад адкрыта белагвардзейскім сцягам, напружваюць цяпер усе намаганні, каб, скарыстоўваючы рознагалоссі ўнутры РКП, рушыць контррэволюцыю так ці інакш шляхам перадачы ўлады палітычным групіроўкам, найбольш блізкім па знешнасці да прызнання Совецкай улады» (ВКП(б) у рэзалюцыях, ч. I, стар. 373—374).

Рэзалюцыя ўказвала, далей, што партыйная прапаганда «павінна выясніць таксама вопыт папярэдніх рэволюцый, калі контррэволюцыя падтрымлівала найбольш блізкія да крайняй рэволюцыйнай партыі дробнабуржуазныя групіроўкі, каб пахіснуць і звергнуць рэволюцыйную дыктатуру, адкрываючы тым дарогу для далейшай поўнай перамогі контррэволюцыі, капіталістаў і памешчыкаў».

Да рэзалюцыі «Аб адзінстве партыі» цесна прымыкала другая рэзалюцыя «Аб сіндыкалісцкім і анархісцкім ухіле ў нашай партыі», таксама прапанаваная Леніным і прынятая з'ездам. У гэтай рэзалюцыі X з'езд асудзіў так званую «рабочую апазіцыю». З'езд прызнаў прапаганду ідэй анархасіндыкалісцкага ўхілу несумяшчальнай з прыналежнасцю да комуністычнай партыі і заклікаў партыю да рашучай барацьбы з гэтым ухілам.

X з'езд прыняў важнейшае рашэнне аб пераходзе ад продразвёрсткі да продналога, аб пераходзе да **новай эканамічнай палітыкі** (нэп).

У гэтым павароце ад ваеннага комунізма да нэпа сказалася ўся мудрасць і дальнавіднасць ленінскай палітыкі.

У рашэнні з'езда гаварылася аб замене продразвёрсткі продналогам. Натуральны прадавольственны налог быў менш продразвёрсткі. Сума налога павінна была быць апублікавана да веснавых пасеваў. Дакладна ўстанаўляліся тэрміны здачы налога. Усё тое, што аставалася звыш налога, паступала ў поўнае распараджэнне селяніна, якому прадастаўлялася свабода гандлю гэтымі лішкамі. Свабода гандлю, указваў Ленін у сваім дакладзе, прывядзе спачатку да некаторага ажыўлення капіталізма ў краіне. Прыдзецца дапусціць прыватны гандаль і дазволіць прыватным прамыслоўцам адкрываць дробныя прадпрыемствы. Але не трэба гэтага баяцца. Ленін лічыў, што некаторая свабода тавараабароту створыць гаспадарчую зацікаўленасць у селяніна, павысіць прадукцыйнасць яго працы і прывядзе да быстрага ўздыму сельскай гаспадаркі, што на гэтай аснове будзе аднаўляцца дзяржаўная прамысловасць і выцясняцца прыватны капітал, што, накапіўшы сілы і сродкі, можна стварыць магутную індустрыю—эканамічную аснову соцыялізма, і затым перайсці ў рашучае наступленне, каб знішчыць астаткі капіталізма ў краіне.

Ваенны комунізм быў спробай узяць крэпасць капіталістычных элементаў у горадзе і вёсцы штурмам, лабавой атакай. У гэтым наступленні партыя забегла далёка ўперад, рыскуючы адарвацца ад сваёй базы. Цяпер Ленін прапанаваў адыйсці крыху назад, адступіць на некаторы час бліжэй да свайго тылу, перайсці ад штурму да больш працяглай асады крэпасці, каб, накапіўшы сілы, зноў пачаць наступленне.

Трацкісты і іншыя апазіцыянеры лічылі, што нэп ёсць **толькі** адступленне. Такое талкаванне было ім выгадна, таму што яны вялі лінію на аднаўленне капіталізма. Гэта было глыбока шкоднае, антыленінскае талкаванне нэпа. На самай справе, ужо праз год пасля ўвядзення нэпа, на XI з'ездзе партыі, Ленін заявіў, што **адступленне скончана**, і выставіў лозунг: **«Падрыхтоўка наступлення на прыватнагаспадарчы капітал» (Ленін,** т. XXVII, стар. 213).

Апазіцыянеры, будучы дрэннымі марксістамі і круглымі невукамі ў пытаннях большэвіцкай палітыкі, не разумелі ні сутнасці нэпа, ні характару адступлення, прадпрынятага ў пачатку нэпа. Аб сутнасці нэпа ўжо гаварылася вышэй. Што датычыць характару адступлення, то адступленні бываюць розныя. Бываюць моманты, калі партыі або

арміі прыходзіцца адступаць таму, што яна пацярпела паражэнне. У такіх выпадках армія або партыя адступае для таго, каб захаваць сябе і захаваць свае кадры для новых баёў. Ленін зусім не прапанаваў пры ўвядзенні нэпа такога роду адступленне, бо партыя не толькі не пацярпела паражэння і не была разбіта, а, наадварот, яна сама разбіла інтэрвентаў і белагвардзейцаў у часе грамадзянскай вайны. Але бываюць і такія моманты, калі пераможная партыя або армія ў сваім наступленні забягае надта далёка ўперад, не забяспечыўшы сабе тылавой базы. Гэта стварае сур'ёзную небяспеку. У такіх выпадках вопытная партыя або армія знаходзіць звычайна патрэбным, каб не адарвацца ад сваёй базы,—крыху адступіць назад, бліжэй да свайго тылу, каб звязацца мацней са сваёй тылавой базай, забяспечыць сябе ўсім неабходным і потым зноў пайсці ў наступленне больш упэўнена, з гарантыяй на поспех. Іменна такога роду часовае адступленне і праводзіў Ленін пры нэпе. Дакладваючы IV кангрэсу Комінтэрна аб прычынах увядзення нэпа, Ленін прама гаварыў, што «мы ў сваім эканамічным наступленні надта далёка прасунуліся ўперад, што мы не забяспечылі сабе дастатковай базы», і што неабходна таму зрабіць часовае адступленне да забяспечанага тылу.

Бяда апазіцыі заключалася ў тым, што яна не разумела па свайму невуцтву і не зразумела да канца свайго жыцця гэтай асаблівасці адступлення пры нэпе.

Рашэнне X з'езда аб нэпе забяспечвала моцны эканамічны саюз рабочага класа і сялянства для будаўніцтва соцыялізма.

Гэтай асноўнай задачы служыла і другое рашэнне з'езда—аб нацыянальным пытанні. Даклад па нацыянальнаму пытанню зрабіў тав. Сталін. Мы ліквідавалі нацыянальны гнёт, гаварыў тав. Сталін, але гэтага недастаткова. Задача заключаецца ў тым, каб ліквідаваць цяжкую спадчыну мінулага—гаспадарчую, палітычную і культурную адсталасць народаў, якія раней прыгняталіся. Трэба дапамагчы ім дагнаць у гэтых адносінах цэнтральную Расію.

Тав. Сталін указваў, далей, на два антыпартыйныя ўхілы ў нацыянальным пытанні: вялікадзяржаўны (вялікарускі) шавінізм і мясцовы нацыяналізм. З'езд асудзіў абодва ўхілы, як шкодныя і небяспечныя для комунізма і пролетарскага інтэрнацыяналізма. Разам з тым з'езд накіраваў галоўны свой удар супроць вялікадзяржаўнасці, як галоўнай небяспекі, гэта значыць супроць астаткаў і перажыткаў такіх адносін да нацыянальнасцей, якія (адносіны.—**Рэд. перакладу**) праяўлялі да нярускіх народаў вялікарускія шавіністы пры царызме.

### 3. Першыя вынікі нэпа. XI з'езд партыі. Утварэнне Саюза ССР. Хвароба Леніна. Кааператыўны план Леніна. XII з'езд партыі.

Правядзенне нэпа сустракала супраціўленне з боку няўстойлівых элементаў партыі. Супраціўленне ішло з двух бакоў. З аднаго боку, выступалі «левыя» крыкуны, палітычныя ўроды тыпу Ламінадзе, Шацкіна і іншых, якія «даказвалі», што нэп—гэта адмова ад заваяванняў Кастрычніцкай рэволюцыі, зварот да капіталізма, гібель Совецкай улады. Гэтыя людзі, з прычыны свайго невуцтва ў палітыцы і няведання законаў эканамічнага развіцця, не разумелі палітыкі партыі, упадалі ў паніку і сеялі вакол сябе ўпадніцкія настроі. З другога боку, выступалі прамыя капітулянты, накшталт Троцкага, Радэка, Зіноўева, Сакольнікава, Каменева, Шляпнікава, Бухарына, Рыкава і іншых, якія не верылі ў магчымасць соцыялістычнага развіцця нашай краіны, прakланяліся перад «магутнасцю» капіталізма і,

імкнучыся ўмацаваць пазіцыі капіталізма ў Совецкай краіне, патрабавалі вялікіх уступак прыватнаму капіталу як унутры краіны, так і па-за ёю, патрабавалі здачы прыватнаму капіталу рада камандных вышынь Совецкай улады ў народнай гаспадарцы—на пачатках канцэсіі або акцыянерных змешаных таварыстваў з удзелам прыватнага капітала.

І тыя і другія былі чужды марксізму, ленінізму.

Партыя выкрыла і ізалявала і тых і другіх. Партыя дала панікёрам і капітулянтам рашучы адпор.

Наяўнасць такога супраціўлення палітыцы партыі лішні раз напамінала аб неабходнасці чысткі партыі ад няўстойлівых элементаў. У сувязі з гэтым ЦК правёў вялікую работу па ўмацаванню партыі, арганізаваўшы чыстку партыі ў 1921 годзе. Чыстка адбывалася з удзелам беспартыйных, на адкрытых сходах. Ленін раіў грунтоўна ачысціць партыю «...ад мазурыкаў, ад абюракраціўшыхся, ад нячэсных, ад няцвёрдых комуністаў і ад меншавікоў, якія перафарбавалі «фасад», але асталіся ў душы меншавікамі» (Ленін, т. XXVII, стар. 13).

Усяго ў рэзультаце чысткі выключана было з партыі да 170 тысяч чалавек, або каля 25 процантаў усяго састава партыі.

Чыстка значна ўмацавала партыю, палепшыла яе соцыяльны састаў, узмацніла давер'е мас да партыі, павысіла яе аўтарытэт. Згуртаванасць і дысцыплінаванасць партыі ўзраслі.

Першы-ж год новай эканамічнай палітыкі паказаў яе правільнасць. Пераход да нэпа значна ўмацаваў саюз рабочых і сялян на новай аснове. Магутнасць і крэпасць дыктатуры пролетарыята ўзраслі. Амаль поўнасцю быў ліквідаван кулацкі бандытызм. Сялянесераднякі пасля адмены продразвёрсткі дапамагалі Совецкай уладзе змагацца з кулацкімі бандамі. Совецкая ўлада захавала ў сваіх руках усе камандныя пазіцыі ў народнай гаспадарцы: буйную прамысловасць, транспарт, банкі, зямлю, унутраны гандаль, замежны гандаль. Партыя дабілася пералому на гаспадарчым фронце. Сельская гаспадарка ў хуткім часе рушыла ўперад. Прамысловасць і транспарт дабіліся першых поспехаў. Пачаўся пакуль яшчэ вельмі павольны, але верны гаспадарчы ўздым. Рабочыя і сяляне адчувалі і бачылі, што партыя стаіць на верным шляху.

У сакавіку 1922 года сабраўся XI з'езд партыі. На з'ездзе прысутнічала 522 дэлегаты з рашаючым голасам, якія прадстаўлялі 532.000 членаў партыі, гэта значыць менш, чым на папярэднім з'ездзе. Дэлегатаў з дарадчым голасам было 165 чалавек. Змяншэнне ліку членаў аб'ясняецца пачаўшайся чысткай радоў партыі.

На з'ездзе партыя падвяла вынікі першаму году новай эканамічнай палітыкі. Гэтыя вынікі дазволілі Леніну заявіць на з'ездзе:

> «Мы год адступалі. Мы павінны цяпер сказаць ад імя партыі:—дастаткова! Тая мэта, якая адступленнем праследавалася, дасягнута. Гэты перыяд канчаецца, або скончыўся. Цяпер мэта высоўваецца іншая—перагрупіроўка сіл» (Ленін, т. XXVII, стар. 238).

Ленін указваў, што нэп азначае адчаянную барацьбу не на жыццё, а на смерць паміж капіталізмам і соцыялізмам. «Хто—каго»—так стаіць пытанне. Для таго, каб перамагчы, трэба забяспечыць змычку паміж рабочым класам і сялянствам, паміж соцыялістычнай прамысловасцю і сялянскай эканомікай шляхам усямернага развіцця тавараабароту паміж горадам і вёскай. Для гэтага неабходна навучыцца гаспадарыць, неабходна навучыцца гандляваць культурна.

Гандаль у гэты перыяд з'яўляўся асноўным звяном у ланцугу задач, якія стаялі перад партыяй. Не вырашыўшы гэтай задачы, нельга было разгарнуць тавараабарот паміж горадам і вёскай, нельга было ўмацаваць эканамічны саюз рабочых і сялян, нельга было падняць сельскую гаспадарку, вывесці з разрухі прамысловасць.

У той час совецкі гандаль быў яшчэ вельмі слабы. Вельмі слабы быў гандлёвы апарат, навыкаў да гандлю ў комуністаў яшчэ не было, ворага-нэпмана яшчэ не вывучылі, не навучыліся яшчэ змагацца з ім. Прыватныя гандляры, нэпманы, скарысталі слабасць совецкага гандлю і захвацілі ў свае рукі гандаль мануфактурай і іншымі хадавымі таварамі. Пытанне аб арганізацыі дзяржаўнага і кааператыўнага гандлю набывала велізарнае значэнне.

Пасля XI з'езда гаспадарчая работа закіпела з новай сілай. Паспяхова былі ліквідаваны вынікі пасцігшага краіну недароду. Быстра аднаўлялася сялянская гаспадарка. Лепш запрацавалі чыгункі. Усё павялічвалася колькасць зноў запрацаваўшых фабрык і заводаў.

У кастрычніку 1922 года Совецкая рэспубліка святкавала вялікую перамогу: Чырвонай арміяй і партызанамі Далёкага Усхода быў вызвален ад японскіх інтэрвентаў Владзівасток, апошні ўчастак Совецкай зямлі, які знаходзіўся ў руках інтэрвентаў.

Цяпер, калі ўся тэрыторыя Совецкай краіны была ачышчана ад інтэрвентаў, а задачы будаўніцтва соцыялізма і абароны краіны патрабавалі далейшага ўмацавання саюза народаў Совецкай краіны, на чарзе паўстала пытанне аб больш цесным аб'яднанні Совецкіх рэспублік у адзіным дзяржаўным саюзе. Трэба было аб'яднаць усе народныя сілы для будаўніцтва соцыялізма. Трэба было арганізаваць моцную абарону краіны. Трэба было забяспечыць усебаковае развіццё ўсіх нацыянальнасцей нашай радзімы. Для гэтай мэты неабходна было яшчэ больш зблізіць усе народы Совецкай краіны.

У снежні 1922 года адбыўся I Усесаюзны з'езд Советаў. На гэтым з'ездзе па прапанове Леніна і Сталіна было створана добраахвотнае дзяржаўнае аб'яднанне Совецкіх народаў—Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік (СССР). Першапачаткова ў СССР уваходзілі Расійская Совецкая Федэратыўная Соцыялістычная Рэспубліка (РСФСР), Закаўказская Совецкая Федэратыўная Соцыялістычная Рэспубліка (ЗСФСР), Украінская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка (УССР) і Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка (БССР). Крыху пазней у Сярэдняй Азіі арганізаваліся тры самастойныя саюзныя Совецкія рэспублікі—Узбекская, Туркменская і Таджыкская. Цяпер усе гэтыя рэспублікі аб'ядналіся ў адзіны саюз совецкіх дзяржаў,—у СССР на аснове добраахвотнасці і роўнапраўя, з захаваннем за кожнай з іх права свабоднага выхаду з Совецкага Саюза.

Стварэнне Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік азначала ўмацаванне Совецкай улады і буйную перамогу ленінска-сталінскай палітыкі партыі большэвікоў па нацыянальнаму пытанню.

У лістападзе 1922 года Ленін выступіў на пленуме Моссовета. Падводзячы вынікі пяцігоддзю існавання Совецкай улады, Ленін выказаў цвёрдую ўпэўненасць, што «з Расіі нэпаўскай будзе Расія соцыялістычная». Гэта было яго апошняе выступленне перад краінай. Восенню 1922 года на партыю абрушылася вялікае няшчасце: Ленін цяжка захварэў. Уся партыя, усе працоўныя перажывалі хваробу Леніна, як сваё вялікае гора. Усе жылі ў трывозе за жыццё любімага Леніна. Але Ленін і ў часе хваробы не спыняў сваёй работы. Будучы ўжо цяжка хворым, Ленін напісаў рад вельмі важных артыку-

лаў. У гэтых апошніх артыкулах ён падвёў вынікі прароблена рабоце і намеціў план пабудовы соцыялізма ў нашай краіне шляхам ўцягнення сялянства ў справу соцыялістычнага будаўніцтва. У гэтым плане Ленін выставіў свой кааператыўны план далучэння сялянства да справы пабудовы соцыялізма.

У кааперацыі наогул, у сельскагаспадарчай кааперацыі ў асаблівасці, Ленін бачыў даступны і зразумелы мільёнам сялян шлях пераходу ад дробнай аднаасобнай гаспадаркі да буйных таварыскіх вытворчых аб'яднанняў—калгасаў. Ленін указваў, што развіццё сельскай гаспадаркі ў нашай краіне павінна пайсці па шляху ўцягнення сялян у соцыялістычнае будаўніцтва праз кааперацыю, па шляху паступовага ўкаранення ў сельскую гаспадарку пачаткаў калектывізма, спачатку ў галіне збыту, а потым у галіне вырабу прадуктаў сельскай гаспадаркі. Ленін указваў, што пры дыктатуры пролетарыята і саюзе рабочага класа з сялянствам, пры забеспячэнні кіраўніцтва за пролетарыятам у адносінах да сялянства, пры наяўнасці соцыялістычнай прамысловасці,—правільна арганізаваная, ахапляючая мільёны сялянства вытворчая кааперацыя—з'яўляецца тым сродкам, пры дапамозе якога можна пабудаваць у нашай краіне поўнае соцыялістычнае грамадства.

У красавіку 1923 года адбыўся XII з'езд партыі. Гэта быў першы з'езд пасля ўзяцця ўлады большэвікамі, на якім Ленін не мог прысутнічаць. На з'ездзе прысутнічала 408 дэлегатаў з рашаючым голасам, якія прадстаўлялі 386.000 членаў партыі, гэта значыць менш, чым на папярэднім з'ездзе партыі. Тут сказаліся рэзультаты прадаўжаўшайся чысткі радоў партыі, прывёўшай да выключэння з партыі значнага процанта членаў партыі. Дэлегатаў з дарадчым голасам было 417 чалавек.

XII з'езд партыі ўлічыў у сваіх рашэннях усе ўказанні Леніна, даныя ў яго апошніх артыкулах і пісьмах.

З'езд даў рашучы адпор усім, хто разумеў нэп, як адступленне ад соцыялістычных пазіцый, як здачу сваіх пазіцый капіталізму, хто прапанаваў пайсці ў кабалу да капіталізма. Такія прапановы рабіліся на з'ездзе староннікамі Троцкага, Радэкам і Красіным. Яны прапанавалі здацца на міласць іншакраінным капіталістам, здаць ім у канцэсію жыццёва неабходныя для Совецкай дзяржавы галіны прамысловасці. Яны прапанавалі ўплаціць ануляваныя Кастрычніцкай рэволюцыяй даўгі царскага ўрада. Гэтыя капітулянцкія прапановы партыя заклеймiла, як прэдацельскія. Яна не адмаўлялася скарыстаць палітыку канцэсій, але толькі ў такіх галінах і ў такіх размерах, якія былі выгадны Совецкай дзяржаве.

Бухарын і Сакольнікаў яшчэ да з'езда прапанавалі ліквідаваць манаполію знешняга гандлю. Гэтая прапанова была таксама рэзультатам разумення нэпа, як здачы сваіх пазіцый капіталізму. Ленін заклеймiў тады Бухарына, як абаронца спекулянтаў, нэпманаў, кулакоў. XII з'езд рашуча адверг пасяганні на непахіснасць манаполіі знешняга гандлю.

З'езд даў таксама адпор спробе Троцкага навязаць партыі згубную палітыку ў адносінах сялянства. З'езд указаў, што нельга забываць факту перавагі ў краіне дробнай сялянскай гаспадаркі. Ён падкрэсліў, што развіццё прамысловасці, у тым ліку цяжкай прамысловасці, павінна ісці не ўразрэз з інтарэсамі сялянскіх мас, а ў змычцы з імі, у інтарэсах усяго працоўнага насельніцтва. Гэтыя рашэнні былі накіраваны супроць Троцкага, які прапанаваў будаваць прамысло-

васць шляхам эксплуатацыі сялянскай гаспадаркі, які не прызнаваў на справе палітыкі саюза пролетарыята і сялянства.

Троцкі прапанаваў у той-жа час закрыць такія буйныя заводы, якія мелі абароннае значэнне, як Пуцілаўскі, Бранскі і іншыя, не прыносячыя, як сцвярджаў ён, прыбытку. З'езд з абурэннем адверг прапановы Троцкага.

Па прапанове Леніна, прысланай на з'езд у пісьмовым выглядзе, XII з'езд стварыў аб'яднаны орган ЦКК—РСІ. На яго ўскладаліся адказныя задачы: ахова адзінства нашай партыі, умацаванне партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны, усямернае паляпшэнне апарата Совецкай дзяржавы.

З'езд удзяліў сур'ёзную ўвагу нацыянальнаму пытанню. Дакладчыкам па гэтаму пытанню быў тав. Сталін. Тав. Сталін падкрэсліў міжнароднае значэнне нашай палітыкі па нацыянальнаму пытанню. Прыгнечаныя народы на Захадзе і Усходзе бачаць у Совецкім Саюзе ўзор вырашэння нацыянальнага пытання і ліквідацыі нацыянальнага гнёту. Тав. Сталін указаў на неабходнасць энергічнай работы па ліквідацыі гаспадарчай і культурнай няроўнасці паміж народамі Совецкага Саюза. Ён заклікаў усю партыю да рашучай барацьбы з ухіламі ў нацыянальным пытанні—вялікарускім шавінізмам і мясцовым буржуазным нацыяналізмам.

На з'ездзе былі выкрыты нацыянал-ухілісты і іх вялікадзяржаўная палітыка ў адносінах нацыянальных меншасцей. Тады супроць партыі выступалі грузінскія нацыянал-ухілісты—Мдзівані і іншыя. Нацыянал-ўхілісты былі супроць стварэння Закаўказскай федэрацыі, супроць умацавання дружбы народаў Закаўказзя. Ухілісты вялі сябе ў адносінах да іншых нацыянальнасцей у Грузіі, як сапраўдныя вялікадзяржаўныя шавіністы. Яны высялялі з Тыфліса ўсіх негрузін, асабліва армян, выдалі закон, па якому грузінка, выходзячы замуж за негрузіна, траціла грузінскае грамадзянства. Грузінскіх нацыянал-ўхілістаў падтрымлівалі Троцкі, Радэк, Бухарын, Скрыпнік, Ракоўскі.

Неўзабаве пасля з'езда была склікана спецыяльная нарада работнікаў нацыянальных рэспублік па нацыянальнаму пытанню. На ёй былі выкрыты група татарскіх буржуазных нацыяналістаў—Султан-Галіеў і іншыя і група узбекскіх нацыянал-ухілістаў—Файзула Хаджаеў і іншыя.

XII з'езд партыі падагуліў рэзультаты новай эканамічнай палітыкі за два годы. Гэтыя вынікі ўнушалі бадзёрасць і ўпэўненасць у канчатковай перамозе.

> «Наша партыя асталася спаянай, згуртаванай, вытрымаўшай найвялікшы паварот, ідучай уперад з шырока разгорнутым сцягам»,—заявіў на з'ездзе тав. Сталін.

### 4. Барацьба з труднасцямі аднаўлення народнай гаспадаркі. Узмацненне актыўнасці трацкістаў у сувязі з хваробай Леніна. Новая дыскусія ў партыі. Паражэнне трацкістаў. Смерць Леніна. Ленінскі прызыў. XIII з'езд партыі.

Першыя-ж годы барацьбы за аднаўленне народнай гаспадаркі прывялі да значных поспехаў. К 1924 году ўздым назіраўся ва ўсіх галінах. Пасеўная плошча з 1921 года значна павялічылася,—сялянская гаспадарка ўсё больш умацоўвалася. Расла і развівалася соцыялістычная прамысловасць. Значна вырас колькасна рабочы клас. Вырасла заработная плата. Жыць рабочым і сялянам стала лягчэй і лепш, чым у 1920—1921 годах.

Але ўсё яшчэ давалі сябе адчуваць рэзультаты яшчэ неліквідаванай разрухі. Прамысловасць яшчэ адставала ад даваеннага ўзроўню, яе рост значна адставаў ад росту патрэбнасці краіны. К канцу 1923 года налічвалася каля мільёна беспрацоўных,—павольны рост народнай гаспадаркі не даваў магчымасці рассасаць беспрацоўе. Гандаль развіваўся з перабоямі з прычыны празмерна высокіх цэн на гарадскія вырабы, навязаных краіне нэпманамі і нэпманскімі элементамі ў нашых гандлёвых арганізацыях. У сувязі з гэтым совецкі рубель стаў сільна хістацца, цэннасць яго падала. Усё гэта тармазіла паляпшэнне становішча рабочых і сялян.

К восені 1923 года крыху абвастрыліся гаспадарчыя труднасці з прычыны нарушэння совецкай палітыкі цэн нашымі прамысловымі і гандлёвымі органамі. У наяўнасці было рэзкае разыходжанне паміж цэнамі на прамысловыя тавары і прадукты сельскай гаспадаркі. Цэны на хлеб былі нізкія, а на прамысловыя тавары—непамерна высокія. У прамысловасці былі высокія накладныя расходы, і гэта падаражала тавары. Грошы, якія выручала сялянства ад продажу хлеба, быстра абясцэньваліся. У дадатак да ўсяго трацкіст Пятакоў, які сядзеў тады ў ВСНГ, даў злачынную дырэктыву гаспадарнікам—вышыбаць як мага больш прыбытку ад продажу промтавараў, павышаць нястрымна цэны, нібыта для развіцця індустрыі. На самай справе гэты нэпманскі лозунг мог прывесці толькі да звужэння базы прамысловай вытворчасці і падрыву індустрыі. Пры такіх умовах сялянству нявыгадна было набываць гарадскія тавары, і яно спыніла іх пакупку. Пачаўся крызіс збыту, які адбіўся на прамысловасці. Паявіліся затрудненні ў выдачы заработнай платы. Гэта выклікала нездаволенне рабочых. Найбольш адсталыя рабочыя на некаторых фабрыках кідалі работу.

Цэнтральны Камітэт партыі намеціў шляхі ўстаранення ўсіх гэтых труднасцей і недахопаў. Прыняты былі меры к ліквідацыі крызіса збыту. Было праведзена зніжэнне цэн на прадметы шырокага спажывання. Рашано было правесці грашовую рэформу—перайсці да цвёрдай і ўстойлівай валюты, да чырвонца. Упарадкавалі справу з выдачай рабочым заработнай платы. Намечаны былі меры па разгортванню гандлю праз совецкія і кааператыўныя органы і выцясненню з гандлю ўсякага роду прыватнікаў і спекулянтаў.

Трэба было дружна, закасаўшы рукавы, прыняцца за справу. Так думалі і дзейнічалі адданыя партыі людзі. Але не так паступалі трацкісты. Скарыстаўшы адсутнасць Леніна, які вышаў са строю з прычыны яго цяжкай хваробы, яны адкрылі новы напад на партыю і яе кіраўніцтва. Яны рашылі, што наступіў спрыяючы момант для таго, каб разбіць партыю і апракінуць яе кіраўніцтва. У барацьбе супроць партыі яны скарысталі ўсё: і паражэнне рэволюцыі ў Германіі і Балгарыі восенню 1923 года, і гаспадарчыя труднасці ў краіне, і хваробу Леніна. Іменна ў гэты цяжкі для Совецкай дзяржавы момант, калі правадыр партыі быў прыкован да пасцелі, Троцкі пачаў сваю атаку супроць большэвіцкай партыі. Сабраўшы вакол сябе ўсе антыленінскія элементы ў партыі, ён састрапаў платформу апазіцыі, накіраваную супроць партыі, супроць яе кіраўніцтва, супроць яе палітыкі. Платформа называлася заявай 46 апазіцыянераў. У барацьбе супроць ленінскай партыі аб'ядналіся ўсе апазіцыйныя групіроўкі—трацкісты, дэцысты, астаткі «левых комуністаў» і «рабочай апазіцыі». У сваёй заяве яны прарочылі цяжкі эканамічны крызіс і гі-

бель Совецкай улады і патрабавалі, як адзінага выхаду са становішча, свабоды фракцый і груповак.

Гэта была барацьба за аднаўленне фракцый, забароненых X з'ездам партыі па прапанове Леніна.

Ніякіх канкрэтных пытанняў аб паляпшэнні прамысловасці або сельскай гаспадаркі, аб паляпшэнні тавараабароту ў краіне, паляпшэнні становішча працоўных трацкісты не ставілі. Ды яны гэтым і не цікавіліся. Іх цікавіла адно: скарыстаць адсутнасць Леніна, аднавіць фракцыі ўнутры партыі і расхістаць асновы партыі, расхістаць яе ЦК.

Услед за платформай 46 было выпушчана пісьмо Троцкага, дзе ён абліваў гразёю партыйныя кадры і ў якім быў высунут цэлы рад новых паклёпніцкіх абвінавачанняў па адрасу партыі. У гэтым пісьме Троцкі паўтараў старыя меншавіцкія перапевы, якія партыя чула ад яго не ўпершыню.

Перш за ўсё трацкісты абрушыліся на партыйны апарат. Яны разумелі, што партыя не можа жыць і працаваць без моцнага партыйнага апарата. Апазіцыя прабавала расхістаць, разбурыць гэты апарат, проціпаставіць членаў партыі партыйнаму апарату, а моладзь— старым кадрам партыі. У сваім пісьме Троцкі рабіў стаўку на вучнёўскую моладзь, на маладых членаў партыі, якія не ведалі гісторыі барацьбы партыі з трацкізмам. Каб заваяваць вучнёўскую моладзь, Троцкі ільсціў ёй, называючы яе «вярнейшым барометрам партыі», і ў той-жа час заяўляў аб перараджэнні старой ленінскай гвардыі. Ківаючы на перарадзіўшыхся правадыроў II Інтэрнацыянала, ён гнусна намякаў, што старая большэвіцкая гвардыя ідзе па гэтаму-ж шляху. Крыкамі аб перараджэнні партыі Троцкі прабаваў прыкрыць сваё ўласнае перараджэнне і свае антыпартыйныя замыслы.

Абодва дакументы апазіцыянераў, як платформа 46, так і пісьмо Троцкага, былі разасланы трацкістамі ў раёны і ячэйкі і пастаўлены на абмеркаванне членаў партыі.

Партыю выклікалі на дыскусію.

Такім чынам як перад X з'ездам партыі ў часе профсаюзнай дыскусіі, так і цяпер, партыі была навязана трацкістамі агульнапартыйная дыскусія.

Не гледзячы на занятасць партыі больш важнымі гаспадарчымі пытаннямі, партыя прыняла выклік і адкрыла дыскусію.

Дыскусія ахапіла ўсю партыю. Барацьба насіла жорсткі характар. Асабліва востра працякала барацьба ў Маскве. Трацкісты імкнуліся перш за ўсё захваціць сталічную арганізацыю. Але дыскусія не дапамагла трацкістам. Яна толькі зганьбіла іх. Трацкісты былі разбіты ўшчэнт як у Маскве, так і па ўсяму Совецкаму Саюзу. За трацкістаў галасавала толькі невялікая колькасць вузаўскіх ячэек і ячэек устаноў.

У студзені 1924 года сабралася XIII партыйная канферэнцыя. Яна заслухала даклад тав. Сталіна, які падвёў вынікі дыскусіі. Канферэнцыя асудзіла трацкісцкую апазіцыю, заявіўшы, што ў яе асобе партыя мае справу з дробнабуржуазным ухілам ад марксізма. Рашэнні канферэнцыі былі адобраны потым XIII партыйным з'ездам і V кангрэсам Комінтэрна. Міжнародны комуністычны пролетарыят падтрымліваў большэвіцкую партыю ў яе барацьбе супроць трацкізма.

Але трацкісты не спынілі сваёй падрыўной работы. Восенню 1924 года Троцкі надрукаваў артыкул «Урокі Кастрычніка», у якім рабіў спробу падмяніць ленінізм трацкізмам. Гэты артыкул з'яўляўся суцэльным паклёпам на нашу партыю, на яе правадыра—Леніна. За

гэту паклёпніцкую кніжонку ўхапіліся ўсе ворагі комунізма і Совецкай улады. Партыя з абурэннем сустрэла гэты паклёп Троцкага на гераічную гісторыю большэвізма. Тав. Сталін выкрыў спробу Троцкага падмяніць ленінізм трацкізмам. У сваіх выступленнях тав. Сталін указаў, што «задача партыі заключаецца ў тым, каб пахараніць трацкізм, як ідэйную плынь».

Сур'ёзнае значэнне мела ў справе ідэйнага разгрому трацкізма і абароны ленінізма тэарэтычная работа тав. Сталіна «Аб асновах ленінізма», якая вышла ў 1924 годзе. Гэтая брашура з'яўляецца майстэрскім выкладам і сур'ёзным тэарэтычным абгрунтаваннем ленінізма. Яна ўзброіла тады і ўзбройвае цяпер большэвікоў ва ўсім свеце вострай зброяй марксісцка-ленінскай тэорыі.

У баях супроць трацкізма тав. Сталін згуртаваў партыю вакол яе ЦК і мабілізаваў яе на далейшую барацьбу за перамогу соцыялізма ў нашай краіне. Тав. Сталін здолеў даказаць, што ідэйны разгром трацкізма з'яўляецца ўмовай, неабходнай для таго, каб забяспечыць далейшы пераможны рух уперад к соцыялізму.

Падводзячы вынікі гэтаму перыяду барацьбы з трацкізмам, тав. Сталін гаварыў:

> «Не разбіўшы трацкізма, нельга дабіцца перамогі ва ўмовах нэпа, нельга дабіцца ператварэння цяперашняй Расіі ў Расію соцыялістычную».

Але поспехі ленінскай палітыкі партыі былі засмучаны найвялікшым горам, якое пасцігла партыю і рабочы клас. 21 студзеня 1924 года ў Горках, пад Масквой, памёр наш правадыр і настаўнік, тварэц большэвіцкай партыі, Ленін. Рабочы клас усяго свету сустрэў вестку аб смерці Леніна, як самую цяжкую страту. У дзень пахавання Леніна міжнародны пролетарыят аб'явіў пяцімінутную астаноўку ўсіх работ. Спыніліся чыгункі, спынілася работа на заводах і фабрыках. Працоўныя ўсяго свету з найглыбейшым жалем праважалі ў магілу свайго бацьку і настаўніка, лепшага друга і абаронца—Леніна.

На смерць Леніна рабочы клас Совецкага Саюза адказаў яшчэ большым згуртаваннем вакол ленінскай партыі. Кожны свядомы рабочы ў гэтыя жалобныя дні прадумаў свае адносіны да комуністычнай партыі, ажыццяўляючай заветы Леніна. У ЦК партыі паступалі тысячы і тысячы заяў беспартыйных рабочых з просьбай прыняць іх у партыю. ЦК пайшоў насустрач гэтаму руху перадавых рабочых і аб'явіў масавы прыём у партыю перадавых рабочых, аб'явіў ленінскі прызыў у партыю. У партыю пайшлі новыя дзесяткі тысяч рабочых. Ішлі тыя, хто гатоў быў аддаць жыццё за справу партыі, за справу Леніна. Звыш двухсот сарака тысяч рабочых уступіла тады ў кароткі тэрмін у рады большэвіцкай партыі. У партыю ўвайшла перадавая частка рабочага класа, найбольш свядомая і рэволюцыйная, найбольш смелая і дысцыплінаваная. Гэта быў **ленінскі прызыў** у партыю.

Смерць Леніна паказала, як блізка наша партыя рабочым масам і як рабочыя даражаць ленінскай партыяй.

У жалобныя ленінскія дні на II з'ездзе Советаў СССР тав. Сталін даў ад імя партыі вялікую клятву. Ён сказаў:

> «Мы, комуністы,—людзі асобага складу. Мы скроены з асобага матэрыяла. Мы—тыя, якія складаем армію вялікага пролетарскага стратэга, армію таварыша Леніна. Няма нічога вышэй, як чэсць належаць да гэтай арміі. Няма нічога вышэй, як званне



члена партыі, аснавальнікам і кіраўніком якой з'яўляецца таварыш Ленін...

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам трымаць высока і захоўваць у чыстаце вялікае званне члена партыі. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы з чэсцю выканаем гэту тваю запаведзь!..

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам захоўваць адзінства нашай партыі, як зяніцу вока. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы з чэсцю выканаем і гэту тваю запаведзь!..

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам захоўваць і ўмацоўваць дыктатуру пролетарыята. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы не пашкадуем сваіх сіл для таго, каб выканаць з чэсцю і гэту тваю запаведзь!..

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам умацоўваць усімі сіламі саюз рабочых і сялян. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы з чэсцю выканаем і гэту тваю запаведзь!..

Таварыш Ленін няспынна гаварыў нам аб неабходнасці добраахвотнага саюза народаў нашай краіны, аб неабходнасці брацкага іх супрацоўніцтва ў рамках Саюза Рэспублік. Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам умацоўваць і расшыраць Саюз Рэспублік. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы выканаем з чэсцю і гэту тваю запаведзь!..

Ленін не раз указваў нам, што ўмацаванне Чырвонай арміі і паляпшэнне яе стану з'яўляецца адной з важнейшых задач нашай партыі... Паклянемся-ж, таварышы, што мы не пашкадуем сіл для таго, каб умацаваць нашу Чырвоную армію, наш Чырвоны флот...

Уходзячы ад нас, таварыш Ленін завяшчаў нам вернасць прынцыпам Комуністычнага Інтэрнацыянала. Клянемся табе, таварыш Ленін, што мы не пашкадуем свайго жыцця для таго, каб умацоўваць і расшыраць саюз працоўных усяго свету— Комуністычны Інтэрнацыянал!».

Гэта была клятва большэвіцкай партыі свайму правадыру, Леніну, які будзе жыць у вяках.

У маі 1924 года адбыўся XIII з'езд партыі. На з'ездзе прысутнічала 748 дэлегатаў з рашаючым голасам, якія прадстаўлялі 735.881 члена партыі. Рэзкае павелічэнне колькасці членаў партыі ў параўнанні з папярэднім з'ездам аб'ясняецца ўступленнем у рады партыі каля 250 тысяч новых членаў па ленінскаму прызыву. Дэлегатаў з дарадчым голасам было 416 чалавек.

З'езд аднагалосна асудзіў платформу трацкісцкай апазіцыі, азначыўшы яе, як дробнабуржуазны ўхіл ад марксізма, як рэвізію ленінізма, і пацвердзіў рэзалюцыі XIII партыйнай канферэнцыі «Аб партыйным будаўніцтве» і «Аб выніках дыскусіі».

Выходзячы з задачы ўмацавання змычкі горада і вёскі, з'езд даў указанне аб далейшым расшырэнні індустрыі, у першую чаргу лёгкай індустрыі, адначасова падкрэсліўшы неабходнасць быстрага развіцця металургіі.

З'езд зацвердзіў стварэнне Наркамата Унутранага Гандлю і паставіў перад усімі гандлюючымі органамі задачу аўладання рынкам і выцяснення прыватнага капітала з галіны гандлю.

З'езд паставіў задачу расшырыць дзяшовы крэдыт дзяржавы сялянству і выцесніць растаўшчыка з вёскі.

Як галоўную задачу работы ў вёсцы, з'езд выставіў лозунг усямернага кааперавання сялянскіх мас.

Нарэшце, з'езд указаў на велізарнае значэнне ленінскага прызыву і звярнуў увагу партыі на ўзмацненне работы па абучэнню маладых членаў партыі, перш за ўсё—ленінскага прызыву,—асновам ленінізма.

### 5. Совецкі Саюз к канцу аднаўленчага перыяду. Пытанне аб соцыялістычным будаўніцтве і перамозе соцыялізма ў нашай краіне. «Новая апазіцыя» Зіноўева—Каменева. XIV з'езд партыі. Курс на соцыялістычную індустрыялізацыю краіны.

Прайшло больш чатырох год упорнай работы большэвіцкай партыі і рабочага класа на шляхах новай эканамічнай палітыкі. Наблі жалася к канцу гераічная работа па аднаўленню народнай гаспадаркі. Усё больш расла гаспадарчая і палітычная магутнасць Совецкага Саюза.

Міжнароднае становішча к гэтаму часу змянілася. Капіталізм устаяў супроць першага рэволюцыйнага націску мас пасля імперыялістычнай вайны. Рэволюцыйны рух у Германіі, Італіі, Балгарыі, Польшчы і радзе іншых краін быў падаўлен. У гэтым буржуазіі дапамаглі правадыры згодніцкіх соцыял-дэмакратычных партый. Наступіў часовы адліў рэволюцыі. Наступіла часовая, частковая стабілізацыя капіталізма ў Заходняй Еўропе,—частковае ўмацаванне яго пазіцый. Але стабілізацыя капіталізма не ўстараніла асноўных супярэчнасцей, раздзіраючых капіталістычнае грамадства. Наадварот: частковая стабілізацыя капіталізма абвастрала супярэчнасці паміж рабочымі і капіталістамі, паміж імперыялізмам і каланіяльнымі народамі, паміж імперыялістычнымі групамі розных краін. Стабілізацыя капіталізма падрыхтоўвала новы выбух супярэчнасцей, новыя крызісы ў краінах капіталізма.

Побач са стабілізацыяй капіталізма адбывалася і стабілізацыя Совецкага Саюза. Аднак, гэтыя дзве стабілізацыі карэнным чынам адрозніваліся адна ад другой. Капіталістычная стабілізацыя прадвяшчала новы крызіс капіталізма. Стабілізацыя Совецкага Саюза азначала новы рост гаспадарчай і палітычнай магутнасці краіны соцыялізма.

Не гледзячы на паражэнне рэволюцыі на Захадзе, міжнароднае становішча Совецкага Саюза ўсё-ж прадаўжала ўмацоўвацца, праўда, больш павольным тэмпам.

Совецкі Саюз у 1922 годзе быў запрошан на міжнародную эканамічную канферэнцыю ў італьянскі горад—Геную. На Генуэзскай канферэнцыі імперыялістычныя ўрады, падбадзёраныя паражэннем рэволюцыі ў краінах капіталізма, папрабавалі зрабіць новы націск на Рэспубліку Советаў, на гэты раз у дыпламатычнай форме. Імперыялісты прад'явілі Совецкай краіне наглыя патрабаванні. Яны патрэбавалі вярнуць іншакраінным капіталістам фабрыкі і заводы, нацыяналізаваныя Кастрычніцкай рэволюцыяй, патрэбавалі ўплаты ўсіх даўгоў царскага ўрада. Пры гэтых умовах імперыялістычныя дзяржавы абяцалі Совецкай дзяржаве нязначныя пазыкі.

Совецкі Саюз адверг гэтыя патрабаванні.

Генуэзская канферэнцыя не дала рэзультатаў.

Пагроза новай інтэрвенцыі ў выглядзе ультыматума англійскага міністра замежных спраў Керзона ў 1923 годзе таксама атрымала належны адпор.

Прашчупаўшы моцнасць Совецкай улады і пераканаўшыся ў яе ўстойлівасці, капіталістычныя дзяржавы адна за другой пачалі аднаўляць з нашай краінай дыпламатычныя адносіны. На працягу 1924 года былі адноўлены дыпламатычныя адносіны з Англіяй, Францыяй, Японіяй, Італіяй.

Ясна было, што Совецкая краіна здолела заваяваць цэлы перыяд мірнай передышкі.

Змянілася і абстаноўка ўнутры краіны. Самаадданая работа рабочых і сялян, кіруемых партыяй большэвікоў, прынесла свае плады. У наяўнасці быў быстры рост народнай гаспадаркі. У 1924—25 гаспадарчым годзе сельская гаспадарка набліжалася ўжо да даваенных размераў, дасягнуўшы 87 процантаў даваеннага ўзроўню. Буйная прамысловасць СССР давала ў 1925 годзе ўжо каля **трох чвэрцей** даваеннай прамысловай прадукцыі. У 1924—25 годзе Совецкая краіна змагла ўжо ўкласці ў капітальнае будаўніцтва 385 мільёнаў рублёў. Паспяхова выконваўся план электрыфікацыі краіны. Умацоўваліся камандныя пазіцыі соцыялізма ў народнай гаспадарцы. Былі атрыманы сур'ёзныя поспехі ў барацьбе з прыватным капіталам у прамысловасці і гандлі.

Гаспадарчы ўздым прынёс з сабой далейшае паляпшэнне становішча рабочых і сялян. Рост рабочага класа ішоў быстрым тэмпам. Вырасла заработная плата. Паднялася прадукцыйнасць працы. Значна палепшылася матэрыяльнае становішча сялян. Рабоча-сялянская дзяржава змагла ў 1924—25 годзе выдзеліць у дапамогу маламоцнаму сялянству да 290 мільёнаў рублёў. На аснове паляпшэння становішча рабочых і сялян сільна вырасла палітычная актыўнасць мас. Умацавалася дыктатура пролетарыята. Выраслі аўтарытэт і ўплыў большэвіцкай партыі.

Аднаўленне народнай гаспадаркі набліжалася к канцу. Але краіне Саветаў, краіне будуючагася соцыялізма, недастаткова было простага аднаўлення гаспадаркі, простага дасягнення даваеннага ўзроўню. Даваенны ўзровень—гэта быў узровень адсталай краіны. Трэба было ісці далей. Заваяваная Совецкай дзяржавай працяглая передышка забяспечвала магчымасць далейшага будаўніцтва.

Але тут з усёй сілай паўставала пытанне аб перспектывах, аб характары нашага развіцця, нашага будаўніцтва, пытанне аб лёсе соцыялізма ў Совецкім Саюзе. У якім напрамку трэба весці гаспадарчае будаўніцтва ў Совецкім Саюзе, у напрамку да соцыялізма, або ў якім-небудзь іншым напрамку? Ці павінны і ці можам мы пабудаваць соцыялістычную гаспадарку, або нам суджана ўгнаіць глебу для другой, капіталістычнай гаспадаркі? Ці магчыма наогул пабудаваць соцыялістычную гаспадарку ў СССР, а калі магчыма, то ці магчыма яе пабудаваць пры зацяжцы рэволюцыі ў капіталістычных краінах і стабілізацыі капіталізма? Ці магчыма пабудова соцыялістычнай гаспадаркі на шляхах новай эканамічнай палітыкі, якая, усямерна ўмацоўваючы і расшыраючы сілы соцыялізма ў краіне, разам з тым пакуль што дае і некаторы рост капіталізма? Як трэба будаваць соцыялістычную народную гаспадарку, з якога канца трэба пачаць гэта будаўніцтва?

Усе гэтыя пытанні паўсталі перад партыяй к канцу аднаўленчага перыяду ўжо не як тэарэтычныя пытанні, а як пытанні практыкі, як пытанні штодзённага гаспадарчага будаўніцтва.

На ўсе гэтыя пытанні неабходна было даць прамыя і ясныя адказы, каб як нашы партыйна-гаспадарчыя работнікі, якія будавалі

прамысловасць і сельскую гаспадарку, так і ўвесь народ ведалі—куды весці справу,—да соцыялізма, або капіталізма?

Без ясных адказаў на гэтыя пытанні ўся наша практычная работа па будаўніцтву была-б работай без перспектыў, работай усляпую, работай упустую.

На ўсе гэтыя пытанні партыя дала ясныя і канкрэтныя адказы.

Так, адказвала партыя, соцыялістычную гаспадарку можна і патрэбна пабудаваць у нашай краіне, бо ў нас ёсць усё неабходнае для таго, каб пабудаваць соцыялістычную гаспадарку, пабудаваць поўнае соцыялістычнае грамадства. У кастрычніку 1917 года рабочы клас перамог капіталізм **палітычна**, устанавіўшы сваю палітычную дыктатуру. З таго часу Совецкая ўлада прымала ўсе меры да таго, каб разбіць гаспадарчую магутнасць капіталізма і стварыць умовы для пабудовы соцыялістычнай народнай гаспадаркі. Экспрапрыяцыя капіталістаў і памешчыкаў; ператварэнне зямлі, фабрык, заводаў, шляхоў зносін, банкаў у агульнанародную ўласнасць; правядзенне новай эканамічнай палітыкі; будаўніцтва дзяржаўнай соцыялістычнай прамысловасці; правядзенне ленінскага кааператыўнага плана,—такія вось гэтыя мерапрыемствы. Цяпер галоўная задача заключаецца ў тым, каб разгарнуць па ўсёй краіне будаўніцтва новай, соцыялістычнай гаспадаркі і тым дабіць капіталізм таксама і **эканамічна**. Уся наша практычная работа, усе нашы дзеянні павінны быць падпарадкаваны патрабаванням выканання гэтай галоўнай задачы. Рабочы клас можа зрабіць гэта, і ён гэта зробіць. Пачаць выкананне гэтай грандыёзнай задачы трэба з індустрыялізацыі краіны. Соцыялістычная індустрыялізацыя краіны—такаво тое асноўнае звяно, з якога трэба пачаць разварот будаўніцтва соцыялістычнай народнай гаспадаркі. Ні зацяжка рэволюцыі на Захадзе, ні частковая стабілізацыя капіталізма ў несовецкіх краінах не могуць прыпыніць нашага прасоўвання ўперад—да соцыялізма. Новая эканамічная палітыка можа толькі аблягчыць гэту справу, бо яна ўведзена партыяй іменна для таго, каб аблягчыць будаўніцтва соцыялістычнага фундамента нашай народнай гаспадаркі.

Такі быў адказ партыі на пытанне аб перамозе соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне.

Але партыя ведала, што гэтым не вычэрпваецца праблема перамогі соцыялізма ў адной краіне. Пабудова соцыялізма ў СССР прадстаўляе найвялікшы паварот у гісторыі чалавецтва і сусветнагістарычную перамогу рабочага класа і сялянства СССР. Але яна з'яўляецца ўсё-ж унутранай справай СССР і складае толькі частку праблемы перамогі соцыялізма. Другую частку праблемы складае яе міжнародны бок. Абгрунтоўваючы палажэнне аб перамозе соцыялізма ў адной краіне, таварыш Сталін не раз указваў, што трэба адрозніваць два бакі гэтага пытання, унутраны і міжнародны. Што датычыць унутранага боку пытання, гэта значыць узаемаадносін класаў унутры краіны, то рабочы клас і сялянства СССР упаўне могуць адалець **эканамічна** сваю ўласную буржуазію і пабудаваць поўнае соцыялістычнае грамадства. Але ёсць яшчэ міжнародны бок пытання, гэта значыць галіна знешніх адносін, галіна адносін паміж Совецкай краінай і капіталістычнымі краінамі, паміж совецкім народам і міжнароднай буржуазіяй, якая ненавідзіць совецкі лад і шукае выпадку зрабіць новую ўзброеную інтэрвенцыю супроць Совецкай краіны, зрабіць новыя спробы аднаўлення капіталізма ў СССР. І паколькі СССР з'яўляецца пакуль што адзінай краінай соцыялізма, а астатнія краіны

астаюцца капіталістычнымі, то прадаўжае існаваць вакол СССР капіталістычнае акружэнне, якое параджае небяспеку капіталістычнай інтэрвенцыі. Ясна, што пакуль ёсць капіталістычнае акружэнне, будзе і небяспека капіталістычнай інтэрвенцыі. Ці можа совецкі народ аднымі толькі ўласнымі сіламі знішчыць гэтую знешнюю небяспеку, небяспеку капіталістычнай інтэрвенцыі супроць СССР? Не, не можа. Не можа, бо для знішчэння небяспекі капіталістычнай інтэрвенцыі неабходна знішчыць капіталістычнае акружэнне, а знішчыць капіталістычнае акружэнне магчыма толькі ў рэзультаце пераможнай пролетарскай рэволюцыі па крайняй меры ў некалькіх краінах. Але з гэтага вынікае, што перамога соцыялізма ў СССР, якая выражаецца ў ліквідацыі капіталістычнай сістэмы гаспадаркі і ў пабудове соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі, усё-ж не можа лічыцца **канчатковай** перамогай, паколькі небяспека ўзброенай замежнай інтэрвенцыі і спробаў рэстаўрацыі капіталізма астаецца неўстаранёнай, паколькі краіна соцыялізма астаецца не гарантаванай ад такой небяспекі. Каб знішчыць небяспеку замежнай капіталістычнай інтэрвенцыі, трэба знішчыць капіталістычнае акружэнне.

Вядома, совецкі народ і яго Чырвоная армія пры правільнай палітыцы Совецкай улады здолеюць даць належны адпор новай замежнай капіталістычнай інтэрвенцыі таксама, як яны далі адпор першай капіталістычнай інтэрвенцыі ў 1918—1920 годах. Але гэта яшчэ не значыць, што гэтым будзе знішчана небяспека новых капіталістычных інтэрвенцый. Паражэнне першай інтэрвенцыі не знішчыла небяспекі новай інтэрвенцыі, бо крыніца небяспекі інтэрвенцыі—капіталістычнае акружэнне—прадаўжае існаваць. Не знішчыць небяспекі інтэрвенцыі і паражэнне новай інтэрвенцыі, калі капіталістычнае акружэнне будзе ўсё яшчэ існаваць.

З гэтага вынікае, што перамога пролетарскай рэволюцыі ў капіталістычных краінах з'яўляецца кроўным інтарэсам працоўных СССР.

Такая была ўстаноўка партыі па пытанню аб перамозе соцыялізма ў нашай краіне.

ЦК патрабаваў, каб гэтая ўстаноўка была абмеркавана на прадстаячай XIV партканферэнцыі, каб яна была адобрана і прынята, як устаноўка партыі, як закон партыі, **абавязковы** для ўсіх членаў партыі.

Гэтая ўстаноўка партыі зрабіла ашаламляючае дзеянне на апазіцыянераў. Яна ашаламіла іх перш за ўсё тым, што партыя надала ёй канкрэтна-практычны характар, звязала яе з практычным планам соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны і патрабавала надаць ёй форму партыйнага закона, форму рэзалюцыі XIV партканферэнцыі, абавязковай для ўсіх членаў партыі.

Трацкісты выступілі супроць устаноўкі партыі, проціпаставіўшы ёй меншавіцкую «тэорыю перманентнай рэволюцыі», якая толькі ў насмешку над марксізмам магла быць названа марксісцкай тэорыяй і якая адмаўляла магчымасць перамогі соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР.

Бухарынцы не рашыліся выступіць прама супроць устаноўкі партыі. Але яны ўсё-ж пачалі паціхеньку процістаўляць ёй сваю «тэорыю» мірнага ўрастання буржуазіі ў соцыялізм, дапоўніўшы яе «новым» лозунгам—«Узбагачайцеся». У бухарынцаў выходзіла, што перамога соцыялізма азначае не ліквідацыю буржуазіі, а яе вырошчванне і ўзбагачэнне.

Зіноўеў і Каменеў высунуліся было адзін час з заявай, што перамога соцыялізма ў СССР немагчыма з прычыны яго тэхніка-эканамічнай адсталасці, але потым аказаліся вымушанымі схавацца ў кустах.

XIV партканферэнцыя (красавік 1925 года) асудзіла ўсе гэтыя капітулянцкія «тэорыі» адкрытых і скрытых апазіцыянераў і зацвердзіла ўстаноўку партыі на перамогу соцыялізма ў СССР, прыняўшы адпаведную рэзалюцыю.

Зіноўеў і Каменеў, прыпёртыя да сцяны, палічылі за лепшае галасаваць за гэту рэзалюцыю. Але партыя ведала, што яны толькі адклалі сваю барацьбу з ёю, рашыўшы «даць бой партыі» на XIV з'ездзе партыі. Яны збіралі сваіх старроннікаў у Ленінградзе і фарміравалі так званую «новую апазіцыю».

У снежні 1925 года адкрыўся XIV з'езд партыі.

З'езд адбываўся ў напружанай унутрыпартыйнай абстаноўцы. За ўвесь час існавання партыі яшчэ не было такога становішча, каб цэлая дэлегацыя буйнейшага партыйнага цэнтра, як ленінградская, збіралася выступаць супроць свайго ЦК.

На з'ездзе прысутнічала 665 дэлегатаў з рашаючым голасам і 641 з дарадчым, якія прадстаўлялі 643 тысячы членаў партыі і 445 тысяч кандыдатаў, г. зн. крыху менш, чым на папярэднім з'ездзе. Тут сказаліся рэзультаты частковай чысткі вузаўскіх ячэек і ячэек устаноў, якія аказаліся засмечанымі антыпартыйнымі элементамі.

Палітычную справаздачу Цэнтральнага Камітэта зрабіў тав. Сталін. Ён нарысаваў яркую карціну росту палітычнай і гаспадарчай магутнасці Совецкага Саюза. І прамысловасць, і сельская гаспадарка, дзякуючы перавагам совецкай сістэмы гаспадаркі, былі адноўлены ў параўнальна кароткі тэрмін і набліжаліся да даваеннага ўзроўню. Не гледзячы на гэтыя поспехі, тав. Сталін прапанаваў не супакойвацца на гэтым, бо гэтыя поспехі не маглі знішчыць таго факту, што наша краіна ўсё яшчэ прадаўжала аставацца адсталай, аграрнай. Дзве трэці ўсёй прадукцыі давала сельская гаспадарка, толькі адну трэць — прамысловасць. Перад партыяй, гаварыў тав. Сталін, стаіць ва ўвесь рост пытанне аб ператварэнні нашай краіны ў індустрыяльную краіну, эканамічна незалежную ад капіталістычных краін. Гэта магчыма зрабіць, і гэта трэба зрабіць. Цэнтральнай задачай партыі становіцца барацьба за соцыялістычную індустрыялізацыю краіны, барацьба за перамогу соцыялізма.

> «Ператварыць нашу краіну з аграрнай у індустрыяльную, здольную вырабляць сваімі ўласнымі сіламі неабходнае абсталяванне,—вось у чым сутнасць, аснова нашай генеральнай лініі»,—указваў тав. Сталін.

Індустрыялізацыя краіны забяспечвала гаспадарчую самастойнасць краіны, умацоўвала яе абароназдольнасць і стварала ўмовы, неабходныя для перамогі соцыялізма ў СССР.

Супроць генеральнай лініі партыі выступілі зіноўеўцы. Сталінскаму плану соцыялістычнай індустрыялізацыі зіноўевец Сакольнікаў проціпаставіў буржуазны план, які меў хаджэнне сярод акул імперыялізма. Па гэтаму плану СССР павінен быў астацца аграрнай краінай, вырабляючай, галоўным чынам, сыравіну і прадавольствіе, вывозячай іх за граніцу і ўвозячай адтуль машыны, якіх сама не выпрабляе і не павінна вырабляць. Ва ўмовах 1925 года гэты план выглядаў, як план эканамічнага закабалення СССР прамыслова-раз-

вітай заграніцай, як план замацавання прамысловай адсталасці СССР ва ўгоду імперыялістычным акулам капіталістычных краін.

Прыняць гэты план азначалаператварыць нашу краіну ў бездапаможны аграрны, землеробчы прыдатак капіталістычнага свету, пакінуць яе бяззбройнай і слабой перад тварам капіталістычнага акружэння і, у канчатковым выніку—пахаваць у труну справу соцыялізма ў СССР.

З'езд закляйміў гаспадарчы «план» зіноўеўцаў, як план закабалення СССР.

Не дапамаглі «новай апазіцыі» і такія выхадкі, як сцверджанне (наперакор Леніну!) аб тым, што наша дзяржаўная прамысловасць не з'яўляецца быццам-бы соцыялістычнай прамысловасцю, або заява (таксама наперакор Леніну!) аб тым, што серадняк-селянін не можа быць быццам-бы саюзнікам рабочага класа ў справе соцыялістычнага будаўніцтва.

З'езд закляйміў гэтыя выхадкі «новай апазіцыі», як антыленінскія.

Тав. Сталін выкрыў троцкісцка-меншавіцкую сутнасць «новай апазіцыі». Ён паказаў, што Зіноўеў і Каменеў толькі перапяваюць песенькі ворагаў партыі, з якімі Ленін вёў у свой час бязлітасную барацьбу.

Было ясна, што зіноўеўцы—гэта дрэнна замаскіраваныя троцкісты.

Тав. Сталін падкрэсліў, што важнейшай задачай партыі з'яўляецца моцны саюз рабочага класа з серадняком у справе будаўніцтва соцыялізма. Ён указаў на два ўхілы па сялянскаму пытанню, меўшыяся тады ў партыі, якія прадстаўлялі небяспеку для справы гэтага саюза. Першы ўхіл—недаацэнка і пераўмяншэнне кулацкай небяспекі, другі—паніка, спалох перад кулаком і недаацэнка ролі серадняка. На пытанне аб тым, які ўхіл горш, тав. Сталін адказваў: «Абодва яны горш, і першы і другі ўхіл. І калі разаўюцца гэтыя ўхілы, яны здольны разлажыць і загубіць партыю. На шчасце, у нас у партыі ёсць сілы, якія могуць адсячы і першы і другі ўхіл».

Партыя сапраўды разграміла і адсекла і «левы» і правы ўхіл.

Падводзячы вынік спрэчкам па гаспадарчаму будаўніцтву, XIV з'езд партыі аднадушна адверг капітулянцкія планы апазіцыянераў і запісаў у сваім знамянітым рашэнні:

> «У галіне эканамічнага будаўніцтва з'езд выходзіць з таго, што наша краіна, краіна дыктатуры пролетарыята, мае «ўсё неабходнае для пабудовы поўнага соцыялістычнага грамадства» (**Ленін**). З'езд лічыць, што барацьба за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР з'яўляецца асноўнай задачай нашай партыі».

XIV з'езд зацвердзіў новы статут партыі.

З XIV з'езда наша партыя стала называцца Усесаюзнай Комуністычнай Партыяй (большэвікоў)—ВКП(б).

Зіноўеўцы, разбітыя на з'ездзе, не падпарадкаваліся партыі. Яны пачалі барацьбу супроць рашэнняў XIV з'езда. Адразу-ж насля XIV з'езда Зіноўеў устроіў сход Ленінградскага губкома комсамола, вярхушка якога была выхавана Зіноўевым, Залуцкім, Бакаевым, Еўдакімавым, Кукліным, Сафаравым і іншымі двурушнікамі ў духу нянавісці да ленінскага ЦК партыі. На гэтым сходзе Ленінградскі

губком комсамола вынес нечуваную ў гісторыі ВЛКСМ пастанову аб адмове падпарадкаваццa рашэнням XIV з'езда партыі.

Але зіноўеўская вярхушка ленінградскага комсамола зусім не адлюстроўвала настрояў комсамольскіх мас Ленінграда. Таму яна лёгка была разгромлена, і хутка ленінградская комсамольская арганізацыя зноў заняла належнае ёй месца ў комсамоле.

К канцу XIV з'езда ў Ленінград была накіравана група дэлегатаў з'езда—таварышы Молатаў, Кіраў, Варашылаў, Калінін, Андрэеў і іншыя. Трэба было раз'ясніць членам ленінградскай партыйнай арганізацыі злачынны, антыбольшэвіцкі характар той пазіцыі, якую заняла на з'ездзе, атрымаўшая абманным шляхам мандаты, ленінградская дэлегацыя. Сходы са справаздачамі аб з'ездзе праходзілі бурна. Была склікана новая экстраная ленінградская партканферэнцыя. Пераважная маса членаў ленінградскай партыйнай арганізацыі (звыш 97 процантаў) поўнасцю адобрыла рашэнні XIV з'езда партыі і асудзіла антыпартыйную зіноўеўскую «новую апазіцыю». Апошняя прадстаўляла сабой ужо тады генералаў без арміі.

Ленінградскія большэвікі асталіся ў першых радах партыі Леніна—Сталіна.

Падводзячы вынікі работам XIV з'езда партыі, тав. Сталін пісаў:

> «Гістарычнае значэнне XIV з'езда ВКП заключаецца ў тым, што ён здолеў ускрыць да карэнняў памылкі новай апазіцыі, адкінуў прэч яе нявер'е і хныканне, ясна і чотка намеціў шлях далейшай барацьбы за соцыялізм, даў партыі перспектыву перамогі і ўзброіў тым самым пролетарыят несакрушымай верай у перамогу соцыялістычнага будаўніцтва» (**Сталін**, Пытанні ленінізма, стар. 150).

## *КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ.*

Годы пераходу на мірную работу па аднаўленню народнай гаспадаркі з'яўляюцца адным з адказнейшых перыядаў у гісторыі большэвіцкай партыі. У напружанай абстаноўцы партыя здолела зрабіць цяжкі паварот ад палітыкі ваеннага комунізма да новай эканамічнай палітыкі. Партыя ўмацавала саюз рабочых і сялян на новай эканамічнай аснове. Быў створан Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

На шляхах новай эканамічнай палітыкі былі дасягнуты рашаючыя поспехі ў аднаўленні народнай гаспадаркі. Краіна Советаў прайшла з поспехам аднаўленчы перыяд у развіцці народнай гаспадаркі і пачала пераходзіць да новага перыяду, да перыяду індустрыялізацыі краіны.

Пераход ад грамадзянскай вайны да мірнага соцыялістычнага будаўніцтва суправаджаўся, асабліва ў першыя часы, вялікімі труднасцямі. Ворагі большэвізма, антыпартыйныя элементы ў радах ВКП(б), на ўсім працягу гэтага перыяду вялі адчаянную барацьбу супроць ленінскай партыі. На чале гэтых антыпартыйных элементаў стаяў Троцкі. Яго спадручнымі ў гэтай барацьбе былі Каменеў, Зіноўеў, Бухарын. Апазіцыянеры разлічвалі ўнесці разлажэнне ў рады большэвіцкай партыі пасля смерці Леніна, раскалоць партыю, заразіць яе нявер'ем у справу перамогі соцыялізма ў СССР. Па сутнасці

трацкісты прабавалі стварыць у СССР палітычную арганізацыю новай буржуазіі, другую партыю—партыю капіталістычнай рэстаўрацыі.

Партыя згуртавалася пад ленінскім сцягам вакол свайго ленінскага ЦК, вакол тав. Сталіна і нанесла паражэнне як трацкістам, так і іх новым прыяцелям у Ленінградзе—новай апазіцыі Зіноўева—Каменева.

Накапіўшы сілы і сродкі, партыя большэвікоў падвяла краіну да новага гістарычнага этапу—да этапу соцыялістычнай індустрыялізацыі.

Раздзел X

# ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У БАРАЦЬБЕ ЗА СОЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЮ КРАІНЫ.

(1926—1929 годы).

## 1. Труднасці ў перыяд соцыялістычнай індустрыялізацыі і барацьба з імі. Утварэнне трацкісцка-зіноўеўскага антыпартыйнага блока. Антысовецкія выступленні блока. Паражэнне блока.

Пасля XIV з'езда партыя разгарнула барацьбу за правядзенне ў жыццё генеральнай устаноўкі Совецкай улады на **соцыялістычную індустрыялізацыю** краіны.

У аднаўленчы перыяд задача заключалася ў тым, каб ажывіць, перш за ўсё, сельскую гаспадарку, атрымаць ад сельскай гаспадаркі сыравіну, прадавольствіе і прывесці ў рух,—аднавіць прамысловасць, аднавіць існуючыя заводы і фабрыкі.

Совецкая ўлада параўнальна лёгка справілася з гэтымі задачамі.

Але аднаўленчы перыяд меў тры вялікія недахопы.

Па-першае, ён меў справу са старымі заводамі і фабрыкамі, з іх старой, адсталай тэхнікай, якія маглі хутка выйсці са строю. Задача заключалася ў тым, каб пераабсталяваць іх на аснове новай тэхнікі.

Па-другое, аднаўленчы перыяд меў справу з такой прамысловасцю, база якой была вельмі вузкая, бо ў ліку наяўных заводаў і фабрык адсутнічалі дзесяткі і сотні машынабудаўнічых заводаў, абсалютна неабходных для краіны, якіх не было ў нас тады і якія трэба было пабудаваць, бо без наяўнасці такіх заводаў індустрыя не можа лічыцца сапраўднай індустрыяй. Задача заключалася ў тым, каб стварыць гэтыя заводы і ўзброіць іх сучаснай тэхнікай.

Па-трэцяе, аднаўленчы перыяд меў справу пераважна з лёгкай індустрыяй, якую ён развіў і вывеў на дарогу. Але само развіццё лёгкай індустрыі пачало ў далейшым упірацца ў слабасць цяжкай індустрыі, не гаворачы ўжо аб іншых патрэбнасцях краіны, якія маглі быць задаволены толькі развітай цяжкай індустрыяй. Задача заключалася ў тым, каб зрабіць цяпер крэн у бок цяжкай індустрыі.

Усе гэтыя новыя задачы павінна была вырашыць палітыка соцыялістычнай індустрыялізацыі.

Неабходна было пабудаваць занава цэлы рад галін індустрыі, якіх не было ў царскай Расіі,—пабудаваць новыя машынабудаўнічыя, станкабудаўнічыя, аўтамабільныя, хімічныя, металургічныя заводы, наладзіць уласную вытворчасць рухавікоў і абсталявання для элек-

трастанцый, павялічыць здабычу метала і вугалю, бо гэтага патрабавала справа перамогі соцыялізма ў СССР.

Неабходна было стварыць новую абаронную прамысловасць,— пабудаваць новыя артылерыйскія, снарадныя, авіяцыйныя, танкавыя, кулямётныя заводы, бо гэтага патрабавалі інтарэсы абароны СССР у абстаноўцы капіталістычнага акружэння.

Неабходна было пабудаваць трактарныя заводы, заводы сучасных сельскагаспадарчых машын і забяспечыць іх прадукцыяй сельскую гаспадарку, каб даць магчымасць мільёнам дробных аднаасобных сялянскіх гаспадарак перайсці на буйную калгасную вытворчасць, бо гэтага патрабавалі інтарэсы перамогі соцыялізма ў вёсцы.

Усё гэта павінна была даць палітыка індустрыялізацыі, бо ў гэтым заключалася соцыялістычная індустрыялізацыя краіны.

Зразумела, што такое вялікае капітальнае будаўніцтва не магло абыйсціся без мільярдных грашовых укладанняў. Разлічваць на знешнія пазыкі не было магчымасці, бо капіталістычныя краіны адмовіліся даць пазыкі. Прыходзілася будаваць на свае ўласныя сродкі, без дапамогі звонку. А краіна наша была тады яшчэ небагата.

У гэтым заключалася цяпер адна з галоўных труднасцей.

Капіталістычныя краіны звычайна ствaралі сваю цяжкую індустрыю за кошт прытоку сродкаў звонку: за кошт аграблення калоній, за кошт кантрыбуцый з пераможаных народаў, за кошт знешніх пазык. Краіна Советаў прынцыпова не магла прыбегнуць да такіх брудных крыніц атрымання сродкаў для індустрыялізацыі, як грабеж каланіяльных або пераможаных народаў. Што датычыць знешніх пазык, для СССР была закрыта гэтая крыніца з прычыны адмовы капіталістычных краін даць яму пазыкі. Трэба было знайсці сродкі ўнутры краіны.

І ў СССР знайшліся такія сродкі. У СССР знайшліся такія крыніцы накаплення, якіх не ведае ні адна капіталістычная дзяржава. Совецкая дзяржава атрымала ў сваё распараджэнне ўсе фабрыкі і заводы, усе землі, аднятыя Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыяй у капіталістаў і памешчыкаў, транспарт, банкі, гандаль знешні і ўнутраны. Прыбытак ад дзяржаўных фабрык і заводаў, ад транспарта, гандлю, банкаў ішоў цяпер не на спажыванне паразітычнага класа капіталістаў, а на далейшае расшырэнне прамысловасці.

Совецкая ўлада анулявала царскія даўгі, па якіх штогод народ уплачваў сотні мільёнаў рублёў золатам адных толькі працантаў. Знішчыўшы памешчыцкую ўласнасць на зямлю, Совецкая ўлада вызваліла сялянства ад штогодняй уплаты памешчыкам каля 500 мільёнаў рублёў золатам арэнднай платы за зямлю. Вызваліўшыся ад усяго гэтага цяжару, сялянства магло дапамагчы дзяржаве будаваць новую, магутную прамысловасць. Сяляне былі кроўна зацікаўлены ў атрыманні трактароў і сельскагаспадарчых машын.

Усе гэтыя крыніцы даходаў знаходзіліся ў распараджэнні Совецкай дзяржавы. Яны маглі даць сотні мільёнаў і мільярды рублёў для стварэння цяжкай індустрыі. Трэба было толькі па-гаспадарску падыйсці да справы і навесці найстражэйшую эканомію ў справе расходавання грошай, рацыяналізаваць вытворчасць, знізіць сабекошт вытворчасці, ліквідаваць непрадукцыйныя расходы і т. п.

Совецкая ўлада так іменна і паступала.

Дзякуючы рэжыму эканоміі з кожным годам сталі збірацца ўсё больш значныя сродкі на капітальнае будаўніцтва. Паявілася магчымасць прыступіць да будаўніцтва такіх гіганцкіх прадпрыемстваў, як

Днепроўская гідраэлектрастанцыя, Туркестана-Сібірская чыгунка, Сталінградскі трактарны завод, станкабудаўнічыя заводы, аўтамабільны завод «АМО» («ЗІС») і т. д.

Калі ў 1926—27 годзе было ўкладзена ў прамысловасць каля 1 мільярда рублёў, то праз тры годы ўдалося ўкласці ўжо каля 5 мільярдаў рублёў.

Справа індустрыялізацыі прасоўвалася ўперад.

Ва ўмацаванні соцыялістычнай гаспадаркі СССР капіталістычныя краіны бачылі пагрозу для існавання капіталістычнай сістэмы. Таму імперыялістычныя ўрады прымалі ўсе магчымыя меры, каб зрабіць новы націск на СССР, унесці замяшанне, сарваць або, па крайняй меры, затармазіць справу індустрыялізацыі СССР.

У маі 1927 года англійскія кансерватары («цвёрдалобыя»), якія сядзелі ва ўрадзе, арганізавалі правакацыйны налёт на «Аркос» (Совецкае таварыства па гандлю з Англіяй). 26 мая 1927 года англійскі кансерватыўны ўрад аб'явіў аб разрыве Англіяй дыпламатычных і гандлёвых зносін з СССР.

7 чэрвеня 1927 года ў Варшаве рускім белагвардзейцам, які састаяў у польскім подданстве, быў забіт пасол СССР тав. Войкаў.

Адначасова на тэрыторыі СССР англійскімі шпіёнамі і дыверсантамі былі кінуты бомбы ў партыйны клуб у Ленінградзе, прычым было ранена каля 30 чалавек, у тым ліку некалькі чалавек цяжка.

Летам 1927 года амаль адначасова адбываліся налёты на совецкія паўнамоцныя прадстаўніцтвы і гандлёвыя прадстаўніцтвы ў Берліне, Пекіне, Шанхаі, Тяньцзіне.

Гэта стварала дадатковыя труднасці для Совецкай улады.

Але СССР не паддаўся націску і лёгка адкінуў прэч правакацыйныя наскокі імперыялістаў і іх агентаў.

Не менш труднасцей прычынялі партыі і Совецкай дзяржаве трацкісты і іншыя апазіцыянеры сваёй падрыўной работай. Нядарам гаварыў тады тав. Сталін, што супроць Совецкай улады «ствараецца штосьці накшталт адзінага фронта ад Чэмберлена да Троцкага». Не гледзячы на рашэнні XIV з'езда партыі і аб'яўленую апазіцыяй лаяльнасць, апазіцыянеры не склалі зброі. Больш таго—яны яшчэ больш узмацнілі сваю падрыўную, раскольніцкую работу.

Летам 1926 года трацкісты і зіноўеўцы аб'ядноўваюцца ў антыпартыйны блок, згуртоўваюць вакол блока астаткі ўсіх разбітых апазіцыйных груп і закладваюць асновы сваёй антыленінскай падпольнай партыі, груба нарушаючы тым самым статут партыі і рашэнні з'ездаў партыі, забараняючыя ўтварэнне фракцый. ЦК партыі папярэджвае, што калі гэты антыпартыйны блок, які з'яўляецца падобнасцю вядомага меншавіцкага Жнівеньскага блока, не будзе распушчан, справа можа скончыцца дрэнна для яго староннікаў. Аднак, староннікі блока не супіняюцца.

Восенню таго-ж года, напярэдадні XV партканферэнцыі, яны робяць вылазку—на партсходах па заводах Масквы, Ленінграда і іншых гарадоў, прабуючы навязаць партыі новую дыскусію. Яны ставяць пры гэтым на абмеркаванне членаў партыі сваю платформу, якая з'яўляецца копіяй звычайнай трацкісцка-меншавіцкай, антыленінскай платформы. Члены партыі даюць апазіцыянерам жорсткі адпор, а месцамі—проста выганяюць іх са сходаў. ЦК зноў папярэджвае староннікаў блока, што партыя не можа далей цярпець іх падрыўной работы.

Апазіцыянеры за подпісамі Троцкага, Зіноўева, Каменева, Сакольн-

нікава ўносяць у ЦК заяву, дзе яны асуджаюць сваю фракцыйную работу і абяцаюць быць надалей лаяльнымі. Тым не менш, блок прадаўжае на справе існаваць, і яго староннікі не спыняюць сваёй падпольнай антыпартыйнай работы. Яны прадаўжаюць скалачваць сваю антыленінскую партыю, заводзяць нелегальную друкарню, устанаўліваюць членскія ўзносы сярод сваіх староннікаў, распаўсюджваюць сваю платформу.

У сувязі з такімі паводзінамі трацкістаў і зіноўеўцаў XV партканферэнцыя (лістапад 1926 г.) і расшыраны пленум Выканкома Комуністычнага Інтэрнацыянала (снежань 1926 г.) ставяць на абмеркаванне пытанне аб трацкісцка-зіноўеўскім блоку і ў сваіх рашэннях кляймяць староннікаў блока, як раскольнікаў, якія скаціліся ў сваёй платформе на меншавіцкія пазіцыі.

Але і гэта не пайшло на карысць староннікам блока. У 1927 годзе, у момант разрыву англійскімі кансерватарамі дыпламатычных і гандлёвых адносін з СССР, яны зноў узмацнілі свае нападкі на партыю. Яны састрапалі новую антыленінскую платформу, так званую «платформу 83-х» і пачалі распаўсюджваць яе сярод членаў партыі, патрабуючы ад ЦК новай агульнапартыйнай дыскусіі.

З усіх апазіцыйных платформ гэтая платформа была, бадай, найбольш ілжывай і фарысейскай.

На словах, г. зн. у платформе, трацкісты і зіноўеўцы не пярэчылі супроць выканання рашэнняў партыі і выказваліся за лаяльнасць, а на справе яны грубейшым чынам нарушалі рашэнні партыі, здзекваючыся над усякай лаяльнасцю ў адносінах партыі і яе ЦК.

На словах, г. зн. у платформе, яны не пярэчылі супроць адзінства партыі і выказваліся супроць расколу, а на справе яны грубейшым чынам нарушалі адзінства партыі, вялі лінію расколу і мелі ўжо сваю асобую нелегальную, антыленінскую партыю, якая мела ўсе даныя перарасці ў антысовецкую, контррэволюцыйную партыю.

На словах, г. зн. у платформе, яны выказваліся за палітыку індустрыялізацыі і нават абвінавачвалі ЦК у тым, што ён вядзе індустрыялізацыю не дастаткова быстрым тэмпам, а на справе яны ахайвалі рашэнне партыі аб перамозе социялізма ў СССР, здзекваліся над палітыкай социялістычнай індустрыялізацыі, патрабавалі здачы іншакраінцам у канцэсію цэлага раду заводаў і фабрык, ускладалі галоўныя свае надзеі на замежныя капіталістычныя канцэсіі ў СССР.

На словах, г. зн. у платформе, яны выказваліся за калгасны рух і нават абвінавачвалі ЦК у тым, што ён вядзе калектывізацыю недастаткова быстрым тэмпам, а на справе яны здзекваліся над палітыкай уцягнення сялян у социялістычнае будаўніцтва, прапаведвалі немінучасць «невырашымых канфліктаў» паміж рабочым класам і сялянствам і ўскладалі свае надзеі на «культурных арандатараў» у вёсцы, г. зн. на кулацкія гаспадаркі.

Гэта была самая ілжывая платформа з усіх ілжывых платформ апазіцыі.

Яна была разлічана на абман партыі.

ЦК адмовіў у неадкладным адкрыцці дыскусіі, заявіўшы апазіцыянерам, што дыскусія можа быць адкрыта толькі згодна статута партыі, г. зн. за два месяцы да з'езда партыі.

У кастрычніку 1927 года, г. зн. за два месяцы да XV з'езда, Цэнтральны Камітэт партыі аб'явіў агульнапартыйную дыскусію. Пачаліся дыскусійныя сходы. Рэзультаты дыскусіі аказаліся для трацкісцка-зіноўеўскага блока больш, чым плачэўнымі. За палітыку

ЦК галасавала 724 тысячы членаў партыі. За блок трацкістаў і зіноў-еўцаў—4 тысячы, г. зн. менш аднаго проціанта. Антыпартыйны блок быў разбіт ушчэнт. Партыя ў сваёй пераважнай большасці адна-душна адвергла платформу блока.

Такая была ясна выражаная воля партыі, да думкі якой апеліра-валі самі староннікі блока.

Але і гэты ўрок не пайшоў на карысць староннікам блока. Замест таго, каб падпарадкавацца волі партыі, яны рашылі сарваць волю партыі. Яшчэ да сканчэння дыскусіі яны, бачачы немінучасць свайго ганебнага правалу, рашылі прыбегнуць да больш вострых форм барацьбы супроць партыі і Совецкага ўрада. Яны рашылі ўстроіць адкрытую дэманстрацыю пратэсту ў Маскве і Ленінградзе. Днём сваёй дэманстрацыі яны выбралі 7 лістапада, дзень гадавіны Каст-рычніцкай рэволюцыі, калі працоўныя СССР арганізоўваюць сваю рэволюцыйную ўсенародную дэманстрацыю. Трацкісты і зіноўеўцы ўзнамерыліся, такім чынам, устроіць паралельную дэманстрацыю. Як і трэба было чакаць, староннікам блока ўдалося вывесці на вуліцу толькі жалкую кучку сваіх нешматлікіх падпявалаў. Падпявалы і іх атаманы былі змяты і выкінуты вон усенароднай дэманстрацыяй.

Цяпер ужо не падлягала сумненню, што трацкісты і зіноўеўцы скаціліся ў антысовецкае балота. Калі ў агульнапартыйнай дыскусіі яны апеліравалі да партыі супроць ЦК, то тут, у часе сваёй жалкай дэманстрацыі, яны сталі на шлях апеляцыі да варожых класаў су-проць партыі і Совецкай дзяржавы. Паставіўшы мэтай падрыў боль-шэвіцкай партыі, яны немінуча павінны былі скаціцца на шлях падрыву Совецкай дзяржавы, бо партыя большэвікоў і дзяржава не-аддзялімы ў Совецкай краіне. Тым самым атаманы трацкісцка-зіноўеўскага блока паставілі сябе па-за партыяй, бо немагчыма было цярпець далей у радах большэвіцкай партыі людзей, якія скаціліся ў антысовецкае балота.

14 лістапада 1927 года аб'яднаны сход ЦК і ЦКК выключыў з партыі Троцкага і Зіноўева.

## 2. Поспехі соцыялістычнай індустрыялізацыі. Адставанне сельскай гаспадаркі. XV з'езд партыі. Курс на калектывізацыю сельскай гаспадаркі. Разгром трацкісцка-зіноўеўскага блока. Палітычнае двурушніцтва.

Ужо к канцу 1927 года вызначыліся рашаючыя поспехі палітыкі соцыялістычнай індустрыялізацыі. Індустрыялізацыя ва ўмовах нэпа здолела даць у кароткі тэрмін сур'ёзнае прасоўванне ўперад. Прамы-словасць і сельская гаспадарка ў цэлым (уключаючы лясную гаспа-дарку і рыбную лоўлю) не толькі дасягнулі па сваёй валавой пра-дукцыі даваеннага ўзроўню, але і пераваліалі праз гэты ўзровень. Удзельная вага прамысловасці ў народнай гаспадарцы вырасла да 42 працантаў, дасягнуўшы адпаведнага ўзроўню даваеннага часу.

Быстра ішоў рост соцыялістычнага сектара прамысловасці за кошт прыватнага сектара, падняўшыся з 81 проціанта ў 1924—1925 г. да 86 працантаў у 1926—1927 г., тады як удзельная вага прыватнага сектара ўпала за той-жа перыяд з 19 працантаў да 14 працантаў.

Гэта азначала, што індустрыялізацыя ў СССР мае рэзка выра-жаны соцыялістычны характар, што прамысловасць СССР разві-ваецца па шляху перамогі соцыялістычнай сістэмы вытворчасці, што

ў галіне прамысловасці пытанне «хто—каго» ўжо прадвырашана ў карысць соцыялізма.

Таксама-ж быстра выцясняўся прыватнік з гандлю, доля якога ўпала ў галіне розніцы з 42 процантаў у 1924—1925 годзе да 32 процантаў у 1926—1927 г., не гаворачы ўжо аб аптовым гандлі, дзе доля прыватніка ўпала за той-жа перыяд з 9 процантаў да 5 процантаў.

Яшчэ больш быстрым тэмпам ішоў рост **буйнай** соцыялістычнай прамысловасці, якая дала за 1927 год, першы год **пасля** аднаўленчага перыяду, прырост прадукцыі ў параўнанні з папярэднім годам у 18 процантаў. Гэта была рэкордная лічба прыросту, недаступная для буйнай прамысловасці самых перадавых краін капіталізма.

Іншую карціну прадстаўляла сельская гаспадарка, асабліва—зернавая гаспадарка. Хоць сельская гаспадарка ў цэлым і пераваліла праз даваенны ўзровень, валавая прадукцыя яе галоўнай галіны—зернавой гаспадаркі—складала толькі 91 процант даваеннага ўзроўню, а таварная частка зернавой прадукцыі, прадаваемая на старану для снабжэння гарадоў, ледзь даходзіла да 37 процантаў даваеннага ўзроўню, прычым усе даныя гаварылі аб тым, што ёсць небяспека далейшага падзення таварнай прадукцыі зярна.

Гэта азначала, што драбленне буйных таварных гаспадарак у вёсцы на дробныя гаспадаркі, а дробных на найдрабнейшыя, якое пачалося ў 1918 годзе, усё яшчэ прадаўжаецца, што дробная і найдрабнейшая сялянская гаспадарка становіцца поўнатуральнай гаспадаркай, здольнай даць толькі мінімум таварнага зярна, што зернавая гаспадарка перыяду 1927 года, вытвараючы нямногім менш зярна, чым зернавая гаспадарка даваеннага часу, можа, аднак, прадаць на старану для гарадоў толькі крыху больш трэцяй часткі той колькасці зярна, якую здольна была прадаць даваенная зернавая гаспадарка.

Не падлягала сумненню, што пры такім стане зернавой гаспадаркі армія і гарады СССР павінны былі апынуцца перад тварам хранічнага голаду.

Гэта быў крызіс зернавой гаспадаркі, за якім павінен быў паследаваць крызіс жывёлагадоўчай гаспадаркі.

Каб выйсці з такога становішча, неабходна было перайсці ў сельскай гаспадарцы на буйную вытворчасць, здольную пусціць у ход трактары і сельскагаспадарчыя машыны і падняць у некалькі разоў таварнасць зернавой гаспадаркі. Перад краінай стаялі дзве магчымасці: або перайсці на буйную **капіталістычную** вытворчасць, што азначала-б разарэнне сялянскіх мас, гібель саюза рабочага класа і сялянства, узмацненне кулацтва і паражэнне соцыялізма ў вёсцы, або стаць на шлях аб'яднання дробных сялянскіх гаспадарак у буйныя **соцыялістычныя** гаспадаркі, у калгасы, здольныя скарыстаць трактары і іншыя сучасныя машыны для быстрага ўздыму зернавой гаспадаркі і яе таварнай прадукцыі.

Зразумела, што партыя большэвікоў і Совецкая дзяржава маглі стаць толькі на другі шлях, на калгасны шлях развіцця сельскай гаспадаркі.

Пры гэтым партыя апіралася на наступныя ўказанні Леніна наконт неабходнасці пераходу ад дробных сялянскіх гаспадарак да буйнай, арцельнай, калектыўнай гаспадаркі ў земляробстве:

а) «Дробнай гаспадаркай з нужды не выйсці» (**Ленін**, т. XXIV, стар. 540).

б) «Калі мы будзем сядзець па-старому ў дробных гаспадарках, хоць і вольнымі грамадзянамі на вольнай зямлі, нам усёроўна пагражае немінучая гібель» (т. XX, стар. 417).

в) «Калі сялянская гаспадарка можа развівацца далей, неабходна трывала забяспечыць і далейшы пераход, а далейшы пераход немінуча заключаецца ў тым, каб найменш выгадная і найбольш адсталая, дробная, абасобленая сялянская гаспадарка, паступова аб'ядноўваючыся, зарганізавала грамадскую, буйную земляробскую гаспадарку» (т. XXVI, стар. 299).

г) «Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе паказаць сялянам перавагі грамадскай, калектыўнай, таварыскай, арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі калі ўдасца дапамагчы селяніну, пры дапамозе таварыскай, арцельнай гаспадаркі, тады толькі рабочы клас, які трымае ў сваіх руках дзяржаўную ўладу, сапраўды дакажа селяніну сваю правату, сапраўды прыцягне на свой бок цвёрда і сапраўдным чынам шматмільённую сялянскую масу» (т. XXIV, стар. 579).

Такая была абстаноўка перад XV з'ездам партыі.

XV з'езд партыі адкрыўся 2 снежня 1927 года. На з'ездзе прысутнічала 898 дэлегатаў з рашаючым голасам і 771 з дарадчым, якія прадстаўлялі 887.233 члены партыі і 348.957 кандыдатаў.

Адзначаючы ў сваім справаздачным дакладзе поспехі індустрыялізацыі і быстры рост соцыялістычнай прамысловасці, тав. Сталін паставіў перад партыяй задачу:

«Расшыраць і ўмацоўваць нашы соцыялістычныя камандныя вышыні ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі як у горадзе, так і ў вёсцы, трымаючы курс на ліквідацыю капіталістычных элементаў у народнай гаспадарцы».

Параўноўваючы сельскую гаспадарку з прамысловасцю і адзначаючы адсталасць сельскай гаспадаркі, асабліва зернавой гаспадаркі, аб'яснямую распыленасцю сельскай гаспадаркі, не дапускаючай прымянення сучаснай тэхнікі,—тав. Сталін падкрэсліваў, што такі незавідны стан сельскай гаспадаркі стварае пагражаючае становішча для ўсёй народнай гаспадаркі.

«Дзе-ж выхад?»—пытаўся тав. Сталін.

«Выхад,—адказваў тав. Сталін,—у пераходзе дробных і распыленых сялянскіх гаспадарак на буйныя і аб'яднаныя гаспадаркі на аснове грамадскай апрацоўкі зямлі, у пераходзе на калектыўную апрацоўку зямлі на базе новай, вышэйшай тэхнікі. Выхад у тым, каб дробныя і найдрабнейшыя сялянскія гаспадаркі паступова, але няўхільна, не ў парадку націску, а ў парадку паказу і пераканання, аб'ядноўваць у буйныя гаспадаркі на аснове грамадскай, таварыскай, калектыўнай апрацоўкі зямлі, з прымяненнем сельскагаспадарчых машын і трактароў, з прымяненнем навуковых прыёмаў інтэнсіфікацыі земляробства. Другога выхаду няма».

XV з'езд вынес рашэнне аб усямерным разгортванні **калектывізацыі** сельскай гаспадаркі. З'езд намеціў план расшырэння і ўмацавання сеткі калгасаў і соўгасаў і даў чоткія ўказанні аб спосабах барацьбы за калектывізацыю сельскай гаспадаркі.

Разам з тым, з'езд даў дырэктыву:

«Развіваць далей наступленне на кулацтва і прыняць рад

новых мер, абмяжоўваючых развіццё капіталізма ў вёсцы і вядучых сялянскую гаспадарку ў напрамку да соцыялізма» (ВКП(б) у рэзалюцыях, ч. II, стар. 260).

Нарэшце, зыходзячы з умацавання планавага пачатку ў народнай гаспадарцы і маючы на ўвазе арганізацыю планамернага наступлення соцыялізма супроць капіталістычных элементаў па ўсяму фронту народнай гаспадаркі, з'езд даў дырэктыву адпаведным органам аб складанні **першага пяцігадовага плана** народнай гаспадаркі.

Пакончыўшы з пытаннямі соцыялістычнага будаўніцтва, XV з'езд партыі перайшоў да пытання аб ліквідацыі трацкісцка-зіноўеўскага блока.

З'езд прызнаў, што «апазіцыя ідэйна разарвала з ленінізмам, пераразілася ў меншавіцкую групу, стала на шлях капітуляцыі перад сіламі міжнароднай і ўнутранай буржуазіі і ператварылася аб'ектыўна ў зброю трэцяй сілы супроць рэжыму пролетарскай дыктатуры» (ВКП(б) у рэзалюцыях, ч. II, стар. 232).

З'езд знайшоў, што розңагалоссі паміж партыяй і апазіцыяй перараслі ў праграмныя, што трацкісцкая апазіцыя стала на шлях антысовецкай барацьбы. Таму XV з'езд аб'явіў прыналежнасць да трацкісцкай апазіцыі і прапаганду яе поглядаў несумяшчальнымі з прабываннем у радах большэвіцкай партыі.

З'езд адобрыў пастанову аб'яднанага схода ЦК і ЦКК аб выключэнні з партыі Троцкага і Зіноўева і пастанавіў выключыць з партыі ўсіх актыўных дзеячоў трацкісцка-зіноўеўскага блока, накшталт Радэка, Прэабражэнскага, Ракоўскага, Пятакова, Серэбракова, І. Смірнова, Каменева, Саркіса, Сафарава, Ліўшыца, Мдзівані, Смілгі, і ўсю групу «дэмакратычнага цэнтралізма» (Сапронаў, В. Смірноў, Багуслаўскі, Дробніс і інш.).

Разбітыя ідэйна і разгромленыя арганізацыйна староннікі трацкісцка-зіноўеўскага блока разгубілі апошнія астаткі свайго ўплыву ў народзе.

Выключаныя з партыі антыленінцы, праз некаторы час пасля XV з'езда партыі, сталі падаваць заявы аб разрыве з трацкізмам з просьбай вярнуць іх у партыю. Вядома, партыя яшчэ не магла ведаць тады, што Троцкі, Ракоўскі, Радэк, Крэсцінскі, Сакольнікаў і іншыя даўно ўжо з'яўляюцца ворагамі народа, шпіёнамі, завербаванымі замежнай разведкай, што Каменеў, Зіноўеў, Пятакоў і іншыя ўжо наладжваюць сувязі з ворагамі СССР у капіталістычных краінах для «супрацоўніцтва» з імі супроць Совецкага народа. Але яна была дастаткова навучана вопытам, што ад гэтых людзей, якія не раз выступалі ў самыя адказныя моманты супроць Леніна і ленінскай партыі, можна чакаць усякіх пакасцей. Таму партыя аднеслася да заяў выключаных недаверчыва. Для першай праверкі шчырасці падацеляў заяў, яна абумовіла зваротны прыём у партыю наступнымі патрабаваннямі:

а) адкрытае асуджэнне трацкізма, як антыбольшэвіцкай і антысовецкай ідэалогіі;

б) адкрытае прызнанне палітыкі партыі, як адзіна правільнай;

в) безумоўнае падпарадкаванне рашэнням партыі і яе органаў;

г) праходжанне выпрабавальнага тэрміну, на працягу якога партыя правярае падаўшых заяву і па сканчэнні якога, гледзячы па рэзультатах праверкі, партыя ставіць пытанне аб зваротным прыёме ў партыю кожнага выключанага ў паасобку.

Партыя разлічвала пры гэтым, што адкрытае прызнанне гэтых пунктаў з боку выключаных павінна пры ўсякіх умовах мець stationоўчае значэнне для партыі, бо яно разаб'е адзінства трацкісцка-зіноўеўскіх радоў, унясе ў іх асяроддзе разлажэнне, прадэманструе яшчэ раз правату і магутнасць партыі і дасць партыі магчымасць, у выпадку шчырасці аўтароў заяў,—вярнуць партыі былых яе работнікаў, у выпадку-ж іх няшчырасці,—выкрыць іх на вачах ва ўсіх ужо не як людзей, якія памыляюцца, а як безыдэйных кар'ерыстаў, абманшчыкаў рабочага класа і адпетых двурушнікаў.

Большасць выключаных прыняла ўмовы прыёму ў партыю, выстаўленыя партыяй, і апублікавала ў друку адпаведныя заявы.

Партыя, шкадуючы іх і не жадаючы адмовіць ім у магчымасці стаць зноў людзьмі партыі і рабочага класа, аднавіла іх у правах членаў партыі.

З цягам часу выявілася, аднак, што заявы «актыўных дзеячоў» трацкісцка-зіноўеўскага блока, за нямногімі выключэннямі,—былі наскрозь ілжывымі, двурушніцкімі заявамі.

Аказалася, што гэтыя паны, яшчэ да падачы сваіх заяў, перасталі быць палітычнай плынню, гатовай адстойваць перад народам свае погляды, і ператварыліся ў безыдэйную кар'ерысцкую кліку, гатовую растаптаць астаткі сваіх поглядаў на вачах ва ўсіх, гатовую ўсхваляць чуждыя ёй погляды партыі на вачах ва ўсіх, гатовую набыць любую афарбоўку,—як хамелеоны,—толькі-б захаваць сябе ў партыі, у рабочым класе, каб мець магчымасць пакасціць і рабочаму класу і яго партыі.

Трацкісцка-зіноўеўскія «актыўныя дзеячы» аказаліся палітычнымі машэннікамі, палітычнымі двурушнікамі.

Палітычныя двурушнікі звычайна пачынаюць з абману і праводзяць сваю чорную справу шляхам абману народа, рабочага класа, партыі рабочага класа. Але палітычных двурушнікаў нельга лічыць толькі абманшчыкамі. Палітычныя двурушнікі прадстаўляюць безыдэйную кліку палітычных кар'ерыстаў, якая ўжо даўно пазбаўлена давер'я народа і якая стараецца зноў улезці ў давер'е шляхам абману, шляхам хамелеонства, шляхам машэнніцтва,—якімі ўгодна шляхамі,—толькі-б захаваць за сабой званне палітычных дзеячоў. Палітычныя двурушнікі прадстаўляюць беспрынцыпную кліку палітычных кар'ерыстаў, гатовых аперціся на каго ўгодна, хоць-бы на крымінальныя элементы, хоць-бы на падонкі грамадства, хоць-бы на заклятых ворагаў народа,—для таго, каб у «падыходзячы момант» вылезці зноў на палітычную сцэну і ўсесціся на шыі ў народа ў якасці яго «правіцеляў».

Такімі іменна палітычнымі двурушнікамі аказаліся трацкісцка-зіноўеўскія «актыўныя дзеячы».

## 3. Наступленне супроць кулацтва. Бухарынска-рыкаўская антыпартыйная група. Прыняцце першай пяцігодкі. Социялістычнае спаборніцтва. Пачатак масавага калгаснага руху.

Агітацыя трацкісцка-зіноўеўскага блока супроць палітыкі партыі, супроць будаўніцтва соцыялізма, супроць калектывізацыі, таксама як агітацыя бухарынцаў аб тым, што з калгасамі справа не выйдзе, што не трэба чапаць кулакоў, бо яны самі «ўрастуць» у соцыялізм, што ўзбагачэнне буржуазіі не прадстаўляе небяспекі для соцыялізма,—уся гэта агітацыя мела вялікі водгук сярод капіталістычных

элементаў краіны і, перш за ўсё, сярод кулацтва. Кулакі ведалі цяпер па водгуках у друку, што яны не адзінокі, што яны маюць абаронцаў і хадатаяў у асобе Троцкага, Зіноўева, Каменева, Бухарына, Рыкава і іншых. Зразумела, што гэта акалічнасць не магла не падняць духу супраціўлення кулацтва супроць палітыкі Совецкага ўрада. І сапраўды, кулакі пачалі супраціўляцца ўсё мацней і мацней. Кулакі сталі масамі адмаўляцца прадаваць Совецкай дзяржаве лішкі хлеба, якіх накапілася ў іх нямала. Яны пачалі праводзіць тэрор супроць калгаснікаў, супроць партыйна-совецкіх работнікаў у вёсцы, пачалі падпальваць калгасы, ссыпныя пункты дзяржавы.

Партыя разумела, што пакуль не будзе зломлена супраціўленне кулацтва, пакуль не будзе разбіта кулацтва ў адкрытым баі на вачах у сялянства, рабочы клас і Чырвоная армія будуць цярпець ад недахвату хлеба, а калгасны рух сялян не можа набыць масавага характару.

Следуючы дырэктывам XV з'езда партыі, партыя перайшла ў рашучае наступленне супроць кулацтва. У сваім наступленні партыя ажыццяўляла лозунг: апіраючыся цвёрда на беднату і ўмацоўваючы саюз з серадняком, павесці рашучую барацьбу супроць кулацтва. У адказ на адмову кулацтва прадаваць лішкі хлеба дзяржаве па цвёрдых цэнах партыя і ўрад правялі рад надзвычайных мер супроць кулацтва, прымянілі 107 артыкул крымінальнага кодэкса аб канфіскацыі па суду лішкаў хлеба ў кулакоў і спекулянтаў, у выпадку іх адмовы прадаваць гэтыя лішкі дзяржаве па цвёрдых цэнах, і далі беднаце рад ільгот, у сілу якіх бедната атрымлівала ў сваё распараджэнне 25 процантаў канфіскаванага кулацкага хлеба.

Надзвычайныя меры аказалі сваё ўздзеянне: бедната і серадпякі ўключыліся ў рашучую барацьбу супроць кулацтва, кулацтва было ізалявана, супраціўленне кулацтва і спекулянтаў было зломлена. К канцу 1928 года Совецкая дзяржава мела ўжо ў сваім распараджэнні дастатковыя рэзервы хлеба, а калгасны рух пайшоў уперад больш упэўненым крокам.

У гэтым-жа годзе была раскрыта буйная шкодніцкая арганізацыя буржуазных спецыялістаў у Шахцінскім раёне Данбаса. Шахцінскія шкоднікі былі цесна звязаны з былымі ўласнікамі прадпрыемстваў— рускімі і замежнымі капіталістамі, з замежнай ваеннай разведкай. Яны ставілі мэтай сарваць рост соцыялістычнай прамысловасці і аблягчыць аднаўленне капіталізма ў СССР. Шкоднікі няправільна вялі распрацоўку шахт, каб зменшыць здабычу вугалю. Яны псавалі машыны, вентыляцыю, арганізоўвалі абвалы, узрывы і падпалы шахт, заводаў, электрастанцый. Шкоднікі свядома затрымлівалі паляпшэнне матэрыяльнага становішча рабочых, нарушалі совецкія законы аб ахове працы.

Шкоднікі былі прыцягнуты да адказнасці. Яны атрымалі ад суда належную кару.

Цэнтральны Камітэт партыі прапанаваў усім партыйным арганізацыям зрабіць урокі з шахцінскай справы. Тав. Сталін указваў, што большэвікі-гаспадарнікі павінны самі стаць знатакамі тэхнікі вытворчасці, каб іх не маглі абманваць надалей шкоднікі з ліку старых буржуазных спецыялістаў, што трэба паскорыць падрыхтоўку новых тэхнічных кадраў з людзей рабочага класа.

Па рашэнню ЦК была палепшана справа падрыхтоўкі маладых спецыялістаў у вышэйшых тэхнічных навучальных установах. На вучобу

былі мабілізаваны тысячы партыйцаў, комсамольцаў і адданых справе рабочага класа беспартыйных.

Да пераходу партыі ў наступленне на кулацтва, пакуль партыя была занята ліквідацыяй трацкісцка-зіноўеўскага блока, бухарынска-рыкаўская група вяла сябе больш ці менш ціха, аставалася ў рэзерве антыпартыйных сіл, не рашалася адкрыта падтрымаць трацкістаў, а часам нават выступала сумесна з партыяй супроць трацкістаў. З пераходам партыі ў наступленне супроць кулацтва, з прымяненнем надзвычайных мер супроць кулацтва, бухарынска-рыкаўская група скінула маску і пачала адкрыта выступаць супроць палітыкі партыі. Кулацкая душа бухарынска-рыкаўскай групы не вытрымала, і староннікі гэтай групы пачалі выступаць ужо адкрыта ў абарону кулацтва. Яны патрабавалі адмены надзвычайных мер, палохаючы прастакоў, што ў адваротным выпадку можа пачацца «дэградацыя» (рух уніз, заняпад, распад) сельскай гаспадаркі, сцвярджаючы, што дэградацыя пачалася ўжо. Не заўважаючы росту калгасаў і соўгасаў, гэтых вышэйшых форм сельскай гаспадаркі, і бачачы заняпад кулацкай гаспадаркі, яны выдавалі дэградацыю кулацкай гаспадаркі за дэградацыю сельскай гаспадаркі. Каб падмацаваць сябе тэарэтычна, яны састрапалі смехатворную «тэорыю затухання класавай барацьбы», сцвярджаючы на падставе гэтай тэорыі, што чым больш поспехаў будзе ў социялізма ў яго барацьбе з капіталістычнымі элементамі, тым больш будзе змякчацца класавая барацьба, што класавая барацьба хутка зусім затухне, і класавы вораг здасць усе свае пазіцыі без супраціўлення, што з прычыны гэтага незачым прадпрымаць наступленне на кулацтва. Тым самым яны аднаўлялі сваю зацяганую буржуазную тэорыю аб мірным урастанні кулацтва ў социялізм і папіралі нагамі вядомае палажэнне ленінізма, у сілу якога супраціўленне класавага ворага будзе набываць тым больш вострыя формы, чым больш ён будзе траціць глебу пад нагамі, чым больш поспехаў будзе ў социялізма, што класавая барацьба можа «затухнуць» толькі пасля знішчэння класавага ворага.

Няцяжка было зразумець, што ў асобе бухарынска-рыкаўскай групы партыя мае перад сабой праваапартуністычную групу, якая адрознівалася ад трацкісцка-зіноўеўскага блока толькі па форме, толькі тым, што трацкісты і зіноўеўцы мелі сякую-такую магчымасць маскіраваць сваю капітулянцкую сутнасць левымі, крыкліва-рэволюцыйнымі фразамі аб «перманентнай рэволюцыі», у той час як бухарынска-рыкаўская група, выступіўшая супроць партыі ў сувязі з пераходам партыі ў наступленне на кулацтва, не мела ўжо магчымасці маскіраваць свой капітулянцкі твар і вымушана была абараняць рэакцыйныя сілы нашай краіны і, перш за ўсё, кулацтва—адкрыта, без прыкрас, без маскі.

Партыя разумела, што бухарынска-рыкаўская група рана ці позна павінна працягнуць руку астаткам трацкісцка-зіноўеўскага блока для сумеснай барацьбы супроць партыі.

Адначасова са сваімі палітычнымі выступленнямі група Бухарына—Рыкава вяла арганізацыйную «работу» па збіранню сваіх староннікаў. Праз Бухарына скалачвала яна буржуазную моладзь накшталт Слепкова, Марэцкага, Айхенвальда, Гольдэнберга і іншых, праз Томскага—абюракраціўшуюся профсаюзную вярхушку (Мельнічанскі, Дагадаў і інш.), праз Рыкава—разлажыўшуюся совецкую вярхушку (А. Смірноў, Эйсмант, В. Шмідт і інш.). У групу ахвотна ішлі людзі, якія разлажыліся палітычна і не скрывалі сваіх капітулянцкіх настрояў.

К гэтаму часу група Бухарына—Рыкава атрымала падтрыманне вярхушкі маскоўскай партыйнай арганізацыі (Угланаў, Котаў, Уханаў, Руцін, Ягода, Палонскі і інш.). Пры гэтым частка правых аставалася замаскіраванай, не выступаючы адкрыта супроць лініі партыі. На старонках маскоўскага партыйнага друку і на партыйных сходах прапаведвалася неабходнасць уступак кулацтву, немэтазгоднасць падатковага абкладання кулацтва, цяжкасць індустрыялізацыі для народа, заўчаснасць будаўніцтва цяжкай індустрыі. Угланаў выступаў супроць будаўніцтва Днепрабуда з патрабаваннем перамясціць сродкі з цяжкай прамысловасці ў лёгкую. Угланаў і іншыя правыя капітулянты запэўнівалі, што Масква была і астанецца паркалёвай Масквой, што не трэба ў ёй будаваць машынабудаўнічых заводаў.

Маскоўская партыйная арганізацыя выкрыла Угланава і яго староннікаў, дала ім апошняе папярэджанне і яшчэ больш згуртавалася вакол Цэнтральнага Камітэта партыі. Тав. Сталін на пленуме МК ВКП(б) у 1928 годзе ўказваў на неабходнасць весці барацьбу на два фронты, сканцэнтроўваючы агонь супроць правага ўхілу. Правыя, гаварыў тав. Сталін, прадстаўляюць агентуру кулака ў партыі.

> «Перамога правага ўхілу ў нашай партыі развязала-б сілы капіталізма, падарвала-б рэволюцыйныя пазіцыі пролетарыята і падняла-б шансы на аднаўленне капіталізма ў нашай краіне»,— гаварыў тав. Сталін (Пытанні ленінізма, стар. 234).

У пачатку 1929 года высняецца, што Бухарын па паўнамоцтву групы правых капітулянтаў звязаўся з трацкістамі праз Каменева і выпрацоўвае пагадненне з імі для сумеснай барацьбы супроць партыі. ЦК выкрывае гэту злачынную дзейнасць правых капітулянтаў і папярэджвае, што гэтая справа можа скончыцца плачэўна для Бухарына, Рыкава, Томскага і іншых. Але правыя капітулянты не суніманюцца. Яны выступаюць у ЦК з новай антыпартыйнай платформай—дэкларацыяй, якую асуджае ЦК. ЦК зноў папярэджвае іх, напамінаючы ім аб лёсе трацкісцка-зіноўеўскага блока. Не гледзячы на гэта, група Бухарына—Рыкава прадаўжае сваю антыпартыйную дзейнасць. Рыкаў, Томскі і Бухарын уносяць у ЦК заяву аб адстаўцы, думаючы гэтым запалохаць партыю. ЦК асуджае гэту сабатажніцкую палітыку адставак. Нарэшце, лістападаўскі пленум ЦК 1929 года прызнаў прапаганду поглядаў правых апартуністаў несумяшчальнай з прабываннем у партыі і прапанаваў вывесці з састава Палітбюро ЦК Бухарына, як застрэльшчыка і кіраўніка правых капітулянтаў, а Рыкаву, Томскаму і іншым удзельнікам правай апазіцыі было зроблена сур'ёзнае папярэджанне.

Атаманы правых капітулянтаў, бачачы, што справа набывае плачэўны абарот, падаюць заяву аб прызнанні сваіх памылак і правільнасці палітычнай лініі партыі.

Правыя капітулянты рашылі часова адступіць, каб уберагчы свае кадры ад разгрому.

На гэтым заканчваецца першы этап барацьбы партыі з правымі капітулянтамі.

Новыя рознагалоссі ў партыі не астаюцца не заўважанымі знешнімі ворагамі СССР. Лічачы, што «новыя раздоры» ў партыі з'яўляюцца прызнакам аслаблення партыі, яны робяць новую спробу ўцягнуць СССР у вайну і сарваць яшчэ не ўзмацнеўшую справу індустрыялізацыі краіны. Летам 1929 года імперыялісты арганізоўваюць канфлікт Кітая з СССР, захват кітайскімі мілітарыстамі Кітайска-

Усходняй чыгункі (якая належала СССР) і напад белакітайскіх войск на далёкаўсходнія граніцы нашай радзімы. Але наскок кітайскіх мілітарыстаў быў ліквідаван у кароткі тэрмін, мілітарысты адступілі, разбітыя Чырвонай арміяй, і канфлікт быў закончан мірным пагадненнем з манчжурскімі ўладамі.

Мірная палітыка СССР яшчэ раз перамагла, не гледзячы ні на што, не гледзячы на падкопы знешніх ворагаў і «раздоры» ўнутры партыі.

У хуткім часе былі адноўлены перарваныя ў свой час англійскімі кансерватарамі дыпламатычныя і гандлёвыя адносіны СССР з Англіяй.

Паспяхова адбіваючы атакі знешніх і ўнутраных ворагаў, партыя вяла адначасова вялікую работу па разгортванню будаўніцтва цяжкай індустрыі, па арганізацыі соцыялістычнага спаборніцтва, па будаўніцтву соўгасаў і калгасаў, нарэшце,—па падрыхтоўцы умоў, неабходных для прыняцця і ажыццяўлення першага пяцігадовага плана народнай гаспадаркі.

У красавіку 1929 года сабралася XVI партканферэнцыя. Галоўным пытаннем канферэнцыі была першая пяцігодка. Канферэнцыя адвергла «мінімальны» варыянт пяцігадовага плана, які абараняўся правымі капітулянтамі, і прыняла «аптымальны» варыянт пяцігодкі, як абавязковы пры ўсякіх умовах.

Партыя прыняла, такім чынам, знамянітую першую пяцігодку па будаўніцтву соцыялізма.

Па пяцігадоваму плану размер капітальных укладанняў у народную гаспадарку на 1928—1933 годы быў вызначан у 64,6 мільярда рублёў. З іх у прамысловасць разам з электрыфікацыяй намячалася ўкласці 19 з палавінай мільярдаў рублёў, у транспарт—10 мільярдаў рублёў, у сельскую гаспадарку—23,2 мільярда рублёў.

Гэта быў грандыёзны план узбраення прамысловасці і сельскай гаспадаркі СССР сучаснай тэхнікай.

> «Асноўная задача пяцігодкі,—указваў тав. Сталін,—заключалася ў тым, каб стварыць у нашай краіне такую індустрыю, якая была-б здольна пераўзброіць і рэарганізаваць не толькі прамысловасць у цэлым, але і транспарт, але і сельскую гаспадарку—на базе соцыялізма» (**Сталін**, Пытанні ленінізма, стар. 485).

Гэты план, не гледзячы на ўсю яго грандыёзнасць, усё-ж не быў чым-небудзь нечаканым і галавакружыцельным для большэвікоў. Ён быў падрыхтован усім ходам развіцця індустрыялізацыі і калектывізацыі. Ён быў падрыхтован тым працоўным уздымам, які ахапіў перад гэтым рабочых і сялян і які знайшоў сваё выражэнне ў **соцыялістычным спаборніцтве.**

XVI партыйная канферэнцыя прыняла зварот да ўсіх працоўных аб разгортванні соцыялістычнага спаборніцтва.

Соцыялістычнае спаборніцтва паказала выдатныя ўзоры працы і новых адносін да працы. Рабочыя і калгаснікі выставілі на многіх прадпрыемствах, у калгасах і ў соўгасах **сустрэчныя планы.** Яны паказалі ўзоры гераічнай работы. Яны не толькі выконвалі, але і перавыконвалі намечаныя партыяй і ўрадам планы соцыялістычнага будаўніцтва. Змяніліся погляды людзей на працу. Праца з паднявольнай і катаржнай павіннасці, якой яна была пры капіталізме, стала ператварацца «ў справу чэсці, у справу славы, у справу доблесці і геройства» (**Сталін**).

Па ўсёй краіне ішло новае гіганцкае прамысловае будаўніцтва. Разгарнулася будоўля Днепрагэса. У Данбасе пачалася будоўля Краматорскага і Горлаўскага заводаў, рэканструкцыя Луганскага паравозабудаўнічага завода. Выраслі новыя шахты і доменныя печы. На Урале будаваліся Уралмашбуд, Берэзнікоўскі і Салікамскі хімкамбінаты. Пачалося будаўніцтва Магнітагорскага металургічнага завода. Разгарнулася будоўля вялікіх аўтамабільных заводаў у Маскве, Горкім. Будаваліся гіганцкія трактарныя заводы, заводы камбайнаў, гіганцкі завод сельскагаспадарчых машын у Растове-на-Дану. Расшыралася другая вугальная база Савецкага Саюза—Кузбас. Велізарны трактарны завод вырас за 11 месяцаў у стэпе, у Сталінградзе. На будаўніцтве Днепрагэса і Сталінградскага трактарнага завода рабочыя перавысілі сусветныя рэкорды прадукцыйнасці працы.

Гісторыя яшчэ не ведала такога гіганцкага размаху новага прамысловага будаўніцтва, такога пафасу новага будаўніцтва, такога працоўнага гераізма мільённых мас рабочага класа.

Гэта быў сапраўдны працоўны ўздым рабочага класа, які разгарнуўся на аснове соцыялістычнага спаборніцтва.

Сяляне на гэты раз не адсталі ад рабочых. У вёсцы таксама пачаўся працоўны ўздым сялянскіх мас, якія будавалі калгасы. Сялянскія масы сталі ўпэўнена павярачваць у бок калгасаў. Вялікую ролю адыгралі тут соўгасы і машына-трактарныя станцыі, узброеныя трактарамі і іншымі машынамі. Сяляне масамі прыходзілі ў соўгасы, у МТС, назіралі за работай трактароў, сельгасмашын, выражалі сваё захапленне і тут-жа выносілі рашэнне—«пайсці ў калгасы». Разбітыя на дробныя і найдрабнейшыя аднаасобныя гаспадаркі, пазбаўленыя колькі-небудзь зносных прылад і цяглавай сілы, пазбаўленыя магчымасці ўзараць велізарныя цалінныя землі, пазбаўленыя відаў на паляпшэнне гаспадаркі, забітыя нуждой і адзінокія, прадастаўленыя самім сабе,—сяляне знайшлі, нарэшце, выхад, дарогу да лепшага жыцця—у аб'яднанні дробных гаспадарак у калектывы, у калгасы,—у трактарах, здольных узараць любую «цвёрдую зямлю», любую цаліну,—у дапамозе дзяржавы машынамі, грашыма, людзьмі, парадамі,—у магчымасці вызваліцца ад кабалы кулакоў, якіх зусім нядаўна разбіў Совецкі ўрад і прыгнуў да зямлі на радасць мільённым масам сялянства.

На гэтай аснове пачаўся і разгарнуўся потым масавы калгасны рух, які асабліва ўзмацніўся к канцу 1929 года і даў такія нябачаныя тэмпы росту калгасаў, якіх не ведала яшчэ нават наша, соцыялістычная індустрыя.

У 1928 годзе пасеўная плошча калгасаў складала 1.390 тысяч гектараў, у 1929 годзе—4.262 тысячы гектараў, а ў 1930 годзе калгасы мелі ўжо магчымасць запланаваць разворванне 15 мільёнаў гектараў.

> «Трэба прызнаць,—гаварыў тав. Сталін аб тэмпе росту калгасаў у сваім артыкуле «Год вялікага пералому» (1929 год),—што такіх бурных тэмпаў развіцця не ведае нават наша соцыялілізаваная буйная прамысловасць, тэмпы развіцця якой адзначаюцца наогул вялікім размахам».

Гэта быў пералом у развіцці калгаснага руху.

Гэта быў пачатак масавага калгаснага руху.

«У чым заключаецца **новае** ў цяперашнім калгасным руху?», пытаўся тав. Сталін у сваім артыкуле «Год вялікага пералому». І адказваў:

«Новае і рашаючае ў цяперашнім калгасным руху заклю-

чаецца ў тым, што ў калгасы ідуць сяляне не асобнымі групамі, як гэта мела месца раней, а цэлымі сёламі, валасцямі, раёнамі, нават акругамі. А што гэта значыць? Гэта значыць, што **ў калгасы пайшоў серадняк.** У гэтым аснова таго карэннага пералому ў развіцці сельскай гаспадаркі, які складае важнейшае дасягненне Совецкай улады...»

Гэта азначала, што наспявае, або ўжо наспела, задача ліквідацыі кулацтва, як класа, на аснове суцэльнай калектывізацыі.

## *КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ.*

У барацьбе за социялістычную індустрыялізацыю краіны партыя пераадалела за 1926—1929 годы велізарныя ўнутраныя і міжнародныя труднасці. Намаганні партыі і рабочага класа прывялі да перамогі палітыкі соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны.

Была вырашана ў асноўным адна з труднейшых задач індустрыялізацыі—задача накаплення сродкаў для будаўніцтва цяжкай прамысловасці. Былі закладзены асновы цяжкай індустрыі, здольнай пераўзброіць усю народную гаспадарку.

Быў прынят першы пяцігадовы план соцыялістычнага будаўніцтва. Было развіта велізарнае будаўніцтва новых заводаў, соўгасаў, калгасаў.

Гэта прасоўванне ўперад па шляху соцыялізма суправаджалася абвастрэннем класавай барацьбы ўнутры краіны і абвастрэннем унутрыпартыйнай барацьбы. Важнейшы вынік гэтай барацьбы: падаўленне супраціўлення кулацтва, выкрыццё трацкісцка-зіноўеўскага капітулянцкага блока, як антысовецкага блока, выкрыццё правых капітулянтаў, як кулацкай агентуры, выгнанне трацкістаў з партыі, прызнанне поглядаў трацкістаў і правых апартуністаў несумяшчальнымі з прыналежнасцю да ВКП(б).

Будучы ідэалагічна разбіты большэвіцкай партыяй, страціўшы ўсякую глебу ў рабочым класе, трацкісты перасталі быць палітычнай плынню і ператварыліся ў беспрынцыпную кар'ерысцкую кліку палітычных машэннікаў, у банду палітычных двурушнікаў.

Заклаўшы асновы цяжкай індустрыі, партыя мабілізоўвае рабочы клас і сялянства на выкананне першага пяцігадовага плана соцыялістычнай перабудовы СССР. У краіне разгортваецца соцыялістычнае спаборніцтва мільёнаў працоўных, нараджаецца магутны працоўны ўздым, выпрацоўваецца новая дысцыпліна працы.

Гэты перыяд заканчваецца годам вялікага пералому, які азначаў буйнейшыя поспехі соцыялізма ў прамысловасці, першыя сур'ёзныя поспехі ў сельскай гаспадарцы, паварот серадняка ў бок калгасаў, пачатак масавага калгаснага руху.

## Раздзел XI

# ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У БАРАЦЬБЕ ЗА КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЮ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

## (1930—1934 годы).

### 1. Міжнародная абстаноўка ў 1930—1934 годах. Эканамічны крызіс у капіталістычных краінах. Захват Японіяй Манчжурыі. Прыход фашыстаў да ўлады ў Германіі. Два ачагі вайны.

У той час як СССР дабіўся сур'ёзных поспехаў у сацыялістычнай індустрыялізацыі краіны і быстрымі тэмпамі развіваў прамысловасць, у краінах капіталізма выбухнуў у канцы 1929 і стаў паглыбляцца ў наступныя тры годы небывалы яшчэ па разбуральнай сіле сусветны эканамічны крызіс. Прамысловы крызіс пераплёўся з сельскагаспадарчым, аграрным крызісам, і гэта яшчэ больш пагаршала становішча капіталістычных краін.

У той час як у СССР прамысловасць за тры крызісныя годы (1930—1933) вырасла больш, чым удвая і складала ў 1933 годзе 201 працант у параўнанні з узроўнем 1929 года, прамысловасць ЗША упала к канцу 1933 года да 65 працантаў ад узроўню 1929 года, прамысловасць Англіі—да 86 працантаў, прамысловасць Германіі—да 66 працантаў, прамысловасць Францыі—да 77 працантаў.

Гэтая акалічнасць лішні раз дэманстравала перавагу сацыялістычнай сістэмы гаспадаркі перад сістэмай капіталістычнай. Яна паказвала, што краіна сацыялізма з'яўляецца адзінай краінай у свеце, свабоднай ад эканамічных крызісаў.

У рэзультаце сусветнага эканамічнага крызісу 24 мільёны беспрацоўных былі асуджаны на голад, галечу, пакуты. Ад аграрнага крызісу цярпелі дзесяткі мільёнаў сялян.

Сусветны эканамічны крызіс яшчэ больш абвастрыў супярэчнасці паміж імперыялістычнымі дзяржавамі, паміж краінамі-пераможніцамі і краінамі пераможанымі, паміж імперыялістычнымі дзяржавамі і каланіяльнымі і залежнымі краінамі, паміж рабочымі і капіталістамі, паміж сялянамі і памешчыкамі.

Тав. Сталін указваў у сваім справаздачным дакладзе на XVI з'ездзе партыі, што буржуазія будзе шукаць выхаду з эканамічнага крызісу, з аднаго боку,—у падаўленні рабочага класа шляхам устанаўлення фашысцкай дыктатуры, гэта значыць дыктатуры найбольш рэакцыйных, найбольш шавіністычных, найбольш імперыялістычных элементаў капіталізма, з другога боку—у развязванні вайны за перадзел калоній і сфер уплыву за кошт інтарэсаў слаба абароненых краін.

Так яно і адбылося.

У 1932 годзе ўзмацнілася пагроза вайны з боку Японіі. Японскія імперыялісты, бачачы, што еўрапейскія дзяржавы і ЗША цалкам паглынуты сваімі ўнутранымі справамі ў сувязі з эканамічным крызісам, рашылі скарыстаць выпадак і зрабіць спробу націснуць на слаба абаронены Кітай, падпарадкаваць яго сабе і стаць там гаспадарамі становішча. Не абʼяўляючы вайны Кітаю і па-машэнніцку скарыстоўваючы імі-ж створаныя «мясцовыя інцыдэнты», японскія імперыялісты зладзейскім чынам увялі войскі ў Манчжурыю. Японскія войскі поўнасцю захвацілі Манчжурыю, падрыхтоўваючы сабе зручныя пазіцыі для захвату Паўночнага Кітая і нападу на СССР. Каб развязаць сабе рукі, Японія вышла з Лігі Нацый і пачала ўзмоцнена ўзбройвацца.

Гэтая акалічнасць штурхнула ЗША, Англію, Францыю на ўзмацненне сваіх ваенна-марскіх узбраенняў на Далёкім Усходзе. Японія яўна праследавала мэту—падпарадкаваць сабе Кітай і вышыбіць адтуль еўрапейска-амерыканскія імперыялістычныя дзяржавы. Апошнія адказалі на гэта ўзмацненнем сваіх узбраенняў.

Але Японія ставіла сабе і іншую мэту—захваціць совецкі Далёкі Ўсход. Зразумела, што СССР не мог прайсці міма такой небяспекі і пачаў узмоцнена ўмацоўваць абароназдольнасць Далёкаўсходняга края.

Такім чынам, дзякуючы японскім фашызіраваным імперыялістам, на Далёкім Усходзе ўтварыўся першы ачаг вайны.

Эканамічны крызіс абвастрыў супярэчнасці капіталізма не толькі на Далёкім Усходзе. Ён абвастрыў іх таксама ў Еўропе. Зацягнуўшыйся крызіс прамысловасці і сельскай гаспадаркі, велізарнае беспрацоўе і ўзросшая незабяспечанасць немаёмных класаў узмацнілі нездаволенне рабочых і сялян. Нездаволенне перарастала ў рэволюцыйнае абурэнне рабочага класа. Нездаволенне асабліва ўзмацнілася ў Германіі,—у краіне, эканамічна знясіленай вайной, кантрыбуцыямі ў карысць англа-французскіх пераможцаў і эканамічным крызісам, дзе рабочаму класу прыходзілася мучыцца пад ярмом сваёй і замежнай, англа-французскай буржуазіі. Аб гэтым красамоўна гаварыла шэсць мільёнаў галасоў, атрыманых германскай компартыяй на апошніх выбарах у рэйхстаг перад прыходам да ўлады фашыстаў. Германская буржуазія бачыла, што буржуазна-дэмакратычныя свабоды, якія захаваліся ў Германіі, могуць адыграць з ёю злы жарт, што рабочы клас можа скарыстаць гэтыя свабоды для разгортвання рэволюцыйнага руху. Таму яна рашыла, што для захавання ў Германіі ўлады буржуазіі ёсць толькі адзін сродак—знішчыць буржуазныя свабоды, звесці да нуля парламент (рэйхстаг) і ўстанавіць тэрарыстычную буржуазна-нацыяналістычную дыктатуру, здольную падавіць рабочы клас і знайсці сабе базу сярод рэваншысцкі настроеных дробна-буржуазных мас. І яна заклікала да ўлады партыю фашыстаў, якая называе сябе для абману народа партыяй нацыянал-**социялістаў**, добра ведаючы, што партыя фашыстаў зʼяўляецца, па-першае, найбольш рэакцыйнай і варожай рабочаму класу часткай імперыялістычнай буржуазіі, і, па-другое,—найбольш рэваншысцкай партыяй, здольнай пацягнуць за сабой мільённыя масы нацыяналістычна настроенай дробнай буржуазіі. У гэтым ёй дапамаглі прэдацелі рабочага класа—лідэры германскай соцыял-дэмакратыі, якія расчысцілі сваёй згодніцкай палітыкай дарогу для фашызма.

Такія былі ўмовы, якія вызначылі атрыманне ўлады германскімі фашыстамі ў 1933 годзе.

Аналізуючы падзеі ў Германіі, тав. Сталін гаварыў у сваім справаздачным дакладзе на XVII з'ездзе партыі:

> «Перамогу фашызма ў Германіі трэба разглядаць не толькі як прызнак слабасці рабочага класа і рэзультат здрад соцыялдэмакратыі рабочаму класу, якая расчысціла дарогу фашызму. Яе трэба разглядаць таксама, як прызнак слабасці буржуазіі, як прызнак таго, што буржуазія ўжо не ў сілах уладарыць старымі метадамі парламентарызма і буржуазнай дэмакратыі, з прычыны чаго яна вымушана прыбегнуць ва ўнутранай палітыцы да тэрарыстычных метадаў кіравання...» (**Сталін,** Пытанні ленінізма, стар. 545).

Сваю ўнутраную палітыку германскія фашысты азнаменавалі падпалам рэйхстага, зверскім падаўленнем рабочага класа, знішчэннем арганізацый рабочага класа, знішчэннем буржуазна-дэмакратычных свабод. Сваю знешнюю палітыку—выхадам з Лігі Нацый і адкрытай падрыхтоўкай да вайны за **гвалтоўны** перагляд граніц еўрапейскіх дзяржаў у карысць Германіі.

Такім чынам, дзякуючы германскім фашыстам, у цэнтры Еўропы ўтварыўся другі ачаг вайны.

Зразумела, што СССР не мог прайсці міма такога сур'ёзнага факту. І ён стаў зорка сачыць за ходам падзей на Захадзе, умацоўваючы абароназдольнасць краіны на яе заходніх граніцах.

## 2. Ад палітыкі абмежавання кулацкіх элементаў да палітыкі ліквідацыі кулацтва, як класа. Барацьба са скрыўленнямі палітыкі партыі ў калгасным руху. Наступленне супроць капіталістычных элементаў па ўсяму фронту. XVI з'езд партыі.

Масавае ўступленне сялян у калгасы, якое разгарнулася ў 1929—30 годах, з'явілася рэзультатам усёй папярэдняй работы партыі і ўрада. Рост соцыялістычнай індустрыі, якая пачала масавую выпрацоўку трактароў і машын для сельскай гаспадаркі; рашучая барацьба з кулацтвам у часе хлебазагатоўчых кампаній 1928 і 1929 гадоў; рост сельскагаспадарчай кааперацыі, якая паступова прывучала селяніна да калектыўнай гаспадаркі; добры вопыт першых калгасаў і соўгасаў,—усё гэта падрыхтавала пераход да суцэльнай калектывізацыі, уступленне сялян у калгасы цэлымі сёламі, раёнамі, акругамі.

Пераход да суцэльнай калектывізацыі адбываўся не ў парадку простага і мірнага ўступлення ў калгасы асноўных мас сялянства, а ў парадку масавай барацьбы сялян супроць кулацтва. Суцэльная калектывізацыя азначала пераход усіх зямель у раёне сяла ў рукі калгаса, але значная частка гэтых зямель знаходзілася ў руках кулакоў,—таму сяляне зганялі кулакоў з зямлі, раскулачвалі іх, адбіралі жывёлу, машыны і патрабавалі ад Совецкай улады арышту і высялення кулакоў.

Суцэльная калектывізацыя азначала, такім чынам, ліквідацыю кулацтва.

Гэта была палітыка ліквідацыі кулацтва, як класа, на аснове суцэльнай калектывізацыі.

К гэтаму часу ў СССР ужо была дастатковая матэрыяльная база для таго, каб пакончыць з кулацтвам, зламаць яго супраціўленне,

ліквідаваць яго, як клас, і замяніць яго вытворчасць вытворчасцю калгасаў і соўгасаў.

Яшчэ ў 1927 годзе кулакі выраблялі больш 600 мільёнаў пудоў хлеба, з якіх тованага хлеба давалі каля 130 мільёнаў пудоў. Калгасы-ж і соўгасы маглі даць у 1927 годзе толькі 35 мільёнаў пудоў таварнага хлеба. У 1929 годзе, дзякуючы цвёрдаму курсу большэвіцкай партыі на развіццё соўгасаў і калгасаў і поспехам соцыялістычнай індустрыі, якая снабжала вёску трактарамі і сельгасмашынамі, калгасы і соўгасы выраслі ў сур'ёзную сілу. Ужо ў гэтым годзе калгасы і соўгасы выраблялі не менш 400 мільёнаў пудоў хлеба, з якіх таварнага хлеба давалі ўжо больш 130 мільёнаў пудоў, гэта значыць больш, чым кулакі ў 1927 годзе. А ў 1930 годзе калгасы і соўгасы павінны былі даць і сапраўды далі таварнага хлеба больш 400 мільёнаў пудоў, гэта значыць непараўнальна больш, чым давала кулацтва ў 1927 годзе.

Такім чынам, перамяшчэнне класавых сіл у эканоміцы краіны і наяўнасць матэрыяльнай базы, неабходнай для таго, каб замяніць кулацкую хлебную вытворчасць вытворчасцю калгасаў і соўгасаў, далі магчымасць большэвіцкай партыі перайсці ад палітыкі **абмежавання** кулацтва да новай палітыкі, да палітыкі **ліквідацыі кулацтва, як класа,** на аснове суцэльнай калектывізацыі.

Да 1929 года Совецкая ўлада праводзіла палітыку абмежавання кулацтва. Совецкая ўлада абкладвала кулака павышаным падаткам, патрабавала ад яго продажу хлеба дзяржаве па цвёрдых цэнах, абмяжоўвала да пэўных размераў кулацкае землекарыстанне законам аб арэндзе зямлі, абмяжоўвала размеры кулацкай гаспадаркі законам аб прымяненні наёмнай працы ў аднаасобнай сялянскай гаспадарцы. Але яна не вяла яшчэ палітыкі ліквідацыі кулацтва, бо законы аб арэндзе зямлі і найме працы дапускалі існаванне кулацтва, а забарона раскулачвання давала наконт гэтага пэўную гарантыю. Такая палітыка вяла да таго, што затрымліваўся рост кулацтва, выцясняліся і разараліся асобныя слаі кулацтва, якія не вытрымалі гэтых абмежаванняў. Але яна не знішчала гаспадарчых асноў кулацтва, як класа, яна не вяла да ліквідацыі кулацтва. Гэта была палітыка абмежавання, а не ліквідацыі кулацтва. Яна была неабходна да пэўнага часу, пакуль калгасы і соўгасы былі яшчэ слабы і не маглі замяніць кулацкую хлебную вытворчасць сваёй уласнай вытворчасцю.

У канцы 1929 года, у сувязі з ростам калгасаў і соўгасаў, Совецкая ўлада зрабіла круты паварот ад такой палітыкі. Яна перайшла да палітыкі ліквідацыі, да палітыкі знішчэння кулацтва, як класа. Яна адмяніла законы аб арэндзе зямлі і найме працы, пазбавіўшы, такім чынам, кулацтва і зямлі і наёмных работнікаў. Яна зняла забарону з раскулачвання. Яна дазволіла сялянам канфіскаваць у кулацтва жывёлу, машыны і іншы інвентар у карысць калгасаў. Кулацтва было экспрапрыявана. Яно было экспрапрыявана таксама, як у 1918 годзе былі экспрапрыяваны капіталісты ў галіне прамысловасці, з той, аднак, розніцай, што сродкі вытворчасці кулацтва перайшлі на гэты раз не ў рукі дзяржавы, а ў рукі аб'яднаных сялян, у рукі калгасаў.

Гэта быў найглыбейшы рэволюцыйны пераварот, скачок са старога якаснага стану грамадства ў новы якасны стан, роўназначны па сваіх выніках рэволюцыйнаму перавароту ў кастрычніку 1917 года.

Своеасаблівасць гэтай рэволюцыі заключалася ў тым, што яна **была праведзена зверху,** па ініцыятыве дзяржаўнай улады, пры пра-

**ным падтрыманні знізу,** з боку мільённых мас сялян, якія змагаліся супроць кулацкай кабалы, за свабоднае калгаснае жыццё.

Яна, гэтая рэволюцыя, адным ударам вырашыла тры карэнныя пытанні соцыялістычнага будаўніцтва:

а) Яна ліквідавала самы шматлікі эксплуататарскі клас у нашай краіне, клас кулакоў, аплот рэстаўрацыі капіталізма;

б) Яна перавяла са шляху аднаасобнай гаспадаркі, нараджаючай капіталізм, на шлях грамадскай, калгаснай, соцыялістычнай гаспадаркі самы шматлікі працоўны клас у нашай краіне, клас сялян;

в) Яна дала Совецкай уладзе соцыялістычную базу ў самай абшырнай і жыццёва неабходнай, але і ў самай адсталай галіне народнай гаспадаркі—у сельскай гаспадарцы.

Тым самым былі знішчаны ўнутры краіны апошнія крыніцы рэстаўрацыі капіталізма і разам з тым былі створаны новыя, рашаючыя ўмовы, неабходныя для пабудовы соцыялістычнай народнай гаспадаркі.

Абгрунтоўваючы палітыку ліквідацыі кулацтва, як класа, і адзначаючы рэзультаты масавага руху сялян за суцэльную калектывізацыю, тав. Сталін пісаў у 1929 годзе:

> «Разбураецца іператвараецца ў прах апошняя надзея капіталістаў усіх краін, якія мараць аб аднаўленні капіталізма ў СССР,—«свяшчэнны прынцып прыватнай уласнасці». Сяляне, разглядаемыя імі, як матэрыял, які ўгнойвае глебу для капіталізма, масамі пакідаюць хвалёны сцяг «прыватнай уласнасці» і пераходзяць на рэльсы калектывізма, на рэльсы соцыялізма. Разбураецца апошняя надзея на аднаўленне капіталізма» (**Сталін,** Пытанні ленінізма, стар. 296).

Палітыка ліквідацыі кулацтва, як класа, была замацавана ў гістарычнай пастанове ЦК ВКП(б) ад 5 студзеня 1930 года «Аб тэмпе калектывізацыі і мерах дапамогі дзяржавы калгаснаму будаўніцтву». Пастанова поўнасцю ўлічвала рознастайнасць умоў у розных раёнах СССР, неаднолькавую ступень падрыхтаванасці да калектывізацыі ў розных абласцях СССР.

Былі ўстаноўлены розныя тэмпы калектывізацыі. ЦК ВКП(б) разбіў вобласці СССР з пункту гледжання тэмпаў калектывізацыі на тры групы.

Да першай групы былі аднесены важнейшыя зернавыя раёны, якія былі найбольш падрыхтаваны да калектывізацыі, мелі больш трактароў, больш соўгасаў, больш вопыту ў барацьбе з кулацтвам у мінулых хлебазагатоўчых кампаніях,—паўночны Каўказ (Кубань, Дон, Тэрэк), сярэдняя Волга, ніжняя Волга. Для гэтай групы зернавых раёнаў ЦК прапанаваў закончыць у асноўным калектывізацыю вясной 1931 года.

Другая група зернавых раёнаў, куды ўваходзілі Украіна, Цэнтральна-Чарназёмная вобласць, Сібір, Урал, Казахстан і іншыя зернавыя раёны, магла закончыць у асноўным калектывізацыю вясной 1932 года.

Астатнія вобласці, краі і рэспублікі (Маскоўская вобласць, Закаўказзе, Сярэдне-Азіяцкія рэспублікі і т. д.) маглі расцягнуць тэрміны калектывізацыі да канца пяцігодкі, гэта значыць да 1933 года.

ЦК партыі прызнаў неабходным у сувязі з растучымі тэмпамі калектывізацыі яшчэ больш паскорыць будаўніцтва заводаў, вырабляючых трактары, камбайны, трактарны прычэпны інвентар і т. п. Адна-

часова ЦК патрабаваў даць «рашучы адпор тэндэнцыям недаацэнкі ролі коннай цягі на данай стадыі калгаснага руху, тэндэнцыям, якія вядуць да разбазарвання і распродажу коней».

Удвая павялічваліся крэдыты калгасам на 1929—30 год (да 500 мільёнаў рублёў).

Прапанавалася забяспечыць калгасы правядзеннем землеўпарадкавання за кошт дзяржавы.

У пастанове давалася важнейшае ўказанне, што **галоўнай формай** калгаснага руху на даным этапе з'яўляецца сельскагаспадарчая арцель, у якой калектывізуюцца толькі **асноўныя** сродкі вытворчасці.

ЦК з усёй сур'ёзнасцю перасцерагаў партыйныя арганізацыі «супроць якога-б то ні было «дэкрэтавання» зверху калгаснага руху, якое можа стварыць небяспеку падмены сапраўды соцыялістычнага спаборніцтва па арганізацыі калгасаў ігрой у калектывізацыю» (ВКП(б) у рэзалюцыях, ч. II, стар. 662).

Гэта пастанова ЦК унесла яснасць у справу правядзення ў жыццё новай палітыкі партыі ў вёсцы.

На аснове палітыкі ліквідацыі кулацтва і ўстанаўлення суцэльнай калектывізацыі разгарнуўся магутны калгасны рух. Сяляне цэлымі сёламі і раёнамі ўступалі ў калгасы і змяталі са шляху кулацтва, вызваляючыся ад кулацкай кабалы.

Але побач з велізарнымі поспехамі калектывізацыі неўзабаве пачалі выяўляцца і недахопы ў практыцы партыйных работнікаў, скрыўленні партыйнай палітыкі па калгаснаму будаўніцтву. Не гледзячы на папярэджанне ЦК супроць празмернага захаплення поспехамі калектывізацыі, многія партыйныя работнікі пачалі штучна фарсіраваць калектывізацыю, не лічачыся з умовамі месца і часу, не лічачыся са ступенню падрыхтаванасці сялян да ўступлення ў калгасы.

Выявілася, што нарушаўся прынцып **добраахвотнасці** ў калгасным будаўніцтве. У радзе раёнаў добраахвотнасць замянялася **прымусам** да ўступлення ў калгасы пад пагрозай «раскулачвання», пазбаўлення выбарчых правоў і т. д.

У радзе раёнаў падрыхтоўчая работа і цярплівае раз'ясненне асноў партыйнай палітыкі ў галіне калектывізацыі падмяняліся бюракратычным, чыноўніцкім дэкрэтаваннем зверху раздутых лічбовых даных аб нібыта створаных калгасах, штучным уздуваннем працанта калектывізацыі.

Наперакор указанням ЦК аб тым, што асноўным звяном калгаснага руху з'яўляецца сельскагаспадарчая арцель, у якой абагульваюцца толькі **асноўныя** сродкі вытворчасці, у радзе месц рабілася галавацяпскае пераскокванне праз арцель да комуны, праводзілася абагульванне жыллёвых пабудоў, нетаварнай малочнай і дробнай жывёлы, хатняй птушкі і т. д.

Кіруючыя работнікі некаторых абласцей, захопленыя першымі поспехамі калектывізацыі, нарушылі прамыя ўказанні ЦК аб тэмпах і тэрмінах калектывізацыі. Маскоўская вобласць у пагоні за дутымі лічбамі пачала арыентаваць сваіх работнікаў на сканчэнне калектывізацыі вясной 1930 года, хоць у яе распараджэнні было не менш трох год (канец 1932 года). Яшчэ больш грубае нарушэнне было дапушчана ў Закаўказзі, у Сярэдняй Азіі.

Кулакі і іх падгалоскі, скарыстоўваючы гэтыя перагібы ў правакацыйных мэтах, выступалі з прапановамі замест сельскагаспадарчых арцелей арганізаваць комуны, неадкладна абагуліць жыллёвыя пабудовы, дробную жывёлу, хатнюю птушку. Адначасова кулацтва вяло

агітацыю за ўбой жывёлы перад уступленнем у калгасы, пераконваючы сялян, што ў калгасе жывёлу «ўсёроўна адбяруць». Класавы вораг разлічваў, што перагібы і памылкі, дапушчаныя мясцовымі арганізацыямі пры калектывізацыі, азлобяць сялянства, выклікаюць мецяжы супроць Совецкай улады.

У рэзультаце дапушчаных партыйнымі арганізацыямі памылак і прамых правакацыйных дзеянняў класавага ворага, у другой палавіне лютага 1930 года на фоне агульных бясспрэчных поспехаў калектывізацыі ў радзе раёнаў паявіліся небяспечныя прызнакі сур'ёзнага нездаволення сялянства. Дзе-ні-дзе кулакам і іх агентам удалося нават падбіць сялян на прамыя антысовецкія выступленні.

Цэнтральны Камітэт партыі, атрымаўшы рад трывожных сігналаў аб скрыўленнях партыйнай лініі, якія пагражалі зрывам калектывізацыі, неадкладна пачаў выпраўляць становішча, пачаў паварачваць партыйныя кадры на шлях хутчэйшага выпраўлення дапушчаных памылак. 2 сакавіка 1930 года па рашэнню ЦК быў апублікован артыкул тав. Сталіна «Галавакружэнне ад поспехаў». У гэтым артыкуле рабілася папярэджанне ўсім тым, хто, захапляючыся поспехамі калектывізацыі, упаў у грубыя памылкі і адступіў ад лініі партыі, усім тым, хто прабаваў пераводзіць сялян на калгасны шлях мерамі адміністрацыйнага націску. У артыкуле з усёй сілай падкрэсліваўся прынцып добраахвотнасці калгаснага будаўніцтва і ўказвалася на неабходнасць улічваць match разнастайнасць умоў у розных раёнах СССР пры вызначэнні тэмпаў і метадаў калектывізацыі. Тав. Сталін напамінаў, што асноўным звяном калгаснага руху з'яўляецца сельскагаспадарчая арцель, у якой абагульваюцца толькі асноўныя сродкі вытворчасці, галоўным чынам па зернавой гаспадарцы, і не абагульваюцца прысядзібныя землі, жыллёвыя пабудовы, частка малочнай жывёлы, дробная жывёла, хатняя птушка і т. д.

Артыкул тав. Сталіна меў найвялікшае палітычнае значэнне. Гэты артыкул дапамог партыйным арганізацыям выправіць іх памылкі і нанёс сільнейшы ўдар ворагам Совецкай улады, якія спадзяваліся на тое, што на глебе перагібаў ім удасца настроіць сялянства супроць Совецкай улады. Шырокія масы сялянства пераканаліся, што лінія большэвіцкай партыі не мае нічога агульнага з галавацяпскімі «левымі» перагібамі, якія допускаліся на месцах. Артыкул унёс супакаенне ў сялянскія масы.

Каб давесці да канца справу выпраўлення перагібаў і памылак, пачатую артыкулам тав. Сталіна, ЦК ВКП(б) рашыў яшчэ раз ударыць па гэтых памылках, апублікаваўшы 15 сакавіка 1930 года пастанову «Аб барацьбе са скрыўленнямі партыйнай лініі ў калгасным руху».

У гэтай пастанове падрабязна разбіраліся дапушчаныя памылкі, якія з'явіліся рэзультатам адступлення ад ленінска-сталінскай лініі партыі, рэзультатам прамога нарушэння дырэктыў партыі.

ЦК указваў, што практыка «левых» перагібаў з'яўляецца прамой дапамогай класаваму ворагу.

ЦК прапанаваў: «работнікаў, якія не ўмеюць або не жадаюць павесці рашучую барацьбу са скрыўленнямі партыйнай лініі, **знімаць** з пастоў і **замяняць** другімі» (ВКП(б) у рэзалюцыях, ч. II, стар. 663).

ЦК абнавіў кіраўніцтва некаторых абласных і краявых партыйных арганізацый (Маскоўская вобласць, Закаўказзе), якія дапусцілі палітычныя памылкі і не здолелі выправіць іх.

3 красавіка 1930 года быў апублікован артыкул тав. Сталіна «Ад-

каз таварышам калгаснікам». У ім быў паказан **корань** памылак у сялянскім пытанні і галоўныя памылкі ў калгасным руху: няправільны падыход да серадняка, нарушэнне ленінскага прынцыпа добраахвотнасці пры пабудове калгасаў, нарушэнне ленінскага прынцыпа ўліку рознастайнасці ўмоў у розных раёнах СССР, пераскокванне праз арцель к комуне.

У рэзультаце ўсіх гэтых мерапрыемстваў партыя дабілася ліквідацыі перагібаў, дапушчаных у радзе раёнаў мясцовымі работнікамі.

Патрэбна была найвялікшая цвёрдасць Цэнтральнага Камітэта, уменне яго пайсці **супроць цячэння**, каб своечасова павярнуць на правільны шлях значную частку партыйных кадраў, якая, захапіўшыся поспехамі, кацілася стрэмглаў уніз, у бок ад партыйнай лініі.

Партыя дабілася таго, што скрыўленні партыйнай лініі ў калгасным руху былі ліквідаваны.

На гэтай аснове былі замацаваны поспехі калгаснага руху.

На гэтай аснове была створана глеба для новага магутнага росту калгаснага руху.

Да пераходу партыі к палітыцы ліквідацыі кулацтва, як класа, сур'ёзнае наступленне супроць капіталістычных элементаў, маючае на мэце іх ліквідацыю, ішло, галоўным чынам, па лініі горада, па лініі прамысловасці. Сельская гаспадарка, сяло, пакуль што адставала ад прамысловасці, ад горада. З прычыны гэтага наступленне мела аднабокі, не поўны, не ўсеагульны характар. Але цяпер, калі адсталасць сяла стала адыходзіць у мінулае, барацьба сялянства за ліквідацыю кулацтва абазначылася з усёй яснасцю, і партыя перайшла да палітыкі ліквідацыі кулацтва,—наступленне супроць капіталістычных элементаў набыло ўсеагульны характар, аднабокае наступленне перашло ў наступленне па ўсяму фронту. К моманту склікання XVI з'езда партыі ўсеагульнае наступленне на капіталістычныя элементы ўжо разгортвалася па ўсёй лініі.

XVI з'езд партыі сабраўся 26 чэрвеня 1930 года. На з'ездзе прысутнічала 1.268 дэлегатаў з рашаючым голасам і 891 з дарадчым голасам, якія прадстаўлялі 1.260.874 члены партыі і 711.609 кандыдатаў.

XVI з'езд партыі ўвайшоў у гісторыю партыі, як «з'езд разгорнутага наступлення соцыялізма **па ўсяму фронту,** ліквідацыі кулацтва, як класа, і правядзенне ў жыццё суцэльнай калектывізацыі» **(Сталін).**

У палітычнай справаздачы ЦК тав. Сталін паказаў, якіх буйных перамог дабілася большэвіцкая партыя, разгортваючы соцыялістычнае наступленне.

У галіне соцыялістычнай індустрыялізацыі была дасягнута перавага ўдзельнай вагі прамысловасці ва ўсёй валавой прадукцыі народнай гаспадаркі над удзельнай вагой сельскай гаспадаркі. У 1929—30 гаспадарчым годзе доля прамысловасці складала ўжо не менш 53 процантаў валавой прадукцыі ўсёй народнай гаспадаркі, а доля сельскай гаспадаркі—каля 47 процантаў.

К XV з'езду, у 1926—27 годзе валавая прадукцыя **ўсёй** прамысловасці дасягала ўсяго 102,5 процанта даваеннага ўзроўню, к XVI-ж з'езду, гэта значыць у 1929—30 годзе—каля 180 процантаў даваеннага ўзроўню.

Усё больш умацоўвалася цяжкая індустрыя,—вытворчасць сродкаў вытворчасці, машынабудаўніцтва.

«...Мы знаходзімся напярэдадні ператварэння з краіны **аграрнай** у краіну **індустрыяльную»,**—заявіў тав. Сталін пры бурным адабрэнні ўсяго з'езда.

Аднак, высокія **тэмпы** развіцця прамысловасці, раз'ясняў тав. Сталін, нельга было змешваць з **узроўнем** развіцця прамысловасці. Не гледзячы на небывалыя тэмпы развіцця соцыялістычнай індустрыі, па **ўзроўню** развіцця прамысловасці мы яшчэ **намнога адставалі** ад перадавых капіталістычных краін. Так было з вытворчасцю электраэнергіі, не гледзячы на каласальныя поспехі электрыфікацыі ў СССР. Так было з вытворчасцю метала. Вытворчасць чыгуну ў СССР павінна была па плану скласці ў канцы 1929—30 года 5,5 мільёна тон, тады як у Германіі ў 1929 годзе выплаўка чыгуну выражалася ў 13,4 мільёна тон, ва Францыі—у 10,45 мільёна тон. Каб ліквідаваць у найкарацейшы тэрмін нашу тэхніка-эканамічную адсталасць, неабходна было далейшае паскарэнне тэмпаў развіцця нашай прамысловасці, неабходна была самая рашучая барацьба з апартуністамі, якія імкнуліся знізіць тэмпы развіцця соцыялістычнай прамысловасці.

> «...Людзі, якія балбочуць аб неабходнасці **зніжэння** тэмпу развіцця нашай прамысловасці, з'яўляюцца ворагамі соцыялізма, агентамі нашых класавых ворагаў»,—указваў тав. Сталін (Пытанні ленінізма, стар. 369).

Пасля паспяховага выканання і перавыканання плана першага года першай пяцігодкі ў масах зарадзіўся лозунг—**«выканаць пяцігодку ў чатыры годы»**. Па раду перадавых галін прамысловасці (нафтавая, тарфяная, агульнае машынабудаўніцтва, сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва, электратэхнічная прамысловасць) выкананне плана ішло настолькі паспяхова, што можна было нават ажыццявіць праграму пяцігодкі па гэтых галінах у $2^1/_2$—3 годы. Гэта пацвярджала поўную рэальнасць лозунга «пяцігодка ў чатыры годы» і выкрывала апартунізм малавераў, якія сумняваліся ў магчымасці яго ажыццяўлення.

XVI з'езд даручыў ЦК партыі «забяспечыць і ў далейшым **баявыя большэвіцкія тэмпы** соцыялістычнага будаўніцтва, дабіцца сапраўднага **выканання пяцігодкі ў чатыры годы»**.

К XVI з'езду партыі быў дасягнут найвялікшы перелом у развіцці сельскай гаспадаркі СССР. Шырокія масы сялянства павярнулі да соцыялізма. На 1 мая 1930 года ў асноўных зернавых раёнах вытвараючых абласцей калектывізацыя ахапіла 40—50 процантаў сялянскіх гаспадарак (замест 2—3 процантаў вясной 1928 года). Пасеўныя плошчы калгасаў склалі 36 мільёнаў гектараў.

Такім чынам, была перавыканана тая павышаная праграма, якая была вызначана ў рашэнні ЦК ад 5 студзеня 1930 года (30 мільёнаў гектараў). Пяцігадовая-ж праграма калгаснага будаўніцтва на працягу двух год ужо была перавыканана больш, чым у паўтара раза.

Таварная прадукцыя калгасаў за тры годы вырасла больш, чым у 40 разоў. Ужо ў 1930 годзе дзяржава атрымала ад калгасаў, не лічачы соўгасаў, больш палавіны ўсёй таварнай прадукцыі зярна ў краіне.

Гэта азначала, што лёс сельскай гаспадаркі ад гэтага часу будуць вызначаць не індывідуальныя сялянскія гаспадаркі, а калгасы і соўгасы.

Калі да масавага ўступлення сялянства ў калгасы Совецкая ўлада апіралася, галоўным чынам, на соцыялістычную прамысловасць, то ад гэтага часу яна стала апірацца таксама і на быстра растучы соцыялістычны сектар сельскай гаспадаркі, на калгасы і соўгасы.

Калгаснае сялянства стала, як указваў XVI з'езд партыі ў адным са сваіх рашэнняў, «сапраўднай і моцнай апорай Совецкай улады».

### 3. Устаноўка на рэканструкцыю ўсіх галін народнай гаспадаркі. Роля тэхнікі. Далейшы рост калгаснага руху. Палітаддзелы пры машына-трактарных станцыях. Вынікі выканання пяцігодкі ў чатыры гады. Перамога соцыялізма па ўсяму фронту. XVII з'езд партыі.

Пасля таго, як выяснілася, што цяжкая індустрыя і, асабліва, машынабудаўніцтва, не толькі створаны і ўмацаваны, але і развіваюцца далей даволі быстрым тэмпам, перад партыяй паўстала чарговая задача—рэканструяваць усе галіны народнай гаспадаркі на базе новай, сучаснай тэхнікі. Трэба было даць новую, сучасную тэхніку, новыя станкі, новыя машыны—апалавай прамысловасці, металургіі, лёгкай прамысловасці, харчовай прамысловасці, лясной прамысловасці, ваеннай прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадарцы. З прычыны каласальнага росту попыту на сельгаспрадукты і прамысловыя вырабы неабходна было падвоіць, патроіць выпуск прадукцыі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Але дабіцца гэтага немагчыма было без снабжэння заводаў і фабрык, соўгасаў і калгасаў дастатковай колькасцю новага, сучаснага абсталявання, бо старое абсталяванне не ў сілах было падняць такі рост прадукцыі.

Без рэканструкцыі асноўных галін народнай гаспадаркі немагчыма было задаволіць новыя, усё больш растучыя, патрэбнасці краіны і яе народнай гаспадаркі.

Без рэканструкцыі немагчыма было давесці да канца наступленне соцыялізма па ўсяму фронту, бо капіталістычныя элементы горада і сяла трэба было біць і даканаць не толькі новай арганізацыяй працы і ўласнасці, але і новай тэхнікай, перавагаю сваёй тэхнікі.

Без рэканструкцыі немагчыма было дагнаць і перагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны, бо, калі з пункту гледжання тэмпаў развіцця прамысловасці СССР пераўзыходзіў капіталістычныя краіны, то з пункту гледжання ўзроўню развіцця прамысловасці, з пункту гледжання колькасці выпускаемай прадукцыі СССР усё яшчэ сур'ёзна адставаў ад іх.

Каб ліквідаваць гэтую адсталасць, трэба было забяспечыць усю нашу народную гаспадарку новай тэхнікай, трэба было рэканструяваць усе галіны народнай гаспадаркі на аснове новай, сучаснай тэхнікі.

Тэхніка набывала, такім чынам, рашаючае значэнне.

Перашкодаю ў гэтай справе служыў не столькі недахват новых машын і станкоў,—бо машынабудаўнічая прамысловасць мела магчымасць даць новае абсталяванне,—колькі няправільныя адносіны нашых гаспадарнікаў да тэхнікі, недаацэнка ролі тэхнікі ў перыяд рэканструкцыі, пагардлівыя адносіны да тэхнікі. Нашы гаспадарчыя работнікі лічылі, што тэхніка—справа «спецаў», справа другарадная, даручаная «буржуазным спецам», што гаспадарнікі-комуністы не абавязаны ўмешвацца ў тэхніку вытворчасці, што яны павінны займацца не тэхнікай, а больш важнай справай, а іменна—«агульным» кіраўніцтвам вытворчасцю.

Буржуазным «спецам» прадастаўлялася, такім чынам, арудаваць справамі вытворчасці, а гаспадарнікі-комуністы пакідалі сабе «агульнае» кіраўніцтва, падпісванне папер.

Няма чаго і даказваць, што пры такіх адносінах да справы «агульнае» кіраўніцтва павінна было вырадзіцца ў балбатню аб кіраўніцтве «наогул» і ў пустое падпісванне папер, у вазню з паперай.

Зразумела, што пры такіх пагардлівых адносінах да тэхнікі з боку

гаспадарнікаў-комуністаў мы ніколі не змаглі-б не толькі перагнаць, але і дагнаць перадавыя капіталістычныя краіны. Такія адносіны да тэхнікі, ды яшчэ ў перыяд рэканструкцыі, абракалі нашу краіну на адсталасць, а нашы тэмпы развіцця—на зніжэнне. Па сутнасці справы такія адносіны да тэхнікі прыкрывалі, маскіравалі затоенае жаданне часткі гаспадарнікаў-комуністаў—запаволіць тэмпы развіцця прамысловасці, знізіць іх і стварыць для сябе «спакойную абстаноўку», узваліўшы адказнасць за вытворчасць на «спецаў».

Неабходна было павярнуць гаспадарнікаў-комуністаў тварам да тэхнікі, прывіць ім густ да тэхнікі, паказаць ім, што аўладанне новай тэхнікай з'яўляецца кроўнай справай большэвікоў-гаспадарнікаў, што без аўладаі ня новай тэхнікай мы рыскуем абрачы сваю радзіму на адсталасць, на празябанне.

Гэта была задача, без вырашэння якой нельга было ісці ўперад.

Сур'ёзнейшую ролю ў гэтых адносінах адыграла выступленне тав. Сталіна на першай канферэнцыі работнікаў прамысловасці лютым 1931 года.

> «Іншы раз пытаюцца, гаварыў тав. Сталін у сваім выступленні, ці нельга крыху запаволіць тэмпы, прытрымаць рух. Не, нельга, таварышы! Нельга зніжаць тэмпы!.. Затрымаць тэмпы—гэта значыць адстаць. А адсталых б'юць. Але мы не хочам аказацца бітымі. Не, не хочам!
>
> Гісторыя старой Расіі заключалася, між іншым, у тым, што яе няспынна білі за адсталасць. Білі мангольскія ханы. Білі турэцкія бекі. Білі шведскія феадалы. Білі польска-літоўскія паны. Білі англа-французскія капіталісты. Білі японскія бароны. Білі ўсе—за адсталасць...
>
> Мы адсталі ад перадавых краін на 50—100 год. Мы павінны прабегчы гэту адлегласць у дзесяць год. Або мы зробім гэта, або нас самнуць...
>
> Максімум у дзесяць год мы павінны прабегчы тую адлегласць, на якую мы адсталі ад перадавых краін капіталізма. Для гэтага ёсць у нас усе «аб'ектыўныя» магчымасці. Нехапае толькі ўмення скарыстаць па-сапраўднаму гэтыя магчымасці. А гэта залежыць ад нас. **Толькі** ад нас! Пара нам навучыцца скарыстоўваць гэтыя магчымасці. Пара пакончыць з гнілой устаноўкай неўмяшання ў вытворчасць. Пара ўсвоіць другую, новую, адпавядаючую цяперашняму перыяду ўстаноўку: умешвацца ва ўсё. Калі ты дырэктар завода—умешвайся ва ўсе справы, унікай ва ўсё, не ўпускай нічога, вучыся і яшчэ раз вучыся. Большэвікі павінны аўладаць тэхнікай. Пара большэвікам самім стаць спецыялістамі. **Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі рашае ўсё» (Сталін,** Пытанні ленінізма, стар. 444—446).

Гістарычнае значэнне выступлення тав. Сталіна заключалася ў тым, што яно паклала канец пагардлівым адносінам да тэхнікі з боку гаспадарнікаў-комуністаў, павярнула гаспадарнікаў-комуністаў тварам да тэхнікі, адкрыла новую паласу барацьбы за аўладанне тэхнікай сіламі саміх большэвікоў і аблягчыла тым самым справу разгортвання рэканструкцыі народнай гаспадаркі.

Ад гэтага часу справа тэхнікі з манаполіі буржуазных «спецаў» ператваралася ў кроўную справу саміх большэвікоў-гаспадарнікаў, а пагардлівая клічка «спецыяліст»—у пачэснае званне большэвіка, аўладаўшага тэхнікай.

Ад гэтага часу павінны былі паявіцца—і сапраўды паявіліся потым—цэлыя атрады, тысячы і дзесяткі тысяч чырвоных спецыялістаў, аўладаўшых тэхнікай і здольных кіраваць вытворчасцю.

Гэта была новая, совецкая, вытворча-тэхнічная інтэлігенцыя рабочага класа і сялянства, якая прадстаўляе цяпер асноўную сілу нашага гаспадарчага кіраўніцтва.

Усё гэта павінна было аблягчыць,—і сапраўды аблягчыла,—разгортванне рэканструкцыі народнай гаспадаркі.

Развіццё рэканструкцыі ішло не толькі па лініі прамысловасці і транспарта. Яно яшчэ больш узмоцненым тэмпам разгортвалася па лініі сельскай гаспадаркі. Яно і зразумела: сельская гаспадарка была менш іншых галін насычана машынамі і яна больш за ўсё мела патрэбу ў падачы новых машын. А ўзмоцненае снабжэнне сельскай гаспадаркі новымі машынамі асабліва неабходна было цяпер, калі кожны месяц, кожны тыдзень даваў новы рост калгаснага будаўніцтва і, значыць, новыя патрабаванні на тысячы і тысячы трактароў і сельгасмашын.

1931 год даў новы рост калгаснага руху. Па асноўных зернавых раёнах было аб'яднана ў калгасах ужо больш 80 процантаў агульнага ліку сялянскіх гаспадарак. Суцэльная калектывізацыя тут была ўжо ў асноўным завершана. Па менш важных зернавых раёнах і па раёнах тэхнічных культур калгасамі было аб'яднана больш 50 процантаў гаспадарак. 200 тысяч калгасаў і 4 тысячы соўгасаў засявалі ўжо дзве трэці ўсёй пасеўнай плошчы, а аднаасобнікі—толькі адну трэць.

Гэта была велізарная перамога соцыялізма ў вёсцы.

Але калгаснае будаўніцтва развівалася пакуль што не ўглыб, а ўшыр, не па лініі паляпшэння якасці работы калгасаў і іх кадраў, а па лініі павелічэння колькасці калгасаў і ахвату калгасамі ўсё новых і новых раёнаў. Гэта акалічнасць аб'яснялася тым, што рост калгаснага актыва, рост калгасных кадраў не паспяваў за колькасным ростам саміх калгасаў. З прычыны гэтага работа ў новых калгасах вялася не заўсёды здавальняюча, а самі калгасы аставаліся пакуль што слабымі, неўзмацнеўшымі. Тармазілі справу ўмацавання калгасаў таксама такія факты, як недахват пісьменных людзей у вёсцы, неабходных для калгаса (рахункаводы, загадчыкі гаспадаркай, сакратары) і адсутнасць вопыту ў сялян па вядзенню буйнай, калгаснай гаспадаркі. У калгасах сядзелі ўчарашнія аднаасобнікі. У іх быў вопыт па вядзенню гаспадаркі на дробных участках зямлі. Але ў іх не было яшчэ вопыту па кіраўніцтву буйнай, калгаснай гаспадаркай. Патрэбен быў час для таго, каб набыць такі вопыт.

З прычыны гэтых акалічнасцей выявіліся ў першы час у калгаснай рабоце сур'ёзныя недахопы. Выяснілася, што дрэнна яшчэ была арганізавана ў калгасах праца, слабая была працоўная дысцыпліна. Ва многіх калгасах даходы дзяліліся не па працаднях, а па едаках. Часта выходзіла так, што лодыр атрымліваў больш хлеба, чым старанны, чэсны калгаснік. У сувязі з такімі недахопамі калгаснага кіраўніцтва паніжалася зацікаўленасць калгаснікаў у рабоце, было многа нявыхадаў на работу нават у самую гарачую пару, частка калгасных пасеваў аставалася няўбранай да снегу, а сама ўборка праводзілася неахайна, давала велізарныя страты зярна. Абязлічка машын і коней, адсутнасць асабістай адказнасці ў рабоце аслаблялі калгасную справу, змяншалі даходы калгасаў.

Асабліва дрэнна было ў тых раёнах, дзе былыя кулакі і падкулачнікі здолелі пралезці ў калгасы на тыя ці іншыя пасады. Нярэдка раскулачаныя перабіраліся ў іншы раён, дзе іх не ведалі, і там пралязалі ў калгас, каб шкодзіць і пакасціць. Часам кулакі з прычыны адсутнасці пільнасці ў партыйных і совецкіх работнікаў пранікалі ў калгасы і ў сваім раёне. Пранікненне ў калгасы былых кулакоў аблягчалася той акалічнасцю, што ў барацьбе супроць калгасаў яны рэзка змянілі сваю тактыку. Раней кулакі адкрыта выступалі супроць калгасаў, вялі зверскую барацьбу супроць калгасных актывістаў, супроць перадавых калгаснікаў, забівалі іх з-за вугла, спальвалі іх дамы, свірны і т. д. Гэтым кулакі хацелі запалохаць сялянскую масу, не пусціць яе ў калгасы. Цяпер, калі адкрытая барацьба супроць калгасаў пацярпела няўдачу, яны змянілі сваю тактыку. Яны ўжо не стралялі з абрэзаў, а прыкідваліся ціхенькімі, смірнымі, ручнымі, упаўне совецкімі людзьмі. Пранікаючы ў калгасы, яны ціхай сапай наносілі шкоду калгасам. Усюды яны стараліся разлажыць калгасы знутры, разваліць калгасную працоўную дысцыпліну, заблытаць учот ураджаю, учот працы. Кулакі паставілі стаўку на знішчэнне конскага пагалоўя ў калгасах і здолелі загубіць многа коней. Кулакі свядома заражалі коней сапам, каростай і іншымі хваробамі, пакідалі іх без усякага догляду і т. д. Кулакі псавалі трактары і машыны.

Кулакам удавалася абманваць калгаснікаў і праводзіць шкодніцтва беспакарана таму, што калгасы былі яшчэ слабы і нявопытны, а калгасныя кадры не паспелі яшчэ ўзмацнець.

Каб пакласці канец кулацкаму шкодніцтву ў калгасах і паскорыць справу ўмацавання калгасаў, неабходна было аказаць калгасам хуткую і сур'ёзную дапамогу людзьмі, парадамі, кіраўніцтвам.

Такую дапамогу аказала калгасам большэвіцкая партыя. У студзені 1933 года ЦК партыі прыняў рашэнне аб арганізацыі **палітычных аддзелаў** пры машына-трактарных станцыях, абслугоўваючых калгасы. Было паслана ў вёску на дапамогу калгасам 17 тысяч партыйных работнікаў для работы ў палітаддзелах.

Гэта была сур'ёзная дапамога.

Палітаддзелы МТС за два годы (1933 і 1934) паспелі прарабіць вялікую работу па ўстараненню недахопаў работы ў калгасах, па вырошчванню калгаснага актыва, па ўмацаванню калгасаў, па ачыстцы калгасаў ад варожых, кулацкіх, шкодніцкіх элементаў.

Палітаддзелы з гонарам выканалі пастаўленую ім задачу: яны ўмацавалі калгасы ў арганізацыйна-гаспадарчых адносінах, вырасцілі новыя калгасныя кадры, наладзілі гаспадарчае кіраўніцтва калгасаў і паднялі палітычны ўзровень калгасных мас.

Велізарнае значэнне для падняцця актыўнасці калгасных мас на барацьбу за ўмацаванне калгасаў мелі I Усесаюзны з'езд калгаснікаў-ударнікаў (люты 1933 г.) і выступленне на ім тав. Сталіна.

Параўноўваючы ў сваім выступленні стары, дакалгасны лад у вёсцы з новым, калгасным ладам, тав. Сталін гаварыў:

> «Пры старым ладзе сяляне працавалі ў адзіночку, працавалі старымі дзедаўскімі спосабамі, старымі прыладамі працы, працавалі на памешчыкаў і капіталістаў, на кулакоў і спекулянтаў, працавалі, жывучы ўпрогаладзь і ўзбагачаючы іншых. Пры новым, калгасным ладзе сяляне працуюць супольна, арцельна, працуюць пры дапамозе новых прылад—трактароў і сельгасмашын, працуюць на сябе і на свае калгасы, жывуць без капі-

талістаў і памешчыкаў, без кулакоў і спекулянтаў, працуюць для таго, каб з дня ў дзень паляпшаць сваё матэрыяльнае і культурнае становішча» (Пытанні ленінізма, стар. 528).

У сваім выступленні тав. Сталін паказаў, чаго дабілася на справе сялянства, стаўшы на калгасны шлях. Большэвіцкая партыя дапамагла мільённым масам беднякоў увайсці ў калгасы, вызваліцца ад кулацкай кабалы. Увайшоўшы-ж у калгасы і карыстаючыся там лепшай зямлёй і лепшымі прыладамі вытворчасці, мільённыя масы беднякоў, якія жылі раней упрогаладзь, падняліся цяпер у калгасах да ўзроўню серадняко̆ў, сталі забяспечанымі людзьмі.

Гэта быў першы крок, першае дасягненне на шляху калгаснага будаўніцтва.

Другі крок, гаварыў тав. Сталін, будзе заключацца ў тым, каб падняць калгаснікаў—і былых беднякоў, і былых серадняко̆ў—яшчэ вышэй і зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі, а ўсе калгасы—большэвіцкімі.

«Каб стаць калгаснікам заможнымі, гаварыў тав. Сталін, для гэтага патрабуецца цяпер толькі адно—працаваць у калгасе чэсна, правільна скарыстоўваць трактары і машыны, правільна скарыстоўваць рабочую жывёлу, правільна апрацоўваць зямлю, берагчы калгасную ўласнасць» (там-жа, стар. 532—533).

Прамова тав. Сталіна моцна запала ў сазнанне мільёнаў калгаснікаў, стала практычнай, баявой праграмай калгасаў.

К канцу 1934 года калгасы сталі моцнай, непераможнай сілай. Яны аб'ядноўвалі к гэтаму часу ўжо каля трох чвэрцей усіх сялянскіх гаспадарак па ўсяму СССР і каля 90 процантаў усіх пасеўных плошчаў.

У 1934 годзе ў сельскай гаспадарцы СССР працавалі ўжо 281 тысяча трактароў і 32 тысячы камбайнаў. Веснавая сяўба 1934 года была праведзена на 15—20 дзён быстрэй, чым у 1933 годзе, і на 30—40 дзён быстрэй, чым у 1932 годзе, а хлебазагатоўчы план быў выканан на 3 месяцы раней, чым у 1932 годзе.

Так за два годы ўмацаваліся калгасы ў рэзультаце велізарнай дапамогі, аказанай ім партыяй і рабоча-сялянскай дзяржавай.

Моцная перамога калгаснага ладу і звязаны з ёю ўздым сельскай гаспадаркі далі Совецкай уладзе магчымасць адмяніць картачную сістэму на хлеб і іншыя прадукты і ўстанавіць свабодны гандаль прадавольственнымі прадуктамі.

Паколькі палітаддзелы МТС, створаныя як часовыя палітычныя органы, выканалі свае задачы, ЦК вынес рашэнне пераўтварыць палітаддзелы МТС у звычайныя партыйныя органы, зліўшы палітаддзелы з існуючымі раённымі камітэтамі партыі.

Усе гэтыя поспехі, як у галіне сельскай гаспадаркі, так і ў галіне прамысловасці, былі заваяваны дзякуючы паспяховаму выкананню пяцігадовага плана.

К пачатку 1933 года стала ясна, што першая пяцігодка ўжо выканана, выканана раней тэрміна, выканана на працягу чатырох год і трох месяцаў.

Гэта была велізарная, сусветна-гістарычная перамога рабочага класа і сялянства СССР.

У сваім дакладзе на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК партыі ў 1933 годзе тав. Сталін падвёў вынікі першай пяцігодкі. Як выясділася з даклада, партыя і Совецкая ўлада дабіліся за прайшоўшы

перыяд, за перыяд выканання першай пяцігодкі, наступных асноўных рэзультатаў.

а) СССР з аграрнай краіны ператварыўся ў індустрыяльную краіну,—бо ўдзельная вага прамысловай прадукцыі ва ўсёй вытворчасці народнай гаспадаркі вырасла да 70 процантаў.

б) Соцыялістычная сістэма гаспадаркі ліквідавала капіталістычныя элементы ў галіне прамысловасці і стала адзінай сістэмай гаспадаркі ў прамысловасці.

в) Соцыялістычная сістэма гаспадаркі ліквідавала кулацтва, як клас, у галіне сельскай гаспадаркі і стала пануючай сілай у сельскай гаспадарцы.

г) Калгасны лад знішчыў нішчату, беднасць у вёсцы,—дзесяткі мільёнаў беднякоў падняліся да становішча забяспечаных людзей.

д) Соцыялістычная сістэма ў прамысловасці знішчыла беспрацоўе, захавала 8-гадзінны рабочы дзень у радзе галін вытворчасці, перайшла на 7-гадзінны рабочы дзень у пераважнай большасці прадпрыемстваў, устанавіла 6-гадзінны рабочы дзень у шкодных для здароўя прадпрыемствах.

е) Перамога соцыялізма ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі знішчыла эксплуатацыю чалавека чалавекам.

Значэнне гэтых дасягненняў першай пяцігодкі заключалася, перш за ўсё, у тым, што яны канчаткова вызвалілі рабочых і сялян ад ярма эксплуатацыі і адкрылі дарогу **ЎСІМ** працоўным СССР для забеспячэння сабе заможнага і культурнага жыцця.

У студзені 1934 года сабраўся XVII з'езд партыі. На з'ездзе прысутнічала 1.225 дэлегатаў з рашаючым голасам і 736 дэлегатаў з дарадчым голасам, якія прадстаўлялі 1.874.488 членаў партыі і 935.298 кандыдатаў.

З'езд падвёў вынік рабоце партыі за прайшоўшы перыяд, адзначыў рашаючыя поспехі соцыялізма ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры і ўстанавіў, што генеральная лінія партыі перамагла па ўсёй лініі.

XVII з'езд партыі ўвайшоў у гісторыю, як «з'езд пераможцаў».

У сваім справаздачным дакладзе тав. Сталін адзначыў тыя карэнныя пераўтварэнні, якія адбыліся ў СССР за справаздачны перыяд.

> «СССР за гэты перыяд пераўтварыўся ў корані, скінуўшы з сябе аблічча адсталасці і сярэдневякоўя. З краіны аграрнай ён стаў краінай індустрыяльнай. З краіны дробнай аднаасобнай сельскай гаспадаркі ён стаў краінай калектыўнай буйнай механізаванай сельскай гаспадаркі. З краіны цёмнай, непісьменнай і некультурнай ён стаў—вярней, становіцца—краінай пісьменнай і культурнай, пакрытай велізарнай сеткай вышэйшых, сярэдніх і ніжэйшых школ, дзейнічаючых на мовах нацыянальнасцей СССР» (**Сталін,** Пытанні ленінізма, стар. 553).

Соцыялістычная прамысловасць к гэтаму часу складала ўжо 99 процантаў усёй прамысловасці краіны. Соцыялістычная сельская гаспадарка—калгасы і соўгасы займалі каля 90 процантаў усіх пасеўных плошчаў краіны. Што датычыць тавараабароту, то капіталістычныя элементы былі поўнасцю выцеснены з гандлю.

Пры ўвядзенні новай эканамічнай палітыкі Ленін гаварыў, што ў нашай краіне ёсць элементы пяці грамадска-эканамічных укладаў. Першы ўклад—патрыярхальная гаспадарка, у значнай ступені натуральная гаспадарка, гэта значыць не вядучая амаль ніякага гандлю.

Другі ўклад—дробна-таварная вытворчасць, большасць сялянскіх гаспадарак, якая займаецца продажам сельскагаспадарчых прадуктаў, і рамеснікі. Гэты гаспадарчы ўклад у першыя годы нэпа ахапляў большасць насельніцтва. Трэці ўклад—прыватна-гаспадарчы капіталізм, які стаў ажываць у пачатку нэпа. Чацверты ўклад—дзяржаўны капіталізм, галоўным чынам, канцэсіі, якія не атрымалі колькі-небудзь значнага развіцця. Пяты ўклад—соцыялізм, соцыялістычная прамысловасць, якая была яшчэ тады слаба, соўгасы і калгасы, займаўшыя ў пачатку нэпа нязначнае месца ў народнай гаспадарцы, дзяржаўны гандаль і кааперацыя, якія таксама ў пачатку нэпа былі слабы.

Ленін указваў, што з усіх гэтых укладаў павінен узяць верх соцыялістычны ўклад.

Новая эканамічная палітыка была разлічана на поўную перамогу соцыялістычных форм гаспадаркі.

І гэта мэта к XVII з'езду партыі была ўжо ажыццёўлена.

> «Мы можам цяпер сказаць, гаварыў па гэтаму поваду тав. Сталін, што першы, трэці і чацверты грамадска-эканамічныя ўклады ўжо не існуюць, другі грамадска-эканамічны ўклад адцяснён на другарадныя пазіцыі, а пяты грамадска-эканамічны ўклад—соцыялістычны ўклад, з'яўляецца безраздзельна пануючай і адзіна камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы» (там-жа, стар. 555).

Пытанні ідэйна-палітычнага кіраўніцтва займалі важнае месца ў дакладзе тав. Сталіна. Ён папярэджваў партыю, што хоць ворагі партыі, апартуністы ўсіх масцей, нацыянал-ухілісты ўсякага роду разбіты, але астаткі іх ідэалогіі жывуць яшчэ ў галовах асобных членаў партыі і нярэдка даюць аб сабе ведаць. Перажыткі капіталізма ў эканоміцы і асабліва ў сазнанні людзей з'яўляюцца спрыяючай глебай для ажыўлення ідэалогіі разбітых антыленінскіх груп. Сазнанне людзей у яго развіцці адстае ад іх эканамічнага становішча. Таму перажыткі буржуазных поглядаў у галовах людзей астаюцца і будуць яшчэ аставацца, хоць капіталізм у эканоміцы ўжо ліквідаван. Пры гэтым трэба ўлічыць, што капіталістычнае акружэнне, супроць якога трэба трымаць порах сухім, стараецца ажыўляць і падтрымліваць гэтыя перажыткі.

Тав. Сталін спыніўся, між іншым, на перажытках капіталізма ў сазнанні людзей у галіне нацыянальнага пытання, дзе яны асабліва жывучы. Партыя большэвікоў змагалася на два фронты—як супроць ухілу да вялікарускага шавінізма, так і супроць ухілу да мясцовага нацыяналізма. У радзе рэспублік (Украіна, Беларусь і інш.) партыйныя арганізацыі аслабілі барацьбу супроць мясцовага нацыяналізма, далі яму разрасціся да таго, што ён самкнуўся з варожымі сіламі, самкнуўся з інтэрвенцыяністамі, стаў дзяржаўнай небяспекай. Адказваючы на пытанне, які ўхіл у нацыянальным пытанні з'яўляецца галоўнай небяспекай, тав. Сталін гаварыў:

> «Галоўную небяспеку прадстаўляе той ухіл, супроць якога перасталі змагацца і якому далі, такім чынам, разрасціся да дзяржаўнай небяспекі» (там-жа, стар. 587).

Тав. Сталін заклікаў партыю ўзмацніць ідэйна-палітычную работу, сістэматычна выкрываць ідэалогію і астаткі ідэалогіі варожых класаў і варожых ленінізму плыней.

Тав. Сталін указаў, далей, у сваім дакладзе, што прыняцце правільных рашэнняў само па сабе яшчэ не забяспечвае поспеху справы. Каб забяспечыць поспех справы, неабходна **правільна расставіць людзей**, здольных правесці ў жыццё рашэнні кіруючых органаў, і **арганізаваць праверку выканання** гэтых рашэнняў. Без гэтых арганізацыйных мерапрыемстваў рашэнні рыскуюць астацца папяровымі пастановамі, адарванымі ад жыцця. Тут тав. Сталін спаслаўся на вядомае палажэнне Леніна аб тым, што галоўнае ў арганізацыйнай рабоце— **падбор людзей і праверка выканання.** Пры гэтым тав. Сталін падкрэсліў, што разрыў паміж прынятымі рашэннямі і арганізацыйнай работай па выкананню рашэнняў, па праверцы выканання гэтых рашэнняў з'яўляецца асноўным злом нашай практычнай работы.

Для паляпшэння справы праверкі выканання рашэнняў партыі і ўрада XVII з'езд партыі замест ЦКК—РСІ, якая з часу XII з'езда партыі паспела ўжо выканаць свае задачы, стварыў Камісію Партыйнага Кантроля пры ЦК ВКП(б) і Камісію Совецкага Кантроля пры Соўнаркоме СССР.

Тав. Сталін так фармуліраваў арганізацыйныя задачы партыі на новым этапе:

1) Падганяць нашу арганізацыйную работу да патрабаванняў палітычнай лініі партыі;

2) Падняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва;

3) Дабіцца таго, каб арганізацыйнае кіраўніцтва поўнасцю забяспечвала правядзенне ў жыццё палітычных лозунгаў і рашэнняў партыі.

Заканчваючы даклад, тав. Сталін папярэджваў, што, хоць поспехі соцыялізма вялікі і яны нараджаюць пачуццё законнай гордасці, аднак, нельга захапляцца дасягнутымі поспехамі, нельга «зазнавацца» і ўбаюкваць сябе.

> «... Не ўбаюкваць трэба партыю,—а развіваць у ёй пільнасць, не ўсыпляць яе,—а трымаць у стане баявой гатоўнасці, не раззбройваць, а ўзбройваць, не дэмабілізоўваць,—а трымаць яе ў стане мабілізацыі для ажыццяўлення другой пяцігодкі»,—указваў тав. Сталін (Пытанні ленінізма, стар. 596).

XVII з'езд заслухаў даклады таварышоў Молатава і Куйбышэва аб другім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі. Задачы другога пяцігадовага плана былі яшчэ больш грандыёзны, чым задачы першай пяцігодкі. К канцу другой пяцігодкі, у 1937 годзе, прамысловая прадукцыя павінна была ўзрасці, прыкладна, у восем разоў у параўнанні з даваенным узроўнем. Аб'ём капітальных работ па ўсёй народнай гаспадарцы намячаўся на другое пяцігоддзе ў размеры 133 мільярдаў рублёў супроць 64 з лішнім мільярдаў рублёў па першай пяцігодцы.

Такі велізарны размах капітальных работ забяспечваў поўнае тэхнічнае пераўзбраенне ўсіх галін народнай гаспадаркі.

У другім пяцігоддзі завяршалася ў асноўным механізацыя сельскай гаспадаркі. Магутнасць трактарнага парка павінна была павялічыцца з двух з чвэрцю мільёнаў конскіх сіл у 1932 годзе да васьмі з лішнім мільёнаў конскіх сіл у 1937 годзе. Намечана было шырока ўкараніць сістэму агратэхнічных мерапрыемстваў (правільныя севаабароты, пасеў чыстасортным насеннем, ворыва пад зябліва і т. п.).

Велізарныя работы намячаліся па тэхнічнай рэканструкцыі транспарта і сувязі.

Намечана была шырокая праграма далейшага павышэння матэрыяльнага і культурнага ўзроўню рабочых і сялян.

XVII з'езд удзяліў вялікую ўвагу арганізацыйным пытанням і прыняў спецыяльныя рашэнні па пытаннях партыйнага і совецкага будаўніцтва па дакладу тав. Кагановіча. Арганізацыйнае пытанне набыло яшчэ большае значэнне, калі генеральная лінія партыі перамагла, калі палітыка партыі была праверана жыццём, вопытам мільёнаў рабочых і сялян. Новыя складаныя задачы другой пяцігодкі патрабавалі павышэння якасці работы ва ўсіх галінах.

> «Асноўныя задачы другой пяцігодкі—канчатковая ліквідацыя капіталістычных элементаў, пераадаленне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей, завяршэнне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі на навейшай тэхнічнай базе, асваенне новай тэхнікі і новых прадпрыемстваў, машынізацыя сельскай гаспадаркі і падняцце яе прадукцыйнасці—ставяць з усёй астрынёй пытанне аб **павышэнні якасці работы ва ўсіх галінах, у першую чаргу якасці арганізацыйна-практычнага кіраўніцтва**»,—гаварылася ў рашэннях з'езда па арганізацыйных пытаннях (ВКП(б) у рэзалюцыях, ч. II, стар. 591).

На XVII з'ездзе быў прынят новы статут партыі, які адрозніваецца ад старога статута партыі перш за ўсё тым, што ў статут уведзена ўступная частка. Ва ўступнай частцы статута даецца кароткае вызначэнне комуністычнай партыі, вызначэнне яе значэння для барацьбы пролетарыята і яе месца ў сістэме органаў пролетарскай дыктатуры. Новы статут падрабязна пералічвае абавязкі члена партыі. У яго ўведзены больш строгія правілы прыёму ў партыю і пункт аб групах спачуваючых. У статуце больш падрабязна распрацавана пытанне аб арганізацыйнай будове партыі, па новаму фармуліраваны пункты аб ранейшых ячэйках партыі—пярвічных арганізацыях, як яны сталі называцца з XVII з'езда партыі. Па-новаму фармуліраваны ў новым статуце таксама пункты аб унутрыпартыйнай дэмакратыі і партыйнай дысцыпліне.

### 4. Перараджэнне бухарынцаў у палітычных двурушнікаў. Перараджэнне трацкісцкіх двурушнікаў у белагвардзейскую банду забойцаў і шпіёнаў. Зладзейскае забойства С. М. Кірава. Мерапрыемствы партыі па ўзмацненню пільнасці большэвікоў.

Поспехі соцыялізма ў нашай краіне радавалі не толькі партыю, не толькі рабочых і калгаснікаў. Яны радавалі таксама ўсю нашу совецкую інтэлігенцыю, усіх чэсных грамадзян СССР.

Яны не радавалі і ўсё больш азлаблялі астаткі разбітых эксплуататарскіх класаў.

Яны прыводзілі ў шаленства падгалоскі разбітых класаў—жалкія астаткі бухарынцаў і трацкістаў.

Гэтыя паны расцэньвалі дасягненні рабочых і калгаснікаў не з пункту гледжання інтарэсаў народа, які вітаў кожнае такое дасягненне, а з пункту гледжання інтарэсаў сваёй жалкай, адарванай ад жыцця і наскрозь прагніўшай фракцыйнай групы. Паколькі поспехі соцыялізма ў нашай краіне азначалі перамогу палітыкі партыі і кан-

чатковы правал палітыкі гэтых паноў, то яны, замест таго, каб прызнаць відавочныя факты і ўключыцца ў агульную справу, сталі помсціць партыі і народу за свае няўдачы, за свой правал, сталі пакасціць і шкодзіць справе рабочых і калгаснікаў, узрываць шахты, падпальваць заводы, шкодзіць у калгасах і соўгасах,—каб сарваць дасягненні рабочых і калгаснікаў і выклікаць у народзе нездаволенне Совецкай уладай. А каб уберагчы пры гэтым сваю жалкую групу ад выкрыцця і разгрому, яны накінулі на сябе маску адданых партыі людзей, сталі ўсё больш і больш лісліціць перад партыяй, славасловіць партыю, прасмыкацца перад ёю, прадаўжаючы на справе сваю скрытую ад вачэй падрыўную дзейнасць супроць рабочых і сялян.

На XVII з'ездзе выступілі Бухарын, Рыкаў і Томскі з пакаяннымі прамовамі, усхваляючы партыю, выслаўляючы да нябёс яе дасягненні. Але з'езд адчуваў, што іх прамовы носяць пячатку няшчырасці і двурушніцтва, бо партыя патрабуе ад сваіх членаў не славаслоўя і ўсхвалення яе дасягненняў, а чэснай работы на фронце соцыялізма, чаго, аднак, даўно ўжо не заўважалася за бухарынцамі. Партыя бачыла, што на справе гэтыя паны пераклікаюцца ў сваіх фальшывых прамовах са сваімі староннікамі па-за з'ездам, вучаць іх двурушніцтву і заклікаюць іх не складваць зброі.

На XVII з'ездзе выступілі таксама трацкісты—Зіноўеў і Каменеў, бічуючы сябе звыш меры за свае памылкі і славасловячы партыю—таксама звыш меры—за яе дасягненні. Але з'езд не мог не бачыць, што як ташнатворнае самабічаванне, так і саладжава-прыкрае ўсхваленне партыі прадстаўляюць адваротны бок нячыстай і неспакойнай совесці гэтых паноў. Партыя аднак яшчэ не ведала, не дагадвалася, што, выступаючы на з'ездзе з саладжавымі прамовамі, гэтыя паны адначасова падрыхтоўвалі зладзейскае забойства С. М. Кірава.

1 снежня 1934 года ў Ленінградзе ў Смольным выстралам з рэвальвера быў зладзейскі забіт С. М. Кіраў.

Затрыманы на месцы злачынства забойца аказаўся членам контррэволюцыйнай падпольнай групы, якая арганізавалася з ліку ўдзельнікаў антысовецкай зіноўеўскай групы ў Ленінградзе.

Забойства С. М. Кірава, любімца партыі, любімца рабочага класа выклікала найвялікшы гнеў і глыбокі смутак працоўных нашай краіны.

Следства ўстанавіла, што ў 1933—34 годзе ў Ленінградзе ўтварылася з ліку былых удзельнікаў зіноўеўскай апазіцыі падпольная контррэволюцыйная тэрарыстычная група на чале з так званым «ленінградскім цэнтрам». Гэта група ставіла сабе мэтай забойства кіраўнікоў комуністычнай партыі. Першай афярай быў намечан С. М. Кіраў. З паказанняў удзельнікаў гэтай контррэволюцыйнай групы высвятлілася, што яны былі звязаны з прадстаўнікамі замежных капіталістычных дзяржаў, атрымлівалі ад іх грошы.

Выкрытыя ўдзельнікі гэтай арганізацыі былі прыгавораны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да вышэйшай меры пакарання—расстрэлу.

Неўзабаве была ўстаноўлена наяўнасць падпольнага контррэволюцыйнага «маскоўскага цэнтра». Следства і суд выяснілі гнусную ролю Зіноўева, Каменева, Еўдакімава і іншых кіраўнікоў гэтай арганізацыі ў справе выхавання сярод сваіх аднадумцаў тэрарыстычных настрояў, у справе падрыхтоўкі забойства членаў ЦК і Совецкага ўрада.

Двурушніцтва і подласць гэтых людзей дайшлі да таго, што Зіноўеў—адзін з арганізатараў і натхніцеляў забойства С. М. Кірава, прыспешваўшый забойцу хутчэй выканаць гэта злодзеянне,—напісаў хвалебны некролаг на смерць Кірава, патрабуючы яго надрукавання.

Прыкінуўшыся на судзе раскаяўшымися, зіноўеўцы на справе і ў гэты момант прадаўжалі двурушнічаць. Яны скрылі сваю сувязь з Троцкім. Яны скрылі, што разам з трацкістамі прадаліся фашысцкім разведкам, скрылі сваю шпіёнска-шкодніцкую дзейнасць. Зіноўеўцы скрылі на судзе сваю сувязь з бухарынцамі, наяўнасць аб'яднанай трацкісцка-бухарынскай банды наёмнікаў фашызма.

Забойства тав. Кірава, як выяснілася пазней, было ўчынена гэтай аб'яднанай трацкісцка-бухарынскай бандай.

Ужо тады, у 1935 годзе, стала ясна, што зіноўеўская група з'яўляецца замаскіраванай белагвардзейскай арганізацыяй, якая ўпаўне заслугоўвае таго, каб з яе членамі абыходзіліся, як з белагвардзейцамі.

Праз год стала вядома, што фактычнымі, прамымі і сапраўднымі арганізатарамі забойства Кірава і арганізатарамі падрыхтоўчых крокаў да забойства іншых членаў ЦК былі Троцкі, Зіноўеў, Каменеў і іх саўдзельнікі. Пад суд былі аддадзены Зіноўеў, Каменеў, Бакаеў, Еўдакімаў, Пікель, Смірноў І. Н., Мрачкоўскі, Тэр-Ваганян, Рэйнгольд і іншыя. Злоўленыя з палічным злачынцы павінны былі прызнаць публічна, на судзе, што яны арганізавалі не толькі забойства Кірава, але падрыхтоўвалі забойства і ўсіх астатніх кіраўнікоў партыі і ўрада. Следства ўстанавіла ў далейшым, што гэтыя зладзеі сталі на шлях арганізацыі дыверсійных актаў, на шлях шпіянажа. Самае жудаснае маральнае і палітычнае падзенне гэтых людзей, самая нізкапробная подласць і прэдацельства, якія прыкрываліся двурушніцкімі заявамі аб адданасці партыі, былі ўскрыты на судовым працэсе, які адбываўся ў Маскве ў 1936 годзе.

Галоўным натхніцелем і арганізатарам усёй гэтай банды забойцаў і шпіёнаў быў іуда Троцкі. Памочнікамі Троцкага і выканаўцамі яго контррэволюцыйных указанняў былі Зіноўеў, Каменеў і іх трацкісцкае ахвосце. Яны рыхтавалі паражэнне СССР у выпадку нападу на яго імперыялістаў, яны сталі паражэнцамі ў адносінах да рабоча-сялянскай дзяржавы, яны сталі прэзрэннымі слугамі і агентамі нямецка-японскіх фашыстаў.

Асноўны ўрок, які павінны былі вынесці партарганізацыі з прайшоўшых судовых працэсаў па справе аб зладзейскім забойстве С. М. Кірава, заключаўся ў тым, каб ліквідаваць сваю ўласную палітычную слепату, ліквідаваць сваю палітычную бесклапотнасць і павысіць сваю пільнасць, пільнасць усіх членаў партыі.

У сваім пісьме да арганізацый партыі, выданым у сувязі са зладзейскім забойствам С. М. Кірава, ЦК партыі ўказваў:

> а) «Трэба пакончыць з апартуністычным благадушшам, якое зыходзіць з памылковага меркавання аб тым, што па меры росту нашых сіл вораг становіцца быццам-бы ўсё больш ручным і бяскрыўдным. Такое меркаванне ў корані няправільна. Яно з'яўляецца адрыжкай правага ўхілу, які запэўніваў усіх і ўся, што ворагі будуць паціхеньку ўпаўзаць у соцыялізм, што яны стануць у канцы канцоў сапраўднымі соцыялістамі. Не справа большэвікоў пачываць на лаўрах і ратазейнічаць. Не благадушша патрэбна нам, а пільнасць, сапраўдная большэвіцкая рэволюцый-

ная пільнасць. Трэба памятаць, што чым безнадзейней становішча ворагаў, тым ахвотней яны будуць хватацца за «крайні сродак», як адзіны сродак асуджаных у іх барацьбе з Совецкай уладай. Трэба памятаць гэта і быць пільнымі».

б) «Трэба паставіць на належную вышыню выкладанне гісторыі партыі сярод членаў партыі, вывучэнне ўсіх і ўсякіх антыпартыйных групіровак у гісторыі нашай партыі, іх прыёмаў барацьбы з лініяй партыі, іх тактыкі, і—тым больш—вывучэнне тактыкі і прыёмаў барацьбы нашай партыі з антыпартыйнымі групіроўкамі, тактыкі і прыёмаў, якія далі нашай партыі магчымасць пераадалець і разбіць ушчэнт гэтыя групіроўкі. Трэба, каб члены партыі былі знаёмы не толькі з тым, як партыя змагалася і перамагала кадэтаў, эсэраў, меншавікоў, анархістаў, але і з тым, як партыя змагалася і перамагала трацкістаў, «дэмакратычных цэнтралістаў», «рабочую апазіцыю», зіноўеўцаў, правых ухілістаў, права-лявацкіх уродаў і т. п. Нельга забываць, што веданне і разуменне гісторыі нашай партыі з'яўляецца важнейшым сродкам, неабходным для таго, каб забяспечыць поўнасцю рэволюцыйную пільнасць членаў партыі».

Велізарнае значэнне ў гэты перыяд мела чыстка партыйных радоў ад прымазаўшыхся і чуждых элементаў, пачатая ў 1933 годзе, у асаблівасці-ж—старанная праверка партыйных дакументаў і абмен старых партыйных дакументаў на новыя, прадпрынятыя пасля зладзейскага забойства С. М. Кірава.

Да праверкі партыйных дакументаў ва многіх партыйных арганізацыях панавалі самавольства і халатнасць у абыходжанні з партыйнымі білетамі. У радзе мясцовых партарганізацый быў ускрыт зусім нецярпімы **хаос ва ўчоце комуністаў**, што скарысталі ворагі для сваіх гнусных мэт, скарыстоўваючы партбілеты ў якасці шырмы для шпіянажа, шкодніцтва і т. п. Справу прыёму ў партыю і выдачы партбілетаў многія кіраўнікі партыйных арганізацый перадаверылі трэцеступенным асобам, а вельмі часта—зусім неправераным членам партыі.

У спецыяльным пісьме да ўсіх арганізацый аб учоце, выдачы і захоўванні партбілетаў ад 13 мая 1935 года ЦК партыі прапанаваў правесці ва ўсіх арганізацыях грунтоўную праверку партыйных дакументаў, «навесці большэвіцкі парадак у нашым уласным партыйным доме».

Праверка партдакументаў мела вялікае палітычнае значэнне. У рэзалюцыі пленума ЦК партыі ад 25 снежня 1935 года па дакладу сакратара ЦК тав. Ежова аб выніках праверкі партыйных дакументаў гаварылася, што гэтая праверка з'явілася велізарнай важнасці арганізацыйна-палітычным мерапрыемствам па ўмацаванню радоў ВКП(б).

Пасля правядзення праверкі і абмену партдакументаў быў адноўлен прыём у партыю. Пры гэтым ЦК ВКП(б) патрабаваў, каб партыю папаўнялі не агулам, а на аснове строга індывідуальнага прыёму «сапраўды перадавых, сапраўды адданых справе рабочага класа лепшых людзей нашай краіны, з рабочых, перш за ўсё, а таксама з сялян і працоўнай інтэлігенцыі, праверaных на розных участках барацьбы за социялізм».

Аднаўляючы прыём новых членаў у партыю, ЦК абавязваў пар-

тыйныя арганізацыі памятаць, што варожыя элементы і надалей будуць прабаваць пранікаць у рады ВКП(б). З прычыны гэтага:

«Задача кожнай партыйнай арганізацыі заключаецца ў тым, каб, усямерна павышаючы большэвіцкую пільнасць, высока трымаць сцяг Ленінскай партыі і гарантаваць партыю ад пранікнення ў яе рады чуждых, варожых і выпадковых элементаў» (Пастанова ЦК ВКП(б) ад 29 верасня 1936 г. «Правда» № 270, 1936 г.).

Ачышчаючы свае рады і ўмацоўваючы іх, знішчаючы ворагаў партыі і бязлітасна змагаючыся супроць скажэнняў лініі партыі, большэвіцкая партыя згуртоўвалася яшчэ цясней вакол ЦК партыі, пад кіраўніцтвам якога партыя і краіна Советаў пераходзілі да новага этапу—да завяршэння будаўніцтва бяскласавага, соцыялістычнага грамадства.

## КАРОТКІЯ ВЫВАДЫ.

У 1930—1934 годах партыя большэвікоў вырашыла труднейшую пасля заваёвы ўлады гістарычную задачу пролетарскай рэволюцыі—перавод мільёнаў дробнаўласніцкіх сялянскіх гаспадарак на шлях калгасаў, на шлях соцыялізма.

Ліквідацыя кулацтва, як самага шматлікага эксплуататарскага класа і перавод асноўных мас сялян на шлях калгасаў прывялі да знішчэння апошніх карэнняў капіталізма ў краіне, да завяршэння перамогі соцыялізма ў сельскай гаспадарцы, да канчатковага ўмацавання Совецкай улады ў вёсцы.

Пераадалеўшы рад труднасцей арганізацыйнага характару, калгасы канчаткова ўмацаваліся і сталі на шлях заможнага жыцця.

У выніку выканання першага пяцігадовага плана пабудован у нашай краіне непахісны фундамент соцыялістычнай эканомікі—першакласная цяжкая соцыялістычная індустрыя і калектыўнае машынізаванае земляробства, знішчана беспрацоўе, знішчана эксплуатацыя чалавека чалавекам, створаны ўмовы для няспыннага паляпшэння матэрыяльнага і культурнага становішча працоўных нашай радзімы.

Гэтыя гіганцкія поспехі дасягнуты рабочым класам, калгаснікамі і ўсімі працоўнымі нашай краіны дзякуючы смелай, рэволюцыйнай і мудрай палітыцы партыі і ўрада.

Капіталістычнае акружэнне, імкнучыся аслабіць і падарваць магутнасць СССР, узмацняе сваю «работу» па арганізацыі ўнутры СССР банд забойцаў, шкоднікаў, шпіёнаў. Асабліва ўзмацняецца варожая ў адносінах да СССР дзейнасць капіталістычнага акружэння з прыходам да ўлады фашыстаў у Германіі, Японіі. У асобе трацкістаў, зіноўеўцаў фашызм набыў верных слуг, якія ідуць на шпіянаж, шкодніцтва, тэрор і дыверсіі, на паражэнне СССР—у імя аднаўлення капіталізма.

Совецкая ўлада цвёрдай рукой карае гэтых вырадкаў чалавечага рода і бязлітасна распраўляецца з імі, як з ворагамі народа і здраднікамі радзімы.

Раздзел XII

# ПАРТЫЯ БОЛЬШЭВІКОЎ У БАРАЦЬБЕ ЗА ЗАВЯРШЭННЕ БУДАЎНІЦТВА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ГРАМАДСТВА І ПРАВЯДЗЕННЕ НОВАЙ КАНСТЫТУЦЫІ.

(1935—1937 годы).

## 1. Міжнародная абстаноўка ў 1935—1937 годах. Часовае змякчэнне эканамічнага крызісу. Пачатак новага эканамічнага крызісу. Захват Італіяй Абісініі. Нямецка-італьянская інтэрвенцыя ў Іспаніі. Утаржэнне Японіі ў Цэнтральны Кітай. Пачатак другой імперыялістычнай вайны.

Эканамічны крызіс, які пачаўся ў капіталістычных краінах у другой палавіне 1929 года, прадаўжаўся да канца 1933 года. Пасля гэтага падзенне прамысловасці прыпынілася, крызіс перайшоў у застой і пачалося потым некаторае ажыўленне прамысловасці, некаторы яе ўздым. Але гэты ўздым не быў тым уздымам, за якім пачынаецца росквіт прамысловасці на новай, больш высокай, базе. Сусветная капіталістычная прамысловасць не змагла падняцца нават да ўзроўню 1929 года, дабіўшыся к палавіне 1937 года толькі 95—96 процантаў ад гэтага ўзроўню. А ў другой палавіне 1937 года пачаўся ўжо новы эканамічны крызіс, які захваціў, перш за ўсё, Злучаныя Штаты Амерыкі. К канцу 1937 года колькасць беспрацоўных у ЗША зноў паднялася да 10 мільёнаў чалавек. Стала быстра павялічвацца колькасць беспрацоўных у Англіі.

Такім чынам, не паспеўшы яшчэ аправіцца ад udараў нядаўняга эканамічнага крызісу, капіталістычныя краіны апынуліся перад тварам новага эканамічнага крызісу.

Гэта акалічнасць прывяла да таго, што супярэчнасці паміж імперыялістычнымі краінамі, таксама як паміж буржуазіяй і пралетарыятам—яшчэ больш узмацніліся. У сувязі з гэтым спробы агрэсіўных дзяржаў пакрыць страты ад эканамічнага крызісу ўнутры краіны за кошт іншых, слаба абароненых, краін—пачалі ўсё больш і больш узмацняцца. Пры гэтым да двух вядомых агрэсіўных дзяржаў, да Германіі і Японіі, далучылася на гэты раз трэцяя дзяржава—Італія.

У 1935 годзе фашысцкая Італія напала на Абісінію і заняволіла яе. Напала яна на Абісінію, не маючы ніякай падставы або повада з пункту гледжання «міжнароднага права», напала без аб'яўлення вайны, зладзейскім чынам, як гэта ўвайшло цяпер у моду ў фашыстаў. Гэта быў удар не толькі па Абісініі. Удар быў накіраван таксама супроць Англіі, супроць марскіх шляхоў Англіі з Еўропы ў Індыю, у

Азію. Спробы Англіі перашкодзіць абаснаванню Італіі ў Абісінії не далі рэзультатаў. Каб развязаць сабе рукі, Італія вышла потым з Лігі Нацый і пачала ўзмоцнена ўзбройвацца.

Такім чынам, на найкарацейшых марскіх шляхах з Еўропы ў Азію завязаўся новы вузел вайны.

Фашысцкая Германія парвала аднабаковым актам Версальскі мірны дагавор і намеціла да ажыццяўлення план **гвалтоўнага** перагляду траніц еўрапейскіх дзяржаў. Нямецкія фашысты не скрывалі, што яны дабіваюцца падпарадкавання сабе суседніх дзяржаў або, па меншай меры, захвату тэрыторыі гэтых дзяржаў, населенай немцамі. Па гэтаму плану мяркуецца: спачатку захват Аўстрыі, потым удар па Чэхаславакіі, потым, мабыць,—па Польшчы, дзе таксама ёсць цэласная тэрыторыя з нямецкім насельніцтвам, якая мяжуе з Германіяй, а потым... потым «відаць будзе».

Летам 1936 года пачалася ваенная інтэрвенцыя Германії і Італії супроць Іспанскай рэспублікі. Пад выглядам падтрымання іспанскіх фашыстаў Італія і Германія атрымалі магчымасць цішком увесці свае воінскія часці на тэрыторыю Іспаніі, у тылу ў Францыі, а свой марскі флот—у іспанскія воды, у раёны Балеарскіх астравоў і Гібралтара на поўдні, у раёны Атлантычнага акіяна на захадзе, у раёны Біскайскага заліва на поўначы. У пачатку 1938 года германскія фашысты захвацілі Аўстрыю, укараніўшыся ў сярэдняе цячэнне Дуная і пашырыўшыся на поўдні Еўропы, бліжэй да Адрыятычнага мора.

Развіваючы інтэрвенцыю супроць Іспаніі, германа-італьянскія фашысты запэўнівалі ўсіх, што яны вядуць барацьбу з «чырвонымі» ў Іспаніі і не праследуюць ніякіх іншых мэт. Але гэта была грубая і неразумная маскіроўка, разлічаная на глупства прастакоў. На самай справе яны вялі ўдар па Англіі і Францыі, бо яны перахватвалі марскія шляхі Англіі і Францыі да іх велізарных каланіяльных уладанняў у Афрыцы і Азіі.

Што датычыць захвату Аўстрыі, то яго ніяк ужо нельга было ўкласці ў рамкі барацьбы з Версальскім дагаворам, у рамкі аховы «нацыянальных» інтарэсаў Германіі, якая стараецца вярнуць сабе тэрыторыі, страчаныя ў сувязі з першай імперыялістычнай вайной. Аўстрыя не ўваходзіла ў састаў Германіі ні да вайны, ні пасля яе. **Гвалтоўнае** далучэнне Аўстрыі да Германіі азначае груба-імперыялістычны захват чужой тэрыторыі. Яно, бясспрэчна, ускрывае імкненне фашысцкай Германіі заняць пануючае становішча на кантыненце Заходняй Еўропы.

Гэта быў удар, перш за ўсё, па інтарэсах Францыі і Англіі.

Такім чынам, на поўдні Еўропы, у раёне Аўстрыі і Адрыятыкі, як і на крайнім захадзе Еўропы, у раёне Іспаніі і амываючых яе водаў, завязаліся новыя вузлы вайны.

У 1937 годзе японская фашысцкая ваеншчына захваціла Пекін, уторглася ў Цэнтральны Кітай і акупіравала Шанхай. Утаржэнне японскіх войск у Цэнтральны Кітай адбылося, як і ўтаржэнне ў Манчжурыю некалькі год назад, па японскаму спосабу, гэта значыць зладзейскім чынам, шляхам машэнніцкіх прычэпак да розных «мясцовых інцыдэнтаў», створаных самімі японцамі, шляхам фактычнага нарушэння ўсіх і ўсякіх «міжнародных норм», дагавораў, пагадненняў і т. п. Захват Цяньцзіна і Шанхая аддаў ключ гандлю з Кітаем з яго неабдымным рынкам—у рукі Японіі. Гэта азначае, што Японія, пакуль яна трымае ў руках Шанхай і Цяньцзін, у любы час можа

выкінуць з Цэнтральнага Кітая Англію і ЗША, якія маюць там каласальныя ўкладанні.

Вядома, геройская барацьба кітайскага народа і яго арміі супроць японскіх захватчыкаў, велізарны нацыянальны ўздым у Кітаі, каласальныя рэзервы людзей і тэрыторыі ў Кітаі, нарэшце, рашымасць кітайскага нацыянальнага ўрада давесці вызваленчую барацьбу Кітая да канца, да поўнага выгнання захватчыкаў з межаў Кітая,—усё гэта з бясспрэчнасцю гаворыць за тое, што ў японскіх імперыялістаў няма і не можа быць будучыні ў Кітаі.

Але верна таксама і тое, што Японія пакуль што трымае ў руках ключы гандлю з Кітаем, і яе вайна супроць Кітая ёсць па сутнасці справы сур'ёзнейшы ўдар па інтарэсах Англіі і ЗША.

Такім чынам, на Вялікім акіяне, у раёне Кітая, завязаўся яшчэ адзін вузел вайны.

Усе гэтыя факты паказваюць, што другая імперыялістычная вайна ўжо на справе пачалася. Пачалася яна цішком, без аб'яўлення вайны. Дзяржавы і народы неяк непрыкметна ўпаўзлі ў арбіту другой імперыялістычнай вайны. Пачалі вайну ў розных канцах свету тры агрэсіўныя дзяржавы,—фашысцкія правячыя кругі Германіі, Італіі, Японіі. Вайна ідзе на велізарнай прасторы ад Гібралтара да Шанхая. Вайна паспела ўжо ўцягнуць у сваю арбіту больш поўмільярда насельніцтва. Яна ідзе ў канчатковым выніку супроць капіталістычных інтарэсаў Англіі, Францыі, ЗША, бо мае сваёй мэтай перадзел свету і сфер уплыву ў карысць агрэсіўных краін і за кошт гэтых так званых дэмакратычных дзяржаў.

Адметная рыса другой імперыялістычнай вайны заключаецца пакуль што ў тым, што яе вядуць і разгортваюць агрэсіўныя дзяржавы, у той час як іншыя дзяржавы, «дэмакратычныя» дзяржавы, супроць якіх уласна і накіравана вайна, робяць выгляд, што вайна іх не датычыць, умываюць рукі, пяцяцца назад, усхваляюць сваё міралюбства, ругаюць фашысцкіх агрэсараў і... здаюць памаленьку свае пазіцыі агрэсарам, запэўніваючы пры гэтым, што яны рыхтуюцца да адпору.

Вайна гэта мае, як відаць, даволі дзіўны і аднабокі характар. Але гэта не перашкаджае ёй быць жорсткай і груба-захватніцкай, такой, якая разыгрываецца на спіне мала абароненых народаў Абісініі, Іспаніі, Кітая.

Было-б няправільна аб'ясняць такі аднабокі характар вайны ваеннай або эканамічнай слабасцю «дэмакратычных» дзяржаў. «Дэмакратычныя» дзяржавы, вядома, сільней фашысцкіх дзяржаў. Аднабокі характар сусветнай вайны, якая разгортваецца, аб'ясняецца адсутнасцю адзінага фронта «дэмакратычных» дзяржаў супроць фашысцкіх дзяржаў. Так званыя «дэмакратычныя» дзяржавы, вядома, не адабраюць «крайнасцей» фашысцкіх дзяржаў і баяцца ўзмацнення апошніх. Але яны яшчэ больш баяцца рабочага руху у Еўропе і нацыянальна-вызваленчага руху ў Азіі, лічачы, што фашызм з'яўляецца «добрым проціяддзем» супроць усіх гэтых «небяспечных» рухаў. Таму правячыя кругі «дэмакратычных» дзяржаў, асабліва-ж,—правячыя кансерватыўныя кругі Англіі абмяжоўваюцца палітыкай угаварвання зарваўшыхся фашысцкіх заправіл—«не даводзіць справы да крайнасці», даючы ім адначасова зразумець, што яны «ўпаўне разумеюць» і спачуваюць у асноўным іх рэакцыйна-паліцэйскай палітыцы супроць рабочага і нацыянальна-вызваленчага руху. Правячыя кругі Англіі трымаюцца тут прыблізна такой-жа палітыкі, якой трымаліся пры царызме рускія лі-

беральна-манархічныя буржуа, якія, баючыся «крайнасцей» царскай палітыкі, яшчэ больш баяліся народа і перайшлі з прычыны гэтага на палітыку ўгаварвання цара,—значыць, на палітыку **згавару з царом** супроць народа. Як вядома, ліберальна-манархічная буржуазія Расіі жорстка паплацілася за такую двоістую палітыку. Трэба меркаваць, што правячыя кругі Англіі і іх прыяцелі ва Францыі і ЗША таксама атрымаюць сваю гістарычную адплату.

Зразумела, што СССР, бачачы такі абарот міжнародных спраў, не мог прайсці міма гэтых грозных падзей. Усякая, нават невялікая вайна, пачатая агрэсарамі, прадстаўляе небяспеку для міралюбівых краін, а другая імперыялістычная вайна, якая так «непрыкметна» падкралася да народаў і ахапіла больш поўмільярда насельніцтва,—тым больш не можа не быць сур'ёзнейшай небяспекай для ўсіх народаў і, у першую чаргу, для СССР. Аб гэтым красамоўна гаворыць стварэнне «антыкомуністычнага блока» паміж Германіяй, Італіяй і Японіяй. Таму наша краіна, праводзячы сваю мірную палітыку, разгарнула разам з тым далейшае ўзмацненне абараназдольнасці нашых граніц і баявой гатоўнасці Чырвонай арміі і Чырвонага флота. У канцы 1934 года СССР уступіў у Лігу Нацый, ведаючы, што, не гледзячы на яе слабасць, яна ўсё-ж можа паслужыць месцам выкрыцця агрэсараў і некаторым, хоць і слабым, інструментам міру, тармозячым развязванне вайны. СССР лічыў, што ў такі час не трэба пагарджаць нават такой слабай міжнароднай арганізацыяй, як Ліга Нацый. У маі 1935 года быў заключан дагавор паміж Францыяй і СССР аб узаемнай дапамозе супроць магчымага нападу агрэсараў. Адначасова з гэтым такі-ж дагавор быў заключан з Чэхаславакіяй. У сакавіку 1936 года СССР заключыў з Мангольскай Народнай Рэспублікай дагавор аб узаемнай дапамозе. У жніўні 1937 года быў заключан дагавор аб узаемным ненападзе паміж СССР і Кітайскай рэспублікай.

### 2. Далейшы ўздым прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў СССР. Датэрміновае выкананне другой пяцігодкі. Рэканструкцыя сельскай гаспадаркі і завяршэнне калектывізацыі. Значэнне кадраў. Стаханаўскі рух. Уздым народнага добрабыту. Уздым народнай культуры. Сіла совецкай рэволюцыі.

У той час як у капіталістычных краінах праз тры годы пасля эканамічнага крызісу 1930—1933 гадоў наступіў новы эканамічны крызіс, у СССР **за ўвесь гэты перыяд** няўхільна прадаўжаўся ўздым прамысловасці. Калі сусветная капіталістычная прамысловасць у цэлым к сярэдзіне 1937 года ледзь дасягнула 95—96 процантаў ад узроўню 1929 года для таго, каб у другой палавіне 1937 года ўступіць у паласу новага эканамічнага крызісу, то прамысловасць СССР дасягнула ў сваім нарастаўшым уздыме к канцу 1937 года 428 процантаў ад узроўню 1929 года, а ў параўнанні з даваенным узроўнем вырасла больш, чым у сем разоў.

Гэтыя поспехі былі прамым вынікам палітыкі рэканструкцыі, якая праводзілася партыяй і ўрадам з усёй настойлівасцю.

У рэзультаце гэтых поспехаў другі пяцігадовы план па прамысловасці аказаўся выкананым раней тэрміну. Другая пяцігодка была выканана к 1 красавіка 1937 года, гэта значыць у 4 годы і 3 месяцы.

Гэта была буйнейшая перамога соцыялізма.

Амаль такую-ж карціну ўздыму прадстаўляла сельская гаспадарка. Пасеўныя плошчы ўсіх культур выраслі з 105 мільёнаў гектараў у 1913 годзе (даваенны час) да 135 мільёнаў гектараў у 1937 годзе. Вытворчасць зярна вырасла з 4 мільярдаў 800 мільёнаў пудоў у 1913 годзе да 6 мільярдаў 800 мільёнаў пудоў у 1937 годзе, вытворчасць бавоўны-сырца з 44 мільёнаў пудоў—да 154 мільёнаў пудоў, вытворчасць ільну (валакно) з 19 мільёнаў пудоў—да 31 мільёна пудоў, вытворчасць буракоў з 654 мільёнаў пудоў—да 1 мільярда 311 мільёнаў пудоў, вытворчасць маслічных культур з 129 мільёнаў пудоў—да 306 мільёнаў пудоў.

Трэба адзначыць, што адны толькі калгасы (без соўгасаў) далі краіне таварнага хлеба ў 1937 годзе звыш 1 мільярда 700 мільёнаў пудоў, гэта значыць мінімум на 400 мільёнаў пудоў больш, чым памешчыкі, кулакі і сяляне, разам узятыя, у 1913 годзе.

Толькі адна галіна сельскай гаспадаркі—жывёлагадоўля—усё яшчэ адставала ад даваеннага ўзроўню і прадаўжала ісці ўперад запаволеным тэмпам.

Што датычыць калектывізацыі сельскай гаспадаркі, то яе можна было лічыць ужо завершанай. У калгасах знаходзілася ў 1937 годзе 18 з палавінай мільёнаў сялянскіх двароў, што складала 93 процанты ўсіх сялянскіх двароў, а пасеўныя плошчы калгасаў па зярну складалі 99 процантаў усіх сялянскіх пасеўных плошчаў па зярну.

Плады рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і ўзмоцненага яе снабжэння трактарамі і сельгасмашынамі былі ў наяўнасці.

Завяршэнне рэканструкцыі прамысловасці і сельскай гаспадаркі прывяло да таго, што народная гаспадарка аказалася багата снабжонай першакласнай тэхнікай. Прамысловасць і сельская гаспадарка, транспарт і армія атрымалі велізарную колькасць новай тэхнікі, новых машын і станкоў, трактароў і сельскагаспадарчых машын, паравозаў і параходаў, артылерыі і танкаў, самалётаў і ваенна-марскіх караблёў. Неабходна было пусціць у ход дзесяткі і сотні тысяч абучаных кадраў, здольных асядлаць усю гэту тэхніку і выціснуць з яе максімум таго, што можна з яе выціснуць. Без гэтага, без дастатковай колькасці людзей, аўладаўшых тэхнікай, тэхніка рыскавала ператварыцца ў груду мёртвага метала, які астаецца без скарыстання. Гэта была сур'ёзная небяспека, узнікшая ў выніку таго, што рост кадраў, якія могуць асядлаць тэхніку, **не паспяваў і далёка адставаў** ад росту тэхнікі. Справа ўскладнялася тым, што значная частка нашых работнікаў не ўсведамляла гэтай небяспекі і лічыла, што тэхніка «сама зробіць» сваю справу. Калі раней недаацэньвалі тэхніку і пагардліва адносіліся да яе, то цяпер сталі яе пераацэньваць, ператварылі яе ў фетыш. Не разумелі, што тэхніка без людзей, аўладаўшых тэхнікай,—мёртва. Не разумелі, што толькі пры людзях, аўладаўшых тэхнікай, тэхніка можа даць вышэйшую прадукцыйнасць.

Пытанне аб кадрах, аўладаўшых тэхнікай, набывала, такім чынам, першаступеннае значэнне.

Неабходна было павярнуць увагу нашых работнікаў ад празмернага захаплення тэхнікай, ад недаацэнкі значэння кадраў,—у бок асваення тэхнікі, у бок аўладання тэхнікай, у бок усямернага ўзмацнення работы па вырошчванню шматлікіх кадраў, здольных асядлаць тэхніку і выціснуць з яе максімум эфекту.

Калі раней, у пачатку рэканструкцыйнага перыяду, калі ў краіне адчуваўся голад у галіне тэхнікі, партыя дала лозунг—«тэхніка ў перыяд рэканструкцыі рашае ўсё», то цяпер, пры багацці тэхнікі, пасля

завяршэння ў асноўным перыяду рэканструкцыі, калі ў краіне адчуваўся востры недахват у кадрах,—партыя павінна была даць новы лозунг, які завастрае ўвагу ўжо не на тэхніцы, а на людзях, на кадрах, здольных поўнасцю скарыстаць тэхніку.

Вялікае значэнне мела ў гэтых адносінах выступленне тав. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі, у маі 1935 года.

«Раней, гаварыў тав. Сталін, мы гаварылі, што «тэхніка рашае ўсё». Гэты лозунг дапамог нам у тых адносінах, што мы ліквідавалі голад у галіне тэхнікі і стварылі найшырэйшую тэхнічную базу ва ўсіх галінах дзейнасці для ўзбраення нашых людзей першакласнай тэхнікай. Гэта вельмі добра. Але гэтага далёка і далёка недастаткова. Каб прывесці тэхніку ў рух і скарыстаць яе да дна, патрэбны людзі, аўладаўшыя тэхнікай, патрэбны кадры, здольныя асвоіць і скарыстаць гэту тэхніку па ўсіх правілах майстэрства. Тэхніка без людзей, аўладаўшых тэхнікай,—мёртва. Тэхніка на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай, можа і павінна даць цуды. Калі-б на нашых першакласных заводах і фабрыках, у нашых соўгасах і калгасах, у нашай Чырвонай арміі была дастатковая колькасць кадраў, здольных асядлаць гэту тэхніку, краіна наша атрымала-б эфекту ў тры і ў чатыры разы больш, чым яна мае цяпер. Вось чаму ўпор павінен быць зроблен цяпер на людзях, на кадрах, на работніках, аўладаўшых тэхнікай. Вось чаму стары лозунг—«тэхніка рашае ўсё», які з'яўляўся адлюстраваннем ужо пройдзенага перыяду, калі ў нас быў голад у галіне тэхнікі,—павінен быць цяпер заменен новым лозунгам, лозунгам аб тым, што **кадры рашаюць усё».** У гэтым цяпер галоўнае...

Трэба, нарэшце, зразумець, што з усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры. Трэба зразумець, што пры нашых цяперашніх умовах **«кадры рашаюць усё».** Будуць у нас добрыя і шматлікія кадры ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, на транспарце, у арміі,—наша краіна будзе непераможна. Не будзе ў нас такіх кадраў—будзем кульгаць на абедзве нагі».

Такім чынам, паскоранае вырошчванне кадраў па тэхніцы і быстрае асваенне новай тэхнікі ў мэтах далейшага ўздыму прадукцыйнасці працы—стала першаступеннай задачай.

Найбольш яркім прыкладам росту такіх кадраў, прыкладам асваення нашымі людзьмі новай тэхнікі і далейшага росту прадукцыйнасці працы з'явіўся стаханаўскі рух. Ён нарадзіўся і разгарнуўся ў Данбасе, у вугальнай прамысловасці, перакінуўся ў іншыя галіны прамысловасці, пашырыўся на транспарт і захваціў потым сельскую гаспадарку. Гэты рух быў названы стаханаўскім, па імені яго зачынацеля—забойшчыка шахты «Цэнтральная-Ірміно» (Данбас) Алексея Стаханава. Яшчэ да Стаханава Нікіта Ізотаў паказаў нябачаныя да таго рэкорды выпрацоўкі вугалю. Прыклад Стаханава, які вырубіў за адну змену 31 жніўня 1935 года 102 тоны вугалю і перавысіў тым самым звычайныя нормы здабычы вугалю ў 14 разоў,—паклаў пачатак масаваму руху рабочых і калгаснікаў за павышэнне норм выпрацоўкі, за новы ўздым прадукцыйнасці працы. Бусыгін—у аўтапрамысловасці, Сметанін—у абутковай прамысловасці, Крыванос—на транспарце, Мусінскі—у лясной прамысловасці, Еўдакія і Марыя Вінаградавы—у тэкстыльнай прамысловасці, Марыя Дземчэнка, Марына Гнаценка, П. Анге-

ліна, Палагуцін, Колесаў, Кавардак, Борын —у сельскай гаспадарцы,— такія вось імёны першых піонераў стаханаўскага руху.

За імі пайшлі другія піонеры, цэлыя атрады піонераў, якія перакрылі прадукцыйнасць працы першых піонераў.

Велізарнае значэнне мелі ў справе разгортвання стаханаўскага руху першая ўсесаюзная нарада стаханаўцаў у Крэмлі, у лістападзе 1935 года, і выступленне на ёй тав. Сталіна.

«Стаханаўскі рух, гаварыў тав. Сталін у сваім выступленні, выражае новы ўздым соцыялістычнага спаборніцтва, новы, вышэйшы этап соцыялістычнага спаборніцтва... У мінулым, годы тры таму назад, у перыяд першага этапу соцыялістычнага спаборніцтва, соцыялістычнае спаборніцтва не абавязкова было звязана з новай тэхнікай. Ды тады ў нас, уласна, і не было амаль новай тэхнікі. Цяперашні-ж этап соцыялістычнага спаборніцтва—стаханаўскі рух, наадварот,—абавязкова звязан з новай тэхнікай. Стаханаўскі рух быў-бы немыслімы без новай, вышэйшай тэхнікі. Перад вамі людзі, накшталт т. т. Стаханава, Бусыгіна, Сметаніна, Крываноса, Вінаградавых і многіх іншых, людзі новыя, рабочыя і работніцы, якія поўнасцю ауладалі тэхнікай сваёй справы, асядлалі яе і пагналі ўперад. Такіх людзей у нас не было або амаль не было годы тры таму назад... Значэнне стаханаўскага руху заключаецца ў тым, што ён з'яўляецца такім рухам, які ламае старыя тэхнічныя нормы, як недастатковыя, перакрывае ў цэлым радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін і адкрывае, такім чынам, практычную магчымасць далейшага ўмацавання соцыялізма ў нашай краіне, магчымасць ператварэння нашай краіны ў найбольш заможную краіну».

Характарызуючы метады работы стаханаўцаў і раскрываючы велізарнае значэнне стаханаўскага руху для будучыні нашай краіны, тав. Сталін гаварыў далей:

«Прыгледзьцеся да таварышоў стаханаўцаў. Што гэта за людзі? Гэта, галоўным чынам,—маладыя або сярэдніх год рабочыя і работніцы, людзі культурныя і тэхнічна падкаваныя, якія даюць узоры дакладнасці і акуратнасці ў рабоце, якія ўмеюць цаніць фактар часу ў рабоце і якія навучыліся лічыць час не толькі мінутамі, але і секундамі. Большасць з іх прайшла так званы тэхнічны мінімум і працяўжае папаўняць сваю тэхнічную адукацыю. Яны свабодны ад кансерватызма і застойнасці некаторых інжынераў, тэхнікаў і гаспадарнікаў, яны ідуць смела ўперад, ламаючы ўстарэлыя тэхнічныя нормы і ствараючы новыя, больш высокія, яны ўносяць папраўкі ў праектныя магутнасці і гаспадарчыя планы, складзеныя кіраўнікамі нашай прамысловасці, яны раз-по-раз дапаўняюць і папраўляюць інжынераў і тэхнікаў, яны нярэдка вучаць і штурхаюць іх уперад, бо гэта—людзі, якія ўпаўне аўладалі тэхнікай сваёй справы і якія ўмеюць выціскаць з тэхнікі максімум таго, што можна з яе выціснуць. Сёння стаханаўцаў яшчэ мала, але хто можа сумнявацца, што заўтра іх будзе ўдзесяцера больш? Хіба не ясна, што стаханаўцы з'яўляюцца наватарамі ў нашай прамысловасці, што стаханаўскі рух прадстаўляе будучыню нашай індустрыі, што ён змяшчае ў сабе зярно будучага культурна-тэхнічнага ўздыму рабочага класа, што ён адкрывае нам той шлях, на якім

толькі і можна дабіцца тых вышэйшых паказальнікаў прадукцыйнасці працы, якія неабходны для пераходу ад соцыялізма да комунізма і знішчэння процілегласці паміж працай разумовай і працай фізічнай?»

Разварот стаханаўскага руху і датэрміновае выкананне другой пяцігодкі стварылі ўмовы для новага ўздыму добрабыту і культурнага развіцця працоўных.

Рэальная заработная плата рабочых і служачых вырасла за другую пяцігодку больш чым у два разы. Фонд заработнай платы вырас з 34 мільярдаў у 1933 годзе да 81 мільярда ў 1937 годзе. Фонд дзяржаўнага соцыяльнага страхавання вырас з 4 мільярдаў 600 мільёнаў рублёў у 1933 годзе да 5 мільярдаў 600 мільёнаў рублёў у 1937 годзе. На дзяржаўнае страхаванне рабочых і служачых, на паляпшэнне быту і культурныя патрэбы, на санаторыі, курорты, дамы адпачынку і медыцынскую дапамогу ў адным толькі 1937 годзе было зрасходавана каля 10 мільярдаў рублёў.

У вёсцы канчаткова ўмацаваўся калгасны лад. Гэтаму сільна садзейнічалі **Статут сельскагаспадарчай арцелі,** прыняты на II з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў у лютым 1935 года, і замацаванне за калгасамі ўсіх апрацоўваемых імі зямель **на вечнае карыстанне.** Дзякуючы ўмацаванню калгаснага ладу знікла беднасць і незабяспечанасць у вёсцы. Калі раней, годы тры назад, выдавалі па аднаму, па два кілограмы зярна на працадзень, то цяпер большасць калгаснікаў у зернавых раёнах стала атрымліваць на працадзень ад пяці да дванаццаці кілограмаў, а многія з іх—да дваццаці кілограмаў на працадзень, не гаворачы ўжо аб выдачы іншых прадуктаў і атрыманні грашовых даходаў. Паявіліся мільёны калгасных двароў, атрымаўшых за год ад 500 да 1500 пудоў зярна ў зернавых раёнах, атрымаўшых дзесяткі тысяч рублёў гадавога даходу ў бавоўняных, бурачных, ільняных, жывёлагадоўчых, вінаробчых, цытрусовых, плодагародных раёнах. Калгасы сталі заможнымі. Пабудова новых свірнаў і кладовых стала галоўным клопатам калгаснага двара, бо старыя месцасховішчы прадуктаў, разлічаныя на нязначныя гадавыя запасы, не задавальнялі і дзесятай долі новых патрэбнасцей калгаснікаў.

У 1936 годзе, у сувязі з ростам добрабыту народных мас, урад выдаў закон аб забароне абортаў. Адначасова была намечана абшырная праграма будаўніцтва радзільных дамоў, яслей, малочных кухань, дзіцячых садоў. У 1936 годзе на гэтыя мерапрыемствы было асігнавана 2 мільярды 174 мільёны рублёў супроць 875 мільёнаў у 1935 годзе. Асобым законам была ўстаноўлена значная дапамога многадзетным сем'ям. На падставе гэтага закона было выдана дапамогі ў 1937 годзе звыш мільярда рублёў.

У рэзультаце ўвядзення ўсеагульнай абавязковай асветы і новага школьнага будаўніцтва разгарнуўся магутны ўздым культурнасці народных мас. Разгарнулася па ўсёй краіне грандыёзнае школьнае будаўніцтва. Колькасць вучняў у пачатковых і сярэдніх школах вырасла з 8 мільёнаў у 1914 годзе да 28 мільёнаў у 1936—37 годах. Колькасць студэнтаў у вышэйшых навучальных установах вырасла са 112 тысяч у 1914 годзе да 542 тысяч у 1936—37 годах.

Гэта была культурная рэволюцыя

Ва ўздыме матэрыяльнага становішча і культурнага развіцця народных мас сказалася сіла, магутнасць, неперамажнасць нашай совецкай рэволюцыі. Рэволюцыі ў мінулым гінулі ад таго, што яны, даўшы народу свабоду, не мелі магчымасці даць яму разам

з тым сур'ёзнае паляпшэнне матэрыяльнага і культурнага становішча. У гэтым была іх асноўная слабасць. Наша рэволюцыя адрозніваецца ад усіх іншых рэволюцый тым, што яна дала народу не толькі свабоду ад царызма, ад капіталізма, але і карэннае паляпшэнне яго матэрыяльнага і культурнага становішча. У гэтым яе сіла і непераможнасць.

«Наша пролетарская рэволюцыя,—гаварыў тав. Сталін у сваім выступленні на першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў,—з'яўляецца адзінай у свеце рэволюцыяй, якой давялося паказаць народу не толькі свае палітычныя рэзультаты, але і рэзультаты матэрыяльныя. З усіх рабочых рэволюцый мы ведаем толькі адну, якая сяк-так дабілася ўлады. Гэта—Парыжская комуна. Але яна існавала нядоўга. Яна, праўда, папрабавала разбіць аковы капіталізма, але яна не паспела іх разбіць і тым больш не паспела паказаць народу добрыя матэрыяльныя рэзультаты рэволюцыі. Наша рэволюцыя з'яўляецца адзінай, якая не толькі разбіла аковы капіталізма і дала народу свабоду, але паспела яшчэ даць народу матэрыяльныя ўмовы для заможнага жыцця. У гэтым сіла і непераможнасць нашай рэволюцыі».

### 3. VIII з'езд Советаў. Прыняцце новай Канстытуцыі СССР.

У лютым 1935 года VII з'езд Советаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік вынес рашэнне аб змяненні Канстытуцыі СССР, прынятай у 1924 годзе. Неабходнасць змянення Канстытуцыі СССР выклікалася тымі велізарнымі змяненнямі, якія адбыліся ў жыцці СССР з 1924 года, г. зн. з часу прыняцця першай Канстытуцыі Совецкага Саюза, да нашых дзён. За прайшоўшыя годы зусім змяніліся суадносіны класавых сіл у СССР: створана была новая соцыялістычная індустрыя, разгромлена кулацтва, перамог калгасны лад, уцвярдзілася соцыялістычная ўласнасць на сродкі вытворчасці ва ўсёй народнай гаспадарцы, як аснова совецкага грамадства. Перамога соцыялізма дала магчымасць перайсці да далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы, да ўвядзення ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

Спецыяльнай Канстытуцыйнай камісіяй пад старшынствам тав. Сталіна быў выпрацаван праект новай Канстытуцыі СССР. Праект быў падвергнут усенароднаму абмеркаванню, якое прадаўжалася 5 з палавінай месяцаў. Праект Канстытуцыі быў пастаўлен на абмеркаванне Надзвычайнага VIII з'езда Советаў.

У лістападзе 1936 года сабраўся VIII з'езд Советаў, закліканы адобрыць або адхіліць праект новай Канстытуцыі СССР.

У сваім дакладзе на VIII з'ездзе Советаў аб праекце новай Канстытуцыі тав. Сталін ізлажыў асноўныя змяненні, якія адбыліся ў краіне Советаў з часу прыняцця Канстытуцыі 1924 года.

Канстытуцыя 1924 года выпрацоўвалася ў першы перыяд нэпа. Тады Совецкая ўлада дапускала яшчэ развіццё капіталізма побач з развіццём соцыялізма. Тады Совецкая ўлада разлічвала на тое, каб у ходзе спаборніцтва двух сістэм—капіталістычнай і соцыялістычнай—арганізаваць і забяспечыць перамогу соцыялізма над капіталізмам у галіне эканомікі. Тады пытанне «хто—каго» яшчэ не было вырашана. Аснаваная на старой і небагатай тэхніцы, прамысловасць не дасягала і даваеннага ўзроўню. Яшчэ больш непрыглядную карціну прадстаўляла тады сельская гаспадарка. Соўгасы і калгасы існавалі толькі ў выглядзе асобных астраўкоў у неабсяжным акіяне аднаасобных ся-

лянскіх гаспадарак. Гутарка ішла тады не аб ліквідацыі кулацтва, а толькі аб яго абмежаванні. У галіне тавараабароту соцыялістычны сектар займаў толькі каля 50 процантаў.

Іншую карціну прадстаўляў СССР у 1936 годзе. К 1936 году зусім змянілася эканоміка СССР. К гэтаму часу поўнасцю былі ліквідаваны капіталістычныя элементы,—перамагла соцыялістычная сістэма ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Магутная соцыялістычная індустрыя ў сем разоў перавысіла даваенную прадукцыю і поўнасцю выцесніла прыватную прамысловасць. У сельскай гаспадарцы перамагла самая буйная ў свеце машынізаваная, узброеная новай тэхнікай, соцыялістычная вытворчасць у выглядзе сістэмы калгасаў і соўгасаў. Кулацтва к 1936 году было поўнасцю ліквідавана, як клас, а аднаасобны сектар не адыгрываў ужо ніякай сур'ёзнай ролі ў эканоміцы краіны. Увесь тавараабарот сканцэнтраваўся ў руках дзяржавы і каапераціі. Эксплуатацыя чалавека чалавекам знішчана назаўсёды. Грамадская, соцыялістычная ўласнасць на сродкі вытворчасці ўцвярдзілася, як непахісная аснова новага, соцыялістычнага ладу ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. У новым, соцыялістычным грамадстве назаўсёды зніклі крызісы, нішчата, беспрацоўе і разарэнне. Стварыліся ўмовы для заможнага і культурнага жыцця ўсіх членаў совецкага грамадства.

Адпаведна з гэтым, гаварыў тав. Сталін у сваім дакладзе, змяніўся і класавы састаў насельніцтва Совецкага Саюза. Клас памешчыкаў і старая буйная імперыялістычная буржуазія былі ліквідаваны яшчэ ў перыяд грамадзянскай вайны. За годы соцыялістычнага будаўніцтва былі ліквідаваны ўсе эксплуататарскія элементы—капіталісты, купцы, кулакі, спекулянты. Захаваліся толькі нязначныя астаткі ліквідаваных эксплуататарскіх класаў, поўная ліквідацыя якіх з'яўляецца пытаннем бліжэйшага часу.

Працоўныя СССР—рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя—глыбока змяніліся за годы соцыялістычнага будаўніцтва.

Рабочы клас перастаў быць эксплуатуемым класам, пазбаўленым сродкаў вытворчасці, як гэта мае месца пры капіталізме. Ён знішчыў капіталізм, адабраў у капіталістаў сродкі вытворчасці, ператварыў іх у грамадскую ўласнасць. Ён перастаў быць пролетарыятам ва ўласным, старым сэнсе гэтага слова. Пролетарыят СССР, які мае дзяржаўную ўладу, ператварыўся ў зусім новы клас. Ён ператварыўся ў вызвалены ад эксплуатацыі рабочы клас, які знішчыў капіталістычную сістэму гаспадаркі і ўстанавіў соцыялістычную ўласнасць на сродкі вытворчасці, гэта значыць у такі рабочы клас, якога яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва.

Не менш глыбокія змяненні адбыліся і ў становішчы сялянства СССР. У стары час больш двух дзесяткаў мільёнаў раскіданых асобных сялянскіх гаспадарак, дробных і сярэдніх, капаліся ў адзіночку на сваіх надзелах. Яны карысталіся адсталай тэхнікай, эксплуатаваліся памешчыкамі, кулакамі, купцамі, спекулянтамі, растаўшчыкамі і т. п. Цяпер у СССР вырасла зусім новае сялянства: няма больш памешчыкаў і кулакоў, купцоў і растаўшчыкоў, якія маглі-б эксплуатаваць сялянства. Велізарнейшая большасць сялянскіх гаспадарак уступіла ў калгасы, у аснове якіх ляжыць не прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасці, а калектыўная ўласнасць, якая вырасла на аснове калектыўнай працы. Гэта—новы тып сялянства, вызваленага ад усякай эксплуатацыі. Такога сялянства таксама не ведала яшчэ гісторыя чалавецтва.

Змянілася і інтэлігенцыя СССР. У масе яна стала зусім новай інтэлігенцыяй. У большасці яна вышла з рабочага і сялянскага асяроддзя. Яна служыць не капіталізму, як старая інтэлігенцыя, а соцыялізму. Інтэлігенцыя стала роўнаправўным членам соцыялістычнага грамадства. Гэта інтэлігенцыя будуе разам з рабочымі і сялянамі новае, соцыялістычнае грамадства. Гэта—новы тып інтэлігенцыі, якая служыць народу і вызвалена ад усякай эксплуатацыі. Такой інтэлігенцыі не ведала яшчэ гісторыя чалавецтва.

Такім чынам, сціраюцца класавыя грані паміж працоўнымі СССР, знікае старая класавая выключнасць. Падаюць і сціраюцца эканамічныя і палітычныя супярэчнасці паміж рабочымі, сялянамі і інтэлігенцыяй. Стварылася аснова маральна-палітычнага адзінства грамадства.

Гэтыя глыбокія змяненні ў жыцці СССР, гэтыя рашаючыя поспехі соцыялізма ў СССР атрымалі сваё выражэнне ў новай Канстытуцыі СССР.

Згодна гэтай Канстытуцыі совецкае грамадства складаецца з двух дружаственных класаў—рабочых і сялян, паміж якімі захаваліся яшчэ класавыя адрозненні. Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік з'яўляецца соцыялістычнай дзяржавай рабочых і сялян.

Палітычную аснову СССР складаюць Советы дэпутатаў працоўных, якія выраслі і ўзмацнелі ў рэзультаце звяржэння ўлады памешчыкаў і капіталістаў і заваявання дыктатуры пролетарыята.

Уся ўлада ў СССР належыць працоўным горада і вёскі ў асобе Советаў дэпутатаў працоўных.

Вышэйшым органам дзяржаўнай улады СССР з'яўляецца Вярхоўны Совет СССР.

Вярхоўны Совет СССР, які складаецца з двух роўнаправўных палат, Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей, выбіраецца грамадзянамі СССР тэрмінам на чатыры годы на аснове ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні.

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР, як і ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных, з'яўляюцца **ўсеагульнымі.** Гэта значыць, што ўсе грамадзяне СССР, дасягнуўшыя 18 год, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, вераспавядання, адукацыйнага цэнзу, аселасці, соцыяльнага паходжання, маёмаснага становішча і мінулай дзейнасці,—маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць выбранымі, за выключэннем страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых правоў.

Выбары дэпутатаў з'яўляюцца **роўнымі.** Гэта значыць, што кожны грамадзянін мае адзін голас і ўсе грамадзяне ўдзельнічаюць у выбарах на роўных падставах.

Выбары дэпутатаў з'яўляюцца **прамымі.** Гэта значыць, што выбары ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных, пачынаючы ад сельскага і гарадскога Совета дэпутатаў працоўных, аж да Вярхоўнага Совета СССР, праводзяцца грамадзянамі непасрэдна шляхам прамых выбараў.

Вярхоўны Совет СССР выбірае на сумесным пасяджэнні абодвух палат Прэзідыум Вярхоўнага Совета і Соўнарком СССР.

Эканамічную аснову Совецкага Саюза складаюць соцыялістычная сістэма гаспадаркі і соцыялістычная ўласнасць на сродкі вытворчасці. У СССР ажыццяўляецца прынцып соцыялізма: «Ад кожнага—па яго здольнасцях, кожнаму—па яго працы».

Усім грамадзянам СССР забяспечваецца права на працу, права на адпачынак, права на адукацыю, права на матэрыяльнае забеспячэнне ў старасці, а таксама ў выпадку хваробы і страты працаздольнасці.

Жанчыне прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынай ва ўсіх галінах дзейнасці.

Роўнапраўе грамадзян СССР, незалежна ад іх нацыянальнасці і расы, з'яўляецца непарушным законам.

За ўсімі грамадзянамі прызнаецца свабода совесці і свабода антырэлігійнай прапаганды.

Канстытуцыя—у інтарэсах умацавання соцыялістычнага грамадства—гарантуе свабоду слова, друку, сходаў і мітынгаў, права аб'яднання ў грамадскія арганізацыі, недатыкальнасць асобы, недатыкальнасць жылля і тайну перапіскі, права ўбежышча іншакраінным грамадзянам, якія праследуюцца за абарону інтарэсаў працоўных, або за навуковую дзейнасць, або за нацыянальна-вызваленчую барацьбу.

Новая Канстытуцыя разам з тым накладае на ўсіх грамадзян СССР сур'ёзныя абавязкі: выконваць законы, захоўваць дысцыпліну працы, чэсна адносіцца да грамадскага абавязку, паважаць правілы соцыялістычнага агульнажыцця, берагчы і ўмацоўваць грамадскую соцыялістычную ўласнасць, абараняць соцыялістычную бацькаўшчыну.

> «Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР».

Гаворачы аб праве грамадзян на аб'яднанне ў розныя таварыствы, Канстытуцыя запісала ў адным са сваіх артыкулаў:

> «Найбольш актыўныя і свядомыя грамадзяне з радоў рабочага класа і іншых слаёў працоўных аб'ядноўваюцца ва Усесаюзную комуністычную партыю (большэвікоў), якая з'яўляецца перадавым атрадам працоўных у іх барацьбе за ўмацаванне і развіццё соцыялістычнага ладу і прадстаўляе кіруючае ядро ўсіх арганізацый працоўных, як грамадскіх, так і дзяржаўных».

VIII з'езд Советаў аднадушна адобрыў і зацвердзіў праект новай Канстытуцыі СССР.

Краіна Советаў атрымала, такім чынам, новую Канстытуцыю, Канстытуцыю перамогі соцыялізма і рабоча-сялянскай дэмакратыі.

Тым самым Канстытуцыя замацавала той сусветна-гістарычны факт, што СССР уступіў у новую паласу развіцця, у паласу завяршэння будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу да комуністычнага грамадства, дзе кіруючым пачаткам грамадскага жыцця павінен быць комуністычны прынцып: «Ад кожнага—па яго здольнасцях, кожнаму—па яго патрэбнасцях».

### 4. Ліквідацыя астаткаў бухарынска-трацкісцкіх шпіёнаў, шкоднікаў, здраднікаў радзімы. Падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Совет СССР. Курс партыі на разгорнутую ўнутрыпартыйную дэмакратыю. Выбары ў Вярхоўны Совет СССР.

1937 год ускрыў новыя даныя аб звергах з бухарынска-трацкісцкай банды. Судовы працэс па справе Пятакова, Радэка і іншых, судовы працэс па справе Тухачэўскага, Якіра і іншых, нарэшце, судовы працэс па справе Бухарына, Рыкава, Крэсцінскага, Розенгольца і іншых,—усе гэтыя працэсы паказалі, што бухарынцы і трацкісты, аказваецца, даўно ўжо складалі адну агульную банду ворагаў народа пад выглядам «права-трацкісцкага блока».

Судовыя працэсы паказалі, што гэтыя падонкі чалавечага роду разам з ворагамі народа—Троцкім, Зіноўевым і Каменевым—былі ў змове супроць Леніна, супроць партыі, супроць Совецкай дзяржавы ўжо з першых дзён Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Права-

катарскія спробы зрыву брэсцкага міру ў пачатку 1918 года; змова супроць Леніна і зговар з «левымі» эсэрамі аб арышце і забойстве Леніна, Сталіна, Свердлова вясной 1918 года; зладзейскі выстрал у Леніна і раненне яго летам 1918 года; мяцеж «левых» эсэраў летам 1918 года; намеранае абвастрэнне рознагалоссяў у партыі ў 1921 годзе з мэтай расхістаць і звергнуць знутры кіраўніцтва Леніна; спробы звергнуць кіраўніцтва партыі ў часе хваробы і пасля смерці Леніна; выдача дзяржаўных тайн і снабжэнне шпіёнскімі весткамі замежных разведак; зладзейскае забойства Кірава; шкодніцтва, дыверсіі, узрывы; зладзейскае забойства Менжынскага, Куйбышэва, Горкага,—усе гэтыя і падобныя ім злодзеянні, аказваецца, праводзіліся на працягу дваццаці год пры ўдзеле або кіраўніцтве Троцкага, Зіноўева, Каменева, Бухарына, Рыкава і іх прыхвасняў—па заданнях замежных буржуазных разведак.

Судовыя працэсы выяснілі, што троцкісцка-бухарынскія ізвергі, выконваючы волю сваіх гаспадароў—замежных буржуазных разведак, ставілі сваёй мэтай разбурэнне партыі і совецкай дзяржавы, падрыў абароны краіны, аблягчэнне замежнай ваеннай інтэрвенцыі, падрыхтоўку паражэння Чырвонай арміі, расчляненне СССР, аддачу японцам совецкага Прымор'я, аддачу палякам совецкай Беларусі, аддачу немцам совецкай Украіны, знішчэнне заваяванняў рабочых і калгаснікаў, аднаўленне капіталістычнага рабства ў СССР.

Гэтыя белагвардзейскія пігмеі, сілу якіх можна было-б прыраўняць усяго толькі сіле нікчэмнай казяўкі, відаць, лічылі сябе—для пацехі—гаспадарамі краіны і ваабражалі, што яны сапраўды могуць раздаваць і прадаваць на старану Украіну, Беларусь, Прымор'е.

Гэтыя белагвардзейскія казяўкі забылі, што гаспадаром Совецкай краіны з'яўляецца Совецкі народ, а паны рыкавы, бухарыны, зіноўевы, каменевы з'яўляюцца ўсяго толькі—часова знаходзячыміся на службе ў дзяржавы, якая ў любую мінуту можа выкінуць іх са сваіх канцылярый, як непатрэбны хлам.

Гэтыя нікчэмныя лакеі фашыстаў забылі, што варта Совецкаму народу варухнуць пальцам, каб ад іх не асталося і следу.

Совецкі суд прыгаварыў бухарынска-троцкісцкіх ізвергаў к расстрэлу.

НКВД прывёў прыгавор у выкананне.

Совецкі народ адобрыў разгром бухарынска-троцкісцкай банды і перайшоў да чарговых спраў.

Чарговыя-ж справы заключаліся ў тым, каб падрыхтавацца да выбараў у Вярхоўны Совет СССР і правесці іх арганізавана.

Партыя разгарнула ва-ўсю падрыхтоўчую работу да выбараў. Партыя лічыла, што ўвядзенне новай Канстытуцыі СССР азначае паварот у палітычным жыцці краіны. Партыя лічыла, што паварот гэты заключаецца ў правядзенні поўнай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы, у пераходзе ад абмежавальных выбараў—да ўсеагульных выбараў, ад не ўпаўне роўных выбараў—да роўных, ад многаступенных выбараў—да прамых, ад адкрытых выбараў—да закрытых.

Калі да ўвядзення новай Канстытуцыі існавалі абмежаванні выбарчага права для служыцеляў культу, былых белагвардзейцаў, былых кулакоў і асоб, якія не займаюцца агульнакарыснай працай, то новая Канстытуцыя адкідае ўсякія абмежаванні выбарчага права для гэтых катэгорый грамадзян, робячы выбары дэпутатаў усеагульнымі.

Калі раней выбары дэпутатаў з'яўляліся няроўнымі, бо існавалі розныя нормы выбараў для гарадского і сельскага насельніцтва, то

цяпер неабходнасць абмежавання роўнасці выбараў адпала і ўсе грамадзяне маюць права ўдзельнічаць у выбарах на роўных падставах.

Калі раней выбары сярэдніх і вышэйшых органаў Совецкай улады былі многаступеннымі, то цяпер, па новай Канстытуцыі, выбары ва ўсе Советы ад сельскіх і гарадскіх аж да Вярхоўнага Совета павінны праводзіцца грамадзянамі непасрэдна шляхам прамых выбараў.

Калі раней выбары дэпутатаў у Советы праводзіліся адкрытым галасаваннем і па спісках, то цяпер галасаванне пры выбарах дэпутатаў павінна быць тайным і не па спісках, а па асобных кандыдатурах, вылучаемых па выбарчых акругах.

Гэта быў несумненны паварот у палітычным жыцці краіны.

Новая выбарчая сістэма павінна была прывесці і сапраўды прывяла да ўзмацнення палітычнай актыўнасці мас, да ўзмацнення кантролю мас у адносінах органаў Совецкай улады, да ўзмацнення адказнасці органаў Совецкай улады перад народам.

Каб сустрэць гэты паварот ва ўсеўзбраенні, партыя павінна была стаць на чале гэтага павароту і забяспечыць поўнасцю сваю кіруючую ролю ў надыходзячых выбарах. Але для гэтага неабходна было, каб партыйныя арганізацыі самі сталі ў сваёй практычнай рабоце да канца дэмакратычнымі, каб яны праводзілі поўнасцю ў сваім унутрыпартыйным жыцці асновы дэмакратычнага цэнтралізма, як гэтага патрабуе статут партыі, каб усе органы партыі з'яўляліся выбарнымі, каб крытыка і самакрытыка развіваліся ў партыі ў поўнай меры, каб адказнасць партыйных арганізацый перад партыйнай масай была поўная і каб сама партыйная маса была поўнасцю актывізавана.

З даклада т. Жданава на Пленуме ЦК, у канцы лютага 1937 года, па пытанню аб падрыхтоўцы партыйных арганізацый да выбараў у Вярхоўны Совет СССР—выяснілася, што цэлы рад партыйных арганізацый у сваёй практычнай рабоце скрозь і ўсюды нарушае статут партыі і асновы дэмакратычнага цэнтралізма, падмяняе выбарнасць—кааптацыяй, галасаванне па асобных кандыдатурах—галасаваннем па спіску, закрытае галасаванне—адкрытым галасаваннем і т. п. Зразумела, што такія арганізацыі з такой практыкай не маглі выканаць сваю задачу пры выбарах у Вярхоўны Совет. Неабходна было таму, перш за ўсё, ліквідаваць падобную антыдэмакратычную практыку партыйных арганізацый і перабудаваць партыйную работу на аснове разгорнутай дэмакратыі.

У сувязі з гэтым Пленум ЦК, заслухаўшы даклад т. Жданава, пастанавіў:

«а) Перабудаваць партыйную работу на аснове безумоўнага і поўнага правядзення ў жыццё пачаткаў унутрыпартыйнага дэмакратызма, прадпісваемага статутам партыі.

б) Ліквідаваць практыку кааптацыі ў члены парткамітэтаў і аднавіць, у адпаведнасці са статутам партыі, выбарнасць кіруючых органаў партарганізацый.

в) Забараніць пры выбарах парторганаў галасаванне па спіску,—галасаванне праводзіць па асобных кандыдатурах, забяспечыўшы пры гэтым за ўсімі членамі партыі неабмежаванае права адводу кандыдатаў і крытыкі апошніх.

г) Устанавіць пры выбарах парторганаў закрытае (тайнае) галасаванне кандыдатаў.

д) Правесці ва ўсіх партарганізацыях выбары парторганаў, пачынаючы ад парткамітэтаў пярвічных партарганізацый і кан-

чаючы краявымі, абласнымі камітэтамі і ЦК нацкомпартый, закончыўшы выбары не пазней 20 мая.

е) Абавязаць усе партарганізацыі строга захоўваць у адпаведнасці са статутам партыі тэрміны выбараў парторганаў: у пярвічных партарганізацыях—1 раз у год, у раённых і гарадскіх арганізацыях—1 раз у год, у абласных, краявых і рэспубліканскіх—1 раз у $1^{1}/_{2}$ года.

ж) Забяспечыць у пярвічных партарганізацыях строгае захоўванне парадку выбараў парткомаў на агульназаводскіх сходах, не дапускаючы падмены апошніх канферэнцыямі.

з) Ліквідаваць маючую месца ў радзе пярвічных партарганізацый практыку фактычнай адмены агульных сходаў і падмены агульнага схода цэхавымі сходамі і канферэнцыямі».

Так пачалася падрыхтоўка партыі да надыходзячых выбараў.

Гэтая пастанова ЦК мела велізарнае палітычнае значэнне. Яе значэнне заключалася не толькі ў тым, што яна паклала пачатак выбарчай кампаніі партыі па выбарах у Вярхоўны Совет СССР. Яе значэнне заключалася перш за ўсё ў тым, што яна дапамагла партыйным арганізацыям перабудавацца, правесці курс на ўнутрыпартыйную дэмакратыю і сустрэць ва ўсеўзбраенні выбары ў Вярхоўны Совет.

Разгортваючы выбарчую кампанію, партыя рашыла пакласці ў аснову сваёй выбарчай палітыкі ідэю выбарчага блока комуністаў і беспартыйных. Партыя пайшла на выбары ў блоку з беспартыйнымі, у саюзе з беспартыйнымі, рашыўшы выставіць разам з беспартыйнымі агульныя кандыдатуры па выбарчых акругах. Гэта было нешта нябачанае і зусім немагчымае ў практыцы выбарчых кампаній буржуазных краін. Але блок комуністаў і беспартыйных аказаўся зусім натуральнай з'явай для нашай краіны, дзе няма больш варожых класаў і дзе маральна-палітычнае адзінства ўсіх слаёў народа прадстаўляе бясспрэчны факт.

7 снежня 1937 года ЦК партыі выдаў зварот да ўсіх выбаршчыкаў. У гэтым звароце гаварылася:

> «12 снежня 1937 года працоўныя Совецкага Саюза на аснове нашай Соцыялістычнай Канстытуцыі будуць выбіраць дэпутатаў у Вярхоўны Совет Саюза ССР. Партыя большэвікоў выступае на выбарах у **блоку**, у **саюзе** з беспартыйнымі рабочымі, сялянамі, служачымі, інтэлігенцыяй... Партыя большэвікоў не адгароджваецца ад беспартыйных, а, наадварот, ідзе на выбары ў блоку, у саюзе з беспартыйнымі, ідзе ў блоку з прафесіянальнымі саюзамі рабочых і служачых, з комсамолам і іншымі арганізацыямі і таварыствамі беспартыйных. Значыць, кандыдаты ў дэпутаты будуць агульныя як для комуністаў, так і для беспартыйных, кожны беспартыйны дэпутат будзе таксама дэпутатам ад комуністаў, роўна як кожны комуністычны дэпутат будзе дэпутатам ад беспартыйных».

Зварот ЦК заканчваўся наступным заклікам да выбаршчыкаў:

> «Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў) заклікае ўсіх комуністаў і спачуваючых галасаваць за беспартыйных кандыдатаў з такім-жа аднадушшам, з якім яны павінны галасаваць за кандыдатаў-комуністаў.
>
> Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў) заклікае ўсіх беспартыйных выбаршчыкаў галасаваць за

кандыдатаў-комуністаў з такім-жа аднадушшам, з якім яны будуць галасаваць за беспартыйных кандыдатаў.

Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў) заклікае ўсіх выбаршчыкаў з'явіцца ўсім, як адзін, 12 снежня 1937 года да выбарчых урнаў для выбараў дэпутатаў у Совет Саюза і ў Совет Нацыянальнасцей.

Не павінна быць ні аднаго выбаршчыка, які не скарыстае свайго пачэснага права выбраць дэпутатаў у Вярхоўны орган Совецкай дзяржавы.

Не павінна быць ні аднаго актыўнага грамадзяніна, які-б не лічыў сваім грамадзянскім абавязкам садзейнічаць удзелу ўсіх без выключэння выбаршчыкаў у выбарах у Вярхоўны Совет.

Дзень 12 снежня 1937 года павінен стаць днём вялікага свята яднання працоўных усіх народаў СССР вакол пераможнага сцяга Леніна—Сталіна».

11 снежня 1937 года, напярэдадні выбараў, тав. Сталін выступіў у сваёй выбарчай акрузе, закрануўшы ў сваёй прамове пытанне аб тым, якімі дзеячамі павінны быць выбраннікі народа, дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР. Тав. Сталін сказаў:

«Выбаршчыкі, народ павінны патрабаваць ад сваіх дэпутатаў, каб яны аставаліся на вышыні сваіх задач; каб яны ў сваёй рабоце не спускаліся да ўзроўню палітычных абывацеляў; каб яны аставаліся на пасту палітычных дзеячоў ленінскага тыпу; каб яны былі такімі-ж яснымі і акрэсленымі дзеячамі, як Ленін; каб яны былі такімі-ж бясстрашнымі ў баі і бязлітаснымі да ворагаў народа, якім быў Ленін; каб яны былі свабодны ад усякай панікі, ад усякага падабенства панікі, калі справа пачынае ўскладняцца і на гарызонце вырысоўваецца якая-небудзь небяспека, каб яны былі гэтак сама свабодны ад усякага падабенства панікі, як быў свабодзен Ленін; каб яны былі гэтак сама мудры і непаспешлівы пры вырашэнні складаных пытанняў, дзе патрэбна ўсебаковая арыентацыя і ўсебаковы ўлік усіх плюсаў і мінусаў, якім быў Ленін; каб яны былі гэтак сама праўдзівы і чэсны, якім быў Ленін; каб яны гэтак сама любілі свой народ, як любіў яго Ленін».

12 снежня адбыліся выбары ў Вярхоўны Совет СССР. Выбары прайшлі з велізарным уздымам. Гэта былі не проста выбары, а вялікае свята, таржаство Совецкага народа, дэманстрацыя вялікай дружбы народаў СССР.

З 94 мільёнаў выбаршчыкаў прыняло ўдзел у выбарах 91 мільён з лішнім, гэта значыць 96,8 проціанта. З іх за блок комуністаў і беспартыйных галасавала 89 мільёнаў 844 тысячы чалавек, гэта значыць 98,6 проціанта. Толькі 632 тысячы чалавек, гэта значыць менш аднаго проціанта, галасавалі супроць кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных. Усе без выключэння кандыдаты блока комуністаў і беспартыйных аказаліся выбранымі.

Такім чынам, 90 мільёнаў чалавек пацвердзілі сваім аднадушным галасаваннем перамогу соцыялізма ў СССР.

Гэта была выдатная перамога блока комуністаў і беспартыйных.

Гэта быў трыумф партыі большэвікоў.

Маральна-палітычнае адзінства Совецкага народа, аб якім гаварыў т. Молатаў у сваёй гістарычнай прамове к 20-годдзю Кастрычніцкай рэволюцыі, атрымала тут сваё бліскучае пацвярджэнне.

у

## *ЗАКЛЮЧЭННЕ*

Якія асноўныя вынікі гістарычнага шляху, пройдзенага больш віцкай партыяй?

Чаму вучыць нас гісторыя ВКП(б)?

1) Гісторыя партыі вучыць, перш за ўсё, што перамога пролетарскай рэвалюцыі, перамога дыктатуры пролетарыята немагчым без рэвалюцыйнай партыі пролетарыята, свабоднай ад апартунізм непрымірымай у адносінах згоднікаў і капітулянтаў, рэвалюцыйна у адносінах буржуазіі і яе дзяржаўнай улады.

Гісторыя партыі вучыць, што пакінуць пролетарыят без тако партыі—значыць пакінуць яго без рэвалюцыйнага кіраўніцтва, пак нуць-жа яго без рэвалюцыйнага кіраўніцтва—значыць правалі справу пролетарскай рэвалюцыі.

Гісторыя партыі вучыць, што такой партыяй не можа быць зв чайная соцыял-дэмакратычная партыя заходне-еўрапейскага тып якая выхавана ва ўмовах грамадзянскага міру, якая пляцецца ў хвас за апартуністамі, марыць аб «соцыяльных рэформах» і баіцца с цыяльнай рэвалюцыі.

Гісторыя партыі вучыць, што такой партыяй можа быць толь партыя новага тыпу, марксісцка-ленінская партыя, партыя соцыял най рэвалюцыі, здольная падрыхтаваць пролетарыят да рашуч схватак з буржуазіяй і арганізаваць перамогу пролетарскай рэв люцыі.

Такой партыяй у СССР з'яўляецца большэвіцкая партыя.

> «У перыяд перадрэволюцыйны, гаворыць тав. Сталін, у п рыяд больш ці менш мірнага развіцця, калі партыі II Інтэрн цыянала прадстаўлялі ў рабочым руху пануючую сілу, а пар менцкія формы барацьбы лічыліся асноўнымі формамі,—у гэты умовах партыя не мела і не магла мець таго сур'ёзнага і р шаючага значэння, якое яна набыла потым, ва ўмовах адкрыты рэволюцыйных схватак. Абараняючы II Інтэрнацыянал ад н падак, Каўцкі гаворыць, што партыі II Інтэрнацыянала з'я ляюцца інструментам міру, а не вайны, што іменна таму я аказаліся не ў сілах прадпрыняць што-небудзь сур'ёзнае ў ча вайны, у перыяд рэволюцыйных выступленняў пролетарыя Гэта зусім верна. Але што гэта значыць? Гэта значыць, ш партыі II Інтэрнацыянала непрыгодны для рэволюцыйнай б рацьбы пролетарыята, што яны з'яўляюцца не баявымі парты пролетарыята, якія вядуць рабочых да ўлады, а выбарчым а ратам, прыстасаваным да парламенцкіх выбараў і парламенцк барацьбы. Гэтым уласна і аб'ясняецца той факт, што ў перы панавання апартуністаў II Інтэрнацыянала асноўнай палітыч арганізацыяй пролетарыята з'яўлялася не партыя, а парламе

кая фракцыя. Вядома, што на справе партыя ў гэты перыяд была прыдаткам і абслугоўваючым элементам парламенцкай фракцыі. Наўрад ці трэба даказваць, што ў такіх умовах і з такой партыяй на чале не магло быць і гутаркі аб падрыхтоўцы пролетарыята к рэволюцыі.

Справа, аднак, змянілася ў корані з наступленнем новага перыяду. Новы перыяд ёсць перыяд адкрытых сутычак класаў, перыяд рэволюцыйных выступленняў пролетарыята, перыяд пролетарскай рэволюцыі, перыяд прамой падрыхтоўкі сіл да звярржэння імперыялізма, да захвату ўлады пролетарыятам. Гэты перыяд ставіць перад пролетарыятам новыя задачы аб перабудове ўсёй партыйнай работы на новы, рэволюцыйны лад, аб выхаванні рабочых у духу рэволюцыйнай барацьбы за ўладу, аб падрыхтоўцы і падцягванні рэзерваў, аб саюзе з пролетарыямі суседніх краін, аб устанаўленні моцных сувязей з вызваленчым рухам калоній і залежных краін і т. д. і т. п. Думаць, што гэтыя новыя задачы могуць быць вырашаны сіламі старых соцыял-дэмакратычных партый, выхаваных у мірных умовах парламентарызма,—значыць асудзіць сябе на безнадзейнае адчаянне, на немінучае паражэнне. Аставацца з такімі задачамі на плячах пры старых партыях на чале—значыць аказацца ў стане поўнага раззбраення. Наўрад ці трэба даказваць, што пролетарыят не мог прымірыцца з такім становішчам.

Адсюль неабходнасць новай партыі, партыі баявой, партыі рэволюцыйнай, дастаткова смелай для таго, каб павесці пролетарыяў на барацьбу за ўладу, дастаткова вопытнай для таго, каб разабрацца ў складаных умовах рэволюцыйнай абстаноўкі, і дастаткова гібкай для таго, каб абыйсці ўсе і ўсякія падводныя камені на шляху да мэты.

Без такой партыі няма чаго і думаць аб звярржэнні імперыялізма, аб заваяванні дыктатуры пролетарыята.

Гэтая новая партыя ёсць партыя ленінізма» (**Сталін**, Пытанні ленінізма, стар. 62—63).

2) Гісторыя партыі вучыць, далей, што партыя рабочага класа не можа выканаць ролі кіраўніка свайго класа, не можа выканаць ролі арганізатара і кіраўніка пролетарскай рэволюцыі, калі яна не аўладала перадавой тэорыяй рабочага руху, калі яна не аўладала марксісцка-ленінскай тэорыяй.

Сіла марксісцка-ленінскай тэорыі заключаецца ў тым, што яна дае партыі магчымасць арыентавацца ў абстаноўцы, зразумець унутраную сувязь акружаючых падзей, прадбачыць ход падзей і распазнаць не толькі тое, як і куды развіваюцца падзеі ў сучасным, але і тое, як і куды яны павінны развівацца ў будучым.

Толькі партыя, якая аўладала марксісцка-ленінскай тэорыяй, можа ісці ўперад упэўнена і весці рабочы клас уперад.

І, наадварот, партыя, якая не аўладала марксісцка-ленінскай тэорыяй, вымушана брадзіць вобмацкам, траціць упэўненасць у сваіх дзеяннях, не здольна весці ўперад рабочы клас.

Можа здацца, што аўладаць марксісцка-ленінскай тэорыяй—значыць добрасумленна завучыць асобныя вывады і палажэнні, якія ёсць у творах Маркса—Энгельса—Леніна, навучыцца своечасова цытаваць іх і супакоіцца на гэтым, спадзеючыся, што завучаныя вывады і палажэнні будуць прыгодны для любой абстаноўкі, на ўсе выпадкі

жыцця. Але такі падыход да марксісцка-ленінскай тэорыі з'яўляецца зусім няправільным. Марксісцка-ленінскую тэорыю нельга разглядаць, як збор догматаў, як катэхізіс, як сімвал веры, а саміх марксістаў,— як буквоедаў і начотчыкаў. Марксісцка-ленінская тэорыя ёсць навука аб развіцці грамадства, навука аб рабочым руху, навука аб пролетарскай рэволюцыі, навука аб будаўніцтве комуністычнага грамадства. Яна, як навука, не стаіць і не можа стаяць на адным месцы,— яна развіваецца і ўдасканальваецца. Зразумела, што ў сваім развіцці яна не можа не ўзбагачацца новым вопытам, новымі ведамі, а асобныя яе палажэнні і вывады не могуць не змяняцца з цягам часу, не могуць не замяняцца новымі вывадамі і палажэннямі, адпавядаючымі новым гістарычным умовам.

Авладаць марксісцка-ленінскай тэорыяй зусім не значыць—завучыць усе яе формулы і вывады і чапляцца за кожную букву гэтых формул і вывадаў. Каб авладаць марксісцка-ленінскай тэорыяй, трэба, перш за ўсё, навучыцца адрозніваць паміж яе буквай і сутнасцю.

Авладаць марксісцка-ленінскай тэорыяй—значыць усвоіць **сутнасць** гэтай тэорыі і навучыцца карыстацца гэтай тэорыяй пры вырашэнні практычных пытанняў рэволюцыйнага руху ў розных умовах класавай барацьбы пролетарыята.

Авладаць марксісцка-ленінскай тэорыяй—значыць умець **узбагачаць гэтую тэорыю новым вопытам** рэволюцыйнага руху, умець узбагачаць яе новымі палажэннямі і вывадамі, умець **развіваць яе і рухаць уперад,** не спыняючыся перад тым, каб, выходзячы з сутнасці тэорыі, замяніць некаторыя яе палажэнні і вывады, якія сталі ўжо ўстарэлымі, новымі палажэннямі і вывадамі, адпавядаючымі новай гістарычнай абстаноўцы.

Марксісцка-ленінская тэорыя ёсць не догма, а кіраўніцтва к дзеянню.

Да другой рускай рэволюцыі (люты 1917 г.) марксісты ўсіх краін выходзілі з таго, што парламентарная дэмакратычная рэспубліка з'яўляецца найбольш мэтазгоднай формай палітычнай арганізацыі грамадства ў перыяд пераходу ад капіталізма да соцыялізма. Праўда, Маркс указваў у 70-х годах, што не парламентарная рэспубліка, а палітычная арганізацыя тыпу Парыжскай комуны з'яўляецца найбольш мэтазгоднай формай дыктатуры пролетарыята. Але, на жаль, гэтае ўказанне Маркса не атрымала далейшага развіцця ў працах Маркса і было аддана забыццю. Апрача таго, аўтарытэтная заява Энгельса ў яго крытыцы праекта Эрфурцкай праграмы ў 1891 годзе аб тым, што «дэмакратычная рэспубліка... з'яўляецца... спецыфічнай формай для дыктатуры пролетарыята», не пакідала сумнення, што марксісты прадаўжаюць лічыць дэмакратычную рэспубліку палітычнай формай для дыктатуры пролетарыята. Гэта палажэнне Энгельса стала потым кіруючым пачаткам для ўсіх марксістаў, у тым ліку і для Леніна. Аднак, руская рэволюцыя 1905 года і, асабліва, рэволюцыя ў лютым 1917 года выставіла новую форму палітычнай арганізацыі грамадства—Советы рабочых і сялянскіх дэпутатаў. На падставе вывучэння вопыту двух рэволюцый у Расіі Ленін, выходзячы з тэорыі марксізма, прышоў да вываду, што найлепшай палітычнай формай дыктатуры пролетарыята з'яўляецца не парламентарная дэмакратычная рэспубліка, а рэспубліка Советаў. На гэтай падставе Ленін у красавіку 1917 года, у перыяд пераходу ад буржуазнай рэволюцыі да соцыялістычнай, выставіў лозунг арганізацыі рэспублікі Советаў, як лепшай палітычнай формы дыктатуры пролетарыята. Апартуністы ўсіх краін

пачалі чапляцца за парламентарную рэспубліку, абвінавачваючы Леніна ў адыходзе ад марксізма, у разбурэнні дэмакратыі. Але сапраўдным марксістам, аўладаўшым тэорыяй марксізма, быў, вядома, Ленін, а не апартуністы, бо Ленін рухаў уперад марксісцкую тэорыю, узбагачаючы яе новым вопытам, а апартуністы цягнулі яе назад, ператваралі адно з яе палажэнняў у догму.

Што было-б з партыяй, з нашай рэволюцыяй, з марксізмам, калі-б Ленін спасаваў перад буквай марксізма і не рашыўся замяніць адно з старых палажэнняў марксізма, сфармуляванае Энгельсам, новым палажэннем аб рэспубліцы Советаў, адпавядаючым новай гістарычнай абстаноўцы? Партыя блукала-б у пацёмках, Советы былі-б дэзарганізаваны, мы не мелі-б Совецкай улады, марксісцкая тэорыя пацярпела-б сур'ёзны ўрон. Прайграў-бы пролетарыят, выйгралі-б ворагі пролетарыята.

Вывучаючы даімперыялістычны капіталізм, Энгельс і Маркс прышлі да вываду, што соцыялістычная рэволюцыя не можа перамагчы ў адной, асобна ўзятай, краіне, што яна можа перамагчы толькі пры адначасовым удары ва ўсіх або ў большасці цывілізаваных краін. Гэта было ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Гэты вывад стаў потым кіруючым палажэннем для ўсіх марксістаў. Аднак, к пачатку XX стагоддзя капіталізм даімперыялістычны перарос у капіталізм імперыялістычны, капіталізм узыходзячы ператварыўся ў капіталізм паміраючы. На падставе вывучэння імперыялістычнага капіталізма Ленін, зыходзячы з марксісцкай тэорыі, прышоў да вываду, што старая формула Энгельса і Маркса ўжо не адпавядае новай гістарычнай абстаноўцы, што соцыялістычная рэволюцыя ўпаўне можа перамагчы ў адной, асобна ўзятай, краіне. Апартуністы ўсіх краін пачалі чапляцца за старую формулу Энгельса і Маркса, абвінавачваючы Леніна ў адыходзе ад марксізма. Але сапраўдным марксістам, аўладаўшым тэорыяй марксізма, быў, вядома, Ленін, а не апартуністы, бо Ленін рухаў уперад марксісцкую тэорыю, узбагачаючы яе новым вопытам, а апартуністы цягнулі яе назад, ператваралі яе ў мумію.

Што было-б з партыяй, з нашай рэволюцыяй, з марксізмам, калі-б Ленін спасаваў перад буквай марксізма, калі-б у яго нехапіла тэарэтычнай мужнасці адкінуць адзін з старых вывадаў марксізма, замяніўшы яго новым вывадам аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной, асобна ўзятай, краіне, адпавядаючым новай гістарычнай абстаноўцы? Партыя блукала-б у пацёмках, пролетарская рэволюцыя страціла-б кіраўніцтва, марксісцкая тэорыя пачала-б хірэць. Прайграў-бы пролетарыят, выйгралі-б ворагі пролетарыята.

Апартунізм не заўсёды азначае прамое адмаўленне марксісцкай тэорыі або яе асобных палажэнняў і вывадаў. Апартунізм праяўляецца часам у спробах учапіцца за асобныя палажэнні марксізма, стаўшыя ўжо ўстарэлымі, і ператварыць іх у догмы, каб затрымаць тым самым далейшае развіццё марксізма,—значыць,—затрымаць таксама развіццё рэволюцыйнага руху пролетарыята.

Можна сказаць без пераўвелічэння, што пасля смерці Энгельса найвялікшы тэарэтык Ленін, а пасля Леніна—Сталін і іншыя вучні Леніна—былі адзінымі марксістамі, якія рухалі ўперад марксісцкую тэорыю і ўзбагацілі яе новым вопытам у новых умовах класавай барацьбы пролетарыята.

І іменна таму, што Ленін і ленінцы рушылі ўперад марксісцкую тэорыю, ленінізм з'яўляецца далейшым развіццём марксізма, марксізмам у новых умовах класавай барацьбы пролетарыята, марксізмам

эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый, марксізмам эпохі перамогі соцыялізма на адной шостай частцы зямлі.

Партыя большэвікоў не здолела-б перамагчы ў Кастрычніку 1917 года, калі-б яе перадавыя кадры не аўладалі тэорыяй марксізма, калі-б яны не навучыліся глядзець на гэтую тэорыю, як на кіраўніцтва к дзеянню, калі-б яны не навучыліся рухаць уперад марксісцкую тэорыю, узбагачаючы яе новым вопытам класавай барацьбы пролетарыята.

Крытыкуючы нямецкіх марксістаў у Амерыцы, якія ўзялі на сябе справу кіраўніцтва амерыканскім рабочым рухам, Энгельс пісаў:

> «Немцы не здолелі зрабіць са сваёй тэорыі рычаг, які прывёў-бы ў рух амерыканскія масы. Яны ў большасці выпадкаў самі не разумеюць гэтай тэорыі і адносяцца да яе дактрынёрскі і дагматычна, лічачы, што яе трэба вывучыць напамяць—і гэтага ўжо дастаткова на ўсе выпадкі жыцця. Для іх гэта догма, а не кіраўніцтва к дзеянню» (**К. Маркс** і **Ф. Энгельс**, т. XXVII, стар. 606).

Крытыкуючы Каменева і некаторых старых большэвікоў, якія чапляліся ў красавіку 1917 года за старую формулу рэволюцыйнай дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства, у той час, як рэволюцыйны рух пайшоў уперад, патрабуючы пераходу да соцыялістычнай рэволюцыі,—Ленін пісаў:

> «Наша вучэнне не догма, а кіраўніцтва для дзеяння—так гаварылі заўсёды Маркс і Энгельс, якія справядліва здзекваліся над завучваннем і простым паўтарэннем «формул», здольных у лепшым выпадку толькі намячаць **агульныя** задачы, неабходна відазмяняемыя **канкрэтнай** эканамічнай і палітычнай абстаноўкай кожнай асобай **паласы** гістарычнага працэсу... Неабходна ўсвоіць сабе тую бясспрэчную ісціну, што марксіст павінен улічваць жывое жыццё, дакладныя факты **рэчаіснасці**, а не прадаўжаць чапляцца за тэорыю ўчарашняга дня...» (**Ленін**, т. XX, стар. 100—101).

3) Гісторыя партыі вучыць, далей, што без разгрому дробнабуржуазных партый, якія дзейнічаюць у радах рабочага класа, якія штурхаюць адсталыя слаі рабочага класа ў абдымкі буржуазіі і разбіваюць, такім чынам, адзінства рабочага класа,—немагчыма перамога пролетарскай рэволюцыі.

Гісторыя нашай партыі ёсць гісторыя барацьбы і разгрому дробнабуржуазных партый: эсэраў, меншавікоў, анархістаў, нацыяналістаў. Без пераадалення такіх партый і выгнання іх з радоў рабочага класа немагчыма было-б дабіцца адзінства рабочага класа, а без адзінства рабочага класа—немагчыма было-б ажыццявіць перамогу пролетарскай рэволюцыі.

Без разгрому гэтых партый, якія стаялі спачатку за захаванне капіталізма, а потым, пасля Кастрычніцкай рэволюцыі—за аднаўленне капіталізма, немагчыма было-б захаваць дыктатуру пролетарыята, перамагчы замежную ваенную інтэрвенцыю, пабудаваць соцыялізм.

Нельга лічыць выпадковасцю, што ўсе дробнабуржуазныя партыі, якія іменавалі сябе для абману народа «рэволюцыйнымі» і «соцыялістычнымі» партыямі—эсэры, меншавікі, анархісты, нацыяналісты—сталі контррэволюцыйнымі партыямі ўжо перад Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыяй, а ў далейшым ператварыліся ў агентаў

замежных буржуазных разведак, у банду шпіёнаў, шкоднікаў, дыверсантаў, забойцаў, здраднікаў радзімы.

«Адзінства пролетарыята, гаворыць Ленін, у эпоху соцыяльнай рэволюцыі можа быць ажыццёўлена толькі крайняй рэволюцыйнай партыяй марксізма, толькі бязлітаснай барацьбой супроць усіх астатніх партый» (**Ленін**, т. XXVI, стар. 50).

4) Гісторыя партыі вучыць, далей, што без непрымірымай барацьбы з апартуністамі ў сваіх уласных радах, без разгрому капітулянтаў у сваім уласным асяроддзі партыя рабочага класа не можа захаваць адзінства і дысцыпліну сваіх радоў, не можа выканаць сваю ролю арганізатара і кіраўніка пролетарскай рэволюцыі, не можа выканаць сваю ролю будаўніка новага, соцыялістычнага грамадства.

Гісторыя развіцця ўнутранага жыцця нашай партыі ёсць гісторыя барацьбы і разгрому апартуністычных груп унутры партыі—«эканамістаў», меншавікоў, трацкістаў, бухарынцаў, нацыянал-ухілістаў.

Гісторыя партыі вучыць, што ўсе гэтыя капітулянцкія групы з'яўляліся па сутнасці справы агентамі меншавізма ўнутры нашай партыі, яго ахвосцем, яго прадаўжэннем. Яны, як і меншавізм, выконвалі ролю праваднікоў буржуазнага ўплыву ў рабочым класе і ў партыі. Таму барацьба за ліквідацыю гэтых груп у партыі была прадаўжэннем барацьбы за ліквідацыю меншавізма.

Не разбіўшы «эканамістаў» і меншавікоў, мы не змаглі-б пабудаваць партыю і павесці рабочы клас на пролетарскую рэволюцыю.

Не разбіўшы трацкістаў і бухарынцаў, мы не змаглі-б падрыхтаваць умовы, неабходныя для пабудовы соцыялізма.

Не разбіўшы нацыянал-ухілістаў усіх і ўсякіх масцей, мы не змаглі-б выхаваць народ у духу інтэрнацыяналізма, не змаглі-б адстаяць сцяг вялікай дружбы народаў СССР, не змаглі-б пабудаваць Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Можа здацца, што большэвікі надта многа часу ўдзялялі справе барацьбы з апартуністычнымі элементамі ў партыі, што яны пераацэньвалі іх значэнне. Але гэта зусім няверна. Нельга цярпець у сваім асяроддзі апартунізм, як нельга цярпець язву ў здаровым арганізме. Партыя ёсць кіруючы атрад рабочага класа, яго перадавая крэпасць, яго баявы штаб. Нельга дапускаць, каб у кіруючым штабе рабочага класа сядзелі малаверы, апартуністы, капітулянты, прэдацелі. Весці смяртэльную барацьбу з буржуазіяй, маючы капітулянтаў і прэдацеляў у сваім уласным штабе, у сваёй уласнай крэпасці—гэта значыць папасці ў становішча людзей, абстрэльваемых і з фронта і з тылу. Не цяжка зразумець, што такая барацьба можа кончыцца толькі паражэннем. Крэпасці лягчэй за ўсё бяруцца знутры. Каб дабіцца перамогі, трэба, перш за ўсё, ачысціць партыю рабочага класа, яго кіруючы штаб, яго перадавую крэпасць—ад капітулянтаў, ад дэзертыраў, ад штрэйкбрэхераў, ад прэдацеляў.

Нельга лічыць выпадковасцю, што трацкісты, бухарынцы, нацыянал-ухілісты, змагаючыся з Леніным, змагаючыся з партыяй, кончылі тым-жа, чым кончылі партыі меншавікоў і эсэраў,—сталі агентамі фашысцкіх разведак, сталі шпіёнамі, шкоднікамі, забойцамі, дыверсантамі, здраднікамі радзімы.

«Маючы ў сваіх радах рэфармістаў, меншавікоў, гаворыць Ленін, **нельга** перамагчы ў пролетарскай рэволюцыі, **нельга** адстаяць яе. Гэта відавочна прынцыпова. Гэта пацверджана наглядна вопытам і Расіі і Венгрыі... У Расіі **многа разоў** бы-

вала цяжкае становішча, калі **наверняка** быў-бы звергнут со-
вецкі рэжым, калі-б меншавікі, рэфармісты, дробнабуржуазны
дэмакраты аставаліся ўнутры нашай партыі...» **(Ленін,** т. XXV
стар. 462—463).

«Калі нашай партыі, гаворыць тав. Сталін, удалося ствары
у сабе ўнутранае адзінства і небывалую згуртаванасць сваі
радоў,—то гэта, перш за ўсё, таму, што яна здолела своечасов
ачысціцца ад скверны апартунізма, яна здолела выгнаць во
з партыі ліквідатараў, меншавікоў. Шлях развіцця і ўмацаван
пролетарскіх партый праходзіць праз іх ачышчэнне ад апарт
ністаў і рэфармістаў, соцыял-імперыялістаў і соцыял-шавініста
соцыял-патрыётаў і соцыял-пацыфістаў. Партыя ўмацоўваец
тым, што ачышчае сябе ад апартуністычных элементаў» **(Сталі**
Пытанні ленінізма, стар. 72).

5) Гісторыя партыі вучыць, далей, што партыя не можа выканаш
сваёй ролі кіраўніка рабочага класа, калі яна, захапіўшыся посп
хамі, пачынае зазнавацца, калі яна перастае заўважаць недахоп
сваёй работы, калі яна баіцца прызнаць свае памылкі, баіцца сво
часова выправіць іх адкрыта і чэсна.

Партыя непераможна, калі яна не баіцца крытыкі і самакрыты
калі яна не замазвае памылак і недахопаў сваёй работы, калі яна ву
чыць і выхоўвае кадры на памылках партыйнай работы, калі я
ўмее своечасова выпраўляць свае памылкі.

Партыя гіне, калі яна скрывае свае памылкі, затушоўвае балюч
пытанні, прыкрывае свае недачоты фальшывым парадам благапал
чыя, не церпіць крытыкі і самакрытыкі, пранікаецца пачуццём сам
здаволенасці, аддаецца пачуццю самаўлюбёнасці і пачынае пачыва
на лаўрах.

«Адносіны палітычнай партыі, гаворыць Ленін, да яе пам
лак ёсць адзін з важнейшых і вярнейшых крытэрыяў сур
ёзнасці партыі і выканання ёю **на справе** яе абавязкаў
свайго **класа** і да працоўных **мас.** Адкрыта прызнаць памылк
ускрыць яе прычыны, прааналізаваць абстаноўку, яе парад
шую, абмеркаваць уважліва сродкі выправіць памылку—во
гэта прызнак сур'ёзнай партыі, вось гэта выкананне ёю св
абавязкаў, вось гэта—выхаванне і абучэнне **класа,** а зат
і **масы» (Ленін,** т. XXV, стар. 200).

І далей:

«Усе рэволюцыйныя партыі, якія да гэтага часу гінулі,
гінулі ад таго, што **зазнаваліся** і не ўмелі бачыць, у чым іх сі
**і баяліся гаварыць аб сваіх слабасцях.** А мы не загінем, та
што не баімся гаварыць аб сваіх слабасцях, і навучымся пе
адаляваць слабасць» **(Ленін,** т. XXVII, стар. 260—261).

6) Нарэшце, гісторыя партыі вучыць, што без шырокіх сувя
з масамі, без пастаяннага ўмацавання гэтых сувязей, без умен
прыслухоўвацца да голасу мас і разумець іх набалеўшыя патрэ
без гатоўнасці не толькі вучыць масы, але і вучыцца ў мас,—парт
рабочага класа не можа быць сапраўды масавай партыяй, здольн
весці за сабой мільёны рабочага класа і ўсіх працоўных.

Партыя непераможна, калі яна ўмее, як гаворыць Ленін, «зв
зацца, зблізіцца, да пэўнай ступені, калі хочаце, зліцца з самай ш
рокай масай працоўных, у першую чаргу пролетарскай, але такс
і з непролетарскай працоўнай масай» **(Ленін,** т. XXV, стар. 174).

Партыя гіне, калі яна замыкаецца ў сваю вузка-партыйную шкарлупу, калі яна адрываецца ад мас, калі яна пакрываецца бюракратычным налётам.

«Можна прызнаць, як правіла, гаворыць тав. Сталін, што пакуль большэвікі захоўваюць сувязь з шырокімі масамі народа, яны будуць непераможнымі. І, наадварот, варта большэвікам адарвацца ад мас і страціць сувязь з імі, варта ім пакрыцца бюракратычнай іржою, каб яны страцілі ўсякую сілу і ператварыліся ў пустышку.

У старажытных грэкаў у сістэме іх міфалогіі быў адзін знаміты герой—Антэй, які быў, як апавядае міфалогія, сынам Пасейдона—бога мораў, і Геі—багіні зямлі. Ён адчуваў асаблівую прывязанасць да мацеры сваёй, якая яго нарадзіла, ускарміла і выхавала. Не было такога героя, якога-б ён не перамог—гэты Антэй. Ён лічыўся непераможным героем. У чым заключалася яго сіла? Яна заключалася ў тым, што кожны раз, калі яму ў барацьбе з праціўнікам прыходзілася туга, ён дакранаўся да зямлі, да сваёй мацеры, якая нарадзіла і ўскарміла яго, і атрымліваў новую сілу. Але ў яго было ўсё-такі сваё слабое месца—гэта небяспека быць якім-небудзь чынам адарваным ад зямлі. Ворагі ўлічвалі гэтую яго слабасць і падпільноўвалі яго. І вось знайшоўся вораг, які скарыстаў гэтую яго слабасць і перамог яго. Гэта быў Геркулес. Але як ён яго перамог? Ён адарваў яго ад зямлі, падняў на паветра, адняў у яго магчымасць дакрануцца да зямлі і задушыў яго, такім чынам, у паветры.

Я думаю, што большэвікі напамінаюць нам героя грэчаскай міфалогіі, Антэя. Яны, таксама, як і Антэй, сільны тым, што трымаюць сувязь са сваёй мацер'ю, з масамі, якія парадзілі, ускармілі і выхавалі іх. І пакуль яны трымаюць сувязь са сваёй мацер'ю, з народам, яны маюць усе шансы на тое, каб астацца непераможнымі.

У гэтым ключ непераможнасці большэвіцкага кіраўніцтва» (**Сталін,** «Аб недахопах партыйнай работы»).

Такія вось асноўныя ўрокі гістарычнага шляху, пройдзенага большэвіцкай партыяй.

*Канец.*

# Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам „Кароткага курса гісторыі ВКП(б)“

## *Пастанова ЦК ВКП(б)*

I.

Выхад у свет «Кароткага курса гісторыі Усесаюзнай комуністычнай партыі (большэвікоў)» з'яўляецца буйнейшай падзеяй у ідэйным жыцці большэвіцкай партыі. Са з'яўленнем «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» партыя атрымала новую магутную ідэйную зброю большэвізма, энцыклапедыю асноўных ведаў у галіне марксізма-ленінізма. Курс гісторыі партыі—навуковая гісторыя большэвізма. У ёй выкладзен і абагулен гіганцкі вопыт комуністычнай партыі, роўнага якому не мела і не мае ні адна партыя ў свеце.

«Кароткі курс гісторыі Усесаюзнай комуністычнай партыі (большэвікоў)» з'яўляецца важнейшым сродкам у справе вырашэння задачы авалодання большэвізмам, узбраення членаў партыі марксісцка-ленінскай тэорыяй, г. зн. веданнем законаў грамадскага развіцця і палітычнай барацьбы, сродкам павышэння палітычнай пільнасці партыйных і непартыйных большэвікоў, сродкам узняцця справы прапаганды марксізма-ленінізма на належную тэарэтычную вышыню.

Ствараючы «Кароткі курс гісторыі Усесаюзнай комуністычнай партыі (большэвікоў)», ЦК ВКП(б) зыходзіў з наступных задач:

1) Неабходна было даць партыі адзінае кіраўніцтва па гісторыі партыі, кіраўніцтва, прадстаўляючае афіцыяльнае, праверанае ЦК ВКП(б) тлумачэнне асноўных пытанняў гісторыі ВКП(б) і марксізма-ленінізма, не дапускаючае ніякіх адвольных тлумачэнняў. Выданнем «Курса гісторыі ВКП(б)», адобранага ЦК ВКП(б), кладзецца канец самавольству і неразбярысе ў выкладанні гісторыі партыі, мноству розных пунктаў погляду і адвольных тлумачэнняў важнейшых пытанняў партыйнай тэорыі і гісторыі партыі, якія мелі месца ў радзе раней выданых падручнікаў па гісторыі партыі.

2) Ствараючы «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», ЦК ВКП(б) ставіў сваёй задачай ліквідаваць шкодны разрыў у галіне прапаганды паміж марксізмам і ленінізмам, які стварыўся за апошнія годы і які прывёў да таго, што ленінізм пачалі выкладаць, як самастойнае вучэнне ў адрыве ад марксізма, у адрыве ад дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма, у адрыве ад гісторыі партыі, забываючы, што ленінізм вырас і развіўся на аснове марксізма, што марксізм ёсць аснова

ленінізма, што, не ведаючы гэтай асновы ленінізма, нельга зразумець ленінізм.

Ствараючы «Курс гісторыі ВКП(б)», ЦК ВКП(б) ставіў сваёй задачай даць такое кіраўніцтва па тэорыі і гісторыі ВКП(б), у якім былі-б з'яднаны ў адно цэлае штучна расшчэпленыя састаўныя часткі адзінага марксісцка-ленінскага вучэння—дыялектычны і гістарычны матэрыялізм і ленінізм, а гістарычны матэрыялізм быў-бы звязан з палітыкай партыі,—кіраўніцтва, у якім было-б паказана непарыўнае адзінства, цэласнасць і прэемственасць вучэння Маркса і Леніна, адзінства марксізма-ленінізма, і выкладзена тое новае, што ўнесена Леніным і яго вучнямі ў марксісцкую тэорыю на аснове абагульнення новага вопыту класавай барацьбы пролетарыята ў эпоху імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый.

3) У процілегласць некаторым старым падручнікам, выкладаўшым гісторыю ВКП(б) перш за ўсё вакол гістарычных асоб і меўшым на ўвазе выхаванне кадраў на асобах і іх біяграфіях,—«Кароткі курс» выкладае гісторыю партыі на базе разгортвання асноўных ідэй марксізма-ленінізма і мае на ўвазе выхаванне партыйных кадраў, у першую чаргу, на ідэях марксізма-ленінізма.

Ствараючы «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», ЦК ВКП(б) зыходзіў з задачы прэпаднесці вучэнне марксізма-ленінізма на аснове гістарычных фактаў. ЦК ВКП(б) меў на ўвазе, што такое выкладанне марксісцка-ленінскай тэорыі найбольш адказвае інтарэсам справы, бо на гістарычных фактах лепш, больш натуральна і зразумела дэманстраваць асноўныя ідэі марксізма-ленінізма, бо сама гісторыя ВКП(б) ёсць марксізм-ленінізм у дзеянні, бо правільнасць і жыццёвасць марксісцка-ленінскай тэорыі правераны практыкай, на вопыце класавай барацьбы пролетарыята, і сама марксісцка-ленінская тэорыя развівалася і ўзбагачалася ў цяснейшай сувязі з практыкай, на аснове абагульнення практычнага вопыту рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята.

4) Ствараючы «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», ЦК ВКП(б) ставіў задачу аслабаніць марксісцкую літаратуру ад упрашчэнства і вульгарызацыі ў тлумачэнні раду пытанняў тэорыі марксізма-ленінізма і гісторыі партыі.

Такога роду вульгарызацыя і ўпрашчэнства знайшлі выражэнне, напрыклад, у распаўсюджаных да апошняга часу, яўна антымарксісцкіх і даўно асуджаных партыяй, поглядаў аб ролі асобы ў гісторыі, калі пытанне аб ролі асобы ў гісторыі выкладалася некаторымі ілжэ-тэарэтыкамі і прапагандыстамі з поўэсэраўскіх пазіцый.

Да такога роду вульгарызатарства і ўпрашчэнства марксізма-ленінізма адносіцца няправільнае тлумачэнне пытання аб перамозе соцыялізма ў нашай краіне.

Шырокае распаўсюджанне набылі скажэнні марксісцка-ленінскіх поглядаў па пытанню аб характары войн у сучасную эпоху, неразуменне адрознення паміж войнамі справядлівымі і несправядлівымі, няправільны погляд на большэвікоў, як на свайго роду «пацыфістаў».

У гістарычнай навуцы да апошняга часу антымарксісцкія скажэнні і вульгарызатарства былі звязаны з так званай «школай» Пакроўскага, якая тлумачыла гістарычныя факты скажона, наперакор гістарычнаму матэрыялізму, асвятляла іх з пункту гледжання сённешняга дня, а не з пункту гледжання тых умоў, у абстаноўцы якіх

працякалі гістарычныя падзеі, і, тым самым, скажала сапраўдную гісторыю.

Антыгістарычная фальсіфікацыя сапраўднай гісторыі, антыгістарычныя спробы прыўкрасіць гісторыю, замест праўдзівага яе выкладання, прыводзілі, напрыклад, к таму, што ў нашай прапагандзе гісторыя партыі паказвалася іншы раз, як суцэльны шлях перамог, без якіх-бы там ні было часовых паражэнняў і адступленняў, што яўна супярэчыць гістарычнай праўдзе і, тым самым, перашкаджае правільнаму выхаванню кадраў.

Антымарксісцкая вульгарызатарская блытаніна праявілася так-сама ў распаўсюджванні няправільных поглядаў на савецкую дзяржаву, у прыніжэнні ролі і значэння соцыялістычнай дзяржавы, як галоўнай зброі ў руках рабочых і сялян для перамогі соцыялізма і для абароны соцыялістычных заваяванняў працоўных ад капіталістычнага акружэння.

«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» кладзе канец гэтай і таму падобнай вульгарызацыі і апашленню марксізма-ленінізма, аднаўляючы ўстаноўкі марксізма-ленінізма.

5) Ствараючы «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», ЦК ВКП(б) ставіў сваёй задачай наглядна прадэманстраваць сілу і значэнне марксісцка-ленінскай тэорыі, навукова раскрываючай законы развіцця грамадства,—тэорыі, якая вучыць прымяняць гэтыя законы для кіраўніцтва рэволюцыйнай дзейнасцю пролетарыята,—тэорыі, якая, як і ўсякая навука, бесперапынна развіваецца і ўдасканальваецца і якая не баіцца замяняць асобныя ўстарэлыя палажэнні і вывады новымі вывадамі і палажэннямі, адпавядаючымі новым гістарычным умовам.

ЦК ВКП(б) выходзіў з таго, што без ведання тэорыі марксізма-ленінізма, без авалодання большэвізмам, без перамагання сваёй тэарэтычнай адсталасці нашы кадры будуць кульгаць на абедзве нагі, бо задача правільнага кіраўніцтва ўсімі галінамі соцыялістычнага будаўніцтва патрабуе авалодання з боку практыкаў асновамі марксісцка-ленінскай тэорыі, патрабуе ўмення кіравацца тэорыяй пры вырашэнні пытанняў практычнай дзейнасці.

Памылкова думаць, нібы задача авалодання тэорыяй пасільна толькі невялікаму кругу работнікаў. Авалоданне марксісцка-ленінскай тэорыяй—справа нажыўная. Іменна цяпер, пры савецкай уладзе і перамозе соцыялізма ў СССР, створаны неабмежаваныя магчымасці для таго, каб нашы кіруючыя кадры паспяхова авалодвалі марксісцка-ленінскай тэорыяй, вывучылі гісторыю партыі, працы Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна. Для таго, каб авалодаць тэорыяй марксізма-ленінізма, трэба толькі праявіць жаданне, настойлівасць і цвёрдасць характару ў дасягненні гэтай мэты. Калі можна паспяхова авалодаць такімі навукамі, як, напрыклад, фізіка, хімія, біялогія, то тым больш няма падстаў сумнявацца, што можна поўнасцю авалодаць навукай марксізма-ленінізма.

6) Ствараючы «Курс гісторыі ВКП(б)», ЦК ВКП(б) ставіў задачу дапамагчы кадрам, якія вядуць тэарэтычную і прапагандысцкую работу, перабудавацца, палепшыць якасць работы, пачаць ліквідаваць сваю тэарэтычную адсталасць, устраніць недахопы і прабелы ў сваёй ідэалагічнай падрыхтоўцы і ўзняць прапагандысцкую работу на належную вышыню.

Усе гэтыя задачы, пастаўленыя ЦК ВКП(б), знайшлі сваё вырашэнне ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)».

II.

Якія асноўныя недахопы прапагандысцкай работы?

У якім напрамку неабходна перабудаваць прапагандысцкую і тэарэтычную работу партыі?

1) Асноўным недахопам пастаноўкі партыйнай прапаганды з'яўляецца адсутнасць неабходнай цэнтралізацыі кіраўніцтва партыйнай прапагандай і выцякаючыя адсюль саматужніцтва, неарганізаванасць у справе прапаганды.

Саматужніцтва і неарганізаванасць у галіне партыйнай прапаганды выразіліся, перш за ўсё, у тым, што партыйныя арганізацыі асноўнай формай прапаганды выбралі вусную прапаганду праз гурткі, забываючы, што гуртковы метад прапаганды быў уласцівы пераважна нелегальнаму перыяду партыі, у сілу ўмоў работы партыі ў той час, і што ва ўмовах савецкай улады і пры наяўнасці ў руках большэвіцкай партыі такой магутнай зброі прапаганды, як друк, створаны зусім новыя ўмовы і магчымасці для неабмежаванага размаху прапаганды і для цэнтралізаванага кіраўніцтва ёю.

Замест таго, каб скарыстаць гэтыя магчымасці, партыйныя арганізацыі прадаўжаюць чапляцца за старыя формы прапаганды, не ўлічваючы таго, што гурткі ў цяперашніх умовах ужо не могуць з'яўляцца галоўным метадам абучэння нашых кадраў большэвізму, што асноўным метадам абучэння кадраў марксізму-ленінізму павінен з'яўляцца выпрабаваны на вопыце старэйшага пакалення большэвікоў метад самастойнага вывучэння гісторыі і тэорыі большэвіцкай партыі, а партыя павінна прыйсці на дапамогу кадрам у гэтых адносінах праз друк і цэнтралізаваную высокакваліфікаваную кансультацыю па ўзнікаючых у іх у працэсе вывучэння пытаннях, праз лекцыі, даклады і т. п.

Выбраўшы асноўным метадам прапаганды вусную прапаганду праз гурткі, партыйныя арганізацыі захапіліся памылковай зацеяй аб'яднаць у гурткі ўсіх комуністаў, паставіўшы стаўку на колькаснае расшырэнне сеткі партыйных гуртоў, на пагоню за агульным «ахватам» і пры тым у абавязковым парадку ўсіх без выключэння комуністаў партыйнымі гурткамі.

У пагоні за колькасцю гуртоў, партыйныя арганізацыі выпусцілі з рук галоўнае звяно—якасць прапаганды.

Мноства гуртоў, пазбавіўшы партыйныя арганізацыі магчымасці кантраляваць прапагандысцкую работу па сутнасці, прывяло да таго, што партыйныя арганізацыі выпусцілі з сваіх рук кіраўніцтва прапагандай, звёўшы сваю дзейнасць галоўным чынам да збірання канцылярска-статыстычных звестак аб «ахваце» комуністаў вучобай у гуртках, іх колькасці і наведваемасці. У рэзультаце гурткі ператварыліся ў аўтаномныя і бескантрольныя арганізацыі, якія вядуць работу на свой рыск і страх.

Мноства гуртоў прывяло, далей, да таго, што кадры прапагандыстаў аказаліся перапоўненымі малападрыхтаванымі тэарэтычна, а досыць часта палітычна непісьменнымі і неправеранымі людзьмі, якія не толькі не могуць дапамагчы членам партыі і беспартыйным авалодаць большэвізмам, але здольны толькі падмяніць выкладанне марксісцка-ленінскай тэорыі шкодным упрашчэнствам і заблытаць сваіх слухачоў.

У пагоні за колькасцю прапагандыстаў партыйныя арганізацыі выпусцілі з сваіх рук тэарэтычнае кіраўніцтва падрыхтоўкай і пера-

падрыхтоўкай прапагандысцкіх кадраў і кантроль за работай прапагандыстаў у гуртках. Замест таго, каб цэнтралізаваць кіраўніцтва прапагандыстамі і забяспечыць тым самым уздым якасці работы з прапагандыстамі, партарганізацыі і ў гэтай справе памылкова ўзялі курс на колькасць, распыліўшы справу дапамогі прапагандысцкім кадрам шляхам стварэння вялікай колькасці парткабінетаў пры прадпрыемствах, семінараў прапагандыстаў, кароткатэрміновых курсаў прапагандыстаў і т. д. Пагоня за колькасцю гэтых устаноў ва ўшчэрб якасці прывяла да таго, што парткабінеты і семінары прапагандыстаў аказаліся пазбаўленымі неабходнага партыйнага кіраўніцтва, а недахват кваліфікаваных кадраў кіраўнікоў пропсемінараў і парткабінетаў прывёў да зніжэння якасці іх работы, да незадаволенасці прапагандыстаў пастаноўкай справы ў іх, ператвараючы наведванне семінараў і кабінетаў у фармальную павіннасць.

Ператварыўшы наведванне гурткоў у абавязак для членаў партыі, разглядаючы партыйцаў, як вечных школьнікаў пачатковых класаў, няздольных да самастойнага вывучэння марксізма-ленінізма, партарганізацыі прыбеглі да цэлага раду адміністратыўных хітраванняў для ўцягнення і ўтрымання членаў партыі ў гуртках, сталі на шлях дробязнай апекі і рэгламентацыі работы комуністаў у гуртках.

У рабоце гурткоў укараніліся няправільныя і тармозячыя ідэйна-палітычны рост членаў партыі шкалярскія метады, якія выразіліся ў насаджэнні «адзіных дзён» вучобы для ўсіх гурткоў, адзіных рэгламентаў іх работы, у выгнанні з гурткоў метада гутаркі і жывой таварыскай дыскусіі.

Не абмяжоўваючыся гэтым, партарганізацыі задаліся бюракратычнай і шкоднай зацеяй «кантраляваць» кожнага чытаючага марксісцка-ленінскую кнігу і прымушаць адчытвацца ў прачытаным.

У рэзультаце гэтых няправільных установак у прапагандысцкай рабоце, у комуністаў, абавязаных на працягу раду год займацца ў адных і тых-жа гуртках і пазбаўленых належнай дапамогі ў вывучэнні марксісцка-ленінскай літаратуры ў сябе дома, губляецца зацікаўленасць да тэарэтычнай падрыхтоўкі, а наведванне заняткаў гурткоў досыць часта ператвараецца ў цягасную абузу.

Парушэнне прынцыпа добраахвотнасці пры ўступленні ў гурткі, бюракратычна-адміністратыўная практыка механічнага, прымусовага залічэння членаў партыі ў гурткі, няправільны погляд на гурткі, як на адзіную форму партыйнай асветы, падарвалі ў партыйцаў веру ў тое, што яны могуць паспяхова вывучаць марксізм-ленінізм шляхам самастойнага чытання. Тым самым нанесен ушчэрб справе глыбокага самастойнага ўсваення комуністамі асноў марксізма-ленінізма, ідэйнаму росту партыйных кадраў.

Неабходна аднавіць комуністам веру ў свае сілы і здольнасці да авалодання марксісцка-ленінскай тэорыяй.

Неабходна разбіць шкодны прадрассудак, быццам вучыцца марксізму-ленінізму можна толькі ў гуртку, тады як у сапраўднасці галоўным і асноўным спосабам вывучэння марксізма-ленінізма з'яўляецца самастойнае чытанне.

2) Адной з асноўных прычын нязмернага раздування гуртковай работы і вуснай прапаганды наогул, ва ўшчэрб прапагандзе праз друк, з'явіўся шкодны разрыў у арганізацыі друкаванай і вуснай прапаганды, які знайшоў сваё выражэнне ў раздзельным існаванні аддзелаў прапаганды і аддзелаў друку як у абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый, так і ў апараце ЦК ВКП(б).

У прапагандзе марксізма-ленінізма галоўнай, рашаючай зброяй павінен з'яўляцца друк—журналы, газеты, брашуры, а вусная прапаганда павінна займаць падсобнае, дапаможнае месца. Друк дае магчымасць тую ці іншую ісціну адразу зрабіць здабыткам усіх, ён таму мацней вуснай прапаганды. Расшчапленне-ж кіраўніцтва прапаганды паміж двума аддзеламі прывяло да прыніжэння ролі друку ў прапагандзе марксізма-ленінізма і, тым самым, да звужэння размаху бальшэвіцкай прапаганды, да саматужніцтва і неарганізаванасці.

Аддзелы партыйнай прапаганды і агітацыі, абмежаваўшы сваю дзейнасць вуснай прапагандай, пагнаўшыся за колькасцю гурткоў, не скарысталі для справы прапаганды партыйны друк, і ў рэзультаце пазбавілі сябе магчымасці кіраваць прапагандай па сутнасці.

У сваю чаргу аддзелы друку, будучы пазбаўлены неабходных кваліфікаваных кадраў прапагандыстаў, якія амаль цалкам ушлі ў вусную прапаганду, аказаліся няздольнымі весці прапаганду марксізма-ленінізма праз друк.

3) Важнейшым недахопам у справе партыйнай прапаганды з'яўляецца пагарда з боку партыйных арганізацый да справы палітычнай падрыхтоўкі, да справы марксісцка-ленінскай загартоўкі нашых кадраў, нашай савецкай інтэлігенцыі,—кадраў партыйных, камсамольскіх, савецкіх, гаспадарчых, кааператыўных, гандлёвых, прафсаюзных, сельскагаспадарчых, асветніцкіх, ваенных, гэта значыць кадраў партыйнага, дзяржаўнага і калгаснага апарата, пры дапамозе якіх кіруюць рабочы клас і сялянства Савецкай краінай. Практыка нашай партыйнай прапаганды, сканцэнтраваўшыся на ахваце, галоўным чынам, рабочых ад станка, выпусціла з-пад увагі камандныя кадры—нашу савецкую, партыйную і непартыйную інтэлігенцыю, якая складаецца з учарашніх рабочых і сялян.

«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» ставіць адной са сваіх задач пакласці канец гэтым дзікім, антыленінскім, пагардлівым адносінам да нашай, савецкай інтэлігенцыі і да патрэб яе палітычнага, ленінскага выхавання.

«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» звернут, у першую чаргу, да кіруючых кадраў партыйных, камсамольскіх, гаспадарчых і іншых работнікаў, да ўсёй нашай партыйнай і непартыйнай інтэлігенцыі як у горадзе, так і ў вёсцы.

Нашы партыйныя, савецкія, гаспадарчыя і іншыя кіруючыя ленінскія кадры, занятыя практычнай работай, моцна адсталі ў галіне тэорыі. Ствараючы курс гісторыі партыі, ЦК ВКП(б) ставіў задачу пачаць ліквідацыю гэтай тэарэтычнай і палітычнай адсталасці нашых кадраў.

ЦК ВКП(б) зыходзіў з таго, што «... калі-б мы змаглі, калі-б мы здолелі нашы партыйныя кадры, знізу даверху, падрыхтаваць ідэалагічна і загартаваць іх палітычна такім чынам, каб яны маглі свабодна арыентавацца ва ўнутранай і міжнароднай абстаноўцы, калі-б мы здолелі зрабіць іх упаўне зрэлымі ленінцамі, марксістамі, здольнымі рашаць без сур'ёзных памылак пытанні кіраўніцтва краінай, то мы вырашылі-б гэтым дзевяць дзесятых усіх нашых задач» **(Сталін).**

ЦК ВКП(б) зыходзіў з таго, што майстэрства бальшэвіцкага кіраўніцтва патрабуе веданне тэорыі, г. зн. законаў развіцця грамадства, законаў развіцця рабочага руху, развіцця пралетарскай рэвалюцыі,

развіцця социялістычнага будаўніцтва і ўменне карыстацца гэтымі законамі ў практычнай рабоце па кіраўніцтву соцыялістычным будаўніцтвам.

Усе нашы кадры складаюць велізарную армію совецкай інтэлігенцыі. Совецкая інтэлігенцыя ўсімі сваімі карэннямі звязана з рабочым класам і сялянствам. Гэта зусім новая інтэлігенцыя, падобнай якой няма ні ў адной краіне свету.

Ні адна дзяржава не магла і не можа абыйсціся без сваёй інтэлігенцыі, тым больш не можа абыйсціся без сваёй інтэлігенцыі соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян. Нашу інтэлігенцыю, вырасшую за годы совецкай улады, складаюць кадры дзяржаўнага апарата, пры дапамозе якіх рабочы клас вядзе сваю ўнутраную і знешнюю палітыку. Гэта—учарашнія рабочыя і сяляне і сыны рабочых і сялян, вылучыўшыяся на камандныя пасты. Асобае значэнне мае інтэлігенцыя ў такой краіне, як наша, дзе дзяржава накіроўвае ўсе галіны гаспадаркі і культуры, у тым ліку і сельскую гаспадарку, і дзе кожны дзяржаўны работнік, каб свядома і з поспехам выконваць сваю работу, павінен разумець палітыку дзяржавы, яе задачы па-за і ўнутры краіны.

Значыць, задача марксісцка-ленінскага выхавання совецкай інтэлігенцыі з'яўляецца адной з самых першачарговых і важнейшых задач партыі большэвікоў.

ЦК ВКП(б) канстатуе, што, не гледзячы на такую важную ролю інтэлігенцыі ў совецкай дзяржаве, да сучаснага моманту яшчэ не пераможаны пагардлівыя адносіны да нашай інтэлігенцыі, прадстаўляючыя з сябе вельмі шкоднае перанясенне на нашу совецкую інтэлігенцыю тых поглядаў і адносін да інтэлігенцыі, якія былі распаўсюджаны ў дарэволюцыйны перыяд, калі інтэлігенцыя знаходзілася на службе ў памешчыкаў і капіталістаў.

Гэтыя пагардлівыя адносіны да інтэлігенцыі знаходзяць сваё выражэнне ў запушчанасці ідэйна-выхаваўчай работы з кадрамі, у закіданні палітычнай работы сярод інтэлігенцыі, служачых, настаўнікаў, урачоў, студэнцтва, калгаснай інтэлігенцыі і т. д., у пагардліва-высокамерных адносінах да партыйнага і непартыйнага інтэлігента, як да чалавека другога сорта, хаця-б гэта быў учарашні стаханавец, вылучаны ў сілу сваіх заслуг на кіруючы пост совецкай дзяржавы.

Такія антыбольшэвіцкія адносіны да совецкай інтэлігенцыі з'яўляюцца дзікімі, хуліганскімі і небяспечнымі для совецкай дзяржавы. Неабходна зразумець, што іменна закіданасць палітычнай работы сярод інтэлігенцыі, сярод нашых кадраў прывяла да таго, што частка нашых кадраў, якая аказалася па-за палітычным уплывам партыі і пазбаўленая ідэйнай загартоўкі, палітычна звіхнулася, заблыталася і стала здабычай замежных разведак і іх трацкісцка-бухарынскай і буржуазна-нацыяналістычнай агентуры.

ЦК ВКП(б) лічыць, што гэтым «махаеўскім», антыленінскім адносінам да інтэлігенцыі неабходна пакласці канец.

Неабходна выхаваць совецкую інтэлігенцыю ў духу марксізма-ленінізма.

Без такой інтэлігенцыі совецкая дзяржава не можа з поспехам кіраваць краінай.

«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» з'яўляецца сродкам такога выхавання совецкай інтэлігенцыі

III.

ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

1. Лічыць няправільнай практыку пагоні за колькасным ахватам комуністаў гурткамі сеткі партасветы ва ўшчэрб якасці прапаганды, практыку, якая прыводзіць да драблення сіл і прыніжэння ўзроўню прапагандысцкай работы.

2. Абавязаць партыйныя арганізацыі ліквідаваць арганізацыйнае саматужніцтва ў справе партыйнай прапаганды, устанавіць неабходную цэнтралізацыю ў кіраўніцтве ёю і перабудаваць арганізацыю партыйнай прапаганды такім чынам, каб забяспечыць уздым яе якасці, яе ідэйнага ўзроўню.

3. У аснову прапаганды марксізма-ленінізма пакласці «Кароткі курс гісторыі Усесаюзнай комуністычнай партыі (большэвікоў)».

Дыферэнцыраваць вывучэнне гісторыі ВКП(б) наступным чынам:

Для **нізавога** звяна кадраў, у ліку якіх ёсць значная частка недастаткова падрыхтаваных таварышоў, мэтазгодна вывучаць курс у скарочаным аб'ёме па трох асноўных этапах гісторыі партыі: 1) барацьба за стварэнне большэвіцкай партыі (I—IV раздзелы), 2) партыя большэвікоў у барацьбе за дыктатуру пролетарыята (V—VII раздзелы), 3) партыя большэвікоў ва ўладзе (VIII—XII раздзелы).

**Для сярэдняга** звяна, якое складаецца з параўнальна больш падрыхтаваных таварышоў і з'яўляецца найбольш шматлікім звяном нашых кадраў, ЦК ВКП(б) рэкамендуе вывучэнне «Курса гісторыі ВКП(б)» поўнасцю, па 12 змяшчаючыхся ў ім раздзелах.

Для **вышэйшага** звяна, г. зн. для найбольш падрыхтаваных таварышоў, мэтазгодна вывучаць «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» па падраздзелах кожнага раздзела, адначасова з вывучэннем адпаведных твораў Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна па першакрыніцах.

4. Выходзячы з таго, што галоўным метадам вывучэння марксізма-ленінізма павінен стаць метад самастойнага вывучэння, прапанаваць абкомам, крайкомам і ЦК нацкомпартый скараціць колькасць гурткоў партыйнай асветы.

Замест існуючых цяпер на кожным буйным прадпрыемстве, ва ўстанове, у ВНУ многіх дзесяткаў, а іншы раз і соцень гурткоў, пры правільным падыходзе да справы акажацца мэтазгодным мець на буйным прадпрыемстве, у буйнай установе, прыкладна, 2—3 гурткі для нізавых кадраў, 2—3 гурткі сярэдняга ўзроўню і 1 павышаны гурток для самых развітых і падрыхтаваных людзей, а ў ВНУ некалькі гурткоў сярэдняга і павышанага тыпу.

У сельскіх раёнах пры наяўнасці жадаючых вывучаць «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» у гуртках і пры наяўнасці кваліфікаваных прапагандыстаў можна мець некалькі гурткоў для сельскай інтэлігенцыі: партыйнага і савецкага актыва, настаўнікаў, гандлёва-кааператыўных работнікаў, калгаснага актыва і т. д.

Пры скарачэнні колькасці гурткоў неабходна выходзіць з задачы забяспечыць іх сапраўды кваліфікаванымі прапагандыстамі.

5. Ліквідаваць адміністратыўна-бюракратычную практыку прымусовага залічэння комуністаў у гурткі партыйнай асветы.

Растлумачыць кожнаму комуністу, што ўдзел у гуртках з'яўляецца справай выключна добраахвотнай.

6. Работа гурткоў павінна быць пабудавана на аснове жывой гутаркі і таварыскай дыскусіі. З гурткоў павінны быць рашуча вы-

гнаны шкодныя шкалярска-адміністратыўныя метады, казёншчына і схематызм, якія тармозяць ідэйнае выхаванне партыйных і непартыйных большэвікоў. Прапагандысты павінны даваць таварыскае растлумачэнне па цікавячых членаў гуртка пытаннях.

Неабходна пакончыць з фармальна-бюракратычнай рэгламентацыяй работы гурткоў (адзіны дзень партыйнай вучобы, двухгадзінныя заняткі адразу-ж пасля работы, адмаўленне ад пастаноўкі практычных пытанняў, цікавячых удзельнікаў гуртка і т. п.). Расклад заняткаў кожнага гуртка павінен устанаўлівацца яго ўдзельнікамі разам з прапагандыстам, зыходзячы з мясцовых умоў. Кожны занятак павінен прадаўжацца столькі, колькі ўдзельнікі гуртка палічаць неабходным для грунтоўнага абмеркавання пастаўленых пытанняў.

Работа гурткоў павінна быць арганізавана так, каб не расцягваць заняткі на надта доўгі перыяд часу. Неабходна ўнікнуць аднаго з карэнных недахопаў цяперашніх гурткоў, калі неабмежаваная колькасць часу ўдзяляецца першым тэмам, а паслякастрычніцкі перыяд, які мае важнейшае значэнне ў гісторыі партыі, астаецца нявывучаным.

Гурткі па вывучэнню гісторыі партыі павінны фарміравацца так, каб забяспечыць больш ці менш аднародны ўзровень агульнаадукацыйнай і палітычнай падрыхтоўкі іх удзельнікаў. Па ўзроўню падрыхтоўкі мэтазгодна мець тры тыпы гурткоў у адпаведнасці з дыферэнцыраваным характарам вывучэння «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)»:

а) гурткі для нізавога звяна нашых кадраў, вывучаючыя «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» у скарочаным аб'ёме і з больш даступным выкладаннем пытанняў тэорыі;

б) гурткі для сярэдняга звяна, вывучаючыя поўнасцю «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» па асобных раздзелах;

в) гурткі для найбольш падрыхтаваных таварышоў, вывучаючыя «Кароткі гурс гісторыі ВКП(б)» па падраздзелах кожнага раздзела з аднагасовым чытаннем першакрыніц.

7. Увесці ў практыку **лекцыі**, якія з'яўляюцца важным метадам прапаганды марксізма-ленінізма. Добра падрыхтаваная, змястоўная лекцыя павінна з'явіцца сур'ёзнай дапамогай таварышам, самастойна вывучаючым «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» і творы класікаў марксізма-ленінізма. Неабходна таксама ставіць лекцыі па пытаннях міжнароднага становішча і па асобных тэарэтычных і палітычных пытаннях. Лічыць мэтазгодным, каб пасля лекцыі лектар адказваў на заданыя пытанні. Увесці ў практыку арганізацыю адкрытых лекцый з невялікай платай за наведванне.

8. Ліквідаваць саматужніцтва і бескантрольнасць у рабоце з прапагандыстамі, што выразіліся ў пагоні за агульным насаджэннем парткабінетаў і семінараў прапагандыстаў. Абавязаць партарганізацыі ў двухмесячны тэрмін вывучыць і перагледзець сетку парткабінетаў, скараціўшы іх колькасць, пакінуўшы парткабінеты для дапамогі прапагандыстам і кансультацыі для займаючыхся палітычнай самаадукацыяй, як правіла, пры гаркомах і райкомах партыі. Не забяспечаныя кваліфікаванымі кансультантамі, партыйныя кабінеты на прадпрыемствах і ва ўстановах павінны быць скарочаны, або скарыстаны ў якасці чытальняў і бібліятэк для займаючыхся самаадукацыяй. Абавязаць партарганізацыі скараціць колькасць прапагандысцкіх семінараў, сканцэнтраваўшы работу семінараў прапагандыстаў пры

буйных гарадскіх райкомах, пры гаркомах, абкомах і крайкомах ВКП(б).

Партыйныя арганізацыі пры стварэнні семінараў прапагандыстаў павінны забяспечыць іх марксісцка-адукаванымі, палітычна праверанымі кіраўнікамі. Гаркомы, абкомы і крайкомы ВКП(б) павінны ажыццяўляць пастаянны кантроль за зместам работы семінараў прапагандыстаў.

Работа семінараў прапагандыстаў па гісторыі ВКП(б) павінна быць пабудавана прыстасоўна да трох асноўных форм вывучэння гісторыі ВКП(б) і, пры гэтым, з такім разлікам, каб семінары прапагандыстаў пры вывучэнні «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» ішлі значна раней гурткоў.

Семінар не можа быць месцам для «накачвання» прапагандыстаў. Заняткі ў семінарах прапагандыстаў трэба паставіць такім чынам, каб была забяспечана творчая работа кожнага ўдзельніка семінара, вялося жывое абмеркаванне тэарэтычных пытанняў, каб была забяспечана таварыская дыскусія па тэарэтычных і метадычных пытаннях.

9. Абавязаць Аддзел агітацыі і прапаганды ЦК ВКП(б) аб'яднаць найбольш кваліфікаваных прапагандыстаў нашай партыі, лектароў, дакладчыкаў, кансультантаў, якія павінны супрацоўнічаць у тэарэтычных журналах, у цэнтральных газетах, выступаць з лекцыямі і дакладамі на месцах, аказваць дзейсную дапамогу мясцовым партыйным арганізацыям у прапагандзе марксізма-ленінізма.

Лічыць неабходным збіраць і сістэматычна публікаваць на старонках друку вопыт лепшых прапагандыстаў, іх заняткі, кансультацыі, лекцыі.

Рэкамендаваць гаркомам, абкомам, крайкомам і ЦК нацкомпартый практыкаваць рэгулярнае скліканне прапагандыстаў і работнікаў друку для абмеркавання асноўных пытанняў прапаганды.

10. Ліквідаваць недаацэнку значэння друку як важнейшай зброі марксізма-ленінізма і ўсесаюзнай трыбуны прапаганды.

Узняць ролю друку ў справе прапаганды марксізма-ленінізма. З гэтай мэтай абавязаць рэдакцыі «Правды», «Красной звезды», «Комсомольской правды», а таксама рэспубліканскіх, краявых і абласных партыйных і комсамольскіх газет сістэматычна змяшчаць на старонках газет артыкулы па тэарэтычных пытаннях марксізма-ленінізма, кансультацыі, лекцыі лепшых прапагандыстаў, «адказы» на «пытанні» чытачоў. Арганізаваць у саставе рэдакцыі «Правды», «Красной звезды», «Комсомольской правды», а таксама рэспубліканскіх, краявых і абласных партыйных і комсамольскіх газет, аддзелы прапаганды, паставіўшы на чале іх тэарэтычна падрыхтаваных таварышоў і прыцягнуць да работы ў аддзелах прапаганды рэдакцый лепшых прапагандыстаў.

Лічыць неабходным перабудаваць журнал «Большевик» з тым, каб ён з'яўляўся тэарэтычным органам партыі і ўсесаюзнай кансультацыяй па пытаннях марксізма-ленінізма, даючы на сваіх старонках адказы і тлумачэнні па цікавячых членаў партыі і беспартыйных тэарэтычных і палітычных пытаннях.

Абавязаць Аддзел партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) і Дзяржпалітвыдат забяспечыць выданне папулярных брашур у дапамогу прапагандыстам і асабліва нізавому актыву, які вывучае гісторыю партыі, а таксама распрацаваць план выдання дапаможнікаў па гісторыі партыі.

11. Асудзіць як дзікасць і хуліганства пагардлівыя адносіны да совецкай інтэлігенцыі і да задач яе ідэйна-палітычнага выхавання ў духу марксізма-ленінізма. Абавязаць партыйныя арганізацыі аднавіць правільныя большэвіцкія адносіны да совецкай інтэлігенцыі і разгарнуць ідэйна-палітычную работу сярод інтэлігенцыі, сярод служачых, студэнцтва і калгаснай інтэлігенцыі. Лічыць першачарговай і галоўнай задачай партарганізацый у галіне прапаганды ліквідацыю тэарэтычнай і палітычнай адсталасці кадраў партыйнай і непартыйнай інтэлігенцыі, забяспечыўшы ўсялякую дапамогу совецкай інтэлігенцыі ў авалоданні большэвізмам, у вывучэнні гісторыі ВКП(б) і твораў класікаў марксізма-ленінізма.

12. Адзначыць сур'ёзнае адставанне работнікаў тэарэтычнага фронта, якое праяўляецца ў іх тэарэтычнай слабасці, у іх боязні смела ставіць актуальныя тэарэтычныя пытанні, у распаўсюджванні начотніцтва і букваедства, у вульгарызацыі і апашленні асобных палажэнняў марксізма-ленінізма, у адставанні тэарэтычнай мыслі, у недахопе тэарэтычнага абагульнення велізарнага практычнага вопыту, накопленага партыяй на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Заклікаць усіх работнікаў тэарэтычнага фронта рашуча і хутка выправіць нецярпімае адставанне тэарэтычнага фронта, пакончыўшы з баязню смелай пастаноўкі тэарэтычных пытанняў, рухаючых марксіцка-ленінскую тэорыю наперад, пакончыўшы з букваедствам, начотніцтвам, схаластыкай, вульгарызацыяй і апашленнем асобных палажэнняў марксісцка-ленінскай тэорыі.

13. Ліквідаваць запушчанасць ідэалагічнай гаспадаркі, якая знайшла, у прыватнасці, сваё выражэнне ў нездавальняючай рабоце Інстытута Маркса—Энгельса—Леніна, дапусціўшага рад скажэнняў і недакладнасцей пры перакладах на рускую мову твораў Маркса і Энгельса, а таксама грубейшыя палітычныя памылкі шкодніцкага характару ў дадатках, заўвагах і каментарыях да некаторых томаў твораў Леніна.

14. Абавязаць Інстытут Маркса—Энгельса—Леніна ў найкарацейшы тэрмін выправіць скажэнні, дапушчаныя ў перакладах твораў Маркса—Энгельса на рускую мову, а таксама грубейшыя палітычныя памылкі, якія былі ў дадатках і заўвагах да твораў В. І. Леніна, напрыклад, да XIII тома.

Абавязаць Інстытут Маркса—Энгельса—Леніна паскорыць перавыданне твораў Маркса—Энгельса і В. І. Леніна.

15. Адзначыць адарванасць нашых тэарэтычных журналаў ад надзённых пытанняў жыцця і барацьбы нашай партыі, іх самазамыканне і тэндэнцыі да акадэмізма.

Абавязаць рэдакцыі тэарэтычных журналаў перабудаваць сваю работу, забяспечыўшы на сваіх старонках пастаноўку актуальных тэарэтычных пытанняў, абагульненне вопыту соцыялістычнага будаўніцтва, абслугоўванне тэарэтычных запатрабаванняў нашых кадраў, распрацоўку новых тэарэтычных праблем і творчую дыскусію па пытаннях тэорыі.

16. У дадатак да сістэмы палітычнай перападрыхтоўкі кіруючых партыйных кадраў, устаноўленай лютаўска-сакавіцкім пленумам ЦК ВКП(б), правесці наступныя мерапрыемствы па перападрыхтоўцы і падрыхтоўцы кваліфікаваных прапагандысцкіх кадраў партыі:

а) Арганізаваць аднагадовыя курсы перападрыхтоўкі прапагандыстаў і газетных работнікаў у наступных цэнтрах: 1) Масква, 2) Ленін-

град, 3) Кіеў, 4) Менск, 5) Растоў, 6) Тбілісі, 7) Баку, 8) Ташкент, 9) Алма-Ата, 10) Новасібірск. Аднагадовыя курсы перападрыхтоўкі прапагандыстаў, арганізаваныя ў гэтых цэнтрах, павінны абслугоўваць не толькі даную вобласць, край, але і сумежныя вобласці, краі, рэспублікі. Праграма аднагадовых курсаў прапагандыстаў павінна быць складзена прыстасоўна да праграмы «Ленінскіх курсаў», а заняткі павінны быць пабудаваны так, каб развіваць навыкі прапагандысцкай работы і самастойнага глыбокага вывучэння твораў Маркса і Энгельса, Леніна і Сталіна.

Агульны кантынгент слухачоў усіх аднагадовых курсаў перападрыхтоўкі прапагандыстаў устанавіць у колькасці 1500—2000 чалавек, з тым, каб у гэтым саставе, прыкладна, палавіну складалі газетныя работнікі.

б) Арганізаваць Вышэйшую школу марксізма-ленінізма пры ЦК ВКП(б) з трохгадовым курсам для падрыхтоўкі высокакваліфікаваных тэарэтычных кадраў партыі.

17. Пабудаваць выкладанне марксісцка-ленінскай тэорыі ў вышэйшых навучальных установах на аснове глыбокага вывучэння «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». У сувязі з гэтым:

а) Узамен самастойных курсаў ленінізма, дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма, увесці ў ВНУ адзіны курс «Асновы марксізма-ленінізма», захаваўшы ў вучэбным плане агульную колькасць гадзін, якія адводзіліся раней на соцыяльна-эканамічныя дысцыпліны. Выкладанне асноў марксісцка-ленінскай тэорыі ў ВНУ павінна пачынацца з вывучэння «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» з адначасовым вывучэннем першакрыніц марксізма-ленінізма. Выкладанне палітычнай эканоміі павінна праводзіцца пасля вывучэння «Гісторыі ВКП(б)».

б) Замест цяпер існуючых асобных кафедр дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма, ленінізма і гісторыі ВКП(б) стварыць у ВНУ адзіную кафедру марксізма-ленінізма.

в) Ва універсітэтах і інстытутах, дзе ёсць факультэты філасофскія, гістарычныя, літаратурныя, захаваць на гэтых факультэтах выкладанне курса дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізма.

г) Даручыць Аддзелу прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) і Усесаюзнаму Камітэту па справах вышэйшай школы падабраць да пачатку вучэбнага 1939—40 года кіраўнікоў кафедр марксізма-ленінізма і прадставіць іх на зацвярджэнне ЦК ВКП(б). Прапанаваць ЦК нацкомпартый, крайкомам, абкомам і гаркомам ВКП(б) падабраць тэарэтычна падрыхтаваных і палітычна правераных выкладчыкаў асноў марксізма-ленінізма.

д) Арганізаваць пры Вышэйшай школе марксізма-ленінізма шасцімесячныя курсы перападрыхтоўкі выкладчыкаў марксізма-ленінізма для ВНУ.

## IV

У мэтах карэннага паляпшэння партыйнага кіраўніцтва прапагандай марксізма-ленінізма ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

18. Аб'яднаць аддзелы партыйнай прапаганды і агітацыі і аддзелы друку і выдавецтваў ЦК ВКП(б), ЦК нацкомпартый, крайкомаў і абкомаў ВКП(б), стварыўшы адзіныя аддзелы прапаганды і агітацыі.

19. Сканцэнтраваць у аддзелах прапаганды і агітацыі ўсю работу па друкаванай і вуснай прапагандзе марксізма-ленінізма і масавай палітычнай агітацыі (партыйная прэса; выданне прапагандысцкай

і агітацыйнай літаратуры; арганізацыя друкаванай і вуснай прапаганды марксізма-ленінізма; кантроль за ідэйным зместам прапагандысцкай работы; падбор і размеркаванне прапагандысцкіх кадраў, палітычная перападрыхтоўка і падрыхтоўка партыйных кадраў; арганізацыя масавай палітычнай агітацыі).

У аснову работы аддзелаў прапаганды і агітацыі пакласці практычнае правядзенне ў жыццё гэтага рашэння ЦК ВКП(б).

20. Для ўзняцця якасці прапаганды марксізма-ленінізма лічыць неабходным, каб у справе прапаганды партарганізацыі апіраліся надалей, як правіла, на кадры вызваленых ад усякай іншай работы таварышоў, якія могуць поўнасцю прысвяціць сябе гэтай рабоце і няспынна павышаць сваю тэарэтычную і прапагандысцкую кваліфікацыю.

У сувязі з гэтым даручыць абкомам і крайкомам ВКП(б) падабраць лепшых прапагандыстаў на пастаянную прапагандысцкую работу.

21. Работнікі аддзелаў прапаганды і агітацыі павінны падбірацца парторганамі з ліку найбольш кваліфікаваных прапагандыстаў-прафесіяналаў і партыйных літаратараў.

У саставе аддзелаў прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б), ЦК нацкомпартый, абкомаў, крайкомаў і гаркомаў ВКП(б) павінны быць арганізаваны лектарскія групы.

22. У сувязі з тым, што скарачэнне колькасці гурткоў, а таксама партыйных кабінетаў на прадпрыемствах і ва ўстановах вызваліць частку прапагандысцкіх работнікаў у гарадах, прапанаваць абкомам, крайкомам і ЦК нацкомпартый перамясціць найбольш падрыхтаваных з ліку гэтых работнікаў для ўзмацнення прапагандысцкай работы ў сельскія раёны.

23. Рэарганізаваць існуючыя культпропы гаркомаў і райкомаў партыі ў аддзелы прапаганды і агітацыі. Лічыць неабходным стварэнне аддзелаў прапаганды і агітацыі таксама і ў тых райкомах, дзе ў сучасны момант няма культпропаў. Устанавіць, што стварэнне аддзелаў прапаганды і агітацыі ў райкомах партыі дазваляецца ЦК ВКП(б) для кожнага раёна паасобку па меры падбору кваліфікаваных работнікаў па прадстаўленню абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый.

Уключыць у састаў аддзелаў прапаганды і агітацыі гаркомаў, райкомаў партыі гарадскія і раённыя партыйныя кабінеты з тым, каб загадчыкі парткабінетамі адначасова з'яўляліся намеснікамі загадчыкаў аддзелаў прапаганды і агітацыі.

24. Устанавіць, што загадчыкі аддзеламі прапаганды і агітацыі абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый, акругкомаў, гаркомаў і райкомаў партыі зацвярджаюцца ЦК ВКП(б), а ўсе астатнія адказныя работнікі аддзелаў прапаганды і агітацыі гэтых камітэтаў зацвярджаюцца бюро абкомаў, крайкомаў і ЦК нацкомпартый.

Абавязаць абкомы, крайкомы, ЦК нацкомпартый у двухмесячны тэрмін поўнасцю падабраць і зацвердзіць работнікаў аддзелаў прапаганды і агітацыі.

25. З прычыны цеснай сувязі работы Інстытута Маркса—Энгельса—Леніна з прапагандай марксізма-ленінізма, лічыць неабходным перадаць Інстытут Маркса—Энгельса—Леніна ў веданне Аддзела прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б).

26. ЦК ВКП(б) абавязвае ўсе партыйныя камітэты сур'ёзна заняцца прапагандай марксізма-ленінізма—кроўнай справай большэвіц-

кай партыі. Камітэты партыі абавязаны кіраваць справай прапаганды па сутнасці, глыбока ўнікаючы ў яе змест. Абкомы, крайкомы і ЦК нацкомпартый павінны ўзяць у свае рукі кіраўніцтва перабудовай усёй справы арганізацыі прапаганды марксізма-ленінізма ў адпаведнасці з гэтай пастановай.

Указваючы ўсім партыйным арганізацыям, што перабудова ўсёй справы партыйнай прапаганды ў духу гэтага рашэння ЦК патрабуе ад партыйных органаў асаблівай увагі і клопатаў, ЦК папярэджвае партарганізацыі ад небяспекі механічна-фармальнага падыходу да перабудовы прапаганды, ад якіх-бы там ні было спроб агульнага ахайвання ўсяго мінулага вопыту прапагандысцкай работы.

У мэтах паляпшэння кіраўніцтва справай партыйнай прапаганды ўстанавіць, што ў кожным гаркоме, абкоме, крайкоме і ЦК нацкомпартыі павінен быць спецыяльны сакратар, які-б займаўся выключна пытаннямі арганізацыі і зместу прапаганды і агітацыі.

* * *

ЦК ВКП(б) прапануе райкомам, гаркомам, абкомам, крайкомам і ЦК нацкомпартый растлумачыць гэта рашэнне партыйнаму актыву і ўсім членам партыі.

ЦК ВКП(б) падкрэслівае, што выхад у свет «Гісторыі Усесаюзнай комуністычнай партыі (большэвікоў)» павінен стаць пачаткам павароту нашых кадраў—партыйных, комсамольскіх, савецкіх, прафсаюзных, гаспадарчых, культурных работнікаў, кадраў усёй савецкай інтэлігенцыі,—да ліквідацыі сваёй тэарэтычнай адсталасці.

«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» кладзе пачатак новаму магутнаму ідэйна-палітычнаму ўздыму ў жыцці нашай партыі і савецкага народа.

Авалодваючы тэорыяй марксізма-ленінізма, якая ўзбройвае веданнем законаў грамадскага развіцця, нашы кадры стануць сапраўды непераможнымі і яшчэ больш паспяхова павядуць пад сцягам гэтай тэорыі, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ўвесь савецкі народ да перамогі комунізма.

4 лістапада 1938 года.

## Велізарнейшая ўрачыстасць народа

Першага студзеня 1939 года спаўняецца дваццаць год з часу аснавання Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Працоўныя Савецкай Беларусі сустракаюць гэту гістарычную дату, як велізарнейшую ўрачыстасць народа, яго выключныя перамогі, радасці, дасягненні.

Цяжка вызначыць усю тую тытанічную творчую работу, праведзеную працоўнымі масамі БССР пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, у выніку якой краіна наша канчаткова і беспаваротна перастала быць жабрацкай, глухой і забітай калоніяй былой імператарскай Расіі; работу, у выніку якой беларускі працоўны, былы «тутэйшы» чалавек, былы «паляшук», стаў чалавекам сацыялістычнага грамадства, грамадзянінам сацыялістычнай дзяржавы, якая ўпершыню ў гісторыі ажыццяўляе права чалавека і грамадзяніна, будаўніка сваёй савецкай дзяржаўнасці.

Сапраўды дзіву варты шлях, пройдзены беларускімі працоўнымі за гэтыя дваццаць год існавання БССР. Ад мізэрных, поўсаматужных майстэрань, якія славіліся звярынай эксплаатацыяй, патагоннай работай, да буйнейшых сацыялістычных фабрык і заводаў—такі шлях нашай прамысловасці.

Ад вузкай, худой і ўбогай палоскі селяніна бедняка і серадняка да неабсяжных прастораў квітнеючай калгаснай зямлі, ад старажытнай сахі і такой-жа старажытнай бараны да трактара і камбайна—такі шлях нашай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Ад старой і рэдкай школкі з такой-жа старой «прамудрасцю» да дзесяткаў вышэйшых навучальных устаноў, соцень сярэдніх школ, Акадэміі Навук, тэатраў, кіно, незлічоных клубаў, выдання соцень газет, тысяч кніг і т. д. і т. п.—такі шлях беларускага працоўнага ў будаўніцтве магутнай культуры, нацыянальнай па форме, сацыялістычнай па зместу.

Беларускі народ мае за сабою стагоддзі цяжкага мінулага. Выключна непрыглядна яно. Сацыяльны і нацыянальны гнёт, здзекі з боку прыгнятальнікаў—польскіх памешчыкаў, польскай шляхты, праследаванні з боку рускага царызма, а ў самыя нядаўнія годы—імперыялістычная вайна, крывавыя набегі кайзераўскіх і белапольскіх акупантаў—усё гэта не магло прайсці бясследна для народа, для яго культурнага і гаспадарчага жыцця.

Хіба можна было гаварыць аб шчаслівым і радасным жыцці там, дзе з нечалавечымі цяжкасцямі прыходзілася адваёўваць чорствы ка-

валак хлеба, каб не памерці з голаду. Убога была сялянская зямля, суровы панскія лясы, сумны спрадвеку непрахсдны балоты. Усё лепшае, што было на беларускай зямлі—урадлівыя нівы, сытыя пашы, прыгожыя і стройныя лясы, багатыя рыбай азёры і рэкі—усё гэта было спакон веку здабыткам памешчыка і кулака. Пясчаныя верасковыя палі, бедныя забалочаныя пасбішчы, асака і сітняк на балоцістых рачулках даставаліся ва ўдзел беларускаму селяніну. І нядзіва, што мох ды мякіна, кара ды лебяда былі частымі гасцямі ў больш чым мізэрным ужытку беларускага селяніна. Адсюль незлічоныя хваробы—трахома, калтун, усялякія балотныя ліхаманкі, сухоты. Адсюль выключная смяротнасць насельніцтва, асабліва дзіцячага.

Хіба можна было гаварыць аб культуры, аб росце яе, калі сама беларуская мова лічылася мовай «простага» народа, мовай выключна сялянскай. Дый не мовай. Афіцыяльна яе называлі гаворкай. Гэта мова была пад забаронай, на ёй нельга было друкаваць кнігі, газеты, ёю нельга было карыстацца ў афіцыяльных выступленнях.

Стагоддзі цяжкіх іспытаў не зламілі мужнасці народа, не зламілі яго волі да барацьбы за сваю лепшую будучыню, да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У гістарычным мінулым народа мы маем не мала гераічных учынкаў, яркіх прыкладаў мужнай барацьбы народа і супроць нямецкіх псоў-рыцараў, і супроць літоўцаў, і супроць спрадвечных ворагаў-прыгнятальнікаў з каронnай Польшчы; цэлую паласу сялянскіх паўстанняў у семнаццатым стагоддзі, калі беларускі народ разам з брацкімі рускім і украінскім народамі актыўна змагаўся супроць польскіх захватчыкаў—паноў і магнатаў. Рад такіх выступленняў маем мы і супроць рускага царызма.

Але сапраўднае і канчатковае вызваленне беларускага народа ад соцыяльнага і нацыянальнага гнёту прынесла Вялікая Кастрычніцкая рэволюцыя, якая разняволіла народы былой імператарскай Расіі, дашчэнту зруйнавала былую «турму народаў». Толькі пры дапамозе гераічнага рускага народа, толькі пад кіраўніцтвам слаўнай комуністычнай партыі, партыі Леніна—Сталіна, беларускі народ змог скінуць з сябе адвечнае рабства, канчаткова і беспаваротна расправіцца са сваімі прыгнятальнікамі і гвалтаўнікамі. Лепшыя сыны народа, непахісныя большэвікі—ленінцы-сталінцы дапамагалі рабочаму класу і сялянству Беларусі, кіравалі іх рэволюцыйнай барацьбой. Міхаіл Васільевіч Фрунзе доўгі час—да і пасля рэволюцыі—працаваў у межах Беларусі. Разам з тав. Мясніковым тав. Фрунзе ўзначальваў барацьбу салдацкіх мас заходняга фронта супроць урада Керэнскага, вернага агента заходне-еўрапейскай буржуазіі. Пад кіраўніцтвам тав. Фрунзе арганізуецца ў Менску Совет Рабочых Дэпутатаў, праводзіцца велізарная рэволюцыйная работа сярод працоўных мас сялянства. Ім-жа праводзіцца вялікая работа па ўмацаванню і большэвізацыі радоў мясцовай партыйнай арганізацыі, ліквідуецца так званая «аб'яднанка», праводзіцца рашучая барацьба з меншавікамі, якія выкрываюцца, як здраднікі рабочай справы, здраднікі рэволюцыі.

Велізарная работа была праведзена бліжэйшым другам і саратнікам таварыша Сталіна—Лазарам Маісеевічам Кагановічам у Гомелі. Пад яго кіраўніцтвам Гомельскі Совет Рабочых Дэпутатаў узяў у свае рукі ўладу і гэтым забяспечыў перамогу працоўных на адным з важнейшых участкаў прыфрантовай паласы.

У работах першага ўсебеларускага з'езда советаў прымаў непасрэдны ўдзел бліжэйшы саратнік Леніна і Сталіна—Якаў Міхайлавіч Свердлоў, які паводле характарыстыкі Леніна «... заўсёды прымаючы

ўдзел у барацьбе, ніколі не адрываўся ад мас... умеў выпрацаваць у сабе не толькі любімага рабочымі правадыра, не толькі правадыра, які шырэй усяго і больш усяго ведаў практыку, але і арганізатара перадавых пролетарыяў» *).

У красавіку 1919 года прыязджаў у Беларусь і Міхаіл Іванавіч Калінін. Гэта было ў той момант, калі польскія паны, нацкоўваемыя імперыялістычнай Антантай, пачалі наступленне на Совецкую Беларусь, імкнучыся ператварыць яе ў сваю калонію. І тады тав. Калінін запэўніў рабочых і працоўных сялян Беларусі, што ў барацьбе супроць белапалякаў беларускі народ не застанецца адзінокім і будзе падтрыман усёй сілай астатніх брацкіх совецкіх рэспублік.

Выпрабаваныя бальшэвікі—ленінцы-сталінцы арганізоўвалі дзейсную дапамогу рускага народа беларускім працоўным у самыя цяжкія дні, калі рыхтаваліся белапольскія авантуры, калі беларускія нацыяналісты тайна і яўна распрадавалі інтарэсы беларускага народа, рыхтавалі народу старое капіталістычнае ярмо і ў лакейскай угодлівасці перад сваімі польскімі і германскімі гаспадарамі гатовы былі прадаць у вечную кабалу рабочых і сялян Беларусі.

У барацьбе з нацдэмаўскімі, нацыянал-фашысцкімі здраднікамі і бандытамі велізарнейшую дапамогу беларускаму народу аказваюць таварышы Ленін і Сталін. Іосіф Вісарыонавіч вось што гаварыў аб ролі нацыяналістычных «рад» і «урадаў» тыпу БНР:

> «Некаторыя рысуюць барацьбу ўскраінных «урадаў» як барацьбу за нацыянальнае вызваленне супроць «бяздушнага цэнтралізма» совецкай улады. Але гэта няверна. Ні адна ўлада ў свеце не дапускала такога шырокага дэцэнтралізма, ні адзін урад у свеце не прадастаўляў народам такой паўнаты нацыянальнай свабоды, як совецкая ўлада ў Расіі. Барацьба ўскраінных «урадаў» была і застаецца барацьбой буржуазнай контррэволюцыі супроць соцыялізма. Нацыянальны сцяг прышпільваецца да справы толькі для абману мас, як папулярны сцяг, зручны для прыкрыцця контррэволюцыйных замыслаў нацыянальнай буржуазіі» (**Сталін,** «Кастрычніцкая рэволюцыя і нацыянальнае пытанне»).

Беларускія нацыяналісты душой і целам прадаліся сваім польскім гаспадарам, непарыўна звязаліся з Польшчай памешчыкаў і магнатаў. Вось чаму яны з'яўляліся заклятымі ворагамі беларускага народа. Вось чаму прадавалі яны яго інтарэсы ў годы грамадзянскай вайны і ішлі пазней на жудасныя, агідныя злачынствы супроць рабочых і сялян, спеўшыся з трацкісцка-бухарынскімі бандытамі, са шпіёнамі, дыверсантамі і іншымі псамі з фашысцкай падваротні.

Іосіф Вісарыонавіч Сталін асабіста не раз выкрываў буржуазнае нутро нацыяналістаў, іх здрадніцкую ролю і на Беларусі.

Іосіф Вісарыонавіч Сталін з'яўляецца сапраўдным ініцыятарам стварэння Беларускай Совецкай соцыялістычнай Рэспублікі. Па яго пачыну на VI абласной партыйнай канферэнцыі Заходняй вобласці 30 снежня 1918 года было пастаўлена і вырашана пытанне аб стварэнні БССР, і беларускія працоўныя ўпершыню ў гісторыі свайго існавання атрымалі дзяржаўнасць, дзяржаўнасць совецкую, соцыялістычную.

Падтрымка і дапамога з боку рускага народа, з боку ўсёй дружнай сям'і народаў Совецкага Саюза, неаслабная ўвага да патрэб і запросаў рэспублікі і яе народаў з боку Іосіфа Вісарыонавіча Сталіна, кі-

*) Ленін, том XXIV, стар. 81.

раўніцтва комуністычнай партыі, правільнае правядзенне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі—усё гэта забяспечыла паспяховы гаспадарчы і культурны рост краіны, рост матэрыяльнага добрабыту працоўных мас.

Амаль нанова створана наша прамысловасць. Дзесяткі буйнейшых прадпрыемстваў выраслі за апошнія годы, асабліва за годы двух сталінскіх пяцігодак. Тут можна ўказаць на такія прадпрыемствы, як Белгрэс, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, Крычаўскі цэментны завод, Магілеўская шоўкавая фабрыка, буйнейшыя тэкстыльныя прадпрыемствы Віцебска і Оршы, Гомельскі шклозавод і т. д. Створана буйная металаапрацоўчая прамысловасць, машына-і станкабудаўніцтва, вытворчасць сельскагаспадарчых машын. Занова створана буйная хімічная прамысловасць і торфапрамысловасць. Старыя прамысловыя прадпрыемствы рэканструяваны, аснашчоны магутнай тэхнікай, расшыраны, і ў іх не пазнаць былых поўсаматужных майстэрань, дзе дарэвалюцыйны рабочы выматваў свае сілы, сваё здароўе ў бязрадаснай, катаржнай працы.

На неабсяжных палях квітнеюць багатыя калгасныя ўраджаі. Магутныя сталінцы-трактары, камбайны, дзесяткі і сотні тысяч самых рознастайных машын працуюць на калгаснай зямлі. З года ў год расце пладароднасць нашай зямлі, нязменна павышаюцца яе ўраджаі. На месцы былых непраходных балот, прыстанішчах дзікай птушкі і звера, калосіцца цяпер залатая пшаніца, авёс, шумяць прыгожыя канаплі, зелянеюць бульбяныя палі.

Адышла ў нябыт старая беларуская вёска з пакасіўшыміся халупкамі, спарахнелымі саламянымі стрэхамі, з непраходнымі ад гразі вуліцамі, з мядзвежай глухаманню, з непраезджымі дарогамі, з закаснелым бытам, з папоўскім ладанам, забабонамі, непісьменнасцю, забітасцю, з курнаю лучынай, з сумнаю песняй, з хмельным чадам.

Нават выгляд вёскі змяніўся, па-новаму выглядае вясковы пейзаж. Не ўбогі крыж званіцы пануе над ім. Новыя школы, клубы, бальніцы, яслі, моцна зладжаныя калгасныя будынкі бачым мы тут на першым плане. Электрычная лямпачка—не рэдкасць у калгасным доме. У гэтым доме не ўбачыш спарахнелых дзедаўскіх палацяў, яны ўступілі месца нікелеванаму ложаку—прыгажэй, чысцей і зручней. Тут-жа прымасцілася венскае крэсла, добрая шафа, выгодная канапка, замест прадзедаўскага «услона». У такім доме не лішняе месца патэфону, швейнай машыне, веласіпеду. У такім калгасе не лішняе месца грузавіку, легкавой машыне. І хіба мала такіх калгасаў у нашай рэспубліцы? Хіба мала ў нас такіх калгасаў, дзе на дом прыходзіцца па дзве, па тры газеты, дзе калгаснікі маюць уласныя бібліятэкі з творамі класікаў марксізма-ленінізма?

Разам з ростам краіны, з ростам яе матэрыяльнага добрабыту мы бачым сапраўдны росквіт яе культуры, яе мастацтва. Акадэмія Навук, вышэйшыя навучальныя ўстановы, пагалоўная пісьменнасць народа, стварэнне сваіх тэатраў, мастацтва, літаратуры, росквіт самадзейнага мастацтва сярод шырокіх працоўных мас—вось вынік дваццаці год існавання совецкай улады ў краіне, вынік велізарнейшых заваёў Кастрычніцкай рэволюцыі, якая разняволіла чалавека, дала яму ўсе магчымасці для найбольш поўнага выяўлення ўсіх яго сіл і здольнасцей, для найбольш разумнага, радаснага і поўнацэннага жыцця.

Шчаслівым і радасным стала жыццё беларускага працоўнага. Шчаслівай і радаснай стала праца, праца соцыялістычная, якая вылучыла

дзесяткі і сотні герояў працы на фабрыках і заводах, на калгасных нівах, зрабіла іх знатнымі людзьмі краіны.

Хіба можна ўбачыць што-небудзь падобнае ў краінах так званай дэмакратыі? На нашых вачах угасаюць апошнія праблескі гэтай, з дазволу кажучы, дэмакратыі, якая даўно ўжо стала яўна лішняй і праз меру цяжкай бутафорыяй для буржуазных урадаў. Не прыходзіцца гаварыць ужо аб фашысцкіх дзяржавах—ачагах мракабесся, ізуверства, чалавеканенавісніцтва, самай гнуснай і агіднай эксплаатацыі чалавека чалавекам, дзе перайшлі ўсялякія граніцы здзекаў над званнем і годнасцю чалавека, дзе папрана ўсё лепшае, усё найбольш каштоўнае, што створана было чалавецтвам за стагоддзі яго барацьбы з коснымі сіламі прыроды і чалавечага грамадства.

Беларускі народ сустракае дваццацігоддзе сваёй рэспублікі ў шчаслівай сям'і народаў Савецкага Саюза, якія толькі што адсвяткавалі дваццаць першую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўсенароднае свята—другую гадавіну з часу прыняцця Сталінскай Канстытуцыі. Усе свае радасці, поспехі, дасягненні ён замацаваў у Сталінскай Канстытуцыі. У Канстытуцыі запісаны яго непахісныя правы і абавязкі, і гэтыя правы гарантаваны яму законам. У выбарах у Вярхоўныя Советы Савецкага Саюза і рэспублікі беларускі народ праявіў гарачую аддanasць слаўнай комуністычнай партыі—арганізатару і кіраўніку ўсіх нашых перамог. Мы наочна пераканаліся ў магутнасці і непахіснасці блока партыйных і непартыйных большэвікоў, у маральным і палітычным адзінстве народа, адзінстве нашага соцыялістычнага грамадства.

Беларускі народ сустракае знамянальную гістарычную дату існавання сваёй рэспублікі, узбройваючыся ведамі марксізма-ленінізма, ведамі, якія дапамагалі працоўным авалодваць заваяванымі вышынямі, якія будуць дапамагаць ім у барацьбе за далейшыя перамогі, у барацьбе за перамогу комунізма.

Маральна-палітычнае адзінства двух найвялікшых сіл—народа і комунізма—гэта несакрушальная і непераможная сіла. Гэта адзінства не маглі падарваць гнусныя ворагі народа і партыі—трацкісцка-бухарынскія бандыты, нацыянал-фашысцкія псы, усякая шпіёнская і дыверсанцкая нечысць. Маральна-палітычнае адзінства народа было, ёсць і будзе той гранітнай цвярдыняй, аб якую разбіла свае лакейскія ілбы фашысцкая чэлядзь, цвярдыняй, аб якую разаб'е свой лоб кожны, хто пасмее выступіць супроць народа, хто пасмее пасягнуць на яго інтарэсы, на яго заваёвы.

Мы жывем у непасрэднай блізасці з капіталістычным акружэннем, у непасрэднай блізасці да ачагоў фашысцкага мракабесся. Гэта абавязвае нас заўсёды, дзенна і ношчна, памятаць гістарычныя словы Іосіфа Вісарыёнавіча з яго пісьма да тав. Іванова:

> «Трэба ўзмацніць і ўмацаваць інтэрнацыянальныя пролетарскія сувязі рабочага класа СССР з рабочым класам буржуазных краін: трэба арганізаваць палітычную дапамогу рабочага класа буржуазных краін рабочаму класу нашай краіны на выпадак ваеннага нападу на нашу краіну, роўна як арганізаваць усялякую дапамогу рабочага класа нашай краіны рабочаму класу буржуазных краін; трэба ўсямерна ўзмацніць і ўмацаваць нашу Чырвоную Армію, Чырвоны флот, Чырвоную авіяцыю, Асоавіяхім. Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «вы-

падковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку».

Мацаваць магутнасць нашай краіны, праяўляць сапраўдную бальшэвіцкую пільнасць, бязлітасна выкарчоўваць ворагаў народа, праводзіць суровую барацьбу з усімі нашымі непаладкамі і недачотамі, аказваць выключную ўвагу да патрэб і запатрабаванняў нашай слаўнай Чырвонай Арміі—вось тыя практычныя справы, якімі мы павінны адказаць на словы таварыша Сталіна.

Совецкая Беларусь—баявы фарпост Совецкага Саюза на захадзе. І працоўныя Беларусі, у выпадку малейшай спробы ворагаў пасягнуць на недатыкальныя рубяжы нашай радзімы, як адзін прымуць рашэнне, сфармуляванае таварышом Молатавым:

«Мы адкажам на кожны ўдар падвойным і патройным ударам па падпальшчыках і правакатарах вайны.

... Хто захоча ўпэўніцца ў тым, наколькі гэтыя сілы моцны і магутны—няхай паспрабуе».

Мы пакажам ворагу сапраўдныя совецкія «ягадкі», аб якіх так пераканаўча і маляўніча напомніў пабітым японскім самураям наш сталінскі нарком тав. Варашылаў.

Няхай-жа жыве гераічны беларускі народ і яго совецкая соцыялістычная рэспубліка!

Няхай жыве сталінская дружба народаў!

Няхай жыве комуністычная партыя—кіраўнік нашых перамог і дасягненняў!

Няхай жыве арганізатар БССР, правадыр слаўнай комуністычнай партыі, любімы настаўнік і друг беларускага народа—Іосіф Вісарыонавіч Сталін!

**Н. Грэкава**

Старшыня Вярхоўнага Совета БССР
Сакратар ЦК КП(б)Б.

# Пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі

Два годы назад—5 снежня 1936 года—Надзвычайны VIII Усесаюзны З'езд Советаў прыняў па дакладу нашага правадыра і настаўніка таварыша Сталіна новую Канстытуцыю СССР, якая ўвайшла ў гісторыю пад іменем яе вялікага тварца.

Сталінская Канстытуцыя! У гэтых двух словах выражаецца ўся веліч пераживаемай намі эпохі—эпохі перамогшага соцыялізма ў СССР.

На ўвесь свет ярка, радасна прагучэлі пераможныя словы гістарычнага даклада таварыша Сталіна аб праекце новай Канстытуцыі Саюза ССР.

Сталінскі даклад і новая Сталінская Канстытуцыя падагулілі сусветна гістарычныя вынікі большэвіцкай барацьбы народаў СССР за комунізм.

У гэтых найвялікшых дакументах атрымалі поўнае адлюстраванне сусветна-гістарычныя перамогі соцыялізма ў Совецкім Саюзе, трыумф разгорнутага соцыялістычнага дэмакратызма і росквіту культурнага, заможнага і шчаслівага жыцця працоўных СССР.

Сталінскі даклад і Сталінская Канстытуцыя абвясцілі тое, што ўжо заваявана і здабыта народамі нашай краіны: перамогу соцыялізма, ажыццяўленне гарантаваных праў свабоднага чалавека і грамадзяніна СССР, права на працу, права на асвету, права на адпачынак, поўную роўнасць усіх грамадзян, незалежна ад іх нацыянальнасці і расы. Усе гэтыя правы грамадзян соцыялістычнай краіны не толькі абвешчаны, яны гарантаваны законам.

Толькі ў нашай краіне працоўныя масы, кіруемыя ленінска-сталінскай партыяй і нашым любімым правадыром таварышом Сталіным, здолелі ажыццявіць тое, аб чым марылі лепшыя прадстаўнікі перадавога чалавецтва, аб чым марыць усё прагрэсіўнае чалавецтва ў барацьбе за вызваленне ад капіталістычнай кабалы і варварства крывавага фашызма.

У кастрычніку 1917 года рабочы клас нашай краіны ў саюзе з бяднейшым сялянствам, пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, пад непасрэдным кіраўніцтвам Леніна—Сталіна, зверглі панаванне памешчыкаў і капіталістаў, узялі ўладу ў свае рукі і ўстанавілі дыктатуру пролетарыята. Гэтымі заваёвамі сусветна-гістарычнага значэння адкрыта новая паласа, новая эра ў гісторыі чалавецтва.

15 лістапада 1917 года рабочы клас, працоўныя нашай краіны, атрымалі за подпісамі Леніна і Сталіна велізарнейшага значэння дакумент—«Дэкларацыю праў народаў Расіі».

24 (11) студзеня 1918 года на III Усерасійскім З'ездзе Советаў была прынята прапанаваная Леніным і Сталіным «Дэкларацыя праў працоўнага і эксплаатуемага народа», якая абвяшчала «знішчэнне ўсякай эксплаатацыі чалавека чалавекам, поўнае ўстраненне падзелу грамадства на класы, бязлітаснае падаўленне эксплаататараў, устанаўленне соцыялістычнай арганізацыі грамадства».

10 ліпеня 1918 года V Усерасійскі З'езд Советаў прымае выпрацаваную таварышчом Сталіным Канстытуцыю Расійскай Совецкай Федэратыўнай Соцыялістычнай Рэспублікі.

У гэтай Канстытуцыі было запісана, што заваяваная ўлада з'яўляецца здабыткам рабочага класа і ўсіх працоўных Совецкай краіны.

Значэнне гэтай Канстытуцыі велізарна. Яна ўзнімала працоўных нашай краіны на барацьбу пад кіраўніцтвам рабочага класа і яго партыі, заклікала да рэволюцыйна-вызваленчай барацьбы прыгнечаныя народы каланіяльных краін.

І па ўзору гэтай, па сутнасці, першай разгорнутай канстытуцыі РСФСР, была пабудавана Канстытуцыя Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, прынятая 4 лютага 1919 г.

Наступным этапам з'яўляецца стварэнне першай Канстытуцыі Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Гэта першая Канстытуцыя СССР была прынята на II З'ездзе Советаў у 1924 годзе. Яна адлюстроўвала велізарныя перамогі, заваяваныя за тэты перыяд рабочым класам і ўсімі працоўнымі Совецкай краіны пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі.

Яшчэ на X з'ездзе партыі Ленін і Сталін указвалі, што без магутнага саюза совецкіх рэспублік, без іх згуртавання ў адзіную ваенна-гаспадарчую сілу немагчыма ўстаяць супроць аб'яднаных сіл імперыялізма. Правадыры партыі ўказвалі на жыццёвую неабходнасць больш цеснага згуртавання народаў совецкай краіны, на неабходнасць дзяржаўнага саюза, утварэння адзінай совецкай соцыялістычнай дзяржавы.

30 снежня 1922 года адбыўся I Усесаюзны з'езд Советаў, на якім па прапанове Леніна і Сталіна была абвешчана дэкларацыя аб утварэнні Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, у які ўвайшлі ўжо існаваўшыя тады чатыры рэспублікі: РСФСР, УССР, БССР і ЗСФСР.

На Надзвычайным VIII Усесаюзным З'ездзе Советаў таварыш Сталін у сваім дакладзе аб праекце Канстытуцыі падвёў вынікі гераічнай барацьбы працоўных мас Совецкай краіны за перыяд з 1924 па 1936 год.

Характарызуючы змены, якія адбыліся за гэты перыяд у нашай краіне, таварыш Сталін зрабіў вывад, што мы маем поўную перамогу соцыялістычнага грамадства. Ажыццёўлен прынцып соцыялізма: ад кожнага па яго здольнасцях, кожнаму па яго працы. Змены, якія ўтварыліся ва ўсім ладзе Совецкай краіны—у галіне эканамічных, класавых і палітычных адносін—прадыктавалі неабходнасць змены канстытуцыі.

Такім чынам, наша новая Канстытуцыя, названая совецкім народам Сталінскай Канстытуцыяй, з'яўляецца вынікам гераічнай барацьбы працоўных мас пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна.

Таварыш Сталін у сваім дакладзе аб праекце Канстытуцыі зрабіў

марксісцка-ленінскую ацэнку социялістычнага пераўтварэння нашай краіны.

У чым заключаецца гэта пераўтварэнне?

Знішчаны эксплаататарскія класы, перамагла социялістычная сістэма ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі.

Расія з краіны адсталай, жабрацкай ператварылася ў краіну перадавой індустрыі, у магутнейшую социялістычную індустрыяльную дзяржаву.

Прамысловая прадукцыя СССР, у параўнанні з даваенным узроўнем, павялічылася ў 7 раз.

Знішчана эксплаатацыя чалавека чалавекам. Грамадская ўласнасць, социялістычная ўласнасць на сродкі вытворчасці зацвердзілася, як непарушная аснова социялістычнага ладу. У выніку назаўсёды зніклі крызісы, галеча, беспрацоўе, стварыліся ўмовы для заможнага, культурнага жыцця ўсіх членаў совецкага грамадства.

Разам з карэннымі зменамі ў эканоміцы краіны змянілася і класавая структура нашага совецкага грамадства.

Класы памешчыкаў і буйнай імперыялістычнай буржуазіі былі ліквідаваны вялікай Кастрычніцкай Социялістычнай рэволюцыяй.

За годы социялістычнага будаўніцтва ліквідаваны ўсе эксплаататарскія элементы—капіталісты, купцы, кулакі, спекулянты.

Працоўныя СССР—рабочыя, сяляне, інтэлігенцыя—глыбока змяніліся за годы социялістычнага будаўніцтва.

Совецкі рабочы клас і совецкае сялянства—зусім новыя класы, якіх яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва. Гэта свабодныя класы, якія не ведаюць эксплаатацыі. Гэта—гаспадары Совецкай краіны.

Змянілася і інтэлігенцыя нашай краіны. У масе сваёй яна вышла з рабочага і сялянскага асяроддзя. Яна служыць не капіталістам, як гэта было да Кастрычніцкай рэволюцыі, а социялізму.

> «Такім чынам, сціраюцца класавыя грані паміж працоўнымі СССР, знікае старая класавая выключнасць. Падаюць і сціраюцца эканамічныя і палітычныя супярэчнасці паміж рабочымі, сялянамі і інтэлігенцыяй. Стварылася аснова маральна-палітычнага адзінства грамадства» («Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», стар. 325).

Усе гэтыя глыбокія змены ў жыцці нашай краіны атрымалі сваё выражэнне ў новай Сталінскай Канстытуцыі СССР.

Маральна-палітычнае адзінства совецкага народа, аб якім гаварыў тав. Молатаў у сваёй гістарычнай прамове, прысвечанай дваццацігоддзю Кастрычніцкай рэволюцыі, атрымала новае бліскучае пацвярджэнне ў выбарах вярхоўных органаў Совецкага Саюза, саюзных і аўтаномных совецкіх рэспублік, на аснове самай дэмакратычнай у свеце Сталінскай Канстытуцыі.

Выбары выліліся ў магутную дэманстрацыю непахіснай дружбы народаў СССР. Сталінскі блок комуністаў і беспартыйных атрымаў поўную перамогу.

Гэта быў трыумф партыі большэвікоў.

Гэта была велізарная перамога сусветнага комунізма, бо вынікі выбараў у СССР натхнілі працоўныя масы ўсіх краін на далейшую барацьбу з фашызмам.

Сталінская Канстытуцыя ўзброіла наш совецкі народ на барацьбу за дасягненне новых поспехаў на ўсіх участках социялістычнага

будаўніцтва, на барацьбу за новыя перамогі ва ўсіх галінах культуры, тэхнікі, навукі.

У 1938 годзе народы СССР адзначылі 21 гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі, як свята велізарнейшых перамог соцыялізма.

Гэты год характэрны далейшым развіццём нашай краіны па шляху барацьбы за завяршэнне будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу да грамадства комуністычнага. Сутнасцю гэтага пераходу з'яўляецца сціранне грані паміж разумовай і фізічнай працай праз укараненне ва ўсіх галінах гаспадаркі новых, стаханаўскіх метадаў працы.

Ў СССР існуе сапраўдны, да канца паслядоўны, соцыялістычны дэмакратызм, якога яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва.

«Дэкларацыя незалежнасці США» 1776 года, французская буржуазная «Дэкларацыя праў чалавека і грамадзяніна» 1789 года і рад іншых буржуазных канстытуцыйных актаў, упрыгожаных урачыстымі абяцаннямі «свабоды, роўнасці і брацтва», вельмі хутка выявілі ўсю сваю фальш і ліцамер'е, бо працоўныя масы капіталістычных краін па-ранейшаму знемагаюць пад ярмом эксплаататараў.

У фашысцкіх краінах ад канстытуцый і законнасцей наогул нічога не засталося. Там пануе ў самай цынічнай і непрыкрытай форме поўнае самавольства кіруючай верхавінкі, якая папірае не толькі палітычныя правы, але і элементарныя ўяўленні аб правілах агульнажыцця.

Палітыка зверскага шавінізма, яўрэйскія пагромы, разбойніцкая інтэрвенцыя, бандыцкія напады на слабыя народы—вось сапраўдныя рысы фашызма, які ўваскрасіў самыя змрочныя старонкі варварскага сярэдневякоўя.

Толькі ў СССР таржаствуе сапраўдная дэмакратыя.

Наша совецкая соцыялістычная дэмакратыя заснавана на тым, што самі працоўныя з'яўляюцца гаспадарамі сваёй краіны, будуюць свой лёс пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, як перадавога атрада працоўных.

Працоўныя масы СССР маюць права **на працу,** права **на адпачынак,** права **на асвету,** права **на матэрыяльнае забеспячэнне** ў старасці—правы, аб якіх марылі лепшыя прадстаўнікі чалавецтва, за ажыццяўленне якіх змагаліся і змагаюцца працоўныя масы капіталістычных краін пад сцягам вялікага вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Узяць хоць-бы права на асвету. У 1914 годзе ў пачатковых і сярэдніх школах царскай Расіі навучалася 8 мільёнаў чалавек. У нашай совецкай сярэдняй школе навучаецца цяпер 33 мільёны. У нашых вышэйшых навучальных установах студэнтаў амаль столькі, колькі іх ва ўсёй Еўропе.

Вучнёўская моладзь капіталістычных краін асуджана на беспрасветную будучыню, на непрыглядн ае сучаснае. Вось што пісала студэнтка Варшаўскага універсітэта, якая вымушана была пакончыць жыццё самагубствам з-за адсутнасці сродкаў для жыцця: «Паміраю, не магу жыць, не магу перамагчы перашкоды. Хацела вучыцца, хацела быць карысным членам грамадства, але грамадства мяне адвяргае». Якое грамадства? Грамадства эксплаататараў, грамадства фашысцкай Польшчы! Яна просіць у пісьме: «Калі дозы яду будзе мала, каб мяне забіць, то прашу паскорыць смерць».

Зусім іншае ў нас, у Совецкім Саюзе. Шматмільённая армія шчаслівай, радаснай моладзі авалодвае вяршынямі навукі, тэхнікі, мастацтва на карысць сваёй вялікай радзімы.

Аб бурным росце палітычнага і культурнага ўзроўню нашай совецкай моладзі, вырашчанай Вялікай Кастрычніцкай Социялістычнай рэволюцыяй, сведчыць ужо той факт, што сярод дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР налічваецца 13 дэпутатаў да 20-гадовага ўзросту і 87 да 25-гадовага, сярод дэпутатаў Вярхоўнага Совета БССР—4 дэпутаты да 20-гадовага і 38 да 26-гадовага ўзросту.

Хіба можа быць што-небудзь падобнае ў капіталістычных краінах?

Толькі вялікая партыя Леніна—Сталіна магла стварыць шчаслівае і радаснае жыццё для нашай моладзі.

Жанчына ў Совецкім Саюзе—роўнапраўны грамадзянін, актыўны будаўнік социялістычнага грамадства.

Няма такой галіны нашай гаспадаркі, дзе-б жанчына не з'яўлялася роўнапраўным членам калектыва совецкіх работнікаў.

Няма такой ступені гераізма, якой не дасягнула-б совецкая жанчына.

Сярод дэпутатаў Вярхоўнага Совета СССР—187 жанчын. У Вярхоўны Совет БССР абрана 67 жанчын.

Ні адзін буржуазны парламент ніколі не бачыў нічога падобнага.

Ленін пісаў: «Ва ўсіх цывілізаваных краінах, нават самых перадавых, становішча жанчын такое, што недарма іх называюць хатнімі работніцамі». Толькі ў нашай краіне жанчыны з'яўляюцца поўнаправнымі гаспадарамі. Яны акружаны бацькаўскімі клопатамі вялікага Сталіна, яны нароўні з мужчынамі прымаюць удзел у кіраўніцтве дзяржавай ва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Хто не ведае слаўных гераінь-лётчыц Валенціну Грызадубаву, Паліну Осіпенка, Марыну Раскову і сотні імёнаў падобных выдатных жанчын, сталінскіх пітомцаў, народных любімцаў.

Сталінская Канстытуцыя замацавала нацыянальнае роўнапраўе, брацкі саюз усіх народаў СССР, звязаных непарыўнымі узамі ўзаемадавер'я і дружбы.

Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка забяспечыла магутны ўздым гаспадаркі і культуры раней адсталых нацыянальнасцей.

Беларусь, у мінулым калонія царскага самадзяржаўя, не мела сваёй дзяржаўнасці.

Дзякуючы перамозе Вялікай Кастрычніцкай Социялістычнай рэволюцыі і вялікаму Сталіну, беларускі народ набыў сваю дзяржаўнасць.

1 студзеня 1939 г. спаўняецца 20 год з часу ўтварэння Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі.

Гэта гістарычная дата мае для нас велізарнае значэнне.

Сталінскім геніем і клопатам народжана свабодная Совецкая Беларусь. Пад сталінскім кіраўніцтвам беларускі народ разграміў буржуазна-нацыяналістычную і трацкісцка-бухарынскую контррэволюцыю, пабудаваў социялістычную рэспубліку рабочых і сялян—неадрыўную частку вялікага Совецкага Саюза.

Пры велізарнай дапамозе рускага народа, пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, беларускі народ ліквідаваў сваю эканамічную і культурную адсталасць,ператварыў сваю радзіму ў адну з перадавых

савецкіх рэспублік, развіў і ўзбагаціў сваю нацыянальную па форме, соцыялістычную па зместу культуру, дабіўся радаснага і шчаслівага жыцця.

Валавая прадукцыя прамысловасці БССР ужо ў 1936 г. перавысіла прадукцыю прамысловасці дарэволюцыйнай Беларусі ў 15,5 раза.

На нашых заводах выпрацоўваюцца складанейшыя машыны: тарфяныя камбайны, стругальныя, свідравальныя станкі, розныя сельскагаспадарчыя машыны.

За годы сталінскіх пяцігодак у БССР створаны зусім новыя галіны прамысловасці.

Кастрычніцкая Соцыялістычная рэволюцыя дала беларускаму сялянству 8 млн. гектараў зямлі. Зараз у БССР налічваецца 9665 калгасаў, у якіх аб'яднана звыш 714 тысяч сялянскіх гаспадарак. У нашай рэспубліцы—215 машынна-трактарных станцый.

На палях Савецкай Беларусі працуе 8.141 трактар, звыш 1000 камбайнаў, каля 4000 аўтамабіляў, 2680 трактарных сеялак, дзесяткі тысяч складаных малатарань і іншых сельскагаспадарчых машын.

Усё гэта ярка сведчыць аб вялікіх клопатах комуністычнай партыі і асабіста таварыша Сталіна аб Савецкай Беларусі, аб беларускім народзе.

Падонкі чалавечага роду—агенты фашысцкіх разведак, трацкісцка-бухарынскія і буржуазна-нацыяналістычныя бандыты хацелі адабраць у савецкага народа яго заваёвы. Выконваючы волю сваіх гаспадароў—замежных буржуазных разведак, яны ставілі сваёй мэтай разбурэнне Савецкай дзяржавы, падрыў абароны краіны, паражэнне Чырвонай арміі, расчляненне СССР, аддачу японцам савецкага Прымор'я, палякам—Беларусі, немцам—Украіны і аднаўленне капіталістычнага рабства ў СССР.

«Гэтыя нікчэмныя лакеі фашыстаў забылі, што варта Савецкаму народу варухнуць пальцам, каб ад іх не засталося і следу» («Гісторыя ВКП(б)», стар. 332).

Савецкі народ, наша слаўная разведка, разграмілі і знішчылі асіныя гнёзды трацкісцка-бухарынскіх шпіёнаў і здраднікаў, прэзрэнных агентаў фашысцкіх разведак.

Савецкі народ бязлітасна знішчаў, знішчае і будзе знішчаць ворагаў народа, якой-бы маскаю яны ні прыкрываліся.

Трэба заўсёды памятаць мудрае ўказанне вялікага Сталіна аб капіталістычным акружэнні. Трэба памятаць, што вораг не склаў і не складзе зброі. Ён будзе вышукваць новыя каналы, новыя шляхі для падрыўной дзейнасці сваёй агентуры ў СССР. Таму савецкаму народу як ніколі неабходна рэволюцыйная пільнасць.

Усямерна павышаючы большэвіцкую рэволюцыйную пільнасць, мы абавязаны з дня ў дзень умацоўваць магутнасць нашай соцыялістычнай дзяржавы, роля якой у барацьбе за комунізм выключна вялікая.

> «Трэба памятаць аб тым,—гаварыў тав. Молатаў 6 лістапада 1938 г.,—што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, барацьба капіталізма супроць першай савецкай дзяржавы ў свеце будзе не аслабяваць, не затухаць, а наадварот—нарастаць, абвастрацца, будзе апірацца на ўсё больш вострыя, на ўсё больш крайнія сродкі».

Таму мы больш упарта павінны працаваць над умацаваннем абароннай магутнасці дзяржавы, удасканальваць наша ўменне змагацца з класавым ворагам, з варожым капіталістычным акружэннем, з усякімі недахопамі ў рабоце нашага дзяржаўнага апарата.

Правесці ў жыццё ўказанні таварыша Сталіна аб нашых адносінах да капіталістычнага акружэння,—значыць умацаваць нашы баявыя пазіцыі ў барацьбе за поўную перамогу соцыялізма.

У дні, калі чорныя хмары новай сусветнай імперыялістычнай вайны грозна навіслі над светам, погляды ўсяго перадавога чалавецтва звернуты на Совецкі Саюз.

Другая імперыялістычная вайна ўжо на справе пачалася.

У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» так характарызуецца сучаснае міжнароднае становішча:

> «Дзяржавы і народы неяк непрыкметна ўпаўзлі ў арбіту другой імперыялістычнай вайны. Пачалі вайну ў розных канцах свету тры агрэсіўныя дзяржавы,—фашысцкія правячыя кругі Германіі, Італіі, Японіі. Вайна ідзе на велізарнай прасторы ад Гібралтара да Шанхая. Вайна паспела ўжо ўцягнуць у сваю арбіту больш поўмільярда насельніцтва».

Фашызм абрушыўся на рэспубліканскую Іспанію, імкнучыся заняволіць гераічны іспанскі народ. Фашысцкая Германія захапіла ніколі не належаўшыя ёй землі Аўстрыі. Цэлыя дзяржавы знікаюць з твару зямлі. Гітлераўскія полчышчы захапілі багацейшыя раёны Чэхаславакіі. Вайна лютуе ў Кітаі. Ваенны пажар пагражае ахапіць увесь свет.

Другая імперыялістычная вайна за перадзел свету пачата ўжо. Фашысцкія драпежнікі ўсяляк імкнуцца накіраваць яе полымя на краіну Советаў.

Народы Совецкага Саюза павінны быць заўсёды напагатове, каб даць руйнуючы адпор фашысцкаму агрэсару.

У баях ля возера Хасан наша слаўная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія, аснашчоная магутнай ваеннай тэхнікай, дала добры ўрок японскім самураям. Наглыя захватчыкі былі правучаны як след.

Маршал Совецкага Саюза тав. Варашылаў заявіў:

> «... Калі наглядных урокаў на возеры Хасан недастаткова, калі вораг у стане забыць сакрушальную сілу совецкай зброі і гераізм чырвоных байцоў і іх камандзіраў, мы павінны ім сказаць: панове, тое, што вы атрымалі на Хасане—гэта толькі «кветкі», а «ягадкі», сапраўдныя «ягадкі» яшчэ ўперадзе. Усякаму непакойнаму або нагламу ворагу, усёроўна дзе-б і калі-б ён ні асмеліўся сунуць свой нос на нашу зямлю, прыдзецца пакаштаваць гэтых совецкіх «ягадак». Няхай памятаюць тыя, каму забываць не след, што мы зусім не абавязаны заўсёды абмяжоўваць дзеянні нашых войск раёнам, на які па-зладзейску і нагла нападае вораг. Наадварот, нам зручней і лягчэй граміць ворага на яго ўласнай тэрыторыі. Так яно і будзе—на ўсякі напад і ўдар мы будзем адказваць патройнымі ўдарамі ўсёй магутнасці нашай доблеснай Чырвонай Арміі».

Капіталісты хочуць знішчыць усё лепшае, рэволюцыйнае, перадавое.

Капіталістычны свет не здолее знішчыць рабочы клас, яму не ўдасца выбіць з рук таго сцягу, пад якім вядзе барацьбу рабочы клас супроць капіталізма.

Таварыш Сталін гаварыў:

«Цяпер, калі мутная хваля фашызма аплёўвае соцыялістычны рух рабочага класа і змешвае з граззю дэмакратычныя імкненні лепшых людзей цывілізаванага свету, новая Канстытуцыя СССР будзе абвінаваўчым актам супроць фашызма, актам, які гаворыць аб тым, што соцыялізм і дэмакратыя непераможны. Новая Канстытуцыя СССР будзе маральнай дапамогай і рэальным падспор'ем для ўсіх тых, хто вядуць цяпер барацьбу супроць фашысцкага варварства».

Цалкам і поўнасцю пацвердзіліся гэтыя гістарычныя словы. Сталінская Канстытуцыя сапраўды з'яўляецца абвінаваўчым актам супроць фашызма, магутным рэальным падспор'ем у барацьбе працоўных і прыгнечаных народаў усіх краін супроць фашысцкіх разбойнікаў, супроць прэзрэнных ворагаў народа, контррэволюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх і бухарынска-рыкаўскіх шпіёнаў, дыверсантаў, разведчыкаў крывавага фашызма.

Гераічны народ рэспубліканскай Іспаніі ў барацьбе супроць азвярэлых фашысцкіх агрэсараў, кітайскі народ у барацьбе супроць японскага імперыялізма, рабочы клас і працоўнае сялянства ўсіх частак свету, прыгнечаныя і заняволеныя народы бачаць у Сталінскай Канстытуцыі мацнейшую зброю супроць фашызма, супроць імперыялістычных драпежнікаў.

Сталінская Канстытуцыя натхняе, арганізоўвае і згуртоўвае мільёны людзей усіх краін на барацьбу супроць раз'юшанага фашызма, капіталістычнай кабалы і мракабесся.

Другую гадавіну Вялікай Сталінскай Канстытуцыі Совецкі Саюз сустрэў поўным росквітам сваіх творчых сіл. Гэты год азнаменаваўся буйнейшай падзеяй у жыцці нашай партыі: пад рэдакцыяй Камісіі ЦК ВКП(б) пры асабістым удзеле таварыша Сталіна вышла глыбока навуковая праца—«Гісторыя Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў)». Партыя і краіна атрымалі выключную па сваёй магутнасці зброю, якая дапамагае авалодаць большэвізмам.

Гісторыя ВКП(б) з'яўляецца энцыклапедыяй марксісцка-ленінскіх ведаў. Яна ліквідуе той разрыў паміж ленінізмам і марксізмам, што стварыўся за апошнія годы ў практыцы выкладання і прапаганды і паказвае марксізм-ленінізм у дзеянні.

Яна дае ў рукі нашым кадрам магутную зброю, правераную на гіганцкім вопыце барацьбы нашай партыі.

Яна ўзбройвае веданнем законаў грамадскага развіцця і палітычнай барацьбы, веданнем рухаючых сіл рэволюцыі.

Яна ўмацоўвае ўпэўненасць у канчатковай перамозе вялікай справы партыі Леніна—Сталіна, у перамозе комунізма ва ўсім свеце.

Пад вялікім сцягам марксізма-ленінізма, пад сцягам Сталінскай Канстытуцыі, пад кіраўніцтвам нашага настаўніка, геніяльнага тварца новай Канстытуцыі, правадыра народаў—таварыша Сталіна, пойдзем уперад, да новых перамог комунізма.

К. Кісялёў

Старшыня СНК БССР

# Трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі

Вялікая Кастрычніцкая Сацыялістычная рэвалюцыя абвясціла і ажыццявіла на справе вялікі лозунг роўнапраўя нацыянальнасцей, права кожнай нацыі на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення.

15 (2) лістапада 1917 года таварышом Сталіным была напісана «Дэкларацыя праў народаў Расіі», апублікаваная за подпісам Леніна і Сталіна. У гэтым дакуменце сусветна-гістарычнага значэння былі вызначаны карэнныя пачаткі дзейнасці совецкай улады ў галіне нацыянальных адносін:

«1) Роўнасць і суверэннасць народаў Расіі.

2) Права народаў Расіі на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы.

3) Адмена ўсіх і ўсякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і абмежаванняў.

4) Свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей і этнаграфічных груп, якія насяляюць тэрыторыю Расіі».

Ставячы сваёй задачай стварыць чэсны і моцны саюз народаў Расіі, Совецкі ўрад абвясціў палітыку, якая вядзе «да поўнага ўзаемнага давер'я народаў Расіі».

«Дэкларацыя праў народаў Расіі» адкрыла народам Совецкай краіны шлях да свабоднага і радаснага жыцця, да эканамічнага і культурнага росквіту.

Царская Расія з'яўлялася сапраўднай «турмою народаў», яна была «ачагом ўсякага роду прыгнечання—і капіталістычнага, і каланіяльнага, і ваеннага,—узятага ў яго найбольш бесчалавечнай і варварскай форме» **(Сталін)**. Царызм усяляк затрымліваў эканамічнае і культурнае жыццё прыгнечаных народаў, жорстка падаўляў усякі нацыянальны рух і праследаваў нацыянальную культуру, родную мову народнасцей, насяляючых краіну.

Пануючыя класы—буржуазія і памешчыкі—знарок распальвалі міжнацыянальную варожасць і нянавісць, наўмысна нацкоўвалі народы адзін на другога, правакавалі яўрэйскія пагромы, армянскую разню, чынілі крывавыя расправы з прыгнечанымі народнасцямі.

Кастрычніцкая Сацыялістычная рэвалюцыя, звергшы ўладу памешчыкаў і буржуазіі і ўстанавіўшы дыктатуру пролетарыята, паклала канец капіталістычнаму рабству ў нашай краіне, канец агіднай палі-

тыцы нацыянальнага гнёту, гвалтоўнага абмежавання права дзяржаўнасці для прыгнечаных народаў.

Саюз Совецкіх Социялістычных Рэспублік прадстаўляе сабой саюзную дзяржаву, створаную на аснове добраахвотнага аб'яднання роўнаправных совецкіх социялістычных рэспублік, спаяных агульнасцю мэты і імкненняў, вялікай дружбай і ўзаемадапамогай у адзіную магутную шматнацыянальную дзяржаву. Акрамя агульнасаюзнай Канстытуцыі, якая распаўсюджваецца на ўсе рэспублікі СССР, кожная саюзная і аўтономная рэспубліка мае сваю канстытуцыю, якая ўлічвае асаблівасці данай рэспублікі і пабудавана ў поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР.

Гэтыя вялікія правы народаў СССР з'яўляюцца заваёвай Вялікай Кастрычніцкай Социялістычнай рэволюцыі, якая разбіла і назаўсёды знішчыла ланцугі нацыянальна-каланіяльнага прыгнечання і ажыццявіла роўнаправе грамадзян незалежна ад нацыянальнасці і расы.

У артыкуле 123 вялікай Сталінскай Канстытуцыі запісана:

> «Роўнаправе грамадзян СССР, незалежна ад іх нацыянальнасці і расы, ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця з'яўляецца непахісным законам.
>
> Якое-б там ні было прамое або ўкоснае абмежаванне праў або, наадварот, устанаўленне прамых або ўкосных пераваг грамадзян у залежнасці ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, роўна як усякая пропаведзь расавай або нацыянальнай выключнасці, або нянавісці і пагарды—караюцца законам».

Партыя і совецкі ўрад на аснове няўхільнага правядзення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі дабіліся нябачанага росквіту социялістычнай эканомікі і культуры ўсіх народаў, што насяляюць нашу социялістычную радзіму. Гэтыя сусветна-гістарычныя перамогі замацаваны ў непарушным законе социялістычнай дзяржавы рабочых і сялян—у Сталінскай Канстытуцыі, Канстытуцыі перамогшага социялізма.

Да Вялікай Кастрычніцкай Социялістычнай рэволюцыі Беларусь была некультурнай і непісьменнай, забітай і адсталай калоніяй царскай Расіі. Працоўнае сялянства знаходзілася ў ціскак памешчыцка-кулацкай кабалы, малазямелля і адсталай тэхнікі. Больш паловы ўсіх зямель належала памешчыкам і духавенству. Становішча сялян было нязносна цяжкім. Сярод беднаты панавала страшэнная галеча, свайго хлеба ніколі не хапала, прыходзілася харчавацца грыбамі і рознымі сурагатамі.

Палітыка русіфікацыі, распальвання нацыянальнай варожасці ўзмоцнена праводзілася царскім урадам і яго спадручнымі, накшталт Курлова, Клінгенберга і інш. Яўрэйскае насельніцтва, сагнанае царскім урадам з усіх гарадоў Расіі ў так званую «чарту аселасці», знаходзілася ў стане выключнай галечы, падвяргалася пагромам і здзекам з боку жандармаў і featureнага роду пагромшчыкаў, арганізуемых чорнаю сотняй.

Беларусы, яўрэі, латышы і іншыя нацменшасці неслі падвойнае ярмо—социяльнага і нацыянальнага ўціску.

Баючыся росту культурнай і палітычнай актыўнасці рабочых і сялян, царскі ўрад прымаў усе захады, каб трымаць іх у цемры і невуцтве. Дзецям рабочых і сялян ён стараўся не даваць не толькі ся-

рэдняй, але і першапачатковай асветы, усімі мерамі насаджаў рэлігійны дурман, падтрымліваў касцёлы і цэрквы.

Беларускі народ не меў школ на сваёй роднай мове. Настаўнікі, якія прабавалі выкладаць на беларускай мове, падвяргаліся праследаванням і знімаліся з работы.

Да Кастрычніцкай рэволюцыі 70 проц. усяго насельніцтва Беларусі было непісьменным. Непісьменнасць сярод жанчын дасягала 90 проц.

Бязлітасная жорсткая эксплаатацыя несла з сабою голад, масавыя захворванні, выміранне. Халера, чума, воспа, зваротны тыф, калтун падоўгу і часта гасцілі ў курнай, убогай хаце беларуса. Бязрадаснай і цяжкай была доля працоўных пры царызме. Уся дарэволюцыйная гісторыя беларускага народа—гэта гісторыя палітычнага і нацыянальнага прыгнечання.

Толькі Вялікая Кастрычніцкая Сацыялістычная рэволюцыя прынесла працоўным Беларусі вызваленне. Аднак беларускаму народу прышлося неўзабаве перажыць нямецкую, а потым белапольскую акупацыі. Гэта—самая жудасная старонка ў яго гісторыі. Захапіўшы тэрыторыю Беларусі, белапалякі па-зверску распраўляліся з насельніцтвам: учынялі яўрэйскія пагромы, сялян секлі, адбіралі ў іх апошнюю карову, апошні кавалак хлеба, а спрабаваўшых супраціўляцца расстрэльвалі на месцы. Значная частка беларускіх вёсак была разграблена і зруйнавана. У адказ на зверскія здзекі акупантаў беларускі народ павёў з імі жорсткую барацьбу. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі большэвікоў паўсюды арганізоўваліся партызанскія атрады.

Выключна ганебную здрадніцкую ролю адыгралі беларускія буржуазныя нацыяналісты. Будучы на службе ў германскага і польскага генеральных штабаў, кіраўнікі так званай «беларускай сацыялістычнай грамады», Бунда, сіяністаў і інш. дапамагалі Пілсудскаму ўмацавацца на Беларусі, выдавалі контрразведцы рэволюцыйна настроеных рабочых і сялян.

Яшчэ пры нямецкай акупацыі, у сакавіку 1918 года, беларускія нацыянал-фашысты паслалі кайзеру Вільгельму «ўрадавую» тэлеграму з выражэннем удзячнасці за «вызваленне» ад большэвікоў і просьбаю ўзяць Беларусь пад апеку Германскай імперыі. Гэту чорную справу працягвалі агенты гестапо і польскага генеральнага штаба—нацыянал-фашысты Шаранговіч, Галадзед, Чарвякоў і інш. Гэтыя шпіёны і здраднікі на працягу многіх год вялі падрыўную работу, каб зноў надзець на шыю беларускага народа ярмо польскага і германскага фашызма. Але гэта ім не ўдалося і ніколі не ўдасца. Шайка фашысцкіх бандытаў раздаўлена і сцёрта з твару савецкай зямлі.

У выніку Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай Рэволюцыі беларускі народ, упершыню ў гісторыі свайго існавання, набыў сваю дзяржаўнасць. Першага студзеня 1919 года была створана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. 5 лютага 1919 года Прэзідыум ВЦВК прыняў пастанову аб прызнанні незалежнасці БССР. У гэтай пастанове Прэзідыум ВЦВК вітаў працоўныя масы Беларусі і заяўляў аб гатоўнасці РСФСР аказаць ім усялякую дапамогу і падтрыманне ў барацьбе супроць эксплаатацыі і ў абароне ад пасягання на іх свабоду і незалежнасць з боку капіталістычных дзяржаў.

З першых-жа дзён самастойнага існавання БССР працоўныя масы Савецкай Беларусі імкнуліся да самага цеснага садружаства з расій-

скім пролетарыятам, усямерна ўмацоўвалі і развівалі палітычныя, эканамічныя і культурныя сувязі з брацкай РСФСР.

I Усебеларускі З'езд Советаў адбыўся ў пачатку лютага 1919 года. Выражаючы волю рабочых і сялян Совецкай Беларусі, з'езд у сваёй дэкларацыі заявіў, што толькі цесны саюз працоўных усіх совецкіх рэспублік, якія стварыліся на тэрыторыі былой Расійскай імперыі, забяспечыць перамогу рабочых і сялян у іх барацьбе з усім капіталістычным светам. З'езд прызнаў неабходным устанавіць цесныя эканамічныя і палітычныя сувязі са сваім старшым братам—Расійскай Совецкай Рэспублікай і, грунтуючыся на волі мільёнаў працоўных Беларусі, пастанавіў «пачаць перагаворы з Расійскай Совецкай Рэспублікай па ўстанаўленню федэратыўнай сувязі паміж ёю і Совецкай Беларуссю» (**«Жизнь национальностей»** № 5 ад 16 лютага 1919 г.).

З'езд звярнуўся да ўсіх брацкіх незалежных соцыялістычных рэспублік з заклікам паследаваць прыкладу рабочых і сялян Беларусі і прыступіць да перагавораў аб устанаўленні федэратыўнай сувязі паміж імі і Совецкай Расіяй.

Так у жорсткай класавай барацьбе працоўных усіх нацыянальнасцей супроць сваіх прыгнятальнікаў, у барацьбе за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва раслі і мацнелі сталінская дружба народаў, іх згуртаванасць і ўзаемадавер'е.

Працоўныя Беларусі, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і пры дапамозе вялікага рускага народа, звергли ўладу памешчыкаў і капіталістаў і на аснове цеснага садружаства ўвайшлі ў брацкую сям'ю народаў для пабудовы соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне. Вызваленыя ад нацыянальнага ўціску і рабства народы аб'ядналіся ў магутны Совецкі Саюз—у вялікую соцыялістычную дзяржаву, у дзяржаву нябачанай дружбы брацкіх народаў.

> «... Мы маем зараз упаўне склаўшуюся і вытрымаўшую ўсе іспыты шматнацыянальную соцыялістычную дзяржаву, трываласці якой магла-б пазайздросціць любая нацыянальная дзяржава ў любой частцы свету» **(Сталін)**.

У дружнай сям'і народаў вялікага Совецкага Саюза, дзе перамогшы соцыялізм увайшоў у быт працоўных, пышна расцвіла Совецкая Беларусь. За дваццаць адзін год совецкай улады Совецкая Беларусь, на сцягу якой зззяе ордэн Леніна, дзякуючы правільнаму правядзенню ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, пры дапамозе вялікага брацкага рускага народа, з забітай, адсталай, некультурнай, прыгнечанай калоніі царскай Расіі, з краіны жабрацтва, беспрацоўя і эксплаатацыі ператварылася ў роўную сярод адзінаццаці брацкіх саюзных рэспублік, у квітнеючую індустрыяльна-калгасную Беларускую Совецкую Соцыялістычную Рэспубліку—несакрушальны фарпост СССР на яго заходніх граніцах.

Беларускі народ прасякнут глыбокай удзячнасцю і любоўю да гераічнага рускага народа, які пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі дапамог яму назаўсёды скінуць ярмо нацыянальнага прыгнечання і рабства, стварыць магутную соцыялістычную індустрыю, калектывізаваць сельскую гаспадарку, дабіцца нябачанага росквіту культуры—нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу.

Нястомныя клопаты і дапамога ЦК ВКП(б), саюзнага ўрада і асабіста таварыша Сталіна адкрылі працоўным Беларускай ССР шырокі

шлях для гаспадарча-палітычнага ўмацавання, росту заможнасці і культуры.

Няўхільна ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, беларускі народ, пры дапамозе брацкіх народаў СССР і асабліва вялікага рускага народа, у барацьбе з ворагамі народа—трацкістамі, бухарынцамі, беларускімі нацыянал-фашыстамі, дабіўся велізарных поспехаў на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва і ў тым ліку ў справе развіцця беларускай культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу.

У галіне прамысловасці Беларусь дабілася велізарных поспехаў. У 1938 годзе валавая прадукцыя прамысловасці складзе 2.158 млн. рублёў, а ў 1939 годзе намячаецца выпусціць прадукцыі на 2.350 млн. рублёў, што дасць прырост на 9,3 проц.

Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі ў 1938 г. складзе 550 млн. рублёў, а ў 1939 г. намячаецца давесці яе да 800 млн. рублёў, што дасць рост на 45,5 проц.

Агульная валавая прадукцыя прамысловасці і сельскай гаспадаркі (у цэнах 1926-27 г.г.) да чакаемага выканання плана 1938 г. складзе 2.700 млн. рублёў.

Удзельная вага прамысловасці складзе 79,6 проц., а сельскай гаспадаркі—20,4 проц.

Параўнанне аб'ёму зводнага бюджэта 1938 года (1.178,2 млн. руб.) з аб'ёмам зводнага бюджэта 1932 года (313,3 млн. руб.) сведчыць аб тым, што за апошнія пяць год бюджэт БССР павялічыўся амаль у 4 разы—на 376 проц.

Воляй партыі і совецкай улады, гераічнымі намаганнямі працоўных у БССР створана магутная індустрыя, аснашчоная перадавою тэхнікай.

На заводах СССР зараз працуюць металарэжучыя станкі вышэйшага класа дасканаласці, пабудаваныя на прадпрыемствах Беларускай ССР.

Поспехі калгаснага ладу забяспечылі ператварэнне Беларусі з раёна, спажываючага збожжа, у раён вытвараючы. Пасевы зернавых культур выраслі на сотні тысяч га, асабліва пашырыліся пасевы пшаніцы. З года ў год узрастае забяспечанасць насельніцтва рэспублікі ўласным хлебам, у тым ліку пшанічным.

За калгасамі Беларусі замацавана цяпер 7.850.800 га зямлі ў бясплатнае і бестэрміновае карыстанне, г. зн. навечна. Зараз у БССР налічваецца каля 10 тысяч калгасаў, якія яднаюць 89,9 проц. сялянскіх гаспадарак і засяваюць 96,4 проц. усёй пасеўнай плошчы. У рэспубліцы 215 МТС. На калгасных палях працуе 8.141 трактар, звыш 1000 камбайнаў, 3800 малатарань, 1500 ільноцерабілак, каля 4000 аўтамашын і многа іншых сельскагаспадарчых прылад.

Да Кастрычніцкай рэволюцыі чацвертую частку ўсёй тэрыторыі Беларусі займалі балоты, яны затрудпялі вядзенне гаспадаркі на мінеральных землях, з'яўляліся ачагом розных міязмаў, якія выклікалі захворанні людзей і жывёлы. Балоты накладалі свой адбітак на вытворча-бытавы ўклад насельніцтва цэлай трэці Палесся. Умовы жыцця забітага самадзяржаўна-памешчыцкім ладам палескага селяніна, «палешука», былі амаль на ўзроўні першабытнага чалавека. Царскі ўрад не ўдзяляў увагі асушцы балот. І толькі пры совецкай уладзе пачынаюцца работы па асваенню і гаспадарчаму выкарыстанню балоцістай плошчы. За годы двух сталінскіх пяцігодак праведзены інтэнсіўныя

работы па асушцы балот. Пад палявыя культуры асушана плошча ў 9400 га, палепшаны ўмовы для павярхоўнага стоку вады на 520 тысяч га сенажаці. Праведзены даследчыя работы на плошчы звыш 15 тыс. га Адрэгулявана 1.065 клм. рэк. Пралажана 2.408 клм. магістральных каналаў. Капіталаўкладанні ў меліярацыю за годы соцыялістычнага будаўніцтва склалі 57,8 млн. рублёў.

Пастанова Совета Народных Камісараў СССР і ЦК ВКП(б) ад 2 жніўня 1937 г. «Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству Беларускай ССР і аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага будаўніцтва» з'явілася новай вехай ва ўмацаванні калгасаў.

На падставе палітычнага і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў у Совецкай Беларусі, як і ва ўсім СССР, вырас матэрыяльна-культурны ўзровень калгаснікаў, павышаецца аплата працадня натурай і грашыма, паляпшаецца добрабыт сялян-калгаснікаў.

За годы сталінскіх пяцігодак расцвіла культура, навука і мастацтва. Пад геніяльным кіраўніцтвам вялікага Сталіна совецкі народ будуе новае, бяскласавае грамадства, стварае новую соцыялістычную культуру і мастацтва.

Вялікая Кастрычніцкая Соцыялістычная рэволюцыя адкрыла перад кожным працоўным шырокі творчы прастор.

У сучасны момант школьнаю сеткай ахоплены ўсе дзеці як у горадзе, так і ў вёсцы. БССР за годы совецкай улады стала рэспублікай суцэльнай граматнасці. Навучанне вядзецца на беларускай і рускай мовах. У 1939 годзе ў школах БССР будзе навучацца 1256 тысяч школьнікаў. У 1938 годзе мы маем 7071 школу, тады як у 1914 годзе было ўсяго 4171 школа. Настаўнікаў да рэволюцыі налічвалася ўсяго 7164, а ў 1938 годзе—31100 чал. У 1938 годзе ў 22 вышэйшых навучальных установах вучыцца 16 тыс. студэнтаў, у 80 педвучылішчах і тэхнікумах—30660 студэнтаў і ў 20 рабфаках—5600 студэнтаў, а ўсяго 52260 чалавек. Зараз у БССР студэнтаў у 75 раз больш чым ў 1913 годзе. Толькі за апошнія 4 годы выпушчана 9806 спецыялістаў (інжынераў, урачоў, педагогаў, юрыстаў і інш.).

Да Кастрычніцкай рэволюцыі Беларусь не мела навукова-даследчых інстытутаў, а зараз у нас—41 інстытут.

У дарэволюцыйнай Беларусі была толькі адна вышэйшая навучальная ўстанова—Горацкі сельскагаспадарчы інстытут. У сучасны момант мы маем Беларускі Дзяржаўны Універсітэт, Магілеўскі пединстытут, Палітэхнічны інстытут, Ветэрынарны інстытут, Мединстытуты ў Менску і Віцебску і т. д.

У снежні 1928 года арганізавана Беларуская Акадэмія Навук, у якой працуе 306 навуковых работнікаў. Усяго навуковых работнікаў на Беларусі—1263 чал., з іх 270 жанчын. Выхавана 500 чалавек новых кадраў беларускіх навуковых работнікаў.

Велізарнейшыя перамогі на фронце соцыялістычнай культуры забяспечваюць для ўсіх грамадзян нашай вялікай радзімы права на адукацыю. Гэта права запісана ў найвялікшым дакуменце нашай эпохі—Сталінскай Канстытуцыі.

Беларускаму народу прадастаўлена поўная магчымасць для ўсебаковага развіцця яго здольнасцей, дараванняў, талентаў.

У сучасны момант у нас працуе 14 драматычных тэатраў, 15 навучальных устаноў мастацтва, 2 тэатральныя студыі, Дзяржфілармонія, Кансерваторыя, закончан будаўніцтвам Вялікі тэатр оперы і балета.

У гарадскіх і рабочых пасёлках Беларусі працуюць 2.944 клубы,

а ў раёнах—88 дамоў соцкультуры і 1417 хат-чытальняў і калгасных клубаў. Вакол гэтых палітасветных устаноў існуюць дзесяткі тысяч гурткоў мастацкай самадзейнасці: драматычных, музычных, харавых, танцавальных, вынаходніцкіх і т. п. Кіноўстановак налічваецца 1133, з іх 491 гукавая.

У БССР выходзіць 197 друкаваных газет. Небывалага росквіту дасягнула за годы рэволюцыі беларуская літаратура і народная творчасць. У 1939 годзе выдаткі на соцыяльна-культурныя мерапрыемствы будуць складаць 73 проц. бюджэта, з іх на асвету будзе выдана 449.250 тыс. рублёў.

Так з года ў год расце матэрыяльны і культурны добрабыт працоўных Совецкай Беларусі—роўнапраўнай квітнеючай рэспублікі ў дзяржаўнай сям'і адзінаццаці брацкіх совецкіх соцыялістычных рэспублік.

Зусім іншы малюнак мы бачым у капіталістычных краінах, дзе пануе сістэма нацыянальнага прыгнечання і каланіяльнага рабства. Капіталістычны лад, аснаваны на эксплаатацыі, не можа існаваць без прыгнечання нацыянальных меншасцей, без падпарадкавання іх імперыялістычным захватчыкам, без распальвання нацыянальнай варожасці. Італа-германскія фашысцкія крывасмокі забіваюць іспанскіх жанчын і дзяцей, мучаць і расстрэльваюць гераічны іспанскі народ, а японскія захватчыкі па-зверску знішчаюць мірных рабочых і сялян у Кітаі, руйнуюць ушчэнт гарады і сядзібы. Усе гэтыя злачынствы зверскай фашысцкай палітыкі зліваюцца ў адзін злавесны малюнак з фашысцкімі пагромамі супроць яўрэяў.

Панская Польшча і фашысцкая Германіяператварыліся ў змрочную турму народаў. Фашысцкія варвары спальваюць на плошчах дзесяткі тысяч кніг—твораў выдатных пісьменнікаў, вучоных, палітыкаў, філосафаў. З універсітэтаў выганяюць прафесараў, выкладчыкаў—усіх тых, хто не жадае быць пад фашысцкім ботам. У Германіі з 5000 выкладчыкаў вышэйшай школы выгнана 1600 чал.

Моладзь у фашысцкіх краінах выхоўваецца ў абстаноўцы варварства. Усякая магчымасць развіцця інтэлектуальных здольнасцей падаўляецца. У памешчыцка-капіталістычнай Польшчы нацыянальныя меншасці падвяргаюцца жорсткім праследаваннем, украінскія і беларускія школы ліквідуюцца, у нацыянальных сельскіх раёнах лютуюць карныя экспедыцыі.

Увесь свет узрушан беспрыкладнымі ў гісторыі дзікімі яўрэйскімі пагромамі, якія шырока разгарнуліся ў фашысцкай Германіі. Тысячы бязвінных людзей гінуць ад рук фашысцкіх катаў.

З пачуццем найглыбейшага абурэння сочыць за бруднымі, крывавымі падзеямі ў фашысцкай Германіі шматмільённы совецкі народ. Гэтыя зверствы, так добра знаёмыя раней беларускаму народу, успамінаюцца зараз, як кашмарны сон далёкага праклятага мінулага. У нашай краіне разам з капіталістамі і памешчыкамі назаўсёды знішчаны ўсе крыніцы агіднага антысемітызма.

> «Антысемітызм небяспечны для працоўных, як ложная сцежка, якая збівае іх з правільнага шляху і прыводзіць іх у джунглі. Таму комуністы, як паслядоўныя інтэрнацыяналісты, не могуць не быць непрымірымымі і заклятымі ворагамі антысемітызма. У СССР жорстка праследуецца антысемітызм, як з'ява, глыбока варожая совецкаму ладу» **(Сталін).**

Вялікая Кастрычніцкая Социялістычная рэволюцыя вымела памешчыкаў і капіталістаў з нашай краіны і назаўсёды знішчыла атручаныя крыніцы нацыянальнай варожасці і нянавісці. Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка—палітыка поўнага роўнапраўя народаў, палітыка вялікай інтэрнацыянальнай салідарнасці працоўных, палітыка дружбы народаў—згуртавала совецкія народы ў адзіную социялістычную сям'ю, з'яднала совецкія рэспублікі ў непарыўны брацкі саюз.

Беларускі народ, натхнёны гераічнай партыяй большэвікоў і правадыром працоўных усяго свету—вялікім Сталіным, ахоплен энтузіязмам творчай працы, шырокай хваляй социялістычнага спаборніцтва, новымі выдатнымі стаханаўскімі рэкордамі, высокай прадукцыйнасцю працы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культуры.

Совецкая Беларусь—неад'емная частка магутнай радзімы працоўных усяго свету, Саюза Совецкіх Социялістычных Рэспублік—з'яўляецца перадавым фарпостам заходніх яго рубяжоў.

Непарушна і магутна сталінская дружба народаў краіны Советаў.

> «... Дружба паміж народамі СССР—вялікае і сур'ёзнае заваяванне. Бо пакуль гэта дружба існуе, народы нашай краіны будуць свабодны і непераможны. Ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэта дружба жыве і здраўствуе» **(Сталін)**.

Працоўныя Совецкай Беларусі спакойны за заўтрашні дзень. Яны добра ведаюць, што іх заваёў, іх перамог нікому не ўдасца адабраць. Яны ўпэўнены, што ніякай сіле не ўдасца звярнуць іх са шляху социялізма, бо па гэтаму шляху вядзе партыя большэвікоў, па гэтаму шляху іх вядзе геніяльны стратэг рэволюцыі—вялікі Сталін.

---

І. Чорны

Старшыня Дзяржплана БССР

# Прамысловасць і сельская гаспадарка к дваццацігоддзю БССР

Гераічны рабочы клас у саюзе з бяднейшым сялянствам, звергнуўшы капіталістаў і памешчыкаў у кастрычніку 1917 года, разграміўшы, пад кіраўніцтвам компартыі і яе вялікіх правадыроў—Леніна і Сталіна, усіх ворагаў рабочага класа, фашысцкіх шпіёнаў і дыверсантаў з лагера Троцкага, Бухарына, Рыкава і іншай нечысці,—у асноўным пабудаваў соцыялізм у СССР і пераможна шэствуе па шляху да комунізма.

Яшчэ ў 1926 годзе на XV партканферэнцыі таварыш Сталін сказаў, што ў нашай краіне ўжо на дзевяць дзесятых ажыццёўлена праграма, намечаная ў «прынцыпах комунізма», якія прадстаўляюць сабою нарыс «Маніфеста комуністычнай партыі».

За гэтыя годы мы прайшлі гіганцкі шлях будаўніцтва соцыялізма, паспяхова ажыццявіўшы вялікую праграму двух сталінскіх пяцігодак.

Поспехі СССР велізарны. Гэтыя поспехі адлюстраваны і замацаваны ў Сталінскай Канстытуцыі—Канстытуцыі перамогшага соцыялізма.

За годы двух сталінскіх пяцігодак СССР стаў магутнай індустрыяльнай краінай. Пабудавана новая, буйнейшая прамысловасць. Не засталося і следу ад старой царскай «расійскай» адсталасці. У вёсцы перамог калгасны лад, адкрыліся магутныя крыніцы народных талентаў, якія капіталізм душыў і душыць яшчэ і зараз у капіталістычных краінах. Мацнее, расце і квітнее стаханаўскі рух, як вышэйшы этап соцыялістычнага спаборніцтва. У пладатворнае, актыўнае жыццё ўключаюцца тысячы герояў і гераінь з шырокіх мас народа, паступова знікае процілегласць паміж разумовай і фізічнай працай.

Краіна соцыялізма стала цэнтрам сусветнай культуры. Усе народы Савецкага Саюза згуртаваліся ў адзіную дружную сям'ю будаўнікоў соцыялізма. Бурна растуць і развіваюцца нацыянальныя рэспублікі, якія ў мінулым жорстка цярпелі падвойны гнёт з боку царскага самаўладства і з боку капіталістаў і памешчыкаў. Сталі явай словы Маркса і Энгельса, запісаныя ў «Маніфесце комуністычнай партыі»,— «у той-жа ступені, у якой будзе знішчана эксплаатацыя аднаго індывідуума другім, будзе знішчана і эксплаатацыя адной нацыі другою».

Няўхільна ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, партыя, па непасрэднаму ўказанню таварыша Сталіна, у рашэннях XV з'езда ВКП(б) аб шляхах і тэмпах развіцця прамысловасці ў 1-й пяцігодцы ўказала на неабходнасць удзяліць «... асобую ўвагу пытанням уздыму эканомікі і культуры адсталых нацыяналь-

ных ускраін і адсталых раёнаў, выходзячы з неабходнасці паступовай ліквідацыі іх эканамічнай і культурнай адсталасці, адпаведна прадугледжваючы больш хуткі тэмп развіцця іх эканомікі і культуры».

Беларуская Совецкая Социялістычная Рэспубліка, святкуючы сваё дваццацігоддзе, можа з гонарам заявіць, што гэтыя праграмныя ўстаноўкі партыі Леніна—Сталіна знашлі сваё яркае ўвасабленне ў жыцці і развіцці БССР, асабліва ў выніку выканання двух сталінскіх пяцігодак.

Пры росце валавой прадукцыі па ўсяму Совецкаму Саюзу за 10 год у 5,7 раза, у БССР за гэты час валавая прадукцыя павялічылася ў 9,1 раза. Тэмп здабычы торфу па БССР у 5 раз абагнаў сярэднія тэмпы па Саюзу. Выпрацоўка электраэнергіі за дзве пяцігодкі ўзрасла па БССР у 8 раз, а па СССР—у 11,2 раза. І т. д.

У выніку Сталінскай палітыкі індустрыялізацыі краіны, пры брацкай дапамозе працоўных усяго Совецкага Саюза, і ў першую чаргу гераічнага рускага народа, БССР пад кіраўніцтвам партыі і вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна ператварылася з адсталай, цёмнай і забітай калоніі царызма ў квітнеючую перадавую індустрыяльна-калгасную рэспубліку.

У большасці раёнаў дарэволюцыйнай Беларусі (у сучасных граніцах БССР) зусім не было прамысловых прадпрыемстваў.

Больш-менш значныя прадпрыемствы існавалі толькі ў Віцебску, Менску, Добрушы і Нова-Беліцы. У шматлікіх сельскіх мясцовасцях развівалася толькі саматужніцка-рамесніцкая прамысловасць. Выключэннем былі вінакурныя заводы, якія выраслі ў маёнтках у сувязі з капіталізацыяй памешчыцкай гаспадаркі.

Валавая прадукцыя ўсёй прамысловасці на тэрыторыі цяперашняй БССР складала ў 1913 годзе 99,9 млн. руб. (у цэнах 1926/27 гг.). У сярэднім на адно прадпрыемства прыходзілася каля 140 тыс руб. валавой прадукцыі і 20—30 рабочых.

Разруха, выкліканая імперыялістычнай вайной і інтэрвенцыяй, прывяла да таго, што ў 1921 годзе—першым годзе мірнага будаўніцтва пасля вызвалення ад белапольскай акупацыі—прамысловасць БССР дала прадукцыі толькі на 20 млн. рублёў (скарачэнне супроць 1913 года ў 5 раз). Многія прадпрыемствы былі зусім знішчаны, найбольш каштоўнае абсталяванне вывезена інтэрвентамі.

Палітыка большэвіцкай партыі, накіраваная на ліквідацыю эканамічнай і культурнай адсталасці былых ускраін цэнтральнай Расіі, ужо ў 1926/27 годзе забяспечыла перавышэнне прамысловасцю даваеннага ўзроўню прадукцыі (120,1 млн. руб. супроць 99,9 млн. руб.). На адно прадпрыемства прыходзілася ўжо да 300 тыс. руб. прадукцыі пры 79 рабочых. У параўнанні з даваенным часам прадпрыемствы сталі ў два разы буйнейшымі. Ужо к пачатку 1-й пяцігодкі рэзка змяніўся характар прамысловай прадукцыі. Значнай рэканструкцыі падвергліся машынабудаўнічыя і станкабудаўнічыя заводы, якія выпрацоўваюць сродкі вытворчасці для аднаўлення і рэканструкцыі іншых галін народнай гаспадаркі.

Таксама інтэнсіўна ішло развіццё электрыфікацыі. К пачатку 1929 года было пабудавана каля 30 электрычных станцый.

К пачатку 1-й пяцігодкі прамысловасць БССР амаль падвоіла свае асноўныя фонды супроць даваенных. За чатыры годы першы пяцігадовы план быў перавыканан на 6,8 проц. Валавая прадукцыя ўсёй прамысловасці дасягнула ў 1932 годзе 979,5 млн. руб. супроць 211,2

млн. руб. у 1927/28 годзе і 916 млн. руб., намечаных планам 1-й пяцігодкі на 1932/33 год, гэта значыць ўзрасла ў 4 разы.

Яшчэ большага развіцця дасягнула ўся народная гаспадарка БССР у выніку выканання двух сталінскіх пяцігодак. У 1938 годзе прамысловасць БССР дала валавой прадукцыі на 2,15 млрд. руб., што перавышае даваенны ўзровень амаль у 22 разы, больш як у 9 раз прадукцыю 1927/28 года і ў два з лішнім разы прадукцыю 1932 года.

Асноўныя фонды прамысловасці за 10 год выраслі з 86,5 млн. руб. да 750 млн. руб. або ў 8,6 раза. Створана свая буйная апалавая база. Здабыча торфу павялічылася з 180 тыс. тон у 1929 годзе да 2522 тыс. тон у 1937 годзе або ў 16 раз. За годы 2-й пяцігодкі здабыча торфу вырасла амаль у 3 разы. Магутнасць электрастанцый к канцу 1937 года дасягнула 87,4 тыс. квт. гадзін супроць 5,3 тыс. квт. у 1913 годзе (рост у 16,5 раза). Пры гэтым выпрацоўка электраэнергіі ў 1937 годзе дасягнула 424,1 млн. квт. гадзін, што складае рост супроць 1913 года ў 101 раз, супроць 1928 года—у 11 раз і супроць 1932 года—амаль у 2,5 раза.

Валавая прадукцыя прамысловасці характарызуецца не толькі высокімі колькаснымі паказчыкамі, але таксама развіццём і ўкараненнем раду галін, якія маюць агульнасаюзнае значэнне: станкі, чыгунныя трубы, цэмент, сельскагаспадарчыя машыны, штучнае валакно (шоўк), лён, трыкатаж, швейныя вырабы, скура, абутак, шкло, шчаціна, шчоткі, лесапіламатэрыялы, фанера, папера, запалкі, лесахімічная прадукцыя, мясапрадукты, маргарын, спірт, дрожджы і т. д.

За годы 2-й пяцігодкі асвоена 30 новых тыпаў станкоў супроць 3-х у 1932 годзе. Пушчан у эксплаатацыю буйны завод бемскага шкла ў Касцюкоўцы, які даў за год 7,8 млн. кв. мтр. шкла, трубаліцейны завод з прадукцыяй у 12 тыс. тон чыгунных труб. Выраслі новыя заводы: Крычаўскі цэментны, ацэтонавы, косцеапрацоўчы, Гомельскі тлушчавы камбінат і т. д.

Ажыццяўляючы пастанову XVII партыйнага з'езда, мясцовая прамысловасць БССР за 2-ю пяцігодку павялічыла выпуск прадукцыі ў 3 разы. Пры гэтым здабыча торфу ўзрасла ў 4 разы, металаапрацоўка—у 2,9 раза, машынабудаўніцтва—у 4,4 раза, хімія—у 12 раз, галантарэя—у 3,3 раза.

Мясцовая прамысловасць асвоіла многа новых галін вытворчасці: гідраторф, ацэтон, сілікатная цэгла, шчыпковыя інструменты, біноклі, аптычнае шкло, аправы, піяніно, кровельнае жалеза, маторы і інш.

Наступная табліца паказвае рост прадукцыі некаторых галін прамысловасці (у мільёнах рублёў):

| Галіны прамысловасці | 1913 год | 1937 год | Рост у |
|---|---|---|---|
| Хімічная | 2,5 | 118,9 | 47,5 раз |
| Цагляная | 0,8 | 18,1 | 22,6 „ |
| Шкляная | 6,8 | 48,4 | 7,1 „ |
| Металаапрацоўчая | 5,4 | 197,3 | 36,5 „ |
| Дрэваапрацоўчая | 18,7 | 190,3 | 10,2 „ |
| Папяровая | 12,5 | 41,8 | 3,3 „ |
| Бавоўняна-папяровая | 1,1 | 11,7 | 10,6 „ |
| Ільняная | 4,2 | 12,7 | 3,0 „ |
| Трыкатажная | 0,06 | 116,9 | 1950 „ |
| Скурана-абутковая | 3,0 | 110,6 | 36,9 „ |

Асновай поспехаў нашай прамысловасці з'явіўся няўхільны рост прадукцыйнасці працы. Тэхнічнае пераўзбраенне нашай краіны, шырокае разгортванне стаханаўскага руху, асваенне новай тэхнікі, палепшанне арганізацыйна-гаспадарчага кіраўніцтва вытворчасцю—усё гэта аказала станоўчы ўплыў на прадукцыйнасць працы.

Рост прадукцыйнасці працы за 2-ю пяцігодку па наркамацкай прамысловасці БССР, з улікам структуры яе паасобных галін, склаў 65,5 проц.

Якасныя зрухі ў рабоце нашай прамысловасці абумоўлены тым, што калі ў 1-й пяцігодцы абсалютны прырост валавой прадукцыі пакрываўся пераважна ростам колькасці рабочых, то за годы 2-й пяцігодкі абсалютны прырост прадукцыі выклікаецца ў значнай меры ростам прадукцыйнасці працы.

Абсалютны прырост выпуску прадукцыі ў 1934 годзе на 12,6 проц. адбываўся за лік павелічэння прадукцыйнасці працы і на 87,4 проц. за лік росту колькасці рабочых, а ў 1935/36 гг.—у час шырокага развіцця стаханаўскага руху—прырост прадукцыі пакрываўся на 63,6 проц. за лік росту прадукцыйнасці працы і на 36,4 проц. за лік колькасці занятых рабочых.

За цэлую пяцігодку ў цэлым абсалютны прырост валавой прадукцыі наркамацкай прамысловасці ў 686,8 млн. руб. (пры ўліку ўнутрыгалінных і галінных структурных зрухаў працаёмкасці) на 75,4 проц. пакрываўся ростам прадукцыйнасці працы і на 24,6 проц. ростам колькасці рабочых.

Народна-гаспадарчы эфект гэтых якасных зрухаў можна праілюстраваць хоць-бы і тым, што для выканання вытворчай праграмы 1937 года па наркамацкай прамысловасці, пры захаванні ўзроўню прадукцыйнасці працы 1932 года, трэба было ўцягнуць у вытворчы працэс дадаткова 68 тыс. рабочых пры агульнай колькасці занятых у 1937 годзе 103,7 тыс. чалавек.

Дарэвалюцыйная Беларусь была адсталай аграрнай поўкалоніяй царскай Расіі. Удзельная вага вясковага насельніцтва Беларусі пры высокім процанце яго ва ўсёй былой царскай Расіі, была вышэй на 15,5 проц. На долю 4-х мільёнаў сялян прыпадала меншая палова ўсіх зямель. Большая палова належала невялікай кучцы памешчыкаў, князёў і папоў, якія эксплаатавалі 200 тыс. батракоў і 60 проц. сялян—беднякоў.

Галеча і голад гналі беларускага селяніна ў Сібір і Амерыку. За 12 дарэвалюцыйных год у Сібір перасялілася 642 тыс. чалавек і ў Амерыку—80 тыс. Былая Менская, Магілеўская і Віцебская губерніі давалі сёмую частку ўсіх перасяленцаў.

Надзвычайная адсталасць сельскай гаспадаркі дарэвалюцыйнай Беларусі ярка характарызуецца прыладамі, якія служылі для апрацоўкі зямлі: сох налічвалася 214500, касуль—6300 і драўляных барон—420000 штук.

У выніку перамогі калгаснага ладу БССР ператварылася ў квітнеючую індустрыяльна-калгасную рэспубліку.

К сярэдзіне 1938 года ў БССР налічвалася 9665 калгасаў, у якія аб'ядналіся 89,9 проц. усіх сялянскіх двароў з 96—97 проц. пасеўнай плошчы.

Аб перамозе калгаснага ладу маляўніча гаворыць беларускі народ у сваім пісьме вялікаму Сталіну:

«А ў нас стаў квітнеючым край беларускі,
Змяніліся людзі, аблічча зямлі,—
Заместа палосак, убогіх і вузкіх,
Калгасныя нівы, як мора, ляглі».

Сельская гаспадарка БССР поўнасцю рэканструявана і аснашчона лепшай у свеце тэхнікай. З краіны сахі і касулі Беларусь ператварылася ў краіну трактара і камбайна.

Гэта красамоўна пацвярджаецца наступным параўнаннем колькасці сельскагаспадарчых машын і прылад (у тысячах):

| | Да рэволюцыі | У 1938 годзе (папяр. даныя) |
|---|---|---|
| Трактароў | не было | 8,5 |
| Камбайнаў | " | 1,2 |
| Плугоў трактарных | " | 8,3 |
| Сеялак трактарных | " | 2,7 |
| Ільноцерабілак | " | 1,5 |
| Сох | 214,5 | няма |
| Касуль | 6,3 | " |
| Барон драўляных | 420,0 | " |

Калі ў дарэволюцыйнай Беларусі на 200 тыс. дзесяцін зямлі ў Менскай губерніі прыходзілася адна сеялка, то ў 1937 годзе на гэту-ж колькасць зямлі па БССР прыходзіцца 83 трактарныя і 410 конных сеялак.

Асноўная маса калгасаў БССР абслугоўваецца машынна-трактарнымі станцыямі. Сельскагаспадарчая праца ператвараецца ў рознавіднасць індустрыяльнай працы. Соцыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі на калектыўны лад, рост арміі стаханаўцаў соцыялістычных палёў спрыялі значнаму павышэнню ўраджайнасці. Сельская гаспадарка ўжо шчыльна падышла да рашэння пастаўленай таварышом Сталіным задачы аб вытворчасці 7—8 мільярдаў пудоў хлеба ў год.

Многія калгасы навучыліся атрымліваць высокія ўстойлівыя ураджаі з года ў год. Так, калгас «Совецкая Беларусь» Тураўскага раёна ўжо два годы атрымлівае сярэдні ўраджай усіх зернавых і бабовых культур па 16,4 цнт. і бульбы па 204,7 цнт. з га.

Калгас «XII Кастрычнік», таго-ж раёна, атрымлівае па 15,5 цнт. зярна і 204 цэнт. бульбы з га.

Калгас «Брыгадзір» Аршанскага раёна з года ў год атрымлівае высокі ўраджай ільновалакна і ільносемя. У 1938 годзе на плошчы ў 35 га атрымана 6,6 цнт. ільновалакна і 6 цнт. ільнасемя з га. Калгас «Чырвоны Сормавец» Чэрыкаўскага раёна ў 1938 годзе атрымаў на плошчы ў 20 га па 6,8 цнт. ільновалакна з га.

Жыццё калгаснікаў становіцца ўсё больш заможным і культурным. За 1937 год, у сярэднім па БССР, на адзін працадзень выдана зерна-

вых у 2,4 раза, бульбы ў 1,2 раза і грошай у 1,2 раза больш чым за 1936 год.

У калгасе «Чырвоны сцяг» Лепельскага раёна толькі ад рэалізацыі ільноваланна ўраджаю 1938 года атрымана 108 тыс. руб. даходу і на адзін працадзень ад выручкі за лён прылічваецца каля 7-мі рублёў.

У 1936 годзе калгаснікі Талачынскага раёна атрымалі ад ільна 1,9 млн. рублёў даходу, у 1937 годзе—3,7 млн. руб., а ў 1938—звыш 6 млн. рублёў. Калгаснікі калгаса «Барацьбіт» Талачынскага раёна атрымліваюць на працадзень па 3 рублі.

Калгасніца-стаханаўка Зубікава Анна (калгас «XIII гадавіна Кастрычніка», Рагачоўскага раёна) атрымала за свае працадні 100 пудоў хлеба, 72 пуды проса, шмат бульбы, гародніны і т. п.

Такіх прыкладаў можна прывесці многа.

Поспехі, з якімі прыходзіць прамысловасць і сельская гаспадарка да слаўнай гадавіны Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, былі-б значна большымі, калі-б не шкодніцкая дзейнасць трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, якія рознымі варожымі метадамі стараліся разбурыць нашу соцыялістычную гаспадарку. Яны штучна затрымлівалі развіццё мясцовай апалавай базы, рост электрыфікацыі краіны, знішчалі пагалоўе жывёлы, накіроўвалі геаграфічнае размяшчэнне прадпрыемстваў з такім разлікам, каб аслабіць магутнасць і абараназдольнасць нашай пагранічнай рэспублікі.

Але гэтыя прадажныя псы контррэволюцыйных разведак пралічаліся. Наша доблесная разведка—органы НКВД, працоўныя масы соцыялістычнай Беларусі з коранем вырываюць і знішчаюць усіх наймітаў фашызма, выкарчоўваюць іх паследышаў.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і любімага правадыра народаў—таварыша Сталіна, ордэнаносная Совецкая Беларусь ідзе ў нагу з усімі брацкімі рэспублікамі вялікага Совецкага Саюза і ў далейшым будзе няўхільна заваёўваць перамогу за перамогай для дасягнення светлых вяршынь комунізма.

І. Саладкоў

# Бясстрашны барацьбіт за комунізм

## (Памяці С. М. Кірава)

Чатыры годы назад народы краіны Советаў, працоўныя і прыгнечаныя ўсяго свету былі ўзрушаны жалобнаю весткай аб гібелі палкага барацьбіта за справу комунізма—Сергея Міронавіча Кірава. Ён загінуў ад зладзейскай рукі тройчы прэзрэннага фашысцкага агента з асяроддзя трацкісцка-бухарынскай тэрарыстычнай шпіёна-шкодніцкай банды.

Ворагі народа забілі тав. Кірава за тое, што ён нястомна змагаўся за шчасце працоўных, за росквіт нашай вялікай соцыялістычнай радзімы; за тое, што ён бязлітасна граміў трацкісцка-бухарынскіх агентаў фашызма, быў гразой для ўсіх ворагаў соцыялізма і нястомна вёў барацьбу за перамогу комунізма ва ўсім свеце.

Варожы выстрал першага снежня 1934 года вырваў з большэвіцкіх радоў бясстрашнага пролетарскага байца, вучня, друга і бліжэйшага саратніка вялікага Сталіна, аднаго з лепшых кіраўнікоў партыі большэвікоў, аднаго з любімейшых сыноў совецкага народа, беззаветна адданага справе Леніна—Сталіна, справе комунізма. З нашых радоў выбыў чалавек, які ўвасабляў усе лепшыя якасці палітычнага дзеяча ленінска-сталінскага тыпу.

Паведамленне аб зладзейскім забойстве таварыша Кірава, любімца партыі, любімца рабочага класа, выклікала велізарнейшы гнеў і глыбокі жаль працоўных мас нашай соцыялістычнай радзімы і ўсяго перадавога чалавецтва.

Невымоўна цяжкім было гора народа. «Нашу партыю пасцігла вялікае няшчасце. 1 снежня ад рукі зладзея-забойцы, падасланага класавымі ворагамі, загінуў таварыш Кіраў. Не толькі для нас—яго блізкіх прыяцеляў і таварышоў, але для ўсіх, ведаўшых яго па рэволюцыйнай рабоце, ведаўшых яго, як байца, таварыша і друга, смерць Кірава з'яўляецца стратай, якую нічым нельга ўзнагародзіць. Ад рукі ворага загінуў чалавек, які ўсё сваё яркае жыццё аддаў справе рабочага класа, справе комунізма, справе вызвалення чалавецтва»,—так пісаў у сваім жалобным пісьме таварыш Сталін і яго баявыя саратнікі. «Страта Кірава,—гаварылася ў паведамленні Цэнтральнага Камітэта ВКП(б),—любімага ўсёй партыяй і ўсім рабочым класам СССР, крыштальна чыстага і непахісна стойкага партыйца, большэвіка-ленінца, які аддаў усё сваё яркае слаўнае жыццё справе рабочага класа, справе комунізма, з'яўляецца самай цяжкай стратай для ўсёй партыі і краіны Советаў за апошнія годы».

Жыццёвы шлях Сергея Міронавіча Кірава—выключна яркі, насычаны гераізмам і барацьбой. Гэта—жывы кавалак гісторыі нашага герайчнага народа і яго вялікай ленінска-сталінскай партыі: гісторыі трох рэволюцый у нашай краіне, грамадзянскай вайны, пабудавання Совецкай дзяржавы і пераможнага будаўніцтва социялізма на адной шостай частцы зямнога шара.

Мільённыя масы нашай краіны ведаюць Сергея Міронавіча Кірава, як аднаго з выдатнейшых барацьбітоў за перамогу Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі, як кіраўніка герайчнай абароны Астрахані ў 1919 годзе, як былога члена Рэўваенсовета XI арміі, як былога сакратара ЦК КП(б) Азербайджана і кіраўніка бакінскага пролетарыята. Уся наша краіна ведае таварыша Кірава, як аднаго з бліжэйшых саратнікаў вялікага Сталіна, члена цэнтральнага штаба большэвіцкай партыі і любімага кіраўніка ленінградскіх большэвікоў.

У жалобным пісьме з прычыны зладзейскага забойства С. М. Кірава вялікі Сталін і члены Палітбюро ЦК ВКП(б) пісалі:

«Таварыш Кіраў прадстаўляў сабою ўзор большэвіка, які не ведае страху і цяжкасцей у дасягненні вялікай мэты, пастаўленай партыяй. Яго прамата, жалезная стойкасць, яго выдатныя якасці натхнёнага трыбуна рэволюцыі спалучаліся ў ім з той сардэчнасцю і мяккасцю ў асабістых таварыскіх і дружаскіх адносінах, з той прамяністай цеплынёй і скромнасцю, якія ўласцівы сапраўднаму ленінцу.

Таварыш Кіраў працаваў у розных частках Саюза ССР і ў час падполля і пасля Кастрычніцкай рэволюцыі,—у Томску і Астрахані, у Владзікаўказе і Баку—і ўсюды ён высока трымаў сцяг партыі і заваёўваў для справы партыі мільёны працоўных сваёй нястомнай, энергічнай і плённай работай рэволюцыянера» («Правда», 2.XII.1934 г.)

На ўсім працяту баявога шляху яго заўсёды адзначалі кіпучая энергія, рэволюцыйная палкасць, велізарны арганізатарскі талент, уменне хутка і правільна арыентавацца і арыентаваць другіх; цяснейшая сувязь з масамі, уменне весці іх за сабой і вучыцца ў мас; жалезная стойкасць, беззаветная адданасць рабочаму класу, партыі, ленінізму; непрымірымая нянавісць да ворагаў народа і ўменне наносіць ім сакрушальныя ўдары.

Таварыш Кіраў быў цалкам выкаван з большэвіцкага метала, выхаван і ўзрошчан нашай большэвіцкай партыяй. Ён меў выдатныя якасці большэвіка, бязмежна адданага справе комунізма, непахіснага барацьбіта, які ўмее заўжды высока трымаць сцяг нашай ленінска-сталінскай партыі.

Такаво светлае аблічча крыштальна чыстага, стойкага змагара за справу комунізма, бліжэйшага друга і вучня вялікага Сталіна—Сергея Міронавіча Кірава, зверскі забітага з-за вугла лютымі ворагамі совецкага народа і працоўных усяго свету—трацкісцка-зіноўеўска-бухарынскімі агентамі фашысцкіх разведак.

* * *

Сергей Міронавіч Кіраў нарадзіўся 27(15) сакавіка 1886 года ў далёкім Уржуме, былой Вяцкай губерніі, цяпер Кіраўскага края. Бацька Кірава—Мірон Іванавіч Кострыкаў, калі Серожы было тры годы, адправіўся на Урал шукаць работы і прапаў там без

весткі. Неўзабаве, надарваўшыся непасільнай работай, памерла ад сухотаў і маці Серожы. Сямігадовым хлопчыкам ён быў аддан ва Уржумскі дом догляду малалетніх (сіроцкі прыют), дзе прабыў да 1902 года.

У 18-гадовым узросце ў яго ўжо акрэслена склаліся марксісцка-ленінскія погляды. Восенню 1904 года ён уступае ў соцыял-дэмакратычную арганізацыю, дзе адразу-ж прымыкае да групы большэвікоў і ўваходзіць у склад падкамітэта Томскай арганізацыі РСДРП. С. М. Кіраў быў самым маладым членам гэтага падкамітэта, але ўжо тады выдзяляўся, як выдатны арганізатар мас, палкі трыбун, бліскучы майстра большэвіцкай тактыкі.

У студзені 1905 года таварыш Кіраў—адзін з арганізатараў першай у Томску ўзброенай дэманстрацыі супроць царызма. 31(18) студзеня ён удзельнічае ў дэманстрацыі на чале ўзброенай дружыны. Поруч з ім з чырвоным сцягам у руках ідзе яго друг—малады рабочы-друкар Іосіф Кононаў. Пры сутычцы з паліцыяй Кононаў быў забіты. Сергея Міронавіча жандармы жорстка збілі нагайкамі і рассеклі шашкай паліто.

2 лютага 1905 года таварыш Кіраў удзельнічае на нелегальным сходзе ў горадзе Томску, дзе абмяркоўваецца пытанне аб новай, яшчэ больш магутнай рэволюцыйнай дэманстрацыі. Удзельнікі гэтага схода, выданыя правакатарам, былі арыштаваны разам з тав. Кіравым.

Праз два з паловай месяцы Кіраў вышаў з турмы і зноў з галавою акунуўся ў падпольную партыйную работу. Летам 1905 года ён абіраецца членам Томскага камітэта РСДРП. У гэты перыяд тав. Кіраў вядзе рашучую барацьбу супроць меншавікоў, адстойваючы неабходнасць узброенай барацьбы з царызмам. У кастрычніку 1905 года тав. Кіраў узначальвае стачку чыгуначнікаў станцыі Тайга. Дзякуючы добрай арганізаванасці і падрыхтаванасці гэта стачка закончылася паспяхова і з'явілася састаўною часткай усерасійскай забастоўкі ў кастрычніку 1905 года, якая нанесла царызму адчувальны ўдар.

Пасля паражэння снежаньскага ўзброенага паўстання ў Маскве, рэакцыя паўсямесна ўзнімае галаву, праводзяцца масавыя арышты. 30 студзеня 1906 года царскі ўрад затачыў Сергея Міронавіча ў Томскую турму (гэта быў другі яго арышт). Пры вобыску ў яго знаходзяць пракламацыі, спрабуюць стварыць «справу», але праз некалькі месяцаў, пад залог, выпускаюць з турмы.

Вясной 1906 года тав. Кіраў зноў на волі і зноў выконвае важную партыйную работу. Па даручэнню партыйнага камітэта ён працуе над абсталяваннем вялікай друкарні, прыгоднай таксама і для хавання зброі. Друкарня была абсталявана ўсёй неабходнай для друкавання газет і пракламацый тэхнікай і паспела выпусціць некалькі пракламацый. У ліпені паліцыя зрабіла налёт на дом, дзе змяшчалася друкарня. Тав. Кіраў быў зноў арыштован.

У ліпені 1908 года, адбыўшы тэрмін зняволення, тав. Кіраў выязджае ў Іркуцк, дзе разгортвае работу па аднаўленню партыйнай арганізацыі, а вясною 1909 года, калі далей ужо немагчыма было заставацца на адным месцы (яго ўзмоцнена шукала паліцыя), ён спешна перабіраецца ва Владзікаўказ (цяпер Орджанікідзе), дзе нелегальна праводзіць велізарную рэволюцыйную работу па сколачванню большэвіцкіх арганізацый.

Маючы вялікі талент журналіста, тав. Кіраў працуе ў ліберальнай газеце «Терек», дзе выкарыстоўвае малейшыя легальныя магчымасці

і паступова надае газеце новы палітычны змест. Прабіваючыся скрозь рагаткі царскай цэнзуры, ён раскрывае гнуснае самавольства самадзяржаўя і абуджае ў шырокіх масах працоўных класавую нянавісць да ворагаў.

У жніўні 1911 года тав. Кірава зноў арыштоўваюць (у чацверты раз) і адпраўляюць этапам у Томск на суд па справе аб падпольнай друкарні. 16 сакавіка 1912 года справа слухалася ў томскім акруговым судзе. Галоўны сведка абвінавачвання, паліцэйскі прыстаў, які арыштаваў Сергея Міронавіча ў 1906 годзе, на судзе яго не пазнаў, акрамя таго суд не мог не лічыцца з новым рэволюцыйным уздымам, што пачаўся ў краіне, і Сергей Міронавіч быў апраўдан «за адсутнасцю ўлік».

Пасля суда тав. Кіраў зноў прыступіў да работы ў газеце «Терек». 3-га лістапада 1912 года на старонках «Терека» паяўляецца вялікі артыкул «Простота нравов» за подпісам «С. Кіраў». Гэты літаратурны псеўдонім і стаў потым новым прозвішчам Сергея Міронавіча, пад якім ён вядомы зараз усяму свету. У гэтым артыкуле тав. Кіраў выкрывае рэакцыйных дэпутатаў IV Дзяржаўнай думы—гэтых пагромшчыкаў і чыноўнікаў, рабалепствуючых перад царызмам. Супроць тав. Кірава, як аўтара артыкула, была створана новая «справа», але хутка спынена пад страхам нарастаючага рэволюцыйнага руху.

У перыяд імперыялістычнай вайны тав. Кіраў цвёрда стаіць на ленінска-сталінскай пазіцыі ператварэння імперыялістычнай вайны ў грамадзянскую і праводзіць рашучую барацьбу з рознага роду апартунізмам і за стварэнне III Комуністычнага Інтэрнацыянала.

* * *

Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя 1917 года застае Сергея Міронавіча ў Владзікаўказе. Тут тав. Кіраў разгортвае большэвіцкую работу па мабілізацыі мас на барацьбу супроць лакеяў буржуазіі—меншавікоў і эсэраў, выкрываючы здрадніцкую тактыку гэтых згодніцкіх партый. Дзякуючы энергічнай рэволюцыйнай рабоце тав. Кірава па арганізацыі мас вакол большэвіцкіх лозунгаў, працоўныя Паўночнага Каўказа цвёрда ўсталі на адзіна правільны шлях вызвалення—на шлях барацьбы за ўладу Советаў.

У жніўні 1917 года тав. Кіраў выязджае ў Петраград па даручэнню Владзікаўказскай большэвіцкай арганізацыі. Карнілаўскія падзеі засталі яго ў Маскве. Тут ён даведваецца аб удзеле ў карнілаўскім контррэволюцыйным мецяжы так званай «дзікай дывізіі», у складзе якой знаходзіліся і горскія часці. Сергей Міронавіч адразу-ж арганізуе пасылку дэлегацыі ад Цэнтральнага Камітэта горскіх народаў к «дзікай дывізіі» з мэтай утрымаць яе ад удзелу ў карнілаўскай авантуры. «Прыехаўшая дэлегацыя растлумачыла салдатам сапраўдныя намеры начальнікаў. Гэтага было даволі, каб зрабіць «дзікую дывізію» зусім бясшкоднай для рэволюцыі» («Гісторыя грамадзянскай вайны ў СССР», т. I, стар. 206).

Пад непасрэдным кіраўніцтвам тав. Кірава праходзіла арганізацыя рэволюцыйных сіл і падрыхтоўка Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі на Паўночным Каўказе. Ужо ў пачатку кастрычніка 1917 года большэвікі заваёўваюць большасць у Владзікаўказскім Совеце. Пасланы ў Петраград дэлегатам на II Усерасійскі з'езд

Советаў, Сергей Міронавіч актыўна ўдзельнічае ў барацьбе за перамогу Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі.

З асобаю сілай разгортвае свой бліскучы арганізатарскі талент тав. Кіраў пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі. Вярнуўшыся на Паўночны Каўказ, ён выступае 17(4) лістапада на пасяджэнні Владзікаўказскага Совета з дакладам аб II Усерасійскім з'ездзе Советаў і аб Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі.

На Паўночным Каўказе тав. Кіраў праводзіць велізарную работу па згуртаванню большэвіцкіх сіл і мабілізацыі працоўных мас на барацьбу з контррэволюцыяй. У складанейшай абстаноўцы жорсткай класавай барацьбы згуртоўвае ён прыгнечаныя народы Паўночнага Каўказа пад сцягам большэвіцкай партыі, узнімае іх на барацьбу супроць белагвардзейшчыны, мясцовых князёў і мул. На Тэрэку і ў Пяцігорску, у Маздоку і Владзікаўказе раздаецца магутны голас Сергея Міронавіча. Па яго закліку працоўныя Каўказа, адстойваючы Совецкую ўладу, цесна згуртоўваюць свае рады вакол большэвіцкай партыі.

У годы грамадзянскай вайны тав. Кіраў заўсёды на перадавых пазіцыях, вядзе масы ў бой супроць ворагаў соцыялізма—імперыялістычных інтэрвентаў і расійскай контррэволюцыі.

У студзені 1919 года Сергей Міронавіч прыбывае ў Астрахань і арганізуе абарону гэтага важнейшага стратэгічнага пункта, які перагараджаў астраханскім, уральскім, терскім і данскім контррэволюцыйным казачым часцям шлях на Царыцын і Саратаў. На здрадніцкі загад Іуды-Троцкага аб эвакуацыі Астрахані тав. Кіраў адказвае: «Астрахань не здадзім». Ён звязваецца з Леніным і Сталіным і мужна праводзіць іх указанне—«Астрахань абараняць да канца».

Абарона Астрахані—адна з гераічных старонак рэволюцыйнай барацьбы С. М. Кірава. Бязлітасна распраўляецца ён з усімі ворагамі рэволюцыі. Толькі дзякуючы асабістай энергіі і знаходчывасці тав. Кірава ўдалося хутка падавіць белагвардзейскі мяцеж, які ўспыхнуў у Астрахані ў пачатку сакавіка 1919 года.

У канцы красавіка—пачатку мая 1919 года тав. Кіраў зацвярджаецца начальнікам Палітаддзела, а затым членам Рэўваенсовета XI арміі. Ён разгортвае кіпучую дзейнасць па наладжванню работы грамадзянскіх і ваенных устаноў: наведвае заводы, асабліва абароннага значэння, чырвонаармейскія часці, судны волжскай баявой флатыліі, выступае на сходах рабочых, чырвонаармейцаў, маракоў, жанчын, на сходах і канферэнцыях партыйнага і совецкага актыва.

На астраханскай агульнагарадской канферэнцыі РКП(б) 3 жніўня 1919 года, тав. Кіраў горача заклікае: «... Мы павінны сказаць сабе, разыходзячыся з гэтай канфэрэнцыі, што пакуль у Астраханскім краі ёсць хоць адзін комуніст, вусце ракі Волгі было, ёсць і будзе совецкім». Пад гэтым баявым лозунгам ён адстаяў Астрахань. У самыя цяжкія моманты тав. Кіраў паяўляўся на небяспечнейшых участках фронта, асабістым прыкладам натхняў чырвонаармейцаў і дасягаў перамогі.

У верасні—кастрычніку 1919 года становішча на фронтах пад Астраханню значна палепшылася. 18 лістапада XI армія пераходзіць у наступленне супроць белагвардзейскіх банд генерала Талстога, які не пераставаў пагражаць Астрахані з усходу.

План наступлення быў распрацаван пад непасрэдным кіраўніцтвам

тав. Кірава. За 12 дзён аперацыя была закончана з поспехам. 1 снежня тав. Кіраў паведамляў у тэлеграме Леніну:

«Часці XI арміі спяшаюцца падзяліцца з Вамі рэволюцыйнай радасцю з прычыны поўнай ліквідацыі белага астраханскага казацтва... Перадавыя часці XI арміі стаяць ужо на рубяжы Терскай вобласці і хутка пададуць магутную брацкую руку Паўночнаму Каўказу, які гарыць рэволюцыйным полымем».

Доблесная Чырвоная армія пад кіраўніцтвам вялікага стратэга рэволюцыі таварыша Сталіна атрымлівае ўсё новыя і новыя перамогі. 3-га студзеня 1920 года гераічным націскам часцей X і XI армій была адабрана ў ворагаў наша пролетарская цвярдыня—Царыцын. Па ўказанню таварыша Сталіна тав. Кіраў на чале XI арміі праследуе адступаючыя дзенікінскія полчышчы. У сакавіку 1920 года дзенікіншчына была разгромлена, і ўвесь Паўночны Каўказ ачышчан ад белых банд.

29 мая 1920 года тав. Кіраў прызначаецца поўнамоцным прадстаўніком РСФСР у меншавіцкую Грузію. Тут, як і на іншых участках, куды яго пасылала партыя, тав. Кіраў паказаў сябе цвёрдакаменным большэвіком, дастойным вучнем Леніна і Сталіна.

У канцы верасня 1920 года Сергей Міронавіч выконвае яшчэ адно адказнейшае дыпламатычнае даручэнне: удзельнічае ў якасці прадстаўніка Совецкай Расіі ў мірных перагаворах з Польшчай.

З ліпеня 1921 па снежань 1925 года тав. Кіраў працуе першым сакратаром ЦК Комуністычнай Партыі (большэвікоў) Азербайджана. Пад яго кіраўніцтвам паспяхова ажыццяўляецца сталінскі план рэканструкцыі нафтавай прамысловасці, асвойваюцца новыя нафтавыя плошчы.

Згуртаванне партыйных радоў пад сцягам Леніна—Сталіна, умацаванне садружаства нацыянальнасцей, уздым гаспадарчага будаўніцтва, культурны рост гарадскога і сельскага насельніцтва, вырошчванне і вылучэнне новых большэвіцкіх кадраў—такі вынік кіруючай работы Сергея Міронавіча ў Азербайджане на працягу чатырох з палавінаю год.

Партыйная арганізацыя Азербайджана пад непасрэдным кіраўніцтвам тав. Кірава бязлітасна граміла трацкізм, буржуазных нацыяналістаў і стала моцнай апорай ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б).

За час работы ў Азербайджане Сергей Міронавіч заваяваў гарачую любоў рабочых, сялян, інтэлігенцыі. Калі ЦК ВКП(б) у снежні 1925 года, пасля XIV партыйнага з'езда, паслаў тав. Кірава ў Ленінград для кіраўніцтва партыйнай арганізацыяй, большэвікі Баку пісалі ленінградцам:

«Воляй вышэйшага органа партыі—Цэнтральнага Камітэта—і тым самым воляй усёй партыі кіраўнік Азербайджанскай арганізацыі нашай партыі і любімец бакінскіх рабочых таварыш Сергей Міронавіч Кіраў паслан на работу да вас, у Ленінградскую арганізацыю. Як нам ні цяжка расстацца з таварышом Кіравым, як нам ні дораг таварыш Кіраў, нас уцяшае адна думка, што ён будзе ў Ленінградзе.

Вы, таварышы, ленінградскія комуністы, у асобе таварыша Кірава набылі стойкага, вытрыманага старога большэвіка-ленінца, лепшага, умелага кіраўніка вашай арганізацыі».

На працягу дзесяці год узначальваў тав. Кіраў большэвіцкую арганізацыю горада Леніна і Ленінградскай вобласці, нястомна выкарчоўваючы контррэволюцыйную трацкісцка-зіноўеўскую нечысць.

Таварыш Кіраў аддаваў усе свае сілы і здольнасці справе згуртавання ленінградскіх большэвікоў і рабочых вакол Цэнтральнага Камітэта партыі і таварыша Сталіна, нястомна клапаціўся аб захаванні адзінства партыі. Ведучы рашучую прынцыповую барацьбу з усімі ворагамі большэвізма, ён заклікаў упарта працаваць над умацаваннем жалезнага адзінства радоў партыі Леніна—Сталіна.

Выступаючы на надзвычайнай XXIII ленінградскай губернскай партыйнай канферэнцыі, Сергей Міронавіч у заключнай прамове сказаў: «Самае галоўнае, самае блізкае для нас, таварышы,—гэта адзінства нашай партыі». Ён заклікаў усямерна ўмацоўваць маналітнасць большэвіцкіх радоў, змагацца за ачышчэнне партыі ад двурушнікаў і апартуністаў, ад замаскаваўшыхся ворагаў соцыялізма.

Тав. Кіраў добра разумеў, што для ажыццяўлення сусветна-гістарычнай задачы—перамогі комунізма—неабходна паслядоўная і рашучая барацьба з ворагамі ўсіх масцей, якія імкнуцца затрымаць наш пераможны рух уперад.

Верны і благародны змагар за справу большэвіцкай партыі, за справу комунізма, тав. Кіраў усімі сіламі аберагаў яе рады ад капітулянтаў і здраднікаў, бо ён добра разумеў, што «нельга цярпець у сваім асяроддзі апартунізма, як нельга цярпець язву ў здаровым арганізме. Партыя ёсць кіруючы атрад рабочага класа, яго перадавая крэпасць, яго баявы штаб. Нельга дапусціць, каб у кіруючым штабе рабочага класа сядзелі малаверы, апартуністы, капітулянты, здраднікі» («Кароткі курс гісторыі ВКП»).

У сваёй гарачай прамове на XV партыйным з'ездзе, 5 снежня 1927 года, тав. Кіраў, выражаючы думку ўсяго з'езда, патрабаваў адсячы ад партыі, самым рашучым, цвёрдым і бязлітасным чынам трацкісцка-зіноўеўскую погань.

Сергей Міронавіч з руйнуючай сілай абрушваўся на здраднікаў—трацкістаў, зіноўеўцаў і правых рэстаўратараў капіталізма. У кастрычніку 1932 г. у дакладзе на актыве Ленінградскай партыйнай арганізацыі аб выніках вераснёўскага Пленума ЦК ВКП(б) тав. Кіраў з выключнай яркасцю ўказваў, што пасля таго, як усе пытанні, па якіх партыя ў свой час спрачалася з «левымі» і правымі апартуністамі, вырашаны пераможным будаўніцтвам соцыялізма ў карысць ленінскай лініі партыі, усякая група, якая будзе ўпорстваваць у сваёй апазіцыйнай барацьбе супроць генеральнай лініі партыі і яе ленінскага Цэнтральнага Камітэта, немінуча, у сілу ходу рэчаў, скоціцца ў лагер контррэволюцыі.

Верны сын партыі Леніна—Сталіна, тав. Кіраў бязлітасна змагаўся з ворагамі нашай соцыялістычнай радзімы, пад якой-бы маскай яны ні скрываліся. З глыбокай нянавісцю гаварыў ён аб прэзрэнных ворагах народа—трацкістах, зіноўеўцах і бухарынцах:

> «Гэта ворагі соцыялізма, гэта людзі, якія перайшлі ў лагер контррэволюцыі, гэта прамыя падсобнікі сусветнай буржуазіі. З ворагамі соцыялізма, з людзьмі, якія выступаюць супроць заваёў Кастрычніка, мы не спрачаемся і спрачацца не збіраемся.
>
> Мы з імі вядзем барацьбу як з ворагамі, якія канчаткова перайшлі на бок белагвардзейцаў, у лагер яўных ворагаў пролетарскай дыктатуры» (З даклада аб выніках вераснёўскага Пленума ЦК ВКП(б) 8 кастрычніка 1932 года).

Ведучы нястомную і непрымірымую барацьбу з ворагамі партыі, з ворагамі соцыялізма, з ворагамі народа, тав. Кіраў згуртаваў усіх партыйных і непартыйных большэвікоў, усіх працоўных Ленінграда вакол ЦК нашай партыі, вакол правадыра народаў—таварыша Сталіна.

Непахісны большэвік, ленінец-сталінец, тав. Кіраў быў бязмежна адданы вялікаму правадыру, настаўніку і другу працоўных усяго свету—таварышу Сталіну.

Таварыш Кіраў няўхільна праводзіў указанні тав. Сталіна ва ўсёй сваёй практычнай рабоце. Вырашаючы буйнейшыя палітычныя, гаспадарчыя, культурна-бытавыя пытанні, ён нястомна клапаціўся аб патрэбах працоўных, праяўляючы да іх велізарную чуласць.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам таварыша Кірава Ленінградская прамысловасць стала важнейшай базай соцыялістычнай індустрыялізацыі краіны. Пашырэнне і рэканструкцыя ленінградскіх заводаў, стварэнне шматлікіх электрастанцый, пашырэнне здабычы торфу, распрацоўка сланцоў, апацітавай руды, асваенне багаццяў Поўначы, уздым соцыялістычнай сельскай гаспадаркі Ленінградскай вобласці—усё гэта непарыўна звязана з вялікім і любімым іменем Сергея Міронавіча Кірава.

Сергей Міронавіч заўсёды ўмеў спалучаць сваю практычную работу з рэволюцыйнай тэорыяй марксізма-ленінізма. Ён быў палкім трыбунам рэволюцыі, выдатным прапагандыстам ідэй марксізма-ленінізма. Усё сваё жыццё кіраваўся ён ленінска-сталінскім компасам і горача заклікаў кожнага партыйнага і непартыйнага большэвіка настойліва і штодзённа вывучаць марксісцка-ленінскую тэорыю, якая, адкрываючы законы грамадскага развіцця, асвятляе шлях для практыкі, узбагачае вопытам папярэдняй барацьбы, дае яснасць мэты, упэўненасць у перамогу.

У студзені 1932 года на IV Ленінградскай абласной і гарадской канферэнцыі ВКП(б) тав. Кіраў гаварыў:

> «Гісторыя большэвізма—баявая зброя міжнароднага пролетарыята ў барацьбе за комунізм, непераможная зброя рабочага класа СССР у будаўніцтве соцыялізма. Гісторыя нашай партыі вучыць таму, як вызваляць працоўных ад прыгнечання капітала, як заваяваць дыктатуру рабочага класа.
>
> Гісторыя нашай комуністычнай партыі ёсць гісторыя пераможнай пролетарскай рэволюцыі і будаўніцтва соцыялізма. Кожная старонка, кожны радок гісторыі нашай партыі—гэта не проста хроніка падзей, гэта велізарная глыбокая навука, не ведаючы якой нельга рабіць пролетарскую рэволюцыю».

Цяпер, калі партыя і ўвесь народ атрымалі новую магутную зброю ідэйнага выхавання, сапраўды навуковую гісторыю большэвізма—«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)»—з асаблівай сілай гучыць указанне таварыша Кірава аб значэнні марксісцка-ленінскай тэорыі для далейшага комуністычнага будаўніцтва, для перамогі над усімі ворагамі народа.

Тав. Кіраў не раз указваў на неабходнасць самастойнай работы над кнігай, самастойнага вывучэння марксісцка-ленінскай тэорыі: «Кожны свядомы член партыі павінен займацца вучобай, працаваць над сабой не толькі ў школе». Моцна і востра ставіў ён пытанні

палітычнай самаадукацыі комуністаў, заклікаючы да нястомнай работы над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню.

Чацвертая гадавіна з дня зладзейскага забойства тав. Кірава застае нашу соцыялістычную радзіму ў пачатку новага магутнага ідэйна-палітычнага ўздыму ў жыцці нашай большэвіцкай партыі і ўсяго народа. Уздым гэты звязан з выхадам у свет «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» і апублікаваннем гістарычнага рашэння ЦК ВКП(б)— «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)».

Але няма сярод нас незабыўнага Сергея Міронавіча. Як-бы радаваўся ён апублікаванню гэтай магутнай ідэйнай зброі большэвізма, энцыклапедыі асноўных ведаў у галіне марксізма-ленінізма! Тав. Кіраў выключную ўвагу ўдзяляў распрацоўцы буйнейшых тэарэтычных пытанняў, разам з таварышом Сталіным удзельнічаў у падрыхтоўцы выдатных дакументаў—«Заўвагі па поваду канспекта падручніка па «Гісторыі СССР» і «Заўвагі аб канспекце падручніка «Новай гісторыі», роля якіх у марксісцка-ленінскай распрацоўцы гісторыі СССР і ўсеагульнай гісторыі велізарна.

* * *

Слаўнае жыццё Сергея Міронавіча вучыць нас неабходнасці ўсямерна павышаць большэвіцкую пільнасць, быць бязлітаснымі да ворагаў народа, непрымірымымі да малейшага адхілення ад марксізма-ленінізма. Яно вучыць нас большэвіцкай прынцыповасці і дысцыпліне, нецярпімасці да разгільдзяйства і распушчанасці, да любога праяўлення эгаізма і кар'ерызма. Яно служыць прыкладам таго, як можна і неабходна спалучаць у сабе глыбокія веды марксізма-ленінізма са здольнасцямі арганізатара і кіраўніка.

Нельга забываць таго, што адным з галоўных сродкаў павышэння палітычнай пільнасці з'яўляецца аўладанне марксісцка-ленінскай тэорыяй, вывучэнне гісторыі ВКП(б)—магутнай зброі ў барацьбе з усімі ворагамі народа.

Сапраўды рэволюцыйная пільнасць—гэта важнейшая якасць кожнага большэвіка—павінна падмацоўвацца яго ідэйнай узброенасцю: веданнем законаў грамадскага развіцця і палітычнай барацьбы, веданнем усіх подлых прыёмаў, якія ўжывалі ворагі ў барацьбе супроць партыі Леніна—Сталіна.

На кожным новым этапе барацьбы супроць большэвіцкай партыі і совецкага народа ўсё больш агаляўся варожы твар трацкісцка-бухарынскіх здраднікаў радзімы, подлых лакеяў капіталізма. Бяссільныя ў сваіх спробах затрымаць пераможны рух к соцыялізму яны сталі на шлях шпіянажу, дыверсіі, забойства з-за вугла. Выконваючы заданні сваіх гаспадароў—фашысцкіх штабаў, яны пайшлі на нечуваныя злачынствы супроць совецкага народа. Яны хацелі расчляніць Совецкі Саюз, аддаць Совецкую Украіну, Беларусь, Азербайджан, Грузію, Арменію, Сярэдне-азіяцкія рэспублікі, совецкае Прымор'е на разграбленне фашысцкім мракабесам. Яны спускалі пад адкос цягнікі, арганізоўвалі выбухі ў шахтах, рыхтавалі замах на жыццё вялікага правадыра працоўных усяго свету таварыша Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў.

Трацкісцка-бухарынскія бандыты каварна ўмярцвілі лепшых ленінцаў-сталінцаў, выдатных дзеячоў большэвіцкай партыі В. Р. Менжынскага, В. В. Куйбышэва і гонар нашай краіны, гонар усяго пра-

грэсіўната чалавецтва—вялікага рускага пісьменніка Алексея Максімавіча Горкага. Афярай іх звярынай нянавісці стаў адзін з выдатных саратнікаў вялікага Сталіна, адзін з любімейшых сыноў совецкага народа—незабываемы С. М. Кіраў.

Партыя, рабочы клас, калгаснае сялянства, наша совецкая інтэлігенцыя пакляліся над гробам тав. Кірава пакончыць з трацкісцка-бухарынскімі злодзеямі, забойцамі, шпіёнамі і дыверсантамі. Магутны совецкі народ разграміў гэту банду шалёных фашысцкіх сабак. Доблесная совецкая разведка разам з усім совецкім народам будзе бязлітасна знішчаць усіх, хто пасмее пасягнуць на заваёвы рэволюцыі.

Чацвертая гадавіна з дня зладзейскага забойства тав. Кірава яшчэ раз напамінае нам аб неабходнасці да канца выкарчаваць рэшткі трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, ні на мінуту не забываючы аб небяспецы варожага нам капіталістычнага акружэння.

Здрадніцкім выстралам у таварыша Кірава ворагу не ўдалося ні на секунду прыпыніць нашага пераможнага руху наперад. Небывалым уздымам рэволюцыйнай пільнасці адказаў шматмільённы совецкі народ на гэта зладзейскае забойства. Магутнай сцяною ўстала ўся партыя, усе працоўныя нашай соцыялістычнай радзімы вакол ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта, вакол таварыша Сталіна.

Не пакладаючы рук, працуюць совецкія патрыёты над яшчэ большым умацаваннем эканамічнай і абароннай магутнасці першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы. Бліскучая перамога сталінскага блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік, падзеі ля возера Хасан яшчэ і яшчэ раз паказалі ўсяму свету несакрушымае маральна-палітычнае адзінства совецкага народа.

Светлае аблічча Сергея Міронавіча Кірава жыве і вечна будзе жыць у сэрцах барацьбітоў за справу Леніна—Сталіна, за справу комунізма. Яго гераічнае жыццё натхняе мільёны працоўных ва ўсім свеце на барацьбу супроць капіталістычнага прыгнечання, супроць злейшага ворага ўсяго чалавецтва—супроць азвярэлага фашызма.

Совецкі народ пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, пад вадзіцельствам мудрага правадыра таварыша Сталіна ідзе да поўнай перамогі комунізма. Гэта мэта, у якую так моцна верыў і за якую ўсё сваё жыццё змагаўся тав. Кіраў, немінуча будзе ажыццёўлена ў нашай краіне і ва ўсім свеце.

З поўнай падставай мы можам сёння заявіць словамі Сергея Міронавіча:

> «Таварышы, многа стагоддзяў таму назад вялікі матэматык марыў знайсці пункт апоры, для таго каб, апіраючыся на яго, павярнуць зямны шар. Прайшлі стагоддзі, і гэта апора не толькі знойдзена, яна створана нашымі рукамі. **Не пройдзе многа год, калі мы з вамі, апіраючыся на заваёвы соцыялізма ў нашай совецкай краіне, абодва зямныя паўшар'і павернем на шлях комунізма»** *).

---

*) С. М. Кіраў, „Выбраныя артыкулы і прамовы", стар. 423. Партвыдат ЦК ВКП(б). 1937.

## У чым было падабенства і розніца паміж рэвалюцыйнымі і ліберальнымі народнікамі

Тав. Марыам Рахматуліна зварачаецца ў «Праўду» з пытаннем аб тым, ці існуе розніца паміж народнікамі 60—70-х год і народнікамі 80—90-х год, у чым гэта розніца, ці можна тых і другіх узяць за адны дужкі, «аднесці да аднаго».

Аказваецца, сярод работнікаў кафедры соцыяльна-эканамічных навук Казанскага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Ульянава (Леніна), як паведамляе тав. М. Рахматуліна, узнікла працяглая спрэчка па гэтаму пытанню. «Тав. Федзін, дацэнт і кандыдат філасофскіх навук, дацэнт палітэканоміі тав. Петроў, асістэнт па палітэканоміі тав. Вандзюкоў тлумачаць так, што Ленін у сваёй працы «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» вельмі чотка і ясна размяжоўвае, што народнікі 60—70-х год—рэволюцыйныя народнікі, таму што яны змагаліся супроць самадзяржаўя і пайшлі ў народ узняць яго супроць самадзяржаўя, **але метады іх барацьбы былі антымарксісцкія.** Я і дацэнт тав. Папоў супроць такога тлумачэння, супроць прысуджэння нейкіх рэволюцыйных заслуг народнікам 60—70-х год і (прыпісвання) рэакцыйнасці толькі народнікам 80—90-х год».

Калі сутнасць спрэчкі ў пісьме М. Рахматулінай перадана правільна, то, зразумела, бліжэй да ісціны тав. Федзін і іншыя, якія падтрымліваюць яго.

Перш за ўсё, каб адказаць на пытанне аб тым, **ці можна ўсё народніцтва разглядаць як цэлае,** неабходна звярнуцца да асноўнай работы Леніна па пытанню аб народніцтве «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?». У гэтай рабоце Ленін дае перш за ўсё **класавае вызначэнне народніцтва ў цэлым.**

Крытыка народніцкага соцыялізма прыводзіць Леніна да вываду, што ў народніцкім соцыялізме «роўна нічога соцыялістычнага тут няма, г. зн. усе гэтыя тэорыі безумоўна не тлумачаць эксплуатацыі працоўнага і таму абсалютна не здольны паслужыць для яго вызвалення, што на самай справе ўсе гэтыя тэорыі адлюстроўваюць і праводзяць інтарэсы дробнай буржуазіі...» (т. I, стар. 184).

І далей Ленін ставіў пытанне:

**«Як трэба аднесціся рабочаму класу да дробнай буржуазіі і яе праграм?»**

Ленін піша:

«І на гэта пытанне нельга адказаць, не прыняўшы пад увагу дваісты характар гэтага класа (у нас у Расіі гэта дваістасць асабліва моцна з прычыны меншага развіцця антаганізма дробнай і буйнай

буржуазіі). Ён з'яўляецца прагрэсіўным, паколькі выстаўляе агульна-дэмакратычныя патрабаванні, г. зн. змагаецца супроць якіх-бы то ні было рэштак сярэдневяковай эпохі і прыгонніцтва; ён з'яўляецца рэакцыйным, паколькі змагаецца за захаванне свайго становішча, як дробнай буржуазіі, стараючыся затрымаць, павярнуць назад агульнае развіццё краіны ў буржуазным напрамку» (т. I, стар. 184).

Такім чынам, Ленін **усё народніцтва,** і рэвалюцыйнае і ліберальнае, лічыў плынню дробнабуржуазнай, ні ў якім разе не пралетарскай, не социялістычнай па сутнасці.

У артыкуле «Эканамічны змест народніцтва» Ленін дае наступнае вызначэнне сутнасці **ўсяго** народніцтва: «Сутнасць народніцтва—прадстаўніцтва інтарэсаў вытворцаў з пункту погляду дробнага вытворцы, дробнага буржуа» (т. I, стар. 271).

У артыкуле «Памяці Герцэна» (1912 год) Ленін зноў-такі падкрэслівае **агульныя ўсяму народніцтву** адмоўныя рысы.

У гэтым артыкуле Ленін адзначае, што «Герцэн—асновапаложнік «рускага» социялізма, «народніцтва». Герцэн бачыў «социялізм» у вызваленні сялян з **зямлёй,** у абшчынным землеўладанні і ў сялянскай ідэі «права на зямлю». Свае ўлюбёныя думкі на гэту тэму ён развіваў бязлікую колькасць раз.

На справе ў гэтым вучэнні Герцэна, як і ва ўсім рускім народніцтве—аж да выліняўшага народніцтва цяперашніх «социялістаў-рэвалюцыянераў»—няма **ні грана** социялізма. Гэта—такая-ж чароўнадушная фраза, такое-ж добрае лятуценне, якое ўпрыгожвае **рэвалюцыйнасць** буржуазнай сялянскай дэмакратыі ў Расіі, як і розныя формы «социялізма 48-га года» на Захадзе» (т. XV, стар. 466).

Ці значыць гэта, што Ленін не рабіў розніцы паміж народнікамі 60—70-х год—землевольцамі і народавольцамі, з аднаго боку, і народнікамі другой паловы 80-х і 90-х год—ліберальнымі народнікамі? Не, не значыць. Ленін, наадварот, праводзіў чоткае адрозненне паміж тымі і другімі.

У чым-жа бачыў Ленін асноўнае адрозненне паміж народнікамі 60—70-х і 90-х год з пункту погляду социяльнай сутнасці тых і другіх, з пункту погляду палітыкі, якую праводзілі гэтыя плыні ў народніцтве? Адказ на гэта мы знаходзім у ранняй рабоце Леніна «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць социял-дэмакратаў?».

Ленін бачыў адрозненне гэта ў тым, што ў народнікаў 60—70-х год была праграма, разлічаная на рэвалюцыйную барацьбу з царскім урадам. У іх былі наіўныя, утапічныя лятуценні праз сялянскую абшчыну прыйсці да социялізма, праз тую абшчыну, якая на самай справе была зручнай формай для прыкрыцця кулацкага засілля.

Спрабуючы ўзняць сялян на барацьбу супроць самадзяржаўя, народнікі не бачылі, не ведалі сапраўдных шляхоў звяржэння самадзяржаўя. Яны не ведалі рабочага класа і не разумелі, што без саюза з рабочым класам і без кіраўніцтва рабочага класа—гэтага самага перадавога і рэвалюцыйнага класа грамадства—адны сяляне не змогуць перамагчы царызм і памешчыкаў. Бо сялянства-ж (гутарка ішла тады аб аднаасобным сялянстве), не гледзячы на яго шматлікасць, з'яўляецца такім працоўным класам, які звязан з **найбольш адсталай** формай гаспадаркі—дробнай вытворчасцю. У сілу сваёй распыленасці і дробнаўласніцкага становішча яно менш ахвотна паддавалася арганізацыі, менш ахвотна ішло ў рэвалюцыйны рух. Народнікі не разумелі прыроды сялянства, ідэалізавалі адсталыя формы гаспадаркі і

тым самым перашкаджалі развіццю сапраўднай рэволюцыйнай барацьбы супроць самадзяржаўя.

Большасць народнікаў пасля разгрому партыі «Народнай волі» адмовілася ад рэволюцыйнай барацьбы з царскім урадам. Ліберальныя народнікі не толькі марылі аб прымірэнні з царскім урадам, але ўсе надзеі ў ажыццяўленні сваёй праграмы ўскладалі на царскі ўрад.

Аснова эвалюцыі народніцтва ляжала, па думцы Леніна, у расслаенні сялянства. Народнікі вельмі часта не прыкмячалі або не жадалі прыкмячаць расколу ў вёсцы: «...вёска,—пісаў Ленін,—даўно ўжо зусім раскалолася. Разам з ёю раскалоўся і стары рускі сялянскі соцыялізм, уступіўшы месца, з аднаго боку, рабочаму соцыялізму; з другога—вырадзіўшыся ў пошлы мяшчанскі радыкалізм. Інакш як выраджэннем нельга назваць гэтага ператварэння... З палітычнай праграмы, разлічанай на тое, каб **узняць сялянства** на соцыялістычную рэволюцыю **супроць асноў сучаснага грамадства**—вырасла праграма, разлічаная на тое, каб заштопаць, «палепшыць» становішча сялянства **пры захаванні асноў сучаснага грамадства»** (т. I, стар. 165).

Каротка можна сказаць, што народнікі 60—70-х і пачатку 80-х год таму і называюцца Леніным рэволюцыйнымі, што яны вялі, хоць і няправільна, хоць і зыходзілі з няверных тэорый, рэволюцыйную барацьбу супроць цара, супроць памешчыкаў. **Ліберальныя-ж народнікі 80-х і 90-х год ніякай рэволюцыйнай барацьбы не вялі.**

Гэта—істотная розніца.

У другім месцы, пазней у артыкуле «Народніцтвуючая буржуазія і збянтэжанае народніцтва» Ленін зноў зварачаецца да характарыстыкі розніцы паміж «старым» народніцтвам і **эпігонамі** (паследышамі) народніцтва—ліберальнымі народнікамі.

«Рускія марксісты,—пісаў Ленін,—даўно ўжо ўказваюць на тое пераражджэнне старога рускага, класічнага, рэволюцыйнага народніцтва, якое няўхільна адбываецца з васьмідзесятых год мінулага стагоддзя. Тускнела вера ў асобы ўклад сялянскай гаспадаркі, у абшчыну, як зародак і базіс соцыялізма, у магчымасць мінуць шлях капіталізма з дапамогай безадкладнай соцыяльнай рэволюцыі, да якой ужо гатоў народ. Палітычнае значэнне захавалі толькі патрабаванні ўсялякіх мерапрыемстваў па ўмацаванню сялянскай гаспадаркі і «дробнай народнай вытворчасці» наогул. Гэта было ўжо, у аснове сваёй, не больш як буржуазнае рэфарматарства; народніцтва расплывалася ў лібералізме; ствараўся ліберальна-народніцкі напрамак, які не хацеў бачыць або не мог бачыць, што праектуемыя мерапрыемствы (усе гэтыя крэдыты, кааперацыі, меліярацыі, пашырэнні землеўладання) не выходзяць з рамак **існуючага** буржуазнага грамадства» (т. VI, стар. 113).

Значыць, Ленін лічыў старое рускае народніцтва рэволюцыйным народніцтвам. Ліберальных народнікаў Ленін называў «жалкімі эпігонамі», гэта значыць паследышамі.

**Але і тыя і другія ў адносінах да марксісцкай тэорыі аб'ядналіся ў неразуменні марксізма, у адмоўных і нават варожых адносінах да марксісцкай тэорыі.**

Народнікі не разумелі законаў грамадскага развіцця. Лічачы капіталізм у Расіі «выпадковай» з'явай, «злом», яны ідэалізавалі абшчыну, імкнуліся затрымаць, павярнуць назад агульнае развіццё краіны. Яны былі прадстаўнікамі аджыўшых ідэй. Яны не прызнавалі першынствуючай ролі ўмоў матэрыяльнага жыцця грамадства ў развіцці грамадства. Народнікі будавалі сваю дзейнасць не на падставе патрэбнасцей

развіцця матэрыяльнага жыцця грамадства, а незалежна ад іх і наперакор ім,—будавалі на падставе «ідэальных планаў», адарваных ад рэальнага жыцця.

Народнікі лічылі, што гісторыю робяць не класы і не барацьба класаў, а толькі асобныя выдаючыяся асобы—«героі», за якімі слепа ідзе маса. Яны не разумелі, што не героі робяць гісторыю, а гісторыя робіць герояў, што народ ствараe герояў і рухае ўперад гісторыю. Гэтых «дзелацеляў» гісторыі, герояў-няўдачнікаў марксізм падверг рэзкай крытыцы. Перадавыя ідэі марксізма пранікалі ў Расію, адціраючы ў бок і зніштажаючы аджыўшыя ідэі, прадстаўнікамі якіх былі народнікі.

Марксісты з першых-жа крокаў сваёй дзейнасці павінны былі весці і вялі бязлітасную барацьбу супроць народніцтва **ўсіх адценняў.** Марксізм у Расіі мог вырасці і ўзмацнецъ толькі ў барацьбе з народніцтвам. Яшчэ да паяўлення ў Расіі першых марксісцкіх арганізацый гэту барацьбу супроць народнікаў вялі Маркс і Энгельс.

Вядома барацьба Маркса і Энгельса супроць анархіста Бакуніна—дэзарганізатара ў І Інтэрнацыянале. Вядома барацьба Маркса і Энгельса супроць Ткачова, які прадстаўляў другую, бланкісцкую плынь у народніцтве. Даволі назваць артыкул Энгельса «Социяльныя адносіны ў Расіі», у якім Энгельс адказвае на «Адкрытае пісьмо П. Ткачова» і выкрывае поўную беспадстаўнасць поглядаў Ткачова на развіццё Расіі, на сутнасць царскага ўрада. Вядома, што Маркс і Энгельс вялі барацьбу супроць эклектызма Лаўрова, супроць яго прымірэнцкіх адносін да Бакуніна і раду іншых памылак Лаўрова.

Супроць народніцтва ўзняла сцяг барацьбы першая марксісцкая група ў Расіі, група «Вызваленне працы», і Плеханаў нанёс першыя ўдары народніцтву, паказаўшы, якую шкоду прыносіць рабочаму руху вучэнне народнікаў і іх спосабы барацьбы. «Плеханаў першы даў марксісцкую крытыку памылковых поглядаў народнікаў. Наносячы меткія ўдары народніцкім поглядам, Плеханаў адначасова разгарнуў бліскучую абарону марксісцкіх поглядаў» («Гісторыя ВКП(б)», стар. 13).

Ленін закончыў ідэйны разгром народнікаў. Без гэтага разгрому нямысліма было-б утварэнне рабочай партыі.

* * *

Ленінская ацэнка народніцтва знайшла сваё поўнае выражэнне ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)», які мог быць створан дзякуючы выключна вялікай рабоце над ім таварыша Сталіна. У гэтай кнізе сказана, што «да паяўлення марксісцкіх груп рэволюцыйную работу ў Расіі вялі народнікі, якія з'яўляліся праціўнікамі марксізма» («Гісторыя ВКП(б)», стар. 10).

Тыя таварышы, якія адмаўляюць які-б там ні было рэволюцыйны змест у дзейнасці народнікаў 60—70-х год, бяруць другую частку гэтай фразы, вельмі істотную, што народнікі з'яўляліся праціўнікамі марксізма, але яны ўпускаюць з віду першую частку фразы, таксама вельмі істотную, што гэтыя народнікі вялі рэволюцыйную работу.

Яны вялі яе няўмела, няправільна, іменна таму, што зыходзілі з няверных, утапічных тэорый.

Змест прапаганды народнікаў супярэчыў марксісцкай тэорыі. Народнікі зыходзілі з нявернага разумення ролі розных класаў і ролі дзяржавы; яны няправільна разумелі суадносіны паміж соцыялізмам і палітычнай барацьбой. Іменна таму, што народнікі не ведалі сялян-

ства і зыходзілі з нявернага разумення яго, яны не знайшлі водгуку ў сваёй прапагандзе ў сялянстве, і гэта беспадстаўнасць народніцтва і прывяла да таго, што ў канцы 70-х гадоў, пасля няўдалага хаджэння ў народ, «Зямля і воля» раскалолася на «Народную волю» і «Чорны перадзел», калі «Народная воля» заявіла, што працаваць у сялянстве— гэта «ўсёроўна, што біцца як рыба аб лёд».

З канца 70-х год народнікі пераходзяць да індывідуальнага тэрора. Гэта тэрарыстычная тактыка, якая зыходзіла з няправільнай і шкоднай для рэволюцыі народніцкай тэорыі «актыўных герояў» і «пасіўнага натоўпу», які чакае ад «герояў» подвігу, мела вельмі сумныя вынікі для ўсяго народніцкага руху і, бясспрэчна, затрымала развіццё самастойнага рабочага руху і ўтварэнне рабочай партыі. Гэтыя памылкі добра паказаны ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)».

Ускрываючы памылкі рэволюцыйных народнікаў 60—70-х і пачатку 80-х год, «Гісторыя ВКП(б)» указвае таксама і на тое перараджэнне народніцтва, аб якім не раз пісаў Ленін. «Большасць народнікаў неўзабаве пасля разгрому партыі «Народнай волі» адмовілася ад рэволюцыйнай барацьбы з царскім урадам, стала прапаведваць прымірэнне, пагадненне з царскім урадам. Народнікі ў 80-х і 90-х годах сталі выразнікамі інтарэсаў кулацтва» («Гісторыя ВКП(б)», стар. 16).

«Яны проста думаюць,—пісаў Ленін пра ліберальных народнікаў,— што калі папрасіць добранька ды ласкавей у гэтага ўрада, то ён можа ўсё добра ўстроіць» (т. I, стар. 161).

Які далейшы шлях народнікаў? Яны ад пазіцый ліберальнага народніцтва 80-х і 90-х год перайшлі да пазіцый партыі эсэраў. Гэта партыя эсэраў, скатваючыся са ступенькі на ступеньку, адкрыта стала ў перыяд барацьбы рабочага класа за пролетарскую дыктатуру ў лагер ворагаў соцыялістычнай рэволюцыі і ператварылася, як і ўсе іншыя дробнабуржуазныя партыі Расіі, у шпіёнска-дыверсанцкую агентуру фашысцкіх разведак.

Да ўсяго народніцтва мы адносімся адмоўна, як да плыні, варожай марксізму; але мы адрозніваем у ім розныя ступені яго развіцця. І ў тым народніцтве, якое вяло барацьбу супроць царызма, супроць капіталістаў і памешчыкаў, мы адзначаем яго дэмакратычны струмень. Ленін пісаў у артыкуле «Эканамічны змест народніцтва»: «Народніцтва́ адлюстравала такі факт рускага жыцця, які амаль яшчэ адсутнічаў у тую эпоху, калі складалася славянафільства і заходніцтва, іменна: процілегласць інтарэсаў працы і капітала. Яно адлюстравала гэты факт праз прызму жыццёвых умоў і інтарэсаў дробнага вытворца, адлюстравала таму ўродліва, труслівa, стварыўшы тэорыю, якая высоўвае не супярэчнасці грамадскіх інтарэсаў, а бясплодныя надзеі на іншы шлях развіцця, і наша задача выправіць гэту памылку народніцтва, паказаць, якая грамадская група можа з'явіцца сапраўдным прадстаўніком інтарэсаў непасрэдных вытворцаў» (т. I. стар. 279).

Велізарнейшая гістарычная заслуга рэволюцыйных марксістаў, большэвікоў заключаецца ў тым, што партыя большэвікоў, узброеная перадавой тэорыяй, не толькі здолела выправіць памылку народніцтва, не толькі здолела паказаць, што рабочы клас з'яўляецца сапраўдным прадстаўніком інтарэсаў усіх працоўных, але здолела і арганізаваць авангард гэтага класа ў перадавую, самастойную партыю, узброіць яе рэволюцыйным вучэннем марксізма-ленінізма і павесці яго да велізарнейшых гістарычных перамог.

*„Правда“* Ем. Яраслаўскі.

# КАНСТЫТУЦЫЙНЫЯ АКТЫ І ДАКУМЕНТЫ АБ УТВАРЭННІ БЕЛАРУСКАЙ ССР.

## Дэкларацыя праў народаў Расіі

Кастрычніцкая рэволюцыя рабочых і сялян пачалася пад агульным сцягам разнявольвання.

Разнявольваюцца сяляне ад улады памешчыкаў, бо няма больш памешчыцкай уласнасці на зямлю—яна скасавана. Разнявольваюцца салдаты і матросы ад улады самадзяржаўных генералаў, бо генералы ад гэтага часу будуць выбарнымі і зьмяняемымі. Разнявольваюцца рабочыя ад капрызаў і самавольства капіталістаў, бо ад гэтага часу будзе ўстаноўлен кантроль рабочых над заводамі і фабрыкамі. Усё жывое і жыццездольнае разнявольваецца ад ненавісных акоў.

Застаюцца толькі народы Расіі, што цярпелі і церпяць гнёт і самавольства, да разняволення якіх павінна быць прыступлена безадкладна, вызваленне якіх павінна быць праведзена рашуча і беспаваротна.

У эпоху царызма народы Расіі сістэматычна натраўліваліся адзін на другога. Вынікі такой палітыкі вядомы: разня і пагромы, з аднаго боку, рабства народаў—з другога.

Гэтай ганебнай палітыцы натраўлівання няма і не павінна быць звароту. Ад гэтага часу яна павінна быць заменена палітыкай добраахвотнага і чэснага саюза народаў Расіі.

У перыяд імперыялізма, пасля Лютаўскай рэволюцыі, калі ўлада перайшла ў рукі кадэцкай буржуазіі, непрыкрытая палітыка натраўлівання ўступіла месца палітыцы труслівага недавер'я да народаў Расіі, палітыцы прыдзірак і правакацый, якая прыкрывалася славеснымі заявамі аб «свабодзе» і «роўнасці» народаў. Вынікі такой палітыкі вядомы: узмацненне нацыянальнай варожасці, падрыў узаемнага давер'я.

Гэтай нядастойнай палітыцы хлусні і недавер'я, прыдзірак і правакацый павінен быць пакладзен канец. Ад гэтага часу яна павінна быць заменена адкрытай і чэснай палітыкай, якая вядзе да поўнага ўзаемнага давер'я народаў Расіі.

Толькі ў выніку такога давер'я можа скласціся чэсны і моцны саюз народаў Расіі.

Толькі ў выніку такога саюза могуць быць спаяны рабочыя і сяляне народаў Расіі ў адну рэволюцыйную сілу, здольную ўстаяць супроць усякіх замахаў з боку імперыялісцка-анексіяністкай буржуазіі.

З'езд Советаў у чэрвені гэтага года агаласіў права народаў Расіі на свабоднае самавызначэнне

Другі З'езд Советаў у кастрычніку гэтага года пацвердзіў гэта неад'емлемае права народаў Расіі больш рашуча і пэўна.

Выконваючы волю гэтых з'ездаў, Совет Народных Камісараў рашыў пакласці ў аснову сваёй дзейнасці па пытанню аб нацыянальнасцях Расіі наступныя пачаткі:

1) Роўнасць і суверэннасць народаў Расіі.

2) Права народаў Расіі на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы.

3) Адмена ўсіх і ўсякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і абмежаванняў.

4) Свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей і этнаграфічных груп, якія насяляюць тэрыторыю Расіі.

Выцякаючыя адсюль канкрэтныя дэкрэты будуць выпрацаваны безадкладна пасля сканструявання камісіі па справах нацыянальнасцей.

**Іменем Рэспублікі Расійскай Старшыня Совета Народных Камісараў В. УЛЬЯНАЎ (ЛЕНІН)**

**Народны Камісар па справах нацыянальнасцей ІОСІФ ДЖУГАШВІЛІ-СТАЛІН**

*15 (2) лістапада 1917 г.*

# Пра абвяшчэнне Заходняй Комуны *)

## БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКАЙ

*(Рэзалюцыя I З'езда КП(б)Б (VI Паўночна-Заходняя Абласная канферэнцыя РКП(б).)*

*Смаленск, 30—31 снежня 1918 г.*

Атмасфера на гарызонце сусветнага імперыялізма, якая ўсё згушчаецца, пагражае зніштажэннем пераможнага руху III Інтэрнацыянала, паўстаўшага міжнароднага пролетарыята і прыгнечаных нацый, якія паступова становяцца на шлях адзіна выратоўчы для іх—Комуністычнай Рэволюцыі. Супроць ваяўнічага імперыялізма скапляюцца хутка ўзрастаючыя сілы Совецкай Расіі для таго, каб адстаяць свабоду працоўных слаёў узнімаючыхся народаў; каб процістаяць націску цесным кальцом акружаючых нас наёмных банд і цёмных полчышчаў імперыялізма, каб яшчэ больш умацаваць заваяванні расійскага пролетарыята і садзейнічаць адбіццю ім наступлення драпежнага ворага, які паставіў сабе задачай папранне заваёў пролетарыята і свабодных праў нацый з мэтай устанаўлення фактычна буржуазнага самавызначэння народаў, тым самым беспрасветнага разгулу капітала,—VI Абласная Канферэнцыя большэвікоў лічыць неабходным аб'явіць самастойную Соцыялістычную Рэспубліку Беларусі з тэрыторый Менскай, Гродненскай, Магілеўскай, Віцебскай і Смаленскай губерній.

«Звезда» 1919 г.

---

*) Заходняя Комуна. 11—13 верасня 1918 г. адбыўся III з'езд Советаў Паўночна Заходняй вобласці. З'езд пастанавіў перайменаваць Паўночна-Заходнюю вобласць у Заходнюю комуну. Улада гэтай Комуны пашыралася толькі на Смаленскую і частку Віцебскай і Магілеўскай губерній з прычыны таго, што астатняя тэрыторы Паўночна-Заходняй вобласці была акупіравана немцамі.

# МАНІФЕСТ

## часовага рэволюцыйнага рабоча-сялянскага совецкага ўрада Беларусі

**Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!**

Таварышы і браты рабочыя, бедныя сяляне і чырвонаармейцы Беларусі!

Гарамычная, змучаная Беларусь, Беларусь рабочых і бедных сялян, якая ўвесь доўгі час свайго існавання служыла крыніцай узбагачэння польскага вяльможнага панства—памешчыкаў, зладзееў-купцоў і ўсіх іншых багачоў-крывасмокаў, а затым захопленая расійскім крывавым самадзяржаўем і ўсялякім чыноўніцтвам, адурманьваемая і абманваемая з касцельных амвонаў ксяндзамі і з алтароў папамі, акаваная з ног да галавы ланцугамі няволі, цярпеўшая ўвесь час здзекі і глум і перажыўшая цяжкое ярмо нямецкай акупацыі, цяпер вызваляецца ад спрадвечнай мукі смелым націскам Чырвонай Арміі і далучаецца да новага, свабоднага жыцця, якое будуецца на асновах комунізма, на фундаменце міжнароднага яднання працоўных.

Вялікая Кастрычніцкая Рэволюцыя ў Расіі, абярнуўшы ў развaліны паганае панаванне памешчыкаў, фабрыкантаў, ксяндзоў і папоў—панаванне абману, няволі і ўціску,—залажыла фундамент новага ладу жыцця, з уладай самога працоўнага народа, і, пачаўшы з Расіі, яна запаліла сусветны агонь вызвалення працоўных ад гнёту цароў і капіталістаў. Полымя гэтага агню з кожным днём і з кожнаю гадзінай абнімае ўсё большыя прасторы, пераходзіць з адной краіны ў другую, адганяючы прэч ад працоўных мас цемру невуцкага маўчання і пакорнасці, будзіць свядомасць да паўстання супроць прыгнятальнікаў, кліча да помсты і пагражае затапіць сабою ўсіх заклятых ворагаў свабоды і шчасця, ворагаў рэволюцыі, расчысціць шырокі чырвоны шлях да панавання свабоднай працы, да панавання комунізма, да панавання брацкага яднання працоўных усяго свету.

Адчуваючы і бачачы сваю немінучую скорую пагібель, ворагі Рэволюцыі... мітусяцца і выбіваюцца з сіл, нібы вар'яты, стараючыся, як мага, абманамі і подкупамі, сабраць навакол сябе сілы, абрушыцца на Рэволюцыю і задушыць яе трозны поступ. Але дарэмны ўсе іх надзеі, марны іх патугі. Магутны вал рэволюцыйных хваль, які разбурае рабства, зніштажае ўсякую няволю і вызваляе працоўны народ, не сустрэне на шляху сваім ніякіх прэпон і перашкод.

Рабочыя, сялянская бедната і чырвонаармейцы Беларусі!

Руйнуючы будынак цяжкай няволі, асушаючы моры слёз і рэкі крыві, пралітай на шырокім прасторы гарамычнай Беларусі, разбура-

най жудаснай вайною, зацеянай царамі і багачамі з-за сваіх інтарэсаў, вайною, якая загубіла дарэмна мільёны рабочых і сялян,—да вас ідзе ў праменнях сонца, з прывітальным заклікам, вызваленне—вам нясе Рэволюцыя поўную ўладу і панаванне.

Сумесна з працоўнымі народамі Расіі, Літвы, Украіны і Латвіі, з сённешняга дня становіцеся і вы свабоднымі і поўнапраўнымі гаспадарамі свабоднай, незалежнай Беларускай Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі. З сённешняга дня Беларусь—Совецкая Рэспубліка—становіцца рэспублікай працоўнага народа, рабочых, сялянскай беднаты і чырвонаармейцаў Беларусі.

Усе пасягаўшыя да сучаснага моманту на працоўную Беларусь буржуазныя прадажныя ўрады, урады прыгоннікаў-памешчыкаў, фабрыкантаў і купцоў, падтрымліваемыя прадажным духавенствам, дзе-б іх улада яшчэ ні трымалася, ці то будзе паганая Рада, нямецкія акупацыйныя ўлады, польскія і украінскія захватчыкі,—лічацца ад гэтага часу звергнутымі, неіснуючымі і аб'яўляюцца з усімі сваімі супольнікамі і аднадумцамі злымі ворагамі вашымі і працоўных усяго свету, заслугоўваючымі бязлітаснай рэволюцыйнай кары.

Уставайце ўсе на абарону Соцыялістычнай Совецкай Працоўнай Рэспублікі Беларусі, уставайце!

Няхай з усходу на захад і з поўначы на поўдзень прагучыць гэты прызыўны заклік па ўсяму прастору Беларусі і ўзніме ўсіх да аднаго пролетарыяў і бедных сялян стаць пад чырвоны сцяг сусветнай Рэволюцыі, каб аб вашыя загартаваныя рады ўшчэнт разбіліся ўсе атакі цёмных сіл ворагаў Рэволюцыі, беднага працоўнага народа. Хутчэй-жа на барацьбу, каб не засталі вас у бясклопатным спакоі ўсе, хто рыхтуецца да нападу на Совецкую Беларусь, чорныя банды польскіх легіянераў і петлюраўскіх «самасційнікаў» і следам за імі ідучыя белагвардзейскія слугі саюзніцкага імперыялізма.

Да барацьбы! Да барацьбы! Да барацьбы!

Іменем вякамі цярпеўшай няволю, рабства і здзекі Беларусі, а цяпер вольнай Совецкай Беларускай Рэспублікі, іменем Чырвонай Арміі, іменем Соцыяльнай Рэволюцыі і Сусветнага Міжнароднага Соцыялізма, мы, часовы Рабоча-Сялянскі Ўрад Беларускай Совецкай Незалежнай Рэспублікі, пастаўлены на пасты рашэннем апошняй Канферэнцыі Комуністычнай Партыі і воляй Советаў Беларусі, аб'яўляем перад усім светам:

1) Ад гэтага часу ўся ўлада на Беларусі належыць толькі Советам Рабочых, Сялянскіх, Батрацкіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў.

2) Яшчэ захаваўшаяся дзе-б там ні было на Беларусі ўлада нямецкіх, польскіх і украінскіх акупантаў ад гэтага часу лічыцца скасаванай.

3) Прадажная буржуазная Беларуская Рада, з яе, так званымі, «народнымі міністрамі», аб'яўляецца па-за законам.

4) Усе законы, дагаворы, пастановы, загады і распараджэнні як Рады і яе слуг, так роўна і нямецкіх, польскіх і украінскіх акупацыйных улад, лічацца несапраўднымі; загады-ж і распараджэнні нямецкіх улад, што датычаць парадку адыходу нямецкіх салдат з Беларусі, застаюцца ў сіле.

5) Ад гэтага часу ўстанаўляецца на Беларусі рэволюцыйны парадак; усе контррэволюцыйныя выступленні, а роўна і спробы ўчыніць пагромы, рабункі і гвалты, будуць бязлітасна карацца па ўсёй строгасці рэволюцыйных законаў.

6) Рабочыя, сяляне і наогул працоўныя ўсіх нацыянальнасцей, якія жывуць на Беларусі, карыстаюцца роўнымі правамі і знаходзяцца пад абаронай рэволюцыйных законаў.

7) Уся зямля памешчыкаў і буйных землеўладальнікаў, манастыроў, цэркваў, касцёлаў і духавенства, з усім жывым і мёртвым інвентаром, а таксама ўсе лясы, воды і нетры зямлі становяцца набыткам працоўнага народа Беларусі.

8) Усе чыгункі, шляхі зносін, паштовыя, тэлеграфныя і тэлефонныя сеці, фабрыкі, заводы і банкі аб'яўляюцца набыткам рабочых і беднага сялянства Беларусі.

9) Мясцовыя Советы абавязаны аберагаць народны набытак ад раскрадвання і псавання, прыцягваючы вінаватых да адказнасці.

10) Устанаўляецца васьмігадзінны рабочы дзень, без звыштэрміновых гадзін работы, і адначасова ўваходзяць у сілу ўсе дэкрэты Расійскай Соцыялістычнай Федэратыўнай Совецкай Рэспублікі па забеспячэнню рабочага класа.

Чырвонай Арміі, Рабочым і Сялянскай беднаце Беларусі мы, Часовы Рабоча-Сялянскі Ўрад Беларускай Совецкай Незалежнай Рэспублікі, уручаем абарону ўсіх гэтых вялікіх заваёў Соцыяльнай Рэволюцыі. Ён напамінае ўсім працоўным, што, абараняючы Совецкую Беларусь, яны абараняюць Совецкую Расію, абараняюць Сусветную Рэволюцыю, інтарэсы працоўнага народа і светлы трыумф сусветнага соцыялізма.

Няхай жыве вызваленая працоўная Беларусь!

Няхай жыве Совецкая Расія!

Няхай жыве Сусветная Рабочая Рэволюцыя!

*г. Менск, 1 студзеня 1919 г.*

*(„Жизнь национальностей" № 1 ад 5 студзеня 1919 г.)*

# Аб прызнанні незалежнасці БССР

*(Пастанова Прэзідыума ВЦВК)*

Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта вітае працоўныя масы Беларусі, вызваленне якой ад заняцця ўзброенымі сіламі імперыялістычных заваявальнікаў ужо амаль завершана.

Зыходзячы з прынцыпаў поўнага і сапраўднага самавызначэння працоўных мас усіх краін, Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта прызнае незалежнасць Беларускай Соцыялістычнай Совецкай Рэспублікі. Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта яшчэ раз пацвярджае, што факт прыналежнасці Беларусі, як і іншых краін, якія знаходзяцца ў тым-жа становішчы, да старай царскай імперыі, не накладае на яе ніякіх абавязацельстваў, выказваючы пры гэтым цвёрдую ўпэўненасць, што толькі цяпер, на глебе прызнання поўнай свабоды самавызначэння і пераходу ўлады ў рукі рабочага класа, ствараецца добраахвотны і непарушны саюз працоўных усіх нацый, якія насяляюць тэрыторыю былой Расійскай Імперыі.

Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта вітае намячаючыяся аб'яднанні працоўных мас Беларусі з працоўным народам Літвы, цесна звязаным з імі сваім мінулым і эканамічнымі ўмовамі свайго існавання.

Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта заяўляе аб гатоўнасці РСФСР аказаць усялякую дапамогу і падтрымку працоўным масам Беларусі ў іх барацьбе супроць панавання, эксплаатацыі і прыгнечання і ў абароне іх свабоды і незалежнасці ад спроб замежных заваёў.

*(„Известия ВЦИК" № 26 ад 5 лютага 1919 г.)*

# Прамова тав. Свердлова на 1-м Усебеларускім з'ездзе Советаў*)

Першым выступае старшыня ВЦВК тав. Свердлоў, які вітае прадстаўнікоў дзесяткаў і соцень тысяч працоўнага сялянства і рабочых Беларусі ад імя вярхоўнага органа Совецкай улады, Усерасійскага Цэнтральнага Камітэта.

Вам,—гаворыць ён,—больш, чым каму-небудзь іншаму, давялося перацярпець ад гнёту чужаземнай акупацыі. Але і пад пятой трыумфаваўшага тады імперыялізма вы не пакідалі сваёй работы над падрыхтоўкаю Совецкага ладу на Беларусі. Разам з намі вы ведалі, што імперыялізм будзе зломлен і будзе трыумфаваць сусветная соцыялістычная рэволюцыя, адновіцца совецкая ўлада ў часова заняволенай краіне. Змагаючыся і паміраючы разам з вамі ў часе Кастрычніцкай рэволюцыі, мы будавалі ўсю сваю работу ў разліку на тое, што пажар рэволюцыі ахопіць увесь свет. І гэты наш разлік апраўдаецца. Успышкі пажару ўжо відаць паўсюды; ён разрастаецца. Мы напярэдадні паўстання ў Англіі, Францыі і Амерыцы, пролетарыят якіх не запаволіць паследаваць нашаму прыкладу, як яму паследаваў ужо пролетарыят Германіі і Аўстра-Венгрыі. У вас ужо ёсць рэволюцыйны вопыт. Гэта дае нам упэўненасць, што раны, нанесеныя краю імперыялістамі, будуць залечаны. Мы дапаможам вам сваім вопытам, набытым за мінулы год.

Тым хутчэй будуць залечаны гэтыя раны, чым цясней будзе яднанне паміж рэволюцыйным пролетарыятам Беларусі, Літвы і Расіі.— Тут прамоўца агалашае пастанову, вынесеную два дні таму назад ВЦВ Камітэтам, якая змяшчае ў сабе прывітанні рабочым і сялянам Беларусі. У дэкларацыі выражаецца пажаданне, каб пролетарыят і бяднейшае сялянства Літвы аб'ядналася з працоўным насельніцтвам Беларусі для дасягнення адзінай мэты—стварэння рэволюцыйнага авангарда адзінай Совецкай рэспублікі Расіі.

Так і толькі так павінны адносіцца працоўныя ўсіх краін да пытання аб нацыянальным самакіраванні. Ніхто не павінен забываць аб неабходнасці цеснай спайкі, дасягнутай намі шляхам сумеснай дружнай работы ўсіх рэволюцыйных сіл рускага пролетарыята і сялянства, рускай брацкай крыві. Рускі пролетарыят ніколі не забудзе таго, што вы першымі прынялі на сябе ўдары і націск германскага імперыялізма, спыніўшы яго прасоўванне ў глыб краіны.

Няхай жыве міжнародная соцыялістычная рэволюцыя!

Няхай жыве інтэрнацыянал! **(Бурныя воплескі. Аркестр грае «Інтэрнацыянал»).**

**Газ. „Звезда" № 364 ад 4|II 1919 г.**

---

*) 1-ы Усебеларускі з'езд Советаў адкрыўся 2-га лютага 1919 г, у гор. Менску.

# ДЭКЛАРАЦЫЯ

## I Усебеларускага З'езда Советаў

Рабочыя, сяляне, батракі і ўсе працоўныя Беларусі, скінуўшы з сябе панаванне беларускіх памешчыкаў і кулакоў буржуазнай беларускай рады, вуснамі сваёй кіраўніцы—беларускай комуністычнай партыі абвясцілі Соцыялістычную Совецкую Рэспубліку, каб выявіць перад усім светам непахісную волю рабоча-сялянскай Беларусі, накіраваную на канчатковае зніштажэнне панавання капітала і для ўстанаўлення соцыялістычнага ладу. Рабочыя і сяляне Беларусі ў той-жа час усведамляюць, што яны з'яўляюцца адным з атрадаў вялікапролетарскай арміі, што без цеснага саюза з рабочымі і сялянамі ўсіх совецкіх краін ім не закончыць будаўніцтва новага свабоднага жыцця, не завяршыць пачатых соцыялістычных пераўтварэнняў. Самавызначыўшаяся на развалінах прыгонніцкай царскай Расіі, Совецкая Беларусь прызнае неабходнасць устанаўлення цесных эканамічных і палітычных сувязей са сваім старшым братам—Расійскай Совецкай Рэспублікай, якая аказала Беларускай Рэспубліцы істотную дапамогу пры аднаўленні яе разбуранай гаспадаркі. Грунтуючыся на гэтай волі мільёнаў беларускіх труджанікаў, першы Усебеларускі з'езд советаў свабодна пастанаўляе: Пачаць перагаворы з Расійскай Совецкай Рэспублікай па ўстанаўленню федэратыўнай сувязі паміж ёю і Совецкай Беларуссю і абраць для гэтай мэты камісію, адказную перад вылучаным з'ездам органам улады. Улічваючы разам з тым цесную сувязь і залежнасць, якая існуе паміж рабочымі і сялянамі ўсіх частак былой Расійскай імперыі, з'езд мяркуе, што толькі свабодны добраахвотны саюз працоўных усіх цяпер незалежных совецкіх рэспублік забяспечыць трыумф рабочых і сялян у іх барацьбе з усім астатнім капіталістычным светам. Таму з'езд зварачаецца да ўсіх брацкіх незалежных соцыялістычных рэспублік з прапановай паследаваць прыкладу рабочых і сялян Беларусі, прыступіць да перагавораў аб устанаўленні федэратыўнай сувязі паміж Совецкай Расіяй і паміж сабою. Толькі з'яднаўшыся і згуртаваўшыся ў адну працоўную сям'ю, рабочыя і сяляне ўсіх краін, дзе перамагла пролетарская рэволюцыя, здолеюць пранесці соцыялістычны сцяг праз усю Еўропу і сальюцца ў адзіным совецкім саюзе з рабочымі і сялянамі—труджанікамі ўсяга свету.

*(„Жизнь национальностей“ № 5 ад 16 лютага 1919 г.)*

---

# ПАКАЗЧЫК АРТЫКУЛАЎ, ЗМЕШЧАНЫХ У ЖУРНАЛЕ „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“ ЗА 1938 ГОД




Уп. Галоўліта БССР № 4615.
Тыраж 6650 экз.
528.000 друк. зн. (10 арк.)
Здана ў набор 15/XI—38 г.
Падпісана да друку 23/XII—38 г.

**РЭДКАЛЕГІЯ.**

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку. Зак. № 4168.

ЦАНА 80 кап.

